сьвежай чырвані—носе. Ён ня стаў нават гаварыць з сялянамі, адразу занекаў, з адчайнай катэгорычнасьцю замахаў сваімі маленькімі ручкамі.

— Не-не-не... Не-не-не... Я, стары, у гэтыя справы не мяшаюся... З Карлам Іванавічам, з Карлам Іванавічам... О-то-то, з Карлам Іванавічам... Гэта з ім, так-так... А я, галубочкі, нічога ня ведаю... Не-не-не... Гэта ўжо вы з Карлам Іванавічам... з ім... так-так... Ён зараз прыедзе, вы пачакайце, так-так...

І ён нейк раптам зьнік у дзьвярах, быццам уцёк, схаваўся. Сяляне пастаялі, пачухалі патыліцы.

— Што будзем рабіць?

Лясьніцкі рашуча быў за тое, каб пачакаць.

— Ня будзем-жа па некалькі раз хадзіць... Ды казаў-жа, што зараз прыедуць...

Пастанавілі чакаць. Адышліся ад ганкаў, падышлі к сьцяне нейкае пуні. Лявон з Аксэнтам селі на зямлю, а Лясьніцкі астаўся стаяць, прыхінуўся толькі плячмі да сьцяны. Ен ужо ня слухаў цяпер, што гаварылі сябры, ён ня мог цяпер слухаць, ня мог разумець нічагутка. У яго ўяўленьні стаяў жывы вобраз Раісы—надзіва выразны, нібы ён зараз бачыў яе прад сабой. І гняла шчымлівай трывогай упартая думка:

„Яна зараз прыедзе. Яна будзе тут праяджаць, мо пройдзе блізка зусім. Ці заўважыць, ці паглядзіць, ці скажа слова якое?..“

І ў яго распаленым уяўленьні рысаваліся розныя карціны іхнай сустрэчы, складаліся цэлыя дыалёгі, поўныя ўдалых зваротаў, поўныя глыбокай значнасьці. А далей мары разгортваліся шырокімі, у яскравых фарбах, палотнамі. Ён ужо быў спрытным сьмелым ездаком, ён рабіў перад ёй розныя фокусы, якіх і „Карла“ ня ўмее рабіць, яна захаплялася ім, усьміхалася яму такой чароўнай даверлівай усьмешкай, ад якой гарэла агнёвай радасьцю сэрца...

— ...Дык мы замацуем яе ўжо назаўсёды... Як ты, Васіль?..

— Што?

— Калі згадзіцца Карла... Дык трэба ўжо нейкую форму завесьці, каб, значыцца, назаўсёды... Каб ізноў не адабраў... Га?..

Лясьніцкі няшчыра згадзіўся:

— Так, вядома. Як-жа інакай...

Словы старога пана спраўдзіліся. Неўзабаве пачуўся тупат, і з цёмных ліпавых прысад—што вядуць ад шляху ў маёнтак—паказаліся знаёмыя коньнікі. Яны праскакалі галёпам цераз дзядзінец і спыніліся недалёчка ад сялян. Тыя высунуліся наперад, каб заўважыў „Карла“, каб не чакаць яшчэ потым. Лясьніцкі ўтаропіў гарачы погляд у паненку, з ліхаманкавым хваляваньнем сачыў за кожным яе рухам.

„Карла“ памог ёй зьлезьці з каня. Яна з любай даверлівасьцю абапёрлася аб яго плячо, саскочыла лёгка, спрытна, як козачка.

І прайшла міма Лясьніцкага, нават ня зірнуўшы ў той бок, дзе ён стаяў, папраўляючы на хаду сьцёртую яздой сукенку.

„Карла“ заўважыў сялян, спыніўся.

— Вы да мяне?..

І нават не абярнуўся як сьлед да іх, стаў неяк у поўзварота—сярдзіты, нахмураны...

Лявон пасьпешна зьдзеў шапку, пакланіўся нізенька-нізенька.

— Дзень добры, паночку! Да вашай міласьці...

І таўхае пад бок Лясьніцкага.

— Васіль, гавары... Ну...

Лясьніцкі зрабіў поўкрока наперад і пачаў гаварыць. Гаварыў ён сьмела, вольна, быццам не прасіў, а тлумачыў проста цікавую нейкую штуку. Ён знаў, што сябром, асабліва Лявону, гэта не ўпадабаецца, што па іх трэба прасіць, угаварваць, лашчыць панскае самалюбства. І калі ўспамінаў пра гэта, калі чуў, што Лявон ужо злуецца, гатоў перапыніць яго, дык наўмысьля гаварыў яшчэ сьмялей, нават сярдзіта—хай сабе, думаў, злуюцца, хай потым лаюцца: досыць пагарды, досыць зьнявагі, цяпер усе роўныя...

„Карла“ выслухаў да канца ў той самай постаці—нярухомы, насуплены. Толькі зморшчкі на лбу то распускаліся, то зноў зьбіраліся густа-густа, як глыбокая ральля. Як кончыў Лясьніцкі, ён абярнуўся да яго, правёў па ім сваімі маруднымі вачмі. Лясьніцкаму ўдалося блізка зусім зазірнуць у гэтыя вочы, і ён міжвольна задзівіўся іхнаму халоднаму хараству. Гэта была аксамітная чорная сталь, нібы патануўшая ў сваёй уласнай бяздоннай глыбіні. І ледзь прыметны шызы налёт не зьмяншаў хараства гэтых вачэй—ён ахінуў толькі іх лятуценнаю мяккасьцю. Дзіўнае злучэньне чорнай сталі і гэтай нечаканай мяккасьці надавала вачом хмурага „Карлы“ нейкую нязвычайную вабнасьць. Цяпер зразумеў Лясьніцкі, чаму пазакахаліся ў „Карлу“ вясковыя бабы, чаму набіваюцца самі к яму начаваць.

„Карла“ загаварыў нізкім, круглым і троху сіпаватым голасам. Слова ад слова ён адлучаў невялічкай, ледзь прыметнай паузай.

— Вы здаецца інтэлігентны чалавек, а гаворыце відочнае глупства... Вы страшэнна мяне насьмяшылі (а тым часам ані сьледу ўсьмешкі на твары)... Вы хочаце, каб я аддаў кавалак зямлі толькі затым, што недзе нехта пусьціў на вецер ні на чым не ўзгрунтаваную чутку... Вы разумееце, як гэта недарэчна і сьмешна...

Ён нарыхтаваўся ісьці. Тады ня вытрымаў ужо стары Лявон.

— Паночку! Дык нам-жа ня змога ўжо... Кожны-ж год плоцім гэткія грошы...

— Я тут ні пры чым... Скажэце там сялянам, каб пасьпяшаліся з грашмі, бо да мяне купцы ўжо прыходзяць, я прадам каму-небудзь другому...

І пайшоў к сабе ў пакоі...

— Паночку!—справіўся крыкнуць яшчэ Лявон. Але той не зьвярнуў увагі.

Дзед Лявон моўчкі пачаў надзяваць шапку. На валасатым твары яго неяк сьмешна перамяшалася злосьць з тупым неўразуменьнем. Гледзячы некуды ў пусты прасьцяг, ён прагаварыў ціхім голасам, здушаным злосьцю, адчаем, дакорам, крыўдай—цэлаю плоймай раптам ахапіўшы яго пачуцьцёў:

— Трэба было прасіць... Прасіць трэба было...

Лясьніцкі зразумеў, што гэта ў яго бок закід, хацеў быў ужо спрачацца. Але Аксэнта яго папярэдзіў.

— Што ты ўпросіш у гэткае сьцервы... Толькі сябе зьняважыш...

Лявон згадзіўся, Ён сказаў быў, відаць, толькі затым, каб на кімнебудзь спагнаць сваю злосьць. Потым, ідучы дамоў, ён ужо лаяў праклятага „Карлу". Лаяў ён з смакам—сур'ёзна, станоўка, лаяў без перапынку—адно за адным навязваючы ў бесканцовы ланцуг самыя адборныя, самыя жорсткія словы. Лясьніцкі з Аксэнтам слухалі-слухалі, трывалі-трывалі, але-ткі ня ўцерпілі—зарагаталі на ўвесь лес. І сам дзед Лявон міжвольна ўсьміхнуўся.

На вёсцы з нецярплівасьцю чакалі „дэлегатаў". І толькі ўбачылі—адразу ўцямілі, па выразу твараў дазналіся, што справа дрэнь. Але прымусілі расказаць усё да каліва, як, што было, як прыняў пан, як гаварылі і г. д. Потым усе ўзяліся лаяць паноў і лаялі ня горш за Лявона. А тады нехта ўспомніў пра воласьць. За гэта ўхапіліся.

— У воласьць! Валіце ў воласьць! Можа там разьбяруць...

Лясьніцкі знаў, што ў воласьці будзе тое самае, што і ў пана. Але не хацеў уразацца ў агульны дружны настрой, не хацеў парываць тае блізкасьці, якая ўжо завязалася ў яго з сялянамі. Ён нават запрог свайго каня і яны ўтрох паехалі зараз-жа ў воласьць.

Да воласьці было вёрст сем. Яны прыехалі туды гадзіне а першай. З гадзіну прышлося чакаць, бо ўсе валасныя былі на мітынгу. Яны таксама зайшлі ў школу і паслухалі, як нейкі плюгавы ў фрэнчы тлумачыў, якая розьніца паміж монархіяй і рэспублікай і што такое ўстаноўчы сойм. Кончыўшы гаварыць, ён чамусьці зьвярнуўся да прысутных з прапановай, каб хто-небудзь паўтарыў тое, што ён расказаў. Спачатку ўсе маўчалі, але потым нехта нясьмела азваўся:

— А ці скора кончыцца вайна?..

Плюгавы зазначыў, што гэта „не по существу", але адказаў, што трэба змагацца з ворагам, трэба падтрымліваць армію, што на фронце цяпер ідзе наступленьне і набліжаецца час перамогі.

Тады яшчэ спытаўся Аксэнта—проста так, відаць, для забавы:

— А як вот каторыя інваліды вайны, прышлі бяз ног ці бяз рук... Ці будзе якое спасобсьцьвіе?..

Плюгавы адказаў, што будзе. Яшчэ нешта гаварыў, але Аксэнта ўжо ня слухаў.

Пасьля мітынгу „дэлегаты“ пайшлі ў воласьць. Там ім слова ў слова пераказалі тое самае, што й сказаў Карла: на чутках грунтавацца яны ня могуць, дакумантаў ці якіх іншых „даных“ няма, ды наогул такія справы вырашаюцца толькі судом. Калі-ж Аксэнта загаварыў пра заслугі на франтох, а Лявон прагамзіў нешта няяснае пра „свабоду“, дык ім прачыталі лекцыю аб барацьбе з анархіяй, аб грамадзянскай дысцыпліне і высокай волі ўстаноўчага сойму, на што яны вымушаны былі адказваць туманнымі словамі, якія, аднак, яскрава выяўлялі іх поўную лёйяльнасьць,—як напрыклад:

— Вядома... Ну хто-ж там што... Гэта само сабой... Ну, дык а як-жа...—і інш.

На вёсцы зноў іх чакалі з турботнай нецярплівасьцю, зноў па тварах убачылі, што справа дрэнь, зноў выпытвалі ўсё да каліва. Потым салялі́ся і пачыналі сталы абгавор справы. Гаварылі, спрачаліся аж да самага вечара, а ўвечары сабраліся зноў у Лясьніцкага ды зноў спрачаліся. Гаварыла ўся вёска аб адным, бабы паднялі гармідар больш яшчэ, як мужчыны, нават падшпаркі малыя і тыя сярод гульні-забавы раптам дзяліліся салодкімі марамі:

— Сьцёпка! А як наша лука будзе—во будзе добра... Тады й смуродзіна будзе наша—ніхто ня будзе ганяць, хоць і луг будзем таптаць—ведама, свой...

І вось у выніку гэтых гарачых абгавораў і спрэчак прынята была такая пастанова:

Ехаць Аксэнту, не марудзячы, у губэрню, знайсьці таго п'янчужку, купіць яму кварту ханжы і—няхай выручае. Адначасна праслухаць добра ў горадзе, што чуваць пра вайну, пра парадкі, ці астануцца паны, ці будзе якая прыбаўка зямлі і г. д. Патрэбныя на дарогу і на справу сродкі сабраць з усіх жыхароў вёскі.

І ляглі спаць у той вечар сяляне ўсё-ткі з цьвёрдай надзеяй на посьпех свае справядлівае справы.

## VII

Аксэнту праводзілі да перавозу амаль што ўсёй вёскай. Ён ішоў сярод натоўпу з выглядам чалавека, які адважыўся на вельмі вялікі і небясьпечны ўчынак, і з самадавольнай важнасьцю, у якой чувалася нотка некаторай паблажкі, адказваў на бесканцовыя перасьцярогі і парады вяскоўцаў:

— Я ўжо ведаю добра—аб гэтым вы ня турбуйцеся... Ці-ж мне ў пяршыню? Нешта, помню, паслалі былі мяне хлопцы—свая братва, салдаты—да самага енерал-енфантэра графа Пясоцкага—была скарга на несправядлівасьці розныя... Я прыходжу, дапускаюць мяне... Так і так, ваша высокаправасхадзіцельства...

Яго сяляне не перабівалі. Сёньня з павагай прыслухоўваліся да кожнага яго слова, мякка і далікатна яму падтаквалі. Ведама—чалавек „абчэсьцьвены“, на вялікую справу едзе.

А тыя, хтой йшоў зводдаль, каму ня выпаў гонар весьці гутарку з Аксэнтам,—тыя ўстаўлялі няўцямна вочы ў зямлю, задзіралі ў глыбокадумнасьці бровы, моршчылі лбы і задуменна цягнулі:

— Хм... Хто яго ведае... А можа што-небудзь і выйдзе...

На паром узышлі толькі чалавек з пяць—самыя заводцы—рэшта асталіся на беразе: крычалі нешта, некаторыя кідалі шапкі ўгару, а потым пайшлі гаварлівым натоўпам назад на вёску.

Сярод тых, якія праводзілі цераз раку, быў і Лясьніцкі. Увесь час ён маўчаў, толькі ужо разьвітваючыся, калі дружна, пасяброўску сьціснулі адзін аднаму рукі, сказаў Аксэнту:

— Калі што—бі тэлеграму...

Гэта Аксэнту ўпадабалася. Ён многазначна кіўнуў галавой, быццам хацеў сказаць:

— Гэта само сабой, я ўжо ведаю... А яны—от, хай пагамоняць... Цёмны народ...

І пайшоў, пакавыляў памалу Аксэнта—падаўся шукаць для вёскі праўды і справядлівасьці.

Сяляне моўчкі пагналі назад паром. Чамусьці астаўся ўва ўсіх на душы ціхі смутак, быццам выправіў кожны свайго некага блізкага. Можа й таму яшчэ смутак гэты зьявіўся, што надвор‘е было смуткам прасычана. Надвор‘е было шэрае, цьмянае, і над Дняпром нёсься чужы, няласкавы вецер. Здавалася, што прылятаў ён аднекуль з далёкіх краёў, з самай той халодна захмаранай далечы і—працавіты, сур‘ёзны—ляцеў пасьпешна далей, захапіўшы наляту верхавінкі чалавечых імкненьняў, памкнуўшы з сабой іх у невядомы прасьцяг. Таму й шчыміць у такое надвор‘е чалавечае сэрца ціхім смуткам, таму й асядае ў нутро халодны цень невядомай разлукі, што растрасае пералётны вецер пачуцьці чалавека, цягне абрыўкі іх за сабой у далёкі сьцюдзёны палёт.

Па Дняпру заклапочаным роем мітусіліся хвалі. Яны былі сінявачорныя з глухім мэталічным бляскам. Лясьніцкаму заманулася пакатацца цяпер у лодцы, пакалыхацца троху на гэтых разьюшаных хвалях. Ён астаўся на перавозе і, як адышліся сяляне, папрасіў у перавозьніка лодку. Аднак, доўга катацца не давялося. Хвалі злосна штурхалі нязграбную лодку, яна цяжка варочалася на адным месцы, увесь час памыкаючыся стаць бокам пад вецер. Хвілін дзесяць Лясьніцкі змагаўся з яе натурлівым характарам, змарыўся зусім і, расчараваны, ледзь прыбіўся назад к парому.

— Лодка ў вас, дзядулька, як бервяно ўсё-роўна...

Перавозьнік Саўка флегматычна згадзіўся:

— Цяжкая лодка, нязручная...

Нос аднае лайбы, на якіх трымаўся паром, быў закрыт саламянай страхой. У гэтай прытульнай будачцы, схаваўшыся ад ветру, стары перавозьнік плёў сетку. Лясьніцкаму чамусьці не хацелася йсьці да хаты, ён рашыў пагутарыць троху з старым.

— Дзядулька! Ці можна да цябе ў будку?

— Лезь, Васілёк, лезь! Пагрэйся троху—вецер сягодня такі заядлы, што проста бяда... Лезь, лезь—пагрэйся.

Перавозьнік Саўка любіў Лясьніцкага. Можа лашчыла старое сэрца думка, што вось вучоны, адукаваны хлапец, а ня чураецца яго, за радню прымае, з павагай заўсёды адносіцца. Любіў стары „пазюкаць" з Лясьніцкім, расказаць байку якую, або праўдзівую старую гісторыю. А многа, ой многа знаў чаго Саўка! Не прайшлі бяз сьледу сем, а мо' й восем дзесяткаў гадоў жыцьця. Сабраўся ў старчай памяці нязьмерны запас дзівосных успамінаў, у якіх пераплялася здаровая жыцьцёвая мудрасьць з густой сеткай спрадвечных забабонаў.

Цяпер Саўка зусім ужо стары, слабы чалавек. Старасьць яго пакрывіла, пагбала, зрабіла з яго сьмешную карыкатуру на чалавека. У яго, як у маладога кацянёнка, пазьліпаўшыся вочы—ён дрэнна, зусім дрэнна бачыць,—крыва сьцятыя вусны высунуліся далёка наперад—быццам надуўся стары ад нейкае крыўды,—расьліннасьць на твары купаватая, бедная. І фігура такая: адна нага тырчаком служыць, ня згінаецца ў калені, другая згінаецца, ды затое ступня падвярнуўшыся. Ідзе стары, дык толькі—кулдык, кулдык...

А з перавозам спраўляецца. Ды яшчэ рэдка хто так укіруе лодкай, як ён—дармо, што слабы.

Саўка запытаў у Лясьніцкага, куды гэта каго выпраўлялі. Лясьніцкі пастараўся яму растлумачыць. Стары безнадзейна матнуў галавой.

— Эх, сынок! Дрэнна з панам цягацца... Лепш сваё перапусьціць ды толькі не занімацца. Дармо, што многа ў іх усяго, а зайдросьцяць, ой, зайздросьцяць на чужое дабро. Гатовы апошняе садраць з мужыка... Была, а як-жа, была ў сялян гэта лука... Я добра помню. І помню, як суд быў... Адсудзіў—ведама багаты ды лаўчэйшы за нас, разумнейшы... Што ты зробіш з панам, калі ён ўсюды—свой, усюды прымаюць яго з чэсьцю, з гонарам... Ты будзеш у парозе стаяць, а яму з павагай дзьверы адчыняць, самы вялікі начальнік да сябе пакліча... Эх-хе-хе... Як пайшлі па сьвеце паны, згубілася праўда, зусім недзе загінула... А была-ж некалі...

— Дзядулька! Дык хіба быў такі час, калі паноў ня было?..

— Во... А як-жа! Мой ты даражэнькі, быў такі час, няўжо-ж не... Даўней і ня зналі, што гэта за пан. Усе працавалі, зямлі было досыць—ведама, людзей тады меней было—жылі ў згодзе, у раскошы, адзін аднаго паважалі, бога баяліся. А як-жа, сынок, быў такі час, быў, даражэнькі... Толькі ня ведалі тады гэтай навукі, бяз усякай механікі людзі жылі... Працавалі ўсе роўна—як адзін, так другі... Гэта-ж потым ужо

стаў падмушчаць д'ябал людзей, каб жылі сваім розумам, а ня божай прамудрасьцю, пачаў навучаць розным хітрыкам. Дык тады, хто хітрэйшы-мудрэйшы пачаў ужо ашукваць сваіх братоў, пачаў так лучыць, каб на іх шчот пажывіцца. Вось і пачалі тады слабейшыя ды прасьцейшыя на тых байбакоў працаваць, а самі ў нягодзе жыць, ды страждаць. А тыя ўзялі сілу ды пачалі ўжо гвалтам гнаць гэтых к сабе на работу. Так і завяліся паны... Д'ябал-змусьціцель гэта падстроіў, ён падзяліў чалавечацкі род...

І, троху памаўчаўшы, дзед дадаў тонам дабрахвотнай уступкі:

— А можа й ня так. Вы-ж маладзейшыя ўжо не прызнаіцё ні бога, казаў той, ні чорта... Можа й ня так, хто яго ведае...

— А як, дзед, будзе далей? Ці паны назаўсёды ўжо астануцца?

Саўка троху змаўчаў, паправіў сетку. Лясьніцкі знаў ужо, што зараз пачне стары нейкую байку баіць, ужо прыладзіўся слухаць.

— Хто яго ведае, даражэнькі... Трудна сказаць, як, якім бокам павернецца ўсё... Калісьці, даўно-даўно, можа ў дзяцінстве яшчэ, чуў я байку адну на гэты прадмет. Многа я знаў гэтых баек—пазабываўся ўжо... Дык вось байка гэта пра Іваньку Прастачка. Было гэта якраз тады, як ужо завяліся паны, як пачалі ганяць яны мужыкоў к сабе на работу. Ходзяць мужыкі, працуюць на тых паноў—паны сабе выгалянтаюцца, пукаюцца ад жыру,—а самі мужыкі галодныя, халодныя—ня бачаць жыцьця, ня бачаць прасьвету. І так ужо прызвычаіліся, што перасталі й думаць аб лепшым жыцьці—нібыццам яго й ня было, нібыццам спрадвеку так богам паложана.—Бацькі нашы так жылі, дзяды так жылі, дык і нам, відаць, так жыць накановано. Але вось нарадзіўся ў тым краі хлапчук. Назвалі яго Іванька Прастачок. Быў ён чэзлы такі, слабенькі, рос сабе цішком, ніхто яго ня бачыў, ніхто не чапаў. Так і вырас—стала яму ўжо гадоў з дваццаць. Паны яго не чапаюць, на работу ня гоняць—які ўжо з яго работнік. Вось так пойдзе ўся вёска да пана працаваць, а ён адзін застаецца, гуляе сабе з дзецьмі, забаўляецца. Але нешта прыходзяць у тую вёску старцы. Селі яны на прызьбе, хочуць закурыць, аж агня няма ні ў кога. Папрасілі яны Іваньку—той і прынёс ім жару з хаты.—Чаму-ж ты,—пытаюцца,—тут адзін, чаму нічога ня робіш?—А што я, кажа, буду рабіць, калі што ні наробіш—усё на пана пойдзе. Усё заграбе, усё прысвоіць, усе жылы выцягне з мужыка.—Вось тады тыя старцы ўзялі сваё струманты і загралі. Першы раз загралі—Іваньку розум далі; другі раз загралі—язык Іваньку разьвязалі; трэці раз загралі—у сэрца жаласьці нагналі. Вось зьніклі тыя старцы, а Іванька давай майстраваць сабе дудку. Змайстраваў, ды як зайграе, ды так прыгожа, жаласна, што ня толькі людзі, а й зьвяры і птушкі сталі слухаць. Слухаюць усе, не наслухаюцца. Пайшоў тады Іванька Прастачок па сьвету хадзіць ды ў тую дудку граць. Як заграе, дык у людзей нібы вочы адкрыюцца: бачаць яны, што вялікая крыўда ў жыцьці, што адны пануюць, а другія гаруюць. Слухаюць

дудку, а самі розуму набіраюцца, ды думаюць-гадаюць, як тут праўды дабіцца, як сваю долю знайсьці. Дайшла тая музыка й да панскіх палацаў. Спалохаліся паны ды і задумалі зьністожыць таго Іваньку. Сабралі яны вялікае войска, пайшлі. І вось заграе дудка на ўсходзе, яны за ёй—туды, сюды, шаблямі зьвіняць, з гарматаў страляюць. Глядзь—а яна ўжо на захадзе грае. Яны туды—а яна зноў у другім баку. Так з таго часу й ня маюць спакою паны—усё тую дудку ловяць. А дудка грае сабе ды грае. Ідзе ад яе водгульле, па ўсім сьвеце разносіцца, навучае людзей. Няма таму водгульлю загародак, не злавіць яго, ня зьнішчыць. І кажуць, што быццам прыдзе час, калі пачуюць усе чыста тую Іванькіну дудку, і ўсе разам падымуцца, каб за праўду пастаяць. Вось і стануць тады зноў усе людзі роўныя...

— Дык вось, Васілёк, якую чуў я некалі байку. А ці будзе так, як гаворыцца ў ёй, адзін бог сьвяты ведае.

Стары змоўк, пачаў адкусваць нітку. За бартом лайбы мэлёдычна хлюпалі хвалі, недзе наверсе клапатліва сьвішчэў чужы, пералётны вецер. Лясьніцкі ляжаў нярухома на мяккай саломе, аддаўшыся ціхаму пявучаму бяздум'ю.

Дзед паправіўся, пачаў ізноў гаварыць.

— Вось як, даражэнькі... А як на мяне—дык што мне паны. Яны мне ані ў галаве... Што ён мне зробіць каторы... Жыў бабылём, працягнуў неяк век, неяк і памерці патраплю... Як быў маладзейшы, дык часам і пакпіць спрабаваў... Аднойчы было нешта...

Стары недалужна зморшчыўся і прасіпеў. Гэта азначала, што ён засьмяяўся.

— Дык было... доўга тады сьмяяліся... Нешта зайшоўся я ў маёнтак, а пан убачыў мяне ды пытае:—Што, кажа, новага, Саўка? Дык я й сказаў. Кажу—у Мікалаеўцы сома ўлавілі. Дванаццаць пудоў адзін хвост... Дык яны пазапрагалі коняй, паехалі цэлым кагалам—гасьцей тады многа было. Па дарозе папа сустрэлі.—Куды гэта?—Сома глядзець Ну й той да іх далучыўся... Паехалі, паднялі гармідар, а там таго сома й званьня ня было...

І ён зноў засьмяяўся сваім дзіўным сьмехам.

У гэты момант знадворку пачуўся стрымлены тупат каня. Нехта верхам пад'ехаў к парому. У Лясьніцкага чамусьці трывожна забілася сэрца. Ён спыніў старога:

— Ня турбуйцеся! Я перавязу...

І сам пасьпешна вылез з будкі.

Перад прыпарамкам зьлязала з каня паненка Раіса. Яна яго заўважыла, ветла ўсьміхнулася, заківала галавой. Ён адкінуў жардзіну, памог ёй узьвесьці каня на паром. Яна ў задзіўленьні яго запытала:

— Што вы тут робіце?

— Прышоў вось паслухаць дзедавы казкі. Цяпер замест дзеда буду вас пераваэіць.

— Я сама.

Яна ўзялася за канат, пацягнула з усяе сілы, але паром і не крануўся з месца.

— Чаго-ж вы стаіцё, не памагаеце?..

— Вы казалі, што самі будзеце...

Яна зрабіла від, што злуецца.

— Вы зноў пачалі грубіяніць?

Неяк разам спіхнулі з месца паром, далей ён пайшоў плаўна і лёгка. Лясьніцкі, аднак, не сьпяшаўся цягнуць—хацеў больш пабыць з паненкай. Ён моўчкі з ласкавай усьмешкай глядзеў на яе, а яна ўсё гаварыла:

— Вы любіце народныя казкі?.. Я таксама калісь любіла. Мне няня многа апавядала.. І цяпер я таксама люблю... казкі, песьні...

Яна раптам змоўкла, быццам нешта ўспомніла або нешта насьпех меркавала.

— Слухайце... як вас... як ваша імя і па бацьку...

— Васіль Данілавіч.

— Дык вось што, Васіль Данілавіч. Хутка будзе Купала... Так? Я хачу паслухаць, як сьпяваюць купальскія песьні... Я-б хацела, каб пайсьці разам з вамі... вы ўсё гэта... ведаеце... Добра?

— З ахвотай. Але як я сустрэну вас?..

— Прыдзеце... не, лепш ня так... Мы сустрэнемся з вамі — ведаеце дзе?—на нашым могільніку, каля капліцы... Добра? Вы не баіцёся?.. А якой гэта трэба гадзіне?..

— Як ужо добра сьцямнее...

— Ну, дык угавор?..

— Угавор...

Паром прыстаў к берагу. Яна ўскочыла на каня, яшчэ раз з ветлай усьмешкай кіўнула яму і паскакала.

Лясьніцкі астаўся ашаломлены. Неяк вышла ўсё занадта раптоўна— мігнула, як ясны прамень, і зьнікла. А ў сэрцы астаўся ружовы чад— яно доўга яшчэ ня спыняла свой ліхаманкавы бой, напорна гнала ў галаву хвалі гарачай шумлівай крыві.

Ён колькі хвілін стаяў, як зачараваны, абапёршыся аб парэнджы парома, і вецер паслушна апаласкваў сваім халаднаватым пavевам яго распалены твар. Потым з радасна-п'янаватай усьмешкай ён палез зноў у будку і ў нейкай нэрвовай млявасьці выпрастаўся на мяккай саломе.

— Паненка паехала?—ні то запытаў, ні то проста зазначыў стары.

— Ага.

Дзед памаўчаў. Потым чамусьці ўздыхнуў і ціхенька забубнеў, нібы гаварыў сам з сабой.

— Э-хе-хе.. Чаго толькі не вычвараюць гэтыя паны, чаго ня выгадваюць... З распусты ўсё гэта, з таго, што волю чуюць—робяць, што толькі хочуць... А вось і расьце сіраціна... Прыдбаў... хе-хе... пяць тысяч каштуе.

Лясьніцкі страшэнна зацікавіўся.

— Пра каго вы, дзядулька, гаворыце?

— Ды пра яе-ж, пра паненку... Ат, можа й няпраўда гэта зусім. Мала што дзейкаюць людзі...

— Раскажэце, дзядулька!

— Казаў мне пра гэта адзін яўрэй—ён усё тады цёрся каля маёнтку... Стары пан удаўцом быў пасьля другой жонкі... Ну, і прыехаў у мястэчка немец-аптэкар. А ў таго немца ды была дужа прыгожая жонка... А я бачыў—дык нічога цікаўскага—баба, як баба... Тады стары пан упадабаў тую немцаву жонку. Ну, і купіў... пяць тысяч рублёў нібыццам убухаў...

— Як гэта купіў?

— А проста. Прышоў дый кажа—прадай жонку. Ну, той быў ласы на грошы—згадзіўся. Хто іх там ведае: ці яны разлуку ўзялі, ці так проста пайшла яна да пана. Але-ткі прыжыў пан з ёй дачку—во гэтую самую паненку... І неяк праз год ці два яна й памерла, тая немка... Дык вось розна людзі казалі. Адны—што зьвёў ён яе са сьвету... ведама—надакучыла ўжо... А іншыя дзейкалі, што й цяпер яна недзе жыве, мо' ў Амэрыцы або Сібіры... толькі ўпотайку, ня хоча пан, каб ведалі, што яна жывая... Так і расла бяз маткі... Ну, а ўжо ведама, якое шчасьце бяз маткі гадавацца... Але-ткі нешта было, мусіць, у пана з тэй немкай. Бо ўжо моцна загроб яго потым у рукі „Карла"... Братам ён немцы даводзіцца..

Лясьніцкі слухаў, зацяўшы дыханьне, каб не прапусьціць ніводнага слова. На яго гэта гісторыя зрабіла вялікае ўражаньне. Вобраз паненкі Раісы паўстаў у яго ўяўленьні ў новым романтычна-таемным асьвятленьні і ад гэтага набыў яшчэ большую прывабнасьць.

Дзед кончыў апавяданьне, бурчэў сам сабе нешта пра распусту, пра свавольле паноў. Лясьніцкаму гэта было няцікава. Яму ўжо цяжка ўседзець было тут у будцы—яго нутро кіпела ад вострых уражаньняў, ад цэлай віхуры рознастайных пачуцьцяў. Хацелася цяпер пайсьці куды-небудзь, каб на адзіноце разважыць душэўную сумятню.

Ён перагнаў назад паром, разьвітаўся з дзедам і пайшоў па беразе на тую луку, аб якой так многа гаварылі ў апошнія дні. Ен зайшоў у самы канец, лёг у траву (трава там у рост чалавека) і даў поўную волю сваім лятуценьням.

У лазьняку сьвішчэў пералётны вецер, недзе задумённа плёскалі ў бераг маркотныя хвалі, над галавой мякка шумела трава.

Лясьніцкі ляжаў нярухома і слухаў, як пяе свае разгонна-вольныя песьні прастор, як кліча ён сэрца некуды ў нязьведаны край, у дзіўнае чароўнае бязьмежжа.

А ў уяўленьні лёгка спляталіся з стройных імклівых мар палотны квяцістых малюнкаў, вабілі нязбытнай прыгожасьцю, прымушалі сэрца біцца ў нейкім трывожна-радасным прадчуваньні.

Вярнуўся дамоў Лясьніцкі ўжо надвячоркам. Дома чакала яго яшчэ новая вестка. Прышоў з гораду ліст ад Андрэя, у якім той пісаў, што праз некалькі дзён прыедзе да яго, да Лясьніцкага, каб закупіць на вёсцы харчоў. Пісаў, што ў горадзе ўсё надта дорага, што ўжо не хапае пэнсіі на пражытак, што прыходзіцца галадаваць.

Лясьніцкі недаверліва паківаў галавой. Дзіўным здавалася, непраўдападобным, каб Андрэй за харчамі паехаў. Не з такіх ён, ня гэта цікавіць яго. Нешта другое тут ёсьць, нешта ён у лісьце не даказвае.

Але доўга Лясьніцкі ня думаў над гэтым, ня тое было на ўме. Махануў няўважна рукой.

— Хай сабе... Там будзе відаць...

*(Працяг будзе)*

# КАЎКАСКІЯ НОВЭЛІ

### З. Бядуля

## Ісла м-Бэй

Прыбой спаў.

Ніводнага зыку, ніводнага шолаху ня чуваць было. Над морам нахіляўся бура-зялёным акамянелым стадам хрыбёт высачэзных гор. І мора і горы былі абліты перадвячэрнім ружовым вінoм. З недалёкай цясьніны, якая расьціснула бязбрэжніцу граніту ў многавярстовы калідор, нясло халадком. Цясьніна раздмухвала па моры сьцежкі і дарожкі, якія часта мянялі колеры ад бледна-чырвонага да зялёнаватага блеску празрыстага ільда. Лёганькія зморшчынкі то паказваліся, то зьнікалі па гэтых зыбістых дарожках. Гладзь мора выглядала тонкім шоўкам, які ледзь гнуўся пад нявідочнымі крокамі.

Я сядзеў на каменным моле і з нецярплівасьцю чакаў свайго сябру—Ісламбэя.

Іслам-Бэй—паганяты буйвалаў. Служыць у санаторыі. Вечна дровы возіць з гор на сваёй пары цярплівых жывёлін. Буйвалы ведаюць сваё прызначэньне, нададзенае ім чалавекам. Ніколі ня бунтуюцца. Толькі кармі іх кукурузнымі сьцяблямі, а яны, як машыны, будуць вазіць і вазіць цяжары. Нічога з акаляючага іх ня цікавіць — няхай сабе дождж, вецер, сонца. Рознастайныя колеры мора і неба, нібы ў вадзяных лужынах, адбіваюцца ў іхніх нявыразістых сьветла-вішнёвых вачох; пералліваюцца гэтыя колеры ў рознае зьзяньне, але ўнутры вачэй мала прыкметна жыцьця. Выразістасьць і жывасьць надаюць буйвалам крутыя, вялізныя рогі, якія вольна і горда раскінуты па абодвух баках шырокага ілба ў два касьцяныя пытальнікі.

Затое Іслам-Бэй, паганяты буйвалаў, поўны жыцьця і рухавасьці. Ён убірае ў сябе ўсё акаляючае жыцьцё ў рамках вобразаў і гукаў і пераварае яго ў песьні.

Інакш быць ня можа. Бо нашто вочы ў Іслам-Бэя, нашто вушы, навошта сэрца?

Сьпявае чайка на моры; горны ручай пераліваецца срыбнай песьняй—чаму не сьпяваць Іслам-Бэю?

Сьпявае вецер між пальмавых галін, перабірае іх, нібы пальцамі, шуршавістыя кудры; сьпявае мора час-ад-часу—чаму не сьпяваць Іслам-Бэю?

Колькі часу як Ісам-Бэй сьпявае?—з тых часоў, як ён сябе памятае.

Дванаццаць усходаў месяца лічэце на кожны палец. Цяпер плясьніце далонямі (усімі дзесяцьцю пальцамі) шэсьць разоў. Вось гэтулькі часу сьпявае Іслам-Бэй...

Сьпяваў і бацька яго, і дзед, і прадзед. Вялізны ланцуг сьпеваў упіраецца ў гранітныя вянкі гор—у таямніцу вякоў...

Сужэтам яго песьняў зьяўляецца ўсё, што ён бачыць і чуе перад сабой. Стада баранаў на ўсклоне гары. Бурнахмельны вадаспад. Коньнік, які імчыцца хутка па дарожцы, як бура, як ўзьлёт думкі чалавечай. Чарнавокая красуня, што на мора любуецца і вызначаецца ўсёй сваёй постацьцю, як малюнак. Кот, які скача спрытна, выгінаецца, як спружына, і ня ведае, што з сабой рабіць ад паўнаты жыцьця.

Аб усім сьпявае Іслам-Бэй.

Словы самі складаюцца ў шэрагі, як хвалі на моры. Голас пералiваецца на розныя лады...

Я чую сьпевы Іслам-Бэя штодня. Слоў не разумею, але голас яго робіць на мяне вялікае ўражаньне. У ім ёсьць монотоннае зацягваньне ветра між абвалаў, выцьцё галодных шакалаў, стогны чайкі морскай і зычны сьмех прыбою.

Шмат пачуцьця ўкладае Іслам-Бэй у свае песьні.

Увесь сьвет Іслам-Бэй працэджвае праз песьні, нібы малако праз цадзілку.

Іслам-Бэй думае, што ўвесь сьвет яго ўладарства, толькі для яго і створаны.

— Можа мне гэта здаецца,—тлумачыць мне Іслам-Бэй пры чарцы мачжары [1]),—а якая розьніца? Дзе разьбярэш, што здаецца, а што праўда.

Выбачай, братку чытач, што я тут прапусьціў апісаньне нашай сустрэчы з Іслам-Бэем і як мы з ім пасьля ўвайшлі ў духан [2]) і селі за столік, як услужлівы грэк паставіў нам бутыль мачжары. Усе гэтыя падрабязгі пакіну для раманістага.

Скажу толькі некалькі слоў аб выглядзе Іслам-Бэя. Ён у доўгай чорнай бурцы, якая нагадвае жалобную мантыю, і ў сівым шарсьцяным башлыку на галаве. Болей усяго зварачваюць на сябе ўвагу бровы, вочы і нос Іслам-Бэя. Бровы, чорныя і густыя, зрасьліся над вачыма ў адну чорнааксамітную істужку. Вочы, смаляніста-чорныя з аганькамі, якія то патухаюць, то разгараюцца да нейкай жуці. Іскры ў іх дрыжаць, ноздры раздуваюцца.

Часта мяняецца выраз твару Іслам-Бэя. І ў зьвязку з гэтым ён то выглядае старым, то юнакам. Адно века ў яго трохі апушчана, дзеля чаго здаецца, што адным вокам ён цябе лашчыць, песьціць, а другім грозна пазглядае.

---

[1]) Маладое віно.

[2]) Карчма.

А калі Ісдам-Бэй уваходзіць у вялікі экстаз гутаркі, тады прыходзіцца мне зглджацца з ім ва ўсіх яго поглядах, а то хватаецца рукой за кінжал (старадаўны ганаровы звычай).

А калі часам яму здаецца, што я ня веру яму, дык утаропіць у мяне пару такіх бліскучых вугольляў, што я мушу апускаць свае вочы. У тую хвіліну мне робіцца не па сабе і здаецца, што нешта ўкраў у Ісдам-Бэя...

— А што?—зноў ты з сваімі кніжачкамі?—запытаўся ў мяне, крыху зьдзівіўшыся, Ісдам-Бэй.

Я аднаго разу ў жарт абяцаўся яму, што болей кніг у рукі браць ня буду.

Ен чамусьці выказвае ўвесь час нашага знаёмства сваю няпрыхільнасьць да кніг.

І давай зноў даказваць мне аб іхняй непатрэбшчыне:

— Што гаворыцца ў гэтых кнігах?

— Аб усім на сьвеце.

— Дык ты на сьвет праз кнігі глядзіш? Яны-ж табе хіба вочы затуляюць,—жартуе Ісдам-Бэй.—Ці ня лепш так, бяз кніг, глядзець вакол сябе—вальней.

— Ды ў кнігах апісана аб усім тым, што дзеецца на сьвеце,—паўтараюся я, апраўдываючы існаваньне кніг.

Ты сам што колечы рабі, а няхай аб табе ў кнігах пішуць, калі ёсьць такія аматары. Ты верыш у кніжкі, як мой дзед верыў у балваны.

— Кнігі вялікая сіла.

— Ну калі вялікая сіла, дык давай змагацца: я кінжалам, а ты кнігамі. Давай!

Ісдам-Бэй падняўся і выхваціў кінжал. Я міжвольна наставіў кніжкі, як шчыт.

Ісдам-Бэй зарагатаў галосна, смачна, ад поўных грудзей, вырваў у мяне кнігі і палажыў сабе ў кішэнь.

Ён пільна на мяне зірнуў. Я быў здэтанаваны, і ён гэта заўважыў.

Як-бы электрычны ток прайшоў праз усё яго цела. У адну хвіліну ён зьмяніўся—ад рэзкага і кплівага Ісдам-Бэй зрабіўся надзвычайна нежным, уважлівым.

— Прашу прабачыць,—казаў Ісдам-Бэй,—ты мой госьць, ты прыехаў у мой край, ты цяпер мне бліжэй за роднага брата...

Не пасьпеў я азірнуцца, як Ісдам-Бэй з нейкім дзікім гікам-сьвістам сашчаміў мяне рукамі-кляшчамі і моцна пацалаваў у вусны, так моцна—ажно да балючасьці, да крыві ўпіўся...

Гэта быў братэрскі, шчыры, ад усяго сэрца пацалунак, які апёк мне губы накаленым да чырвона жалезам.

Да яго рэзкіх пераходаў ад імпэтнай грубасьці да такой-жа імпэтнай нежнасьці я ўжо досыць прывык за час нашага знаёмства. Яго пачуцьці нагадвалі сабою вечную ўспыхваючую кучу пораху, якая сыпала выбухі ва ўсе бакі. Яго настроі мяняліся і як-бы зьяўляліся люстэркам усяго акольнага, у якім яно яскрава адбівалася.

Мы вышлі з духана. Ён левай рукой абвіў мне шыю і мы пайшлі дарогай у бок гор.

Мы ішлі моўчкі.

Востры пах духана, які казытаў ноздры і трохі кружыў галаву, пачаў расьсейвацца, як дым. Горы дыхалі ароматным халадком заходу. Рэльефы іх вызначаліся ярка, як гравюры, а на аддаленых вяршынах срыбрыліся воблакі, клубіліся, як вялізныя скруткі зьмеяў, і перасоўваліся з месца на месца. У падножжы гор ляжалі сіняватыя цені, а некаторыя вяршыны гарэлі ў апошніх праменях сонца. Вялізныя пасы агню мянялі свае фарбы ад жоўта-мядовых да ярка-фіолетавых.

Нейкі цуд чыніўся вакол...

Музыка колераў разьлівала лагоднасьць на сэрцы. Думаць не хацелася ні аб чым. Хацелася піць усю вакольную красу і быць шчасьлівым у злучэньні з дзіўнай прыродай, як злучаюцца дробныя брызгі з морскай хваляй. Мне здавалася, што я тут даўно хаджу так—ад самага сформаваньня гэтых гор. Час і прастора для мяне ня існуюць. Ні шчасьця, ні гора няма ў маім сэрцы. Адзін нясупынны супакой ахоплівае мяне. Супакой адвечнага хараства, які з кожнай эпохай толькі формы свае мяняе.

Мы вышлі на гладка ўтрамбаванае шосэ. Горы раптам пагасьлі. Апошні беражок крывавага сонечнага дыску апусьціўся ў мора.

Памёр дзень.

Цені прыкметна пасінелі. Сум завандраваў вакол. Заўтрашні дзень ня будзе падобным да сягонешняга ніводнай хвілінкай...

Прачнуўся прыбой.

Яго голас рос з кожным мігам, падымаўся, як стада чаек, што раніцой з гор над морам носіцца.

Спачатку прыбой мурлыкаў, нібы кот. Потым задрапаў, нібы лапамі па прыбярэжных каменьнях. Урэшце зароў, завыў, засьвістаў на розныя галасы. Пагрознай каймой абхапіў бераг, падскакваў у гару, лізаў тысяччу языкамі прыбярэжжа і вызначаўся у змроках вечару вялізным сівым стадам гнеўных мядзьведзяў.

Мы спыніліся каля выступу голай гранітнай скалы, якая тырчэла ўгару, нібы замчышча няведамых волатаў. Мы селі на вялікім асколку граніту.

— Што, падабаецца табе наш край?—запытаўся ў мяне Ісрам-Бэй такім тонам, як-бы запытаўся, ці падабаецца мне яго хата, або яго вячэра.

Гордасьць заблішчэла ў яго вачох, быццам паказваў мне свае ўласныя багацьці-скарбы.

— Вось табе і кнігі—чытай!

Іслам-Бэй зрабіў такі гэст рукой вакол сябе на горы і мора, нібы паказвае мне вялізныя паліцы з кнігамі ў сваёй аграмаднай бібліотэцы.

— Тут нашы каўкаскія плямёны і народы крывёй пісалі аб сваім жыцьці ў гэтых кнігах-скалах. Цікавая штука, у цябе нашы горы выклікаюць задумёнасьць, а ў мяне гарачаць кроў. Як агонь ці як віно, гарачаць. Рукі ірвуцца да нейкіх учынкаў. А што я цяпер?—асколак. Каб ты ведаў мяне маладым! Ой, як людзі стараліся гнуць мяне ў буйвалаўскі рог. Але ці можна мяне гнуць? Хіба толькі ламаць можна...

Ноч наступіла хутка. Нібы хто апусьціў цёмную заслону. Здалёку сьвяціліся агні з вокнаў б. палацу прынца Ольдэнбурскага (цяпер—савецкі санаторыум). Гэта было з усклону прыбярэжнай гары. А з неба глядзелі зоркі—буйныя каўкаскія зоркі. Яны так ярка блішчэлі, ажно адкідвалі ад сябе праменьні ў выглядзе тонкіх і доўгіх, ярка-зялёных кінжалаў...

— Эх, рушкі (так мяне называў Іслам-Бэй—пра Беларусь ня ведаў), нічога мяне і ламаць не магло, апрача майго брата Арджбаі. Я цяпер паломаны... Брат мяне зламаў...

Яго голас перайшоў у шэпт—у буйны шэпт. Так пад моцным ветрам шапоча лісьцямі піхта на вяршыне гары.

— А любіў-жа я Арджбаю, як сына... Адзін ён у мяне быў родны на цэлым сьвеце. Цяпер нікога ня маю. Ён быў самы малодшы ў нашай сям'і. Я выгадаваў яго. Колькі год таму назад, як тут была меншавіцкая ўлада, ён пайшоў да меншавікоў. Арджбаю яны заманілі добрым канём. Я з самага пачатку за бальшавікоў стаяў. І мы разлучыліся. Мне бальшавікі каня не далі, але я і без каня ім шчыра служыў. Я ведаю горы ваколіцы, як свае пальцы на руках, і вандраваў па горах, сочачы за меншавіцкімі атрадамі. Аднаго разу ў пахмурны поўдзень я ішоў па вузкай сьцежцы над самым краем глыбокага страшнага абрыву. Раптам пачуў конскі тупат. Я прытаіўся. Зьняў стрэльбу з плеч. Вось з павароту гары мне насустрач паказаўся мой родны брат на сваім меншавіцкім кані (нашы коні карабкаюцца, нібы козы, па самых кепскіх горных сьцежках). Сэрца ў мяне закалацілася ад злосьці на брата, на здрадніка. Брат хутка заўважыў мяне. Таксама схапіўся за стрэльбу... Але, пазнаўшы мяне, свайго старшага брата, апусьціў стрэльбу і спыніў каня. Я—чалавек гарачы. Доўга ня думаючы, выстраліў ня ў брата, але каню ў грудзі. Рэха пакацілася па гарах. Конь з братам паляцелі з абрыву ўніз...

Спачатку я ніякай жаласьці да брата не адчуваў. Спакойна пайшоў уніз крутымі дарожкамі паглядзець, ці ён жыў астаўся...

Іслам-Бэй пры гэтым схваціў мяне за руку. Пальцы ў яго лёгка дрыжэлі. Вочы сьвяціліся, нібы фосфар, мігацелі жудасна. Ён на хвіліну змоўк.

Неба пакрылася хмарамі. Заімжыў дождж. Цяплынь плыла вакол нас. Здалёку раздавалася выцьцё шакалаў. Спачатку зацягнуў адзін, за ім—другі. Пасьля пачалі пераклікацца між сабой з усіх бакоў. Трохі падобнае да выцьця беларускіх ваўкоў у калядныя ночы, але болей зычнае і абрывістае. У іхнім голасе, у выцьці чуецца сьмех і плач, зьмешаныя ў адно. Часам шакалы заліваюцца ў гэтым сьмеху-плачу чалавечым голасам, ад чаго жуда павялічваецца. Водгаласкі перакідваюцца з гары да гары, запаўняюць цясьніны, плывуць у высь.

— Дык вось,—кажа Ісдам-Бэй,—я спусьціўся ў самы ніз абрыву, чапляўся за кусты, падрапаў сабе рукі і твар да крыві, але не зварочваў на гэта ўвагі. Брат ляжаў на вострых каменьнях акрываўлены, пакалечаны, з зачыненымі вачыма. Побач ляжаў яго меншавіцкі конь.

— Арджбая...—пачаў я будзіць яго,—Арджбая...

Брат адчыніў вочы...

— Што ты зрабіў?—прашаптаў ён,—гэта-ж я, таксама, як і ты, бальшавіком служыў. Ты ня ведаў... Я наўмысна... Брат ня кончыў гаварыць. Кроў хлынула з носа, з горла. Ён тут-жа і сканаў з расчыненымі зьдзіўленымі вачыма.

Працяглы стон вырваўся з грудзей Ісдам-Бэя. Ён да болі сьціснуў мне руку.

— Потым... Я ня памятаю, што было. Я два дні ляжаў, прыпаўшы галавой да мёртвых грудзей Арджбаі... Я ня плакаў—я выў, як шакал. Пастухі знайшлі нас—мяне з мёртвым братам. Тут-жа вырылі магілу. З тых часоў я перастаў хадзіць у горы. Але бадай штоноч ува сьне бачу Арджбаю. Ён ка мне прыходзіць. Стаіць, глядзіць на мяне зьдзіўленымі, вытарашчанымі вачыма і маўчыць... Я прачынаюся. Вакол раздаецца водгаласак майго-ж стону і затуманенымі вачыма я яшчэ бачу цень брата, які адыходзіць ад мяне і зьнікае... Я колькі разоў зварочваўся да доктара ў санаторыі. Ён мне гаварыў, што брат ка мне ня прыходзіць, а я бачу перад сабою люстэрка сваіх уласных думак. Доктар казаў мне ня думаць аб гэтым, тады і нябожчык ня зьявіцца. Як магу я ня думаць, калі думаецца? Брат мяне зламаў. Я цяпер нікуды ўжо не гаджуся.

Я нічым ня мог уцешыць, супакоіць Ісдам-Бэя. Я толькі моўчкі абняў яго...

Прыбой шумеў.

## У гарах

Малады Арнаут ляжыць на разасланай бурцы на глінянай падлозе ў душнай саклі.

Ужо некалькі тыдняў, як ён хворы.

Яго старая маці, Утта, думае, што „горныя духі“ зьдзекуюцца над ім, мсьцяць за тое, што Арнаут пакінуў веру дзядоў і ўступіў у нейкую

„новую веру бязбожнікаў", якую прынесьлі бальшавікі з абшырных бязбрэжніц донскага стэпу. Аб гэтым дзіўным стэпу ёй гаварыла адна донская казачка, якая прыехала сюды сартаваць тытунь на табачнай плянтацыі багатага суседа Бараса.

Старая Утта бачыць, як сын кідаецца ў гарачцы, чуе, як шапоча незразумелыя словы. Арнаут сьпіць. Грудзі яго праз меру моцна падымаюцца і апускаюцца. Ён цяжка дыхае. Спаміж счарнеўшых губ блішчыць рад белых, як часнок, зубоў. Павекі трохі прыпадняты і праз шчылінкі між імі мігацяцца палоскі чорных павялічаных зрэнкаў...

Ад гэтага старой жудасна...

Пад падушкай ляжаць кнігі „бязбожніцкай веры". Сын іх сам палажыў туды—надта іх любіць.

— Гэта ад кніг яму так цяжка,—гаворыць сама з сабою старая Утта,—цёнгле над імі сядзіць... Нават бярэ іх з сабою, калі ідзе на каменаломню працаваць.

Старая прыглядаецца і прыслухоўваецца, ці сын моцна сьпіць. Зганяе з яго пажаўцеўшага ілба муху і асьцярожна, павольна, каб сын не прачнуўся, совае худую руку пад падушку і цягне адтуль тры замасьленыя кніжкі—загубу яе сына...

Яна трымае кніжкі ў руцэ, нібы пасудзіну з малаком,—з такой асьцярогай ажно губы закусіла, ажно рука задрыжэла.

На такое зладзейства гатова старая Утта, каб толькі любага сына выратаваць...

У саклі поўзмрок. Праз дзюрку, якая замест вакна асьвятляе памяшканьне, крадзецца мутнае сонца. Яно кідае жоўта-мядовыя водсьветы на сьцены, замазаныя кізяком, і надае прытульнасьць шэрай саклі.

Маці ня ведае, дзе дзець грэшныя кніжкі грэшнага сына. Яна азіраецца па бакох, шукаючы захову. Яе заклапочаныя вочы просяць ратунку...

З левага кута саклі супроць дзьвярэй пільна ўглядаецца ў яе пажылы чалавек. У яго—высокі, белы лоб. Зажмуранымі вачыма ён пранікае старую ў самае сэрца. хітра падміргвае, як даўно знаёмай. Здаецца ёй, што гэты чалавек зараз загаворыць. Затрасецца яго маленькая барodка. Ён скажа:

— Нашто кніжкі ўкрала ў сына?

Так скажа пажылы чалавек дакорлівым і ціхім голасам, каб хворы не прачнуўся...

Сонечны прамень праскочыў каля вачэй гэтага чалавека. Вось ён жыва міргнуў імі... во, во гаварыць пачынае...

Старая спалохалася. Кніжкі высьлізнуліся з яе старых пальцаў, шлёпнуліся на зямлю, нібы дзіцё з неасьцярожных рук, і як-бы закрычалі ад болю папяровым голасам.

Сын прачнуўся. Толькі цяпер старая ўспомніла, што таго пажылага чалавека няма чаго баяцца, бо ён намалёваны на паперы. Вось кепская памяць... Нават забылася, як завецца гэты намалёваны чалавек.

Здаецца, Ле... Ле... Лена...

Спыняцца доўга над гэтым старая не магла, бо сын прасіў піць. Аднак, яна зьбянтэжылася, баючыся, каб сын ня ўгледзіў кніжак. Прысела на месцы і прыкрыла іх падолам. Выцягнула руку да глінянага жбана з вадою і падала сыну да губ.

Арнаут са смагай глытаў халодную ваду.

Старая зацікавілася тым, як вада пераліваецца ў гарляку сына. Гарляк хадзіў хадыром уверх і ўніз, і вада лілася ў нутро праз горла булькаючы, як у мёртвую пасудзіну.

Старой зрабілася няпрыемна ад гэтага. Яна са страхам адарвала жбан ад губ сына. Пасьля гэтага яна папраціла падушку пад яго галавой, палажыла яго тварам да сьцяны і, аглядаючыся, як праступніца, у бок сына і портрэту Леніна, вынесла кніжкі з саклі...

---

Старая Утта трымала кніжкі ў правай руцэ, выцягнуўшы іх перад сабою, як бляху з гарачым вугольлем.

Яна іх баялася—баялася сілы „бязбожніцкай веры“, якая ў іх захована.

Яна ішла наперад па горнай сьцежцы, думаючы кінуць грэшныя кніжкі ў рэчку. Аглядалася па бакох, каб людзі не заўважылі. Лішніх сьведкаў старая мець не хацела, нібы несла тапіць байструка.

Пачуўшы званкі каравану з табачнымі таварамі, як яна ведала (заўсёды ён тут праходзіў), старая спынілася, схавалася за густымі кустамі і пайшла іншай дарогай. Але ёй не шанцавала—насустрач ехаў конна сусед Барас.

Раптоўны, неспадзяваны тупат капытаў аглушыў яе, нібы гром.

Стары тоўсты Барас сядзеў моцна і стройна на кані. Яго голены круглы твар, які меў выгляд рымскага імпэратара на старасьвецкай мэдалі, дрыжэў, як квашаніна.

Барас спыніў каня.

Утта нізка пакланілася свайму багатаму суседу, міжвольна выставіўшы пры гэтым кніжкі наперад, як-бы на паказ.

— Што гэта ў цябе за кніжкі, старая?—запытаўся Барас.

Утта апавядала яму пра сваё матчына гора.

Барас, выслухаўшы яе, хітра ўсьміхнуўся, казаў, што чуў пра яе сына, які ўступіў у бязбожніцкую веру, за што заслужыў кару, але ён, Барас,—чалавек добры і не жадае зла Арнауту.

Ён параіў аднесьці кнігі назад хвораму, бо, угледзеўшы, што няма кніг, сын занепакоіцца ды яшчэ горш занядужае.

— Самае лепшае лякарства,—казаў Барас,—пакінуць хворага ў ранейшай яго абстаноўцы і пры ранейшых прывычках. Тады хутчэй выздаравее. Вось, напрыклад, я—ужо другі год сэрца ў мяне хворае. Забаранілі езьдзіць конна. Сяджу дома, дык кепска мне. Адзіны мой паратунак—конная язда. Цяпер я забываюся аб сваёй хваробе.

Пры апошніх словах Барас сьцебануў каня і паехаў у горы, пакінуўшы старую на месцы.

Утта ўспомніла, што хворы застаўся адзін, і хуткімі крокамі павярнула назад да саклі.

---

Многа дзён кідаўся Арнаут у гарачцы. Высах, пажаўцеў, як мярцьвяк. Вочы ўваліліся глыбока, клінам завастрыўся нос, пачарнелі губы, а рукі і ногі так схудалі, што выглядалі, як сухія ценькія галіны кізіла. Ён так аслабеў, што ня мог павярнуць нават пальцам. Здаецца, і болю ўжо не адчуваў. Ня міргне вокам, не кранецца нават і тады, калі кусьлівая муха сядзе на нос, або ўвап'еціца ў губу.

Арнаут гарэў, як сьвечка, таяў, як воск на агні.

Рубеж паміж быцьцём і нябыцьцём быў ценькі, як валасок.

— Няйначай памрэ...—думала старая маці. Яе сэрца рвалася ад жалю. Гора было да таго вялікае, што яна нават ня плакала—як-бы акамянела ад дзіва. Побач з гэтым бязьмерным для маткі няшчасьцем няпрыкметна для яе самое жыцьцё пачало падсоўваць ёй і лякарства ад няшчасьця: яна пачала звыкацца з гэтым.

Звычка, як цень, пачала падкрадвацца да яе, лезла ёй у думкі і пачуцьці, нібы хітрая шаптуха ў хату. У яе ўяўленьні сын быў ужо напалову памёршым і рабіўся ёй з кожным днём усё болей чужым, адыходзіў ад яе...

Ён здаваўся ёй кавалкам гліны, які во-во струхлее і рассыплецца ў пясок...

— Бо хто-ж можа змагацца з горнымі духамі?..

Пакорлівасьць перад няўхільнасьцю ўзяла верх, і старая толькі чакала, калі гэта здарыцца. Тады гора яе крыкне—рванецца ў грудзёх апошнім моцным акордам, пасьля затаіцца глыбока ў грудзёх, нібы вужака пад імшыстым карчом. Там будзе тлець галавешкай да яе апошніх дзён...

— Падстрэлілі майго маладога арла... памрэ...—шаптала старая Утта.

Прызвычаіўшыся да свайго новага становішча, старая Утта пачынае ўваходзіць у ролю і давай прыглядацца да ўсяго гэтага як-бы збоку—давай глядзець, як чужая асоба, і на сына, і на сябе.

Два жыцьці ляжалі перад ёю на шалях: чыё жыцьцё ёй цяпер даражэй—ці маладога сына, ці яе ўласнае старое жыцьцё?

Доўга стаяла перад ёю гэтае пытаньне, мучыла і непакоіла і часам сорамна ёй рабілася ад яго: жыцьцё сына патрэбна ёй.

А каму патрэбна яе жыцьцё?

На гэта яна адказу не знаходзіла... Бо кідала яе ў бязьмерную роспач тое, што яна адна-аднюсенькая застанецца...

Сын пэўна памрэ...

Міжволі яна цалкам увайшла ў сваю новую ролю. Тут трэба старой гаспадыні ўсё прадбачыць: усялякія клопаты з пахаваньнем і ўсімі дзядоўскімі звычаямі, зьвязанымі з гэтым.

А як яна, старая, будзе шчыра галасіць... Так будзе галасіць, так прычытваць, ажно ўсе суседкі дзіву дадуцца яе кемнасьці. Усе ў сьлязах купацца будуць, слухаючы яе...

Старой Утте робіцца прыемна ад гэтай яе будучай здольнасьці... Ня то што прыемна, але нейкая гарачая хваля пранікае яе ўсю. Суседкі нават зайздросьціць будуць...

Ня ўсе так умеюць галасіць па родных дзецях, як яна...

Гонар ахоплівае Утту.

Старая пільна ўзіраецца ў сына і прадстаўляе, як хораша ён будзе выглядаць мёртвым. Суседкі будуць ківаць галавамі ад жалю, выціраць вочы і шаптацца:

— Такі малады...

З літасьцю будуць глядзець у яе бок. Гэты жаль лагоднай павуцінай агорне яе, старую, апляце, нібы дрот стары гаршчок. Яна акрэпне ад людзкога спачуваньня...

Раптам старая як-бы прабуджаецца ад сваіх думак. Ёй млосна і страшна робіцца. Яна плюе. Плюе з паузамі тры разы ў тры розныя месцы, як-бы спаўняючы нейкі патаемны рытуал, ад якога робіцца лёгка і знаходзіцца паратунак ад усяго кепскага.

— Эт! Можа быць яшчэ горш!—пацяшае сама сябе старая. Думае гэта рашуча, ледзь ня ўголас. Як можа ёй быць яшчэ горш—яна сама ня ведае, але гэта думка яе падбодрывае.

Аднак, уздым яе настрою вельмі кароткі. Пачуўшы слабы і працяглы стогн сына, яна ўздрыгвае... Яе агортвае такі жаль, ад якога дзецца няма дзе, які шчэміць горла, душыць да сьмерці, туманіць вочы... Хочацца плакаць, а ня можа, сьлёз няма.

Ёй прадстаўляецца, што сын ужо ляжыць у магіле. Магіла яшчэ не засыпана зямлёй. Туды, у яму, зірнула сонейка—лагоднае, цёплае і яснае, зірнула ў глыбіню сьляпой магілы...

Вакол стаяць хмурыя людзі, таксама абрызганыя сонцам. Не пасуе сонца да магілы, да сур'ёзных вачэй людзей.

Старая ўспамінае абразкі з жыцьця свайго сына, як ён забаўляўся на сонцы малым хлопчыкам, як сонца апальвала яго, і скура на ўсім целе была ад сьпякоты цёмна-бурая, здаровая і сьвяжуткая...

Цяжкая хваля гора кінулася ў грудзі старой маткі. Яна ў гэтую хвіліну зусім аб сабе забывае. Яна гатова сама памерці, хоць некалькі разоў памерці, каб толькі любы сынок жыць астаўся...

Яна ўжо столькі жыла на зямлі...

Ад гэтай новай думкі ёй зноў зрабілася лягчэй. Нібы сваім апошнім вырашэньнем за сына—самой легчы ў магілу—яна выратуе яго...

Так часта ў старой Утты мяняліся настроі ў адзін і другі бок. Быццам яна вяла барацьбу між сабою і сваім сынам: каму на сьвеце жыць астацца і каго яна болей шкадуе—ці сябе, ці сына.

Часта яна прыслухоўвалася, ці яшчэ б'ецца сэрца ў Арнаута, ці яшчэ дыхае сын...

А сэрца ў Арнаута білася, білася, нібы параненая чайка крыльлямі. Кожная жылка, кожная нэрва, кожная тканка яго організму, слаба рэагуючы на суадносіны свае з знадворным жыцьцём, жылі падвойным, патройным унутраным жыцьцём, напружна чакаючы ўрачыстай апошняй хвіліны быцьця. Чакалі з непакоем і надзвычайным страхам, не як адзін суцэльны організм, а як паадзіночныя мільёны драбнюткіх істот. Кожная кропля крыві адчувала сябе самастойнай істотай, якая змагалася за сваё існаваньне.

Увесь організм у цэлым, наадварот, знаходзіўся ў хмельным тумане несьвядомасьці і незацікаўленасьці.

У галаве Арнаута шумела. Зьвінела ў вушох. Нібы званілі ў нутры званіцы, зычна хтосьці біў раз-по-раз у ґрымотны гонг. Кроў у жылах была гарачая, як растопленае масла, падступала кіпучымі хвалямі ў галаву і адлівала назад к сэрцу, шукаючы паратунку ад вялікай небясьпекі, змагаючыся з трыльённым ворагам—мікробамі атруты, глытаючы і нішчачы іх на кожным кроку.

Разам з такім неўмеркаваным і трывожным бульканьнем крыві ў Арнаута блыталіся думкі. То ўспыхвалі-нібы яркае полымя, то гасьлі і апраналіся ў глухую поўнач. Яны імпэтна разрываліся ў паадзіночныя зьвеньні распаянага ланцуга, луналі кожная паасобку, як спалоханыя птушкі і скакалі па каўдобінах, як змучаныя коні, губляліся ў туманістых процьмах, заміралі, самі аб сабе забываючы, нібы іх ужо на сьвеце няма, нібы іх ніколі ня было. Пасьля гэтага думкі зноў зрасталіся ў адно цэлае—болей імпэтнае і моцнае, чым раней...

Наогул, яны напаміналі сваёй хаотычнасьцю гукі расстроенага музычнага інструманту, дзе прыгожае з няпрыгожым, зьмешваючыся ў адно, ладзяць бязладзьдзе.

Вобразы і адчуваньні, яркія і надзвычайныя, запаўнялі яго сэрца, плылі перад ім рэчкамі, разгарталіся каляровымі істужкамі, дзікія і нябывалыя. Колеры нявідочныя мітусіліся ў вачох, гукі нячуваныя казыталі вушы, пахі нябывалыя драпалі ноздры, а па скуры і па суставах

голачкі шчокатна калолі да прыемнага болю, церабілі гарачыя шчоткі, нейкая халодная, як лёд, бляха гладзіла скуру і даводзіла ўсё цела да няўстрыманых дрыжыкаў.

Арнаут жыў у гэты час патаемным жыцьцём. Цела яго было нярухома, як труп, аднак яму здавалася, што рухаецца, робіць розныя ўчынкі.

Незразумелае было цяпер Арнауту зразумелым, немагчымае—магчымым. У адны суткі ён перажываў гады. Думкі яго, ператвораныя ў яркія жывыя вобразы, насіліся, нібы човен на разьюшаным моры; вахталіся, кідаліся ад супакойнасьці прыемных мар да бурлівага страху. Няправільныя ўдары крыві, вечная смага накіроўвалі ўсе яго думкі і вобразы да такіх сужэтаў, якія канчаліся аднастойным эпілёгам:

— Піць...

Бязьмерная смага, якую хворы адчуваў кожнай дробнюткай тканкай свайго цела—ад каранёў валасоў да пят, была галоўным капэльмэйстрам ва ўсіх дзівосных композыцыях яго сноў у працягу многіх дзён.

---

Скрыпяць арбы. Скрып няпрыемны, зычны. Нібы крык парсюкоў, ушчэмленых моцна ў плоце між цяжкімі парканінамі. Арбы цягнуць уверх вогненыя буйвалы—дзікія, злосныя. І арбы і буйвалы—празрыстыя. Праз іх Арнаут бачыць абрысы гор, якія губляюцца ў туманістых далях. Чамусьці яму трэба дагнаць буйвалаў. Ен гоніцца за імі з усіх сіл, аднак дагнаць ня можа. Абліваецца гарачым потам. Мучае страшная смага.

— Піць... піць...—шэпча Арнаут.

Арнаут доўга брыдзе па дзікіх скалах—мо' ўжо некалькі год. Ён сам ня памятае. Заблудзіўся. Зусім лёгка заблудзіцца. Горы незнаёмыя. Падобны адна да аднэй—цёмна-бурыя скалы, абросшыя імшыстымі лішаямі, а дзе-ні-дзе спаміж шчылін расшчэпленага граніту тырчаць сухія, крохкія, пакручаныя, хворыя дрэўцы. Ён адчувае іхнюю хворасьць. Во зараз яны сканаюць ад недастачы вільгаці. Якраз, як жывыя істоты. Яго агартае такі жаль да іх, ажно сьлёзы капаюць з вачэй. Сьлёзы цякуць па шчаках і капаюць у рот—салёныя, нясмачныя. Ён падымае ўгору затуманеныя вочы. Неба белае, як папера, як вечны сьнег на вяршынях высокіх гор. У небе насаджаны зоркі—чорныя, як сажа, як вугольле. Арнаута гэта зусім ня дзівіць, нібы інакшага неба, інакшых зорак ён ніколі ня бачыў. Чорныя зоркі пачынаюць раптам успыхваць. Ад іх аддае такой гарачынёй, што Арнаут задыхаецца.

— Піць... піць...—шэпча ён.

Не! Ня выбрацца з камяністай блытаніны гор. Ён тут век будзе векаваць. Духата немагчымая. У хвіліну вялікай роспачы ён угледзеў абшырную даліну, абсеяную пахнучымі лілеямі. Лілеі чырвоныя, падобныя да губак кволых малютак. З усіх сіл кідаецца ён тварам да дзіўных красак, каб ахаладзіць сваю сьмяротную смагу і... апальвае сабе ў гарачым прыску шчокі, лоб, нос, губы, абсмаліліся валасы.

— Піць... піць...

Усё цела гарыць. Зараз патрэскаецца ад гарачыні, як зямля без дажджу. Арнаут ускаквае. Вочы крывёй заплылі. Гвалтоўна зьбірае ў камок апошнія сілы свае пад вялікім прымусам думак і пускаецца наўцекачы, бо тут ён загіне, згарыць. Бяжыць, бяжыць, як вецер носіцца, у паветры ляціць. За ім носяцца горы, дыхаючы жарам у плечы. І, нямаведама скуль узяўся, яго даганяе чалавек. Дзіўны гэты чалавек—з ног да галавы абросшы чорнай воўнай,—без вачэй, бяз твару. Замест галавы—калматы кругляк. Арнаут абліваецца потам і ўцякае ад гэтага страшыдла. Перад Арнаутам—глыбокі, страшны абрыў. Унізе бурліць, плюскоча рэчка.

— Піць... Піць...

Хто можа стрымаць яго? Арнаут скача, падае з абрыву ўніз. Во-во зараз бухне ў рэчку, заб'ецца на-сьмерць аб вострыя каменьні. Спыняецца дыханьне. Валасаты чалавек кідае на яго зьверху аркан, цягне з процьмы наверх, пятля душыць. Усё мітусіцца перад ім. Неба падае ў самы абрыў. Зоркі сыплюцца ўніз, нібы абвугленыя каштаны, б'юць па ілбу, па вачох.

— Піць... Піць...

---

Арнаут адчыніў вочы.

Над ім—нахіленая маці. Упілася ў яго жаласьлівымі і сумнымі вачыма. Нібы здалёку-здалёку, за тры мілі ад яго, чуе шэпт маткі:

— Сынок... сынок...

Яна гладзіць яго сухімі дрыжачымі пальцамі па мокрым ілбе. Яе пальцы здаюцца яму вельмі халоднымі і дзеля гэтага надзвычайна прыемнымі. Ён стараецца прыціскацца да іх ілбом.

Ён увесь мокры ад поту, нібы ў рэчцы выкупаўся. Аднак, адчувае сябе шмат лепей. Галава палягчэла. Можа павярнуць рукой і нагой.

— Гэта пасьля поту. Цяпер выздаравееш!—тлумачыць яму абрадаваная Утта.

Арнаут папраўляўся з кожным днём усё болей. Яго цяпер мучыў надзвычайны голад. Колькі ні есьць—усё яму мала. Організм запатрабаваў нагароду за доўгае змаганьне, за вялікую працу. Сэрца білася ўмеркавана. Супакоілася кроў. Акругляліся рукі і ногі. Твар пачаў ружавець. У вачох зайграў ранейшы задзёр маладосьці. Ён папраўляўся відавочна, наліваўся новым сонечным сокам жыцьця.

Надзвычайная радасьць ахапіла яго: ён, як малое дзіця, пачаў вучыцца хадзіць. Старая Утта трымала яго вельмі сьмешна пад руку. Ступіўшы некалькі крокаў, Арнауту закружылася галава. Ён прысеў. Пры гэтым маці сьмяялася, як даўней, калі ён у маленстве пачаў вучыцца хадзіць, трымаючыся за матчын палец.

Старая вельмі хутка прывыкла да гэтай радасьці. Мінула небясьпека. Яе настрой увайшоў у звычайныя берагі.

Арнаут адчуваў сябе новароджаным.

Нібы асілак у казцы, які расьце і мацнее, не па днёх, а па гадзінах, так крапчэў і ён. Ад дзіцячай бездапаможнасьці ў час хваробы ён вельмі хутка ўваходзіў у ранейшае кола штодзенных спраў. Тая сувязь з жыцьцём і яго інтарэсамі, якая была зусім перарвалася ў час хваробы, пачала зноў нарыхтоўвацца і прымаць свае ранейшыя формы. Ды ня толькі ранейшыя, але яшчэ болей яркія. Нібы ён упяршыню пабачыў сьвет і ўсё акаляючае. Уражаньні рабіліся болей сьвежыя, думкі—болей яркія, зацікаўленасьць—болей моцная, а імпэт да працы рос з кожнай хвілінай.

Арнаут—адноўлены, адраджоны, з новымі сіламі ўвайшоў у ранейшы круг свайго жыцьця. Чытаў кніжкі, хадзіў на працу, сустракаўся з таварышамі.

У гэты час пра бальшавікоў нараджаліся, расьлі і квітнелі ў глухіх гарах розныя легенды. Вандруючы ад скалы да скалы, ад аулу да аулу, ад саклі да саклі, гэтыя легенды аздабляліся гарачай фантазіяй горцаў; нібы птухі пер'ямі, абрасталі звычайныя дзеі каляровымі гіпэрболічнымі вобразамі, казкі арламі луналі над вяршынамі гор. Кожны жыцьцёвы факт перарабляўся ў цуд, праламляўся, як у крывым люстэрцы, у гутарках людзей, у дзівы дзіўныя.

Але вось адзін з суседзяў Арнаута, адзін з горцаў, з бедакоў—самы чэсны, самы шчыры чалавек паехаў у Маскву дэлегатам на зьезд. Нядаўна ён адтуль вярнуўся. Першым чынам прышоў да Арнаута падзяліцца ўражаньнямі:

— Дык вось, як табе вядома, мяне выбралі на зьезд у Маскву. Назвалі мяне дыйлігатам і далі нейкую паперку. З хатулкай за плячыма я пайшоў пехатой. Ішоў два дні. Пасьля, як паказаў дыйлігацкую паперку, мяне пасадзілі у нейкую дзіўную арбу—вялізную, прыгожую, абшытую ўнутры дарагой скурай. Арба гэтая сама бяз буйвалаў паймчалася, ды так хутка, што калі-б дваццаць буйвалаў запраглі—не дагналі-б. Барас на сваім найлепшым кані ўвыперадкі не адважыўся-б пускацца з ёю. Мабыць, вецер упраглі ў гэту арбу.

Я сядзеў на самым ганаровым месцы.

На мяне ўсе паглядалі з пашанай і шушукаліся: „Дыйлігат, дыйлігат"—казалі яны. Мне ажно нялоўка было ад гэтай пашаны да мяне. Ці-ж дыйлігат не такі, як усе?

Так ехаў я яшчэ два дні. Начаваў у багатых палацах. На сваім уласным вясельлі ня еў такіх смачных рэчаў, як там. А ўсё таму, што дыйлігат. Добра быць дыйлігатам!

Пасьля мы дабраліся да нейкага вялізнага аулу. Аул—прыгожы, багаты; кожная сакля—палац. Каму ні паказваю сваю паперку—кожны аглядае мяне з ног да галавы дый кажа: „дыйлігат!" Ну што ўва мне ўгледзелі?—чалавек як чалавек, хоць і дыйлігат. Я то паіхняму—

пабальшавіцку, гаварыць ня ўмею. Доўга людзі нешта паміж сабою гаварылі, на мяне паглядаючы, і завялі ў адну з багатых сакляў вялікага аулу. Пасадзілі на лаву. Раптам, калі пада мною загрухоча зямля, калі пасыплюцца іскры, пакажацца дым—няйначай праз зямлю праваліліся. І што-ж ты думаеш, увесь аул (а можа іх там некалькі было) задрыжэў, крануўся з месца і памчаўся... Якая сіла яго насіла—ня ведаю па сягонешні дзень. Я моцна спалохаўся, хацеў саскочыць, але добрыя людзі супакоілі. Мы так хутка імчаліся, ажна здавалася, што стаім на месцы, а перад намі носяцца горы, лясы, гарады. Усё носіцца, а мы стаім на месцы...

Так імчалася перад намі зямля, цэлы сьвет чатыры дні і чатыры ночы. На пяты дзень мы прыехалі ў Маскву. Я не пасьпеў яшчэ даць аб сабе знаць, як перад нашым дзівосным аулам выстраілася войска, зайграла музыка. Усе сустракалі мяне—дыйлігата. Шмат было нашых дыйлігатаў. Розныя людзі пачалі гаварыць парознаму, нехта і панашаму загаварыў. Казаў, што ўсе працоўныя Масквы вітаюць нас—дарагіх гасьцей. Зноў пасадзілі мяне ў дзіўную арбу і павезьлі па вуліцах Масквы, дзе кожная сакля—цэлая гара, прыгожа ўбраная.

Там—палацы, палацы і палацы.

А людзей столькі, што, здаецца, тут вечны, вялізны кірмаш. Каб ня быў дыйлігатам, дык ня ведаў-бы дзе дзецца. Гэты горад бальшавікі зрабілі сталіцаю пролетарскай дзяржавы.

Мы, горцы, любім прымаць гасьцей, але нам трэба яшчэ павучыцца ў Маскве ў гэтым выпадку. Усюды дзьверы былі для мяне адчынены. Мне здавалася, што Масква—мая! Я думаў, што ўсё гэта сьніцца мне. Але-ж гэта праўда!

У вадным вялізным палацы, дзе было некалькі сот такіх-жа бедакоў, як я, сам Калінін (як кажуць, старшыня ўсіх бедакоў) нешта доўга, доўга гаварыў. Хоць мовы яго ня ведаю, але ўцяміў, што ён кажа аб тым, як палепшыць жыцьцё бедакоў ня толькі ў нас, але на ўсім сьвеце. Так яно і вышла, бо пасьля Калініна мне адзін усё гэта ператалумачыў панашаму.

Ведаеш—зусім ня кепска быць дыйлігатам!

Доўга дэлегат гаварыў аб дзівах бальшавіцкай Масквы.

Слухаў Арнаут ды ўсьміхаўся, бо з кніг усё ведаў.

Старая Утта ўвесь час ад дзіва галавой ківала.

А на ўсіх з кута глядзеў з патаемнай усьмешкай пажылы чалавек з высокім ілбом. Хоць ён быў намаляваны на паперы, але ў поўзмрочнай саклі ён здаваўся жывым.

## САСНА

### Андрэй Александровіч

1

Вось адно, як струна,
сасонка расла,
у бязьмежным
бары-гушчары.
А сягоньня яна
пачарнеўшы лягла
на асьнежным
фабрычным двары.

Загудзела піла,
застагнала сасна;
пры дарозе,
як сьлёзы,—апілкі...
Сасонка расла,
як струна,
не адна,—
з ёй і сёстры, як тыя асілкі.

Расла маладзіцай...
Вяршынаю сьмела
зьвінела
і ў сьцюжу-завею!
Бывала імчыцца
вей-вецер,
і вецьце
лёгкім павевам авее...

І птушкі-вясьнянкі
сасонцы
да сонца
зайграюць на гусьлях зялёных...
Цяпер, як скала,
скамянеўшы лягла,
закрыўшы галінкамі скроні.

2

Эх, сасоньніца-сасна,
дні суровыя.
Бервяно да бервяна—
хата новая!
Дый спрадвечная дрыгва,
нібы раніца,
буйным цьветам характва
зарумяніцца.

Гаратлівасьці былой
час пазбыцца нам.
Забудуем шыр балот
камяніцамі!
Эх, сасоньніца-сасна,
дні суровыя.
Бервяно да бервяна—
хата новая!

3

Праца цяжкая, нялёгкая праца,
цяжка, браты, беднаце будавацца.
Капейку, другую за працай зьбярэм мы,
злыдзень змарнуе—зьбіралі дарэмна.
Шмат каму нашае сёньня варожа,
гатовы атрутай:
— чорнай пакутай,
— чорнай пакутай
стрыножыць!

Чэшуцца рукі спрадвечных зладзеяў,
рвуцца стрыножыць—дый сіл не стае ім!
Корчыцца помста ў іх сэрцы здрантвелым...
А глянеш наўкола—будуюцца сьмела.
Праца віхрыста ўзьняла завіруху
і хочаш ня хочаш:
— а песьню рабочых,
песьню рабочых,
— слухай!

4

Гэй-жа, разам!
Гэй-жа, разам!
Гэй
 Адразу
 возьмем
 разам!

Гуртам!
Дружна!
— Хлопцы, здужым!
Гэй, яшчэ!
  Яшчэ!
    Яшчэ!
Будзе сонца
Зьзяць ярчэй.
Што ня стане
ў час рабочы?
Ў нас і камень
    зарагоча!
Гэй!
  Адважна!
  Ўсё для нас!
  Дай, наляжам,—
дру-жна!..
    ...Раз!

5

Эх, сасоньніца-сасна,
    нашы дні суровыя.
Бервяно да бервяна—
    хата новая!
Дзе-ж раскінута багна—
    вырастуць дубровамі:
за сасонкаю сасна—
сосны новыя!

## БРАТЫ ВЫ МАЕ!..

**Язэп Пушча**

Браты вы мае, дарагія браты,
ўзьнімаю кілішак за ваша здароўе!
Хоць песьні маёй і зьлятаюць лісты,
хоць колеры яркнуць іскрыстаю кроўю.

Мы студзім часамі ў бядзе на ваду
і радасьці зорнай ў бязьмежнасьці просім.
Пайду я, пад посьвісты ветра пайду...
Абвее мяне хай кляновая просінь.

Паклонам у пояс схілюся зары,
і водблескам кос залатых абвіюся.
Спаткаюць мяне у дарозе зьвяры,—
апошнія госьці дуброў Беларусі.

Рабіна з калінай наземяць гальлё,
і кроў праліюць сваіх ягад увосень.
Абступяць зьвяры мяне дзікай ганьнёй,
і ў сінь, белазорую сінь загалосяць.

О, зьвяры, дзіка-чулыя брацьця зьвяры,
дні наступныя род ваш падлічаць!
Хоць бяры сьлёзы вашы ў прыгор шчы зьбяры!
і ўмывай імі твар свой—аблічча.

Як шумелі, шумець гэтак будуць брады,
і плысьці хвалі будуць павольна і роўна.
Браты вы мае, дарагія браты,
ўзьнімаю кілішак за ваша здароўе!

## ЎЗЬВЕЙСЯ, ВЕЦЕР!

**Язэп Пушча**

Ўзьвейся, вецер, ўзьвейся па-над стогам,—
мы жывём бяз імені сьвятога.

Бяз крыжоў хрыстовых моўкнуць далі,—
досыць дух і сэрца расьпіналі.

Хмары болей сьлёз ня сыплюць золкіх,—
зацьвітаюць на кургане зёлкі.

Зоры льлюць віно ды на даліны,—
хто-ж сягоньня духам баязьлівы?

Завіліся сьцежкі ў пералогах,—
адцьвіла у цернях сьвятасьць бога.

## ТАК І ПЕСЬЦІЦЬ...

**Ізраіль Плаўнік**

Так і песьціць (а мо‘ й дражніць)
Сонца ласкай галубінай...
Назьбіраю мараў пражу—
Буду ткаць у верш-тканіну.

Сонца ласкай галубінай
Акрапляе лес і поле..
Панясуся ў шыр-даліну,
Разам з ветрам пасваволю...

Акрапляе лес і поле
Ды ліпнёвы хмель-мядочак...
Назьбіраю песьні волі
Ды заўю, заўю ў клубочак...

Срэбра нітак, злота пражы
Буду ткаць у верш-тканіну...
Так і песьціць (а мо‘ й дражніць)
Сонца ласкай галубінай!..

23-VI—26 г.

## З ЦЫКЛЮ „БУДАВАНЬНЕ“

**Я. Івашын**

### Звоніць сэрца...

Звоніць сэрца песьняй зорнай,
льлюцца гукі-пералівы,
льлюцца водгульлем бурлівым
і нясуцца над палямі
ў сьвет далёкі, у сьвет прасторны.

Перамогі слаўнай сьцяг
узьнімаецца ў краіне.
Сьвет стары ў прадоньні гіне.
Ой, вясёлкай прамяніцца
сонца новага жыцьця.

Дзе сьпяваў шрапнэлі лёскат,
дзе былі руінаў зданьні,
дзе ліліся кроў змаганьня,—
зараз там бурляць-крынічаць
творчай працай горад, вёска.

Струн вясёлых пераэвон
не замоўкне, ой, паверце,
бо пяю буяным сэрцам
гімны сонечных прастораў
аб красе сьвятляных дзён.

Я ніколі не скаруся
перад хмараю жыцьцёвай...
Кветкі-ружы дум маёвых—
шчыры дар душы мяцежнай—
шлю Чырвонай Беларусі.

## Мы ўзьняліся...

Мы ўзьняліся
бурнай хваляй,—
буйны ўздым нас захапіў,—
і ўзялісь за адбудову
нашых хат і ніў.

Грамадой
ідзем наперад.
Нам настрэчу сонцавей
сьвеціць доляй залатою
ўсё ярчэй, ярчэй.

Нам ня страшны
ўсе пагрозы,
мы ня ўбачым болей сьлёз.
Ускалосіць праца шчасьцем
Беларусі лёс.

Мы куём
з бадзёрай песьняй
шчасьце краю—як адзін.
Ня губляем, не марнуем
дарагіх хвілін.

Мы карчуем
нашы ляды,
мы зразаем дзірваны.
Мы ўмацуем нашу ўладу
ў нетрах стараны.

А далей—
дамо прастору
гартным сілам мы сваім:
за Сусьветную Комуну
дружна пастаім!..

## Час прышоў...

Час прышоў:
вайны руіны
адбудоўвае наш край...
Гэй, рабочы з селянінам,
сьветач веды уздымай!

На шырокіх
на прасторах
хай зазьзяе ён агнём.
Мы рашуча і бадзёра
ў бойку з цемраю ідзём.

Дзе ня сьвецяць
сонцам руні,
дзе пануе ночы змрок,—
наш хаўрус туды пасуне
свой рашучы, цьвёрды крок.

Быт стары
зьмяцем дазваньня,
пабудуем новы сьвет.
І пра дзівы будаваньня
хай раскажа ўнуку дзед...

Дык хутчэй,
браты, ў дарогу!
Час ня будзе нас чакаць...
Ў бойку з цемрай, дружна ў ногу,
змагароў чырвоных рацы!..

## ЗІМОВАЯ РАДАСЬЦЬ...

**Юрка Лявонны**

Ёсьць настроі... А ў іх—пералівы.
Ёсьць часіны—здаюцца сном.
Толькі той на сьвеце шчасьлівы,
Хто узімку жыве, як вясной!..

Я стаю адзінокі на полі,—
Ціха сыпецца золкаў пясок...
Распрануўся вецер—і голы—
Па ральлі—ў карагодны скок!..

Дуб гальлё пабялелае зьвесіў
І ня ведаю—можа ўва сьне—
Паваліўся зялёны месік
На калені у срэбны сьнег...

Вецер шэпча ліхія пагрозы—
Колькі злосьці... Куды-ж яе дзець?..
Прытулілі-б мяне вы, марозы,
Да асмужаных бельлю грудзей!..

Я раздумаў—ня выльлю сьлязамі,
За мяне—хай скрыгоча зіма...
Ой, ты, замець—сівая замець,—
Прыгажэй за цябе—няма!..

15-XII—26.

# БЭТХОВЭН

## Жыцьцяпіс і творчасьць

*(Да сталецьця ад дня сьмерці)*

**Ю. Дрэйзін**

У канцы сакавіка 1927 году музычнымі коламі ўсяго сьвету ўспамінаўся Бэтховэн і яго творчасьць. На нязьлічоных канцэртных і опэрных эстрадах усяго сьвету былі выкананы яго творы. Адбылося мноства навуковых пасяджэньняў і ўрачыстых сходаў, закладзена некалькі новых помнікаў. Літаратура аб Бэтховэне ўзбагацілася выхадам у сьвет новых дасьледваньняў і популярных кніжок аб композытары.

Чым дарагі для нас, для ўсяго чалавецтва, Бэтховэн, чым вабіць да сябе яго музыка? Справа тут не ў знадворнай форме Бэтховэнскіх твораў, якая-б дасканалая яна ні была, а ў зьмесьце гэтых твораў, у тых ідэях, альбо лепш—у тэй галоўнай ідэі, якую ўкладае Бэтховэн у сваю музыку і якая праходзіць стала і сыстэматычна праз усю творчасьць композытара. Адзін з найвыдатнейшых дасьледцаў творчасьці Бэтховэна, Paul Becker, у сваёй кнізе „Beethoven“ (1913 г.) зацьвярджае, што „Бэтховэн перш за ўсё мысьліцель і поэта, і толькі пасьля гэтага—музыка“. Як не адзін раз гаварыў сам Бэтховэн, для яго музыка ёсьць мова ня толькі такая-ж, але яшчэ болей зразумелая, чымся мова слоўная, бо яна найбеспасрэднейшым чынам выяўляе думкі і пачуцьці чалавека. Музыка ёсьць мова, тварыць музыку—значыць тварыць поэзію.

Каб зразумець тую ідэю, якая прасякае ўсю творчасьць Бэтховэна, ня трэба перш за ўсё забывацца пра тое, што Бэтховэн ёсьць сын свае эпохі, а ідэолёгія эпохі ёсьць толькі надбудова на яе экономічнай падставе. Вось чаму творчасьць Бэтховэна ня будзе для нас зразумелай, калі мы ня будзем ведаць яго эпохі і яго ўласнага жыцьцяпісу.

Эпоха творчасьці Бэтховэна ёсьць гэроічная эпоха вялікае францускае рэволюцыі. Бэтховэн паходзіў з музычнае інтэлігентнае сям'і; нарадзіўся ў 1770 г. ў Нямеччыне.

К канцу XVIII сталецьця вытворчыя адносіны ва Францыі перарасьлі тыя соцыяльныя і палітычныя рамкі, у якіх знаходзілася тагачасная француская дзяржава, і гэтыя рамкі так ці інакш павінны былі быць зламаны. На чале грамадзтва стаяла духавенства і шляхецтва, якія трухлелі і матэрыяльна і маральна, а пад імі была 20-мільённая маса, вельмі яскравая па сваім складзе, якой належала экономічная сіла, бо

ў яе руках знаходзілася багацьце краіны, капіталы і праца. Разумеецца, гэтая маса фактычна распадалася на шмат груповак, бо ў ёй мы знаходзім і буржуазію розных рангаў (буйную, сярэднюю і дробную), і пролетарыят прамысловы, і розныя інтэлігенцкія групы, і шматлікавае сялянства. Але клясавае самасьвядомасьці яшчэ ня было, і ўсе гэтыя групы яднаціся пад агульнаю назваю „трэцяга стану“. Гэты трэці стан і ўтварыў вялікую францускую рэволюцыю. На чале яго стаяла рэволюцыйная ў тыя часы буржуазія, розныя групы якой высоўваліся наперад у розныя моманты рэволюцыі, прычым дробная буржуазія часам ішла сумесна з гарадзкім пролетарыятам. Творы Вольтэра, Руссо, энцыклёпэдыстых (Дзідро, Гольбах, Гэльвэцы, Лямэтры і інш.) адбівалі ў сабе думкі і настроі рэволюцыйнае буржуазіі, якая і высунула тры вялікія прынцыпы: братэрства, роўнасьць і вольнасьць. Для нас ясна, што пры буржуазным ладзе немагчыма зьдзейсьніць ніводнага з гэтых прынцыпаў; у тыя часы ў працоўных ня было яшчэ клясавае самасьвядомасьці, пролетарыят і сялянства ішлі за буржуазіяй, аб'яднаныя з ёю ў „трэцім стане“.



Такія рэволюцыйныя думкі і настроі абхапілі ўсю Францыю і скора вышлі па-за яе межы. Яны пашыраліся і ў сумежных з Францыяй нямецкіх землях, у прырэйнскай краіне. Яны насіліся ў паветры, аб іх ішлі гутаркі, з імі асвойвалася жыхарства, а часам яны пранікалі і ў літаратуру. Прырэйнская краіна была абвеяна подыхам францускае рэволюцыі, і ў гэтай краіне нарадзіўся і ўзгадаваўся вялікі композытар Людвіг ван-Бэтховэн. З маленства ён мог прасякацца ідэямі францускае

рэволюцыі, а абставіны яго ўласнага жыцьця былі такія, што маглі толькі дапамагаць гэтаму прасяканьню.

На ніжнім Рэйне, на левым яго беразе, недалёка ад Кёльну, раскінуўся невялікі, але прыгожы горад Бонн. Сюды курфюрсты, арцыбіскупы кёльнскія перанесьлі сваю сталіцу, каб унікнуць сталых сутычак з вольналюбівымі імпэрскімі гарадамі. Курфюрсты кёльнскія зрабілі Бонн асяродкам культурнага жыцьця на Рэйне, а ў музычных адносінах ён быў другім горадам пасьля Вены.

У 1730 годзе з Антвэрпэну прыехаў у Бонн дасьведчаны і таленавіты сьпявак і музыка Людвіг ван-Бэтховэн, які заняў у прыдворнай капэлі курфюрста спачатку пасаду сьпевака (баса), а з 1763 году капэльмайстра прыдворнае музыкі. Гэта быў дзед вялікага композытара. Сын яго, бацька композытара, Іоганн ван-Бэтховэн, таксама служыў у капэлі курфюрста ў якасьці сьпевака-тэнорыстага. У 1767 годзе Іоганн ван-Бэтховэн ажаніўся з маладою ўдавой Мар'яй-Магдаленай Ляйм, і ад гэтага шлюбу 16 сьнежня 1770 году нарадзіўся сын, якога бацькі на чэсьць дзеда назвалі Людвігам. Гэта й быў вялікі композытар.

Невясёлае дзяцінства выпала яму на долю. Дзед моцна кахаў свайго ўнука, які і сам адказваў яму ня меней глыбокім, хоць і дзіцячым, каханьнем. Добрыя, сьветлыя ўспаміны аб дзядулі Бэтховэн захаваў на ўсё сваё жыцьцё, хаця стары капэльмайстар памёр, калі ўнуку было ўсяго 4 гады. Цяпер у сям'і распачалася поўная і нічым непаўстрыманая ўлада бацькі, Іоганна Бэтховэна. Гэта быў чалавек пахмуры, неласкавы, грубы, самаўладны, а што найгорш—у спадчыну ад свае няшчаснае маткі ён атрымаў нахіл да п'янства. Матэрыяльныя сродкі сям'і, якія складаліся з пэнсіі Іоганна, былі невялічкія, і хутка беднасьць завярнула ў хату Бэтховэнаў. Настрой у сям'і панаваў цяжкі. Штодня варочаўся ўвечары п'яны бацька, злаваўся, лаяў усіх, а часта і біў свайго нявіннага хлапчука. А той марыў аб сваім улюбёным нябожчыку дзядулі, і хацелася яму быць такім-жа добрым і выдатным музыкай, якім быў і дзед. У хлапчука прачнулася замілаваньне да музыкі. Бацька заўважыў гэта і пачаў нібы-то жартам займацца з хлапчуком музыкай. Але жарты хутка скончыліся, бо посьпехі хлапчук рабіў нязвычайныя, і бацька пачаў ускладаць на яго надзеі паляпшэньня свайго матэрыяльнага дрэннага становішча. Калісьці, у 1764 годзе, прыяжджаў у Бонн 8-летні Моцарт, які сваёй ігрой на фортэп'яне захапляў усіх, хто яго чуў. Іоганн Бэтховэн захацеў і з свайго сынка зрабіць вундэркінда (цуд-дзіця), каб эксплёатаваць яго талент сабе на карысьць. Тады для беднага хлопчыка распачалося жыцьцё, поўнае бязупынных цярпеньняў, крыўды і сьлёз. Злы, пахмуры і вечна п'яны бацька прымушаў беднае дзіцянё цэлымі днямі іграць нудныя практыкаваньні для хутчэйшага набыцьця тэхнікі, лаяў і біў яго. Такая сыстэма навучаньня магла-б толькі адпіхнуць хлопчыка ад абрыдлай яму музыкі, калі-б не каханьне ціхай, добрай маткі, і ўспа-

міны аб ідэальным чалавеку, нябожчыку дзядулі. А хлопчык хутка пачаў зьдзіўляць усіх сваёй нязвычайнай тэхнікай. Але чым большыя посьпехі рабіў ён, тым стражэй і зьлей станавіўся яго бацька, тым больш прымушаў ён яго займацца.

Скора выявілася, што маленькі Людвіг перарос свайго бацьку ў музычным мастацтве і трэба было пашукаць іншых настаўнікаў. Зьвярнуліся да дырэктара вайсковае музыкі Пфэйфэра, а пасьля яго ад'езду з Бонну да прыдворнага арганістага ван-дэн-Ээдэна. Абодва настаўнікі мелі на мэце толькі разьвіцьцё тэхнікі ў свайго вучня. Заняткі з Ээдэнам цягнуліся нядоўга, бо ён хутка памёр. Тады хлапчук па загаду самога курфюрста, які ведаў нязвычайныя здольнасьці Людвіга і цікавіўся іх разьвіцьцём, перайшоў у навуку да новага прыдворнага арганістага, Нээфэ. Гэты Нээфэ меў рашучы і надзвычайна добры ўплыў на музычнае разьвіцьцё свайго гэніяльнага вучня. Ён не абмяжоўваўся тэхнікай, а зварочваў пільную ўвагу на выразнасьць ігры, закончанасьць выкананьня. Ён займаўся са сваім вучнем тэорыяй, прымушаў яго займацца композыцыяй, каб той практычна мог усьвядоміць сабе законы свайго мастацтва. Каб прыахвоціць яго да працы, падбухторыць яго, Нээфэ ў 1783 годзе надрукаваў у Мангейме 9 варыяцый Бэтховэна, якія былі напісаны на марш c-moll для фортэп'яна прыдворнага сьпевака Дрэлера, і ў тым-жа годзе вышлі з друку тры сонаты Бэтховэна для фортэп'яна-ж, прысьвечаныя курфюрсту. Нээфэ заклаў той фундамант, на якім потым узрасла і разьвілася грандыёзная і гэніяльная творчасьць Бэтховэна.

Што тычыцца агульнае адукацыі, дык тут справа стаяла зусім дрэнна. Хлопчык ня скончыў нават народнае школкі, бо бацька хацеў яго выкарыстоўваць, як віртуоза, як мага хутчэй. Праз усё сваё жыцьцё вялікі композытар ваяваў з ортографіяй роднае мовы і з першымі чатырма правіламі арытмэтыкі, асабліва з множаньнем і дзяленьнем. Недахоп агульнае адукацыі ён пазьней дапоўніў сталым і сыстэматычным чытаньнем, дзякуючы якому ён у сэнсе агульнага разьвіцьця падняўся на адзін узровень з найвыдатнейшымі людзьмі свайго часу ў галіне думкі і, у кожным разе, быў непараўнальна вышэй за сваіх вялікіх музычных папярэднікаў—Баха, Гайдна і Моцарта.

У гэтым агульным разумовым разьвіцьці і ў выпрацоўцы пэўных моральных поглядаў і навыкаў аграмадную ролю сыграла ў жыцьці Бэтховэна сям'я нейкіх Брэйнінгаў. Яна складалася з маткі-ўдавы, трох сыноў і аднэй дачкі—Лёрхен, якая была прадметам яго першага каханьня. Сям'я была надзвычайна інтэлігентная, і культурныя інтарэсы, інтарэсы навуковыя і мастацкія, панавалі там у поўнай меры. Брэйнінгі прыгарнулі да сябе пахмурага, замкнутага ў сябе хлапца сваёю ласкаю, цеплатою адносін яны выратавалі яго ад мізантропіі. Тут малады Бэтховэн забываўся пра гаркату жыцьця ўва ўласнай сям'і, тут ён весялеў

і тут знаходзіў выхад сваёй патрэбе любіць людзей. А патрэба гэтая была ў яго вельмі вялікая, як паказала яго далейшае жыцьцё і зьмест яго творчасьці ў пару поўнага яе разьвіцьця. Дзякуючы-ж Брэйнінгам ён пачаў чытаць і знаёміцца з нямецкай літаратурай, прычым улюбёнымі яго поэтамі ў тыя часы былі Клёпшток, Гэлерт, Лесінг, Гэрдэр. У Брэйнінгаў ён пачаў знаёміцца і з поэзіяй Гётэ і Шыльлера, якая пазьней мела на яго вялікі ўплыў.

Ішоў час, хлапец няпрыкметна рабіўся дзяцюком, а ўпартая нясупынная праца разгортвала яго талент ушыркі і ўглыбкі. У 1785 годзе Бэтховэн быў прызначаны на пасаду другога органістага пры курфюрскай прыдворнай капэлі. Цяжкое ў моральных і матэрыяльных адносінах дзяцінства паказала яму ўсю цяжкасьць існаваньня найміта пролетара. У гады дзяцінства зарадзіліся ў ім мары аб незалежнасьці, імкненьне да свабоды і замілаваньне да тэй большасьці чалавецтва, якая церпіць, б'ецца ўсё сваё жыцьцё за вольны кавалак хлеба і сіліцца парваць тыя ланцугі, якія накінуты на яе ўладарамі жыцьця. У тыя часы гэтымі ўладарамі жыцьця ў Нямеччыне былі моцныя яшчэ патомкі даўнейшае фэўдальнае арыстократыі. З другога боку, яшчэ ў дзяцінстве пачаў у Бэтховэна разьвівацца гонар, сьвядомасьць свае сілы і свайго значэньня, значэньня свайго таленту. Гэтая сьвядомасьць пазьней праходзіць праз усё жыцьцё вялікага мастака і высьвятляе нам многія ўчынкі дый наогул характар адносін Бэтховэна да памянёных уладароў жыцьця. Гэтая-ж сьвядомасьць, якая апіралася на моцны грунт геніяльнасьці, мела не малое значэньне для зьмены поглядаў на музыкаў і іх становішча ў вышэйшых пластох тагачаснага грамадзтва. Якія былі погляды на музыкаў і якое было іх становішча, мы ўбачым пазьней.

Малады Бэтховэн разумеў, што ў маленькім Бонне ён ня здолее разгарнуць свой талент у поўнай меры. Мары несьлі яго ў Вену,—тагачасны цэнтр музычнага жыцьця Эўропы, горад, дзе жылі і працавалі Гайдн і Моцарт. Але ён быў найміт, ён ня меў ні волі, ні сродкаў паехаць у гэтую музычную Мэкку. На шчасьце, прыхільнікам яго таленту быў адзін з прыдворных курфюрста, нейкі граф Вальдштэйн, які вытлумачыў курфюрсту канечную патрэбнасьць паслаць маладога Бэтховэна ў Вену для ўдасканаленьня яго таленту ў мастацтве. І вось, дзякуючы дапамозе Вальдштэйна, зьдзяйсьняецца мара Бэтховэна, і ён едзе ў Вену на кошт курфюрскага скарбу. Гэта было ў 1787 годзе. Аб гэтым падарожжы і аб жыцьці Бэтховэна ў Вене мы ведаем вельмі мала. Невядома нават, ці пазнаёміўся ён тады з Гайднам. З Моцартам ён блізка ня зышоўся, але іграў перад ім, і Моцарт, як кажуць, зьвярнуў на яго ўвагу прысутных і сказаў: „Паглядзеце на гэтага юнака: будзе час, калі аб ім пачне гаварыць увесь сьвет“.

На гэты раз Бэтховэн пражыў у Вене ўсяго некалькі тыдняў. Настойныя лісты бацькі заклікалі яго дамоў, і трэба было сьпяшацца, бо ўлюбёная маці Бэтховэна памірала ад сухот.

Сьмерць маткі была цяжкім горам для Бэтховэна, тым больш, што жыцьцё ў сям'і пасьля гэтага стала яшчэ цяжэй. Хвароба маткі і п'янства бацькі зруйнавалі дашчэнту матэрыяльны дабрабыт сям'і. Цяжкія клопаты аб існаваньні ляглі выключна на слабыя яшчэ плечы юнака. Патрабавалася нязвычайная энэргія і сіла волі, каб замест працы над разьвіцьцём таленту аддаваць свае сілы і час для заробку на сям'ю. Бацька канчаткова сьпіўся і страціў сваю пасаду. Служба ў прыдворнай капэлі давала мала, і Бэтховэн прымушаны быў даваць лекцыі музыкі, што заўсёды было яму проста агідна.

А кампазытарскія імкненьні ў Бэтховэна, пасьля падарожжа ў Вену, выявіліся з вялікаю сілаю. І абставіны, у якіх знаходзіўся Бэтховэн, з чыста музычнага боку былі вельмі спагаднымі для яго далейшага разьвіцьця. Оркестр курфюрста, у якім Бэтховэн іграў на альце, быў адным з найлепшых у Эўропе. Пры двары ставіліся опэры Моцарта, наладжваліся концэрты, на якіх выконваліся найвыдатнейшыя творы тых часоў, прычым фортэп'янныя концэрты іграў звычайна Бэтховэн.

Вялікі музыка адчуваў, што ў Бонне ён ня можа разгарнуць свае крыльлі. Іх зьвязвалі цяжкія клопаты аб сям'і, пасада пры двары, лекцыі музыкі, провінцыялізм маленькага гарадка.

А ў гэты самы час недалёка, ва Францыі, бушавала вялікая рэволюцыя, і подых яе далятаў да Бонна. У нямецкіх газэтах друкаваліся вольныя прамовы вялікіх дзеячоў рэволюцыі, друкаваліся прамовы ангельскіх парляманцкіх дзеячоў Пітта і Фокса. Бэтховэн сквапліва чытаў гэтую новую для яго літаратуру і захапляўся ёю.

Чым далей, тым менш жыцьцё ў Бонне магло задавальняць вялікага музыку. Зноў пачаў ён рвацца ў Вену, і зноў дапамог яму той жа Вальдштэйн. Дзякуючы апошняму, у 1792 годзе Бэтховэн ізноў быў пасланы на кошт скарбу ў Вену, каб вучыцца ў Гайдна, а потым заняць капэльмайстарскую пасаду пры двары курфюрста.

Увосень 1792 году Бэтховэн паехаў у Вену. Гэтае падарожжа зрабіла на яго незгладжальнае ўражаньне. Уся заходняя частка імпэрыі была тады ўжо занятая француськімі рэволюцыйнымі войскамі, праз лініі якіх Бэтховэну прыходзілася праяжджаць. Ён бачыў гэтыя войскі, бачыў іхні рэволюцыйны настрой і ў першы раз пачуў магутную Марсэльезу. І з такім узьнятым настроем ён прыехаў у Вену.

А ў Вене ўсё было ціха і спакойна. Тыя соцыяльныя колы, сярод якіх прышлося жыць і працаваць Бэтховэну, жылі падаўнейшаму настроямі і поглядамі XVIII-га сталецьця. Фэўдальная арыстократыя моцна трымала ў сваіх руках уладу, і ёй служылі працаўнікі мастацтва. Жыцьцё ішло весела, сярод бязупынных забаў; глыбейшыя інтарэсы, пытаньні аб будучыне чалавецтва, аб соцыяльных несправядлівасьцях тагачаснага ладу—не паўставалі. Галоўнейшым прадметам моды была музыка. У Вене скупілася шмат арыстократыі розных нацыянальнасьцяй—нямецкай, венгерскай, польскай,

чэскай. Розныя князі—Эстэргазі, Лабковічы, Ліхноўскія, Аўэрспэргі, Шварцэнбэргі, мелі пры сваіх дварох цэлыя оркестры. Хто быў бяднейшы, той трымаў квартэт, альбо хаця-б аднаго віртуоза піяністага ці скрыпача. Улетку ў сваіх загарадных віллах і замках, узімку ў сваіх палацах у Вене яны выслаўляліся адзін перад адным сваёю музыкаю. За арыстократыяю цягнулася вышэйшае чыноўніцтва і багацейшае купецтва.

Сярод такіх кол прымушаны быў жыць і для іх працаваць ганарысты сваім мастацтвам Бэтховэн. Іначай быць не магло, калі ён хацеў чаго-небудзь дасягнуць, бо гэтыя колы былі ўладарамі жыцьця. Працаўнікі мастацтваў наогул і музыкі ў паасобнасьці былі іхнімі слугамі, і замест характарыстыкі поглядаў і адносін арыстократыі да музыкаў лепш за ўсё прывядзем вытрымку з загаду аб прызначэньні композытара Гайдна на пасаду віцэ-капэльмайстра пры двары аднаго з такіх буйных арыстократаў, як князь Эстэргазі: „Ад віцэ-капэльмайстра, які адгэтуль зьяўляецца дамовым афіцэрам (Hausoffizier), мы патрабуем, каб ён здолеў захоўваць сябе цьвярозым, а да падлеглых яму музыкаў адносіўся ня груба (brutal), але скромна, спакойна і прыстойна, як гэта і належыць прыстойнаму афіцэру князя прыдворнага стану. Патрабуем далей, каб у часе концэртаў (bei Produktionen) перад высокімі панамі (vor der hohen Herrschaft) ён, віцэ-капэльмайстар, разам з музыкамі заўсёды быў у форме, і каб ня толькі ён, Язэп Гайдн, сам быў чыста апрануты, але й клапаціўся-б, каб і яго падлеглыя, згодна абвешчанай інструкцыі, зьяўляліся ў белых панчохах, белай бялізьне, напудраныя і альбо з касічкай, альбо ў парыкох, але ўсе аднолькава. Ён, Язэп Гайдн, павінен штодня зьяўляцца перад і пасьля паўдня і чакаць у перадпакоі (im Antichambre), ці ня будзе загаду аб музыцы“. А вядомы Колёрэда, арцыбіскуп Зальцбурскі, прымушаў свайго прыдворнага піяністага, гэніяльнага Моцарта, есьці на кухні, разам з іншымі слугамі, лёкаямі, камэрдынэрамі і кухарамі.

Бэтховэн прывёз з сабою з Бонна ад графа Вальдштэйна некалькі рэкомэндавальных лістоў і адразу быў прыняты ў некалькіх арыстократычных дамох. Але і адразу-ж ён паставіў сябе ў адносінах да іх зусім іначай, чымся гэта было з Гайднам і Моцартам. Ён трымаў сябе ганарыста, незалежна, ня лічыўся ні з якімі прыдворнымі этыкетамі. Яго віртуозная ігра на роялі, яго гэніяльныя імпровізацыі, уся яго арыгінальная фігура, пахмуры, няпрыгожы твар з бліскучымі вачыма і ўскалмачанай грывай валасоў на галаве (парыка ён ніколі не надзяваў),—усё гэта так імпонавала, што яму ўсё прабачалі, мірыліся з яго рэзкасьцямі і дзівацтвамі. З асаблівою ласкаю да яго адносіліся ў дамох князя Ліхноўскага і расійскага пасла графа Разумоўскага. Ліхноўскі і сам быў неблагім піяністым, і ў яго доме зьбіраліся найвыдатнейшыя музыкі і аматары Вены. Тут выконваліся музычныя навіны, а пазьней і ўсе зьяўляўшыяся творы Бэтховэна. У палацы Ліхноўскага Бэтховэн часамі жыў па некалькі месяцаў. А граф Разумоўскі трымаў на сваім кошце смычковы квартэт,

найлепшы тады ў Эўропе, на чале якога стаяў вядомы скрыпач Шупанціг. Свае гэніяльныя квартэты (квартэтамі Бэтховэн і скончыў сваю кампозытарскую дзейнасьць) Бэтховэн мог чуць у найлепшым выкананьні. Пазьней ён прысьвяціў Разумоўскаму свае тры квартэты ор. 59.

Некалькі год Бэтховэн займаўся вывучэньнем тэорытычных музычных навук. Настаўнікамі яго былі Гайдн (два гады), Шэнк, Сальеры і найвялікшы ў тыя часы вучоны тэорэтык Альбрэхтсбэргер. Але гэтымі заняткамі Бэтховэн ня быў здаволены, дый здаволены ня былі і настаўнікі. Вучань злаваўся, што настаўнікі скоўваюць яго дробнымі нікчэмным правіламі тэорыі, а настаўнікі сердавалі, што вучань ня слухае іх і рве ланцугі. Альбрэхтсбэргер нават сказаў неяк аднаму з сваіх вучняў (Далецалеку): „Не бярэце прыкладу з Бэтховэна, з яго ніколі нічога добрага ня выйдзе“. А пазьней, калі нехта сказаў Бэтховэну, што ён ужывае ў сваіх творах паралельныя квінты, якія строга забараняюцца тэорыяй і якія забараняе сам Альбрэхтсбэргер, дык Бэтховэн толькі адказаў: „Ну, дык я іх дазваляю“. Гайдн і наогул быў благім пэдагогам. Па-за яго сьпіною Бэтховэн займаўся з Шэнкам і прыносіў Гайдну сшыткі, ужо выпраўленыя апошнім, але і Шэнк, скромны творца опэры „Вясковы цырульнік“, ня мог быць належным настаўнікам для гэнія. Можна сказаць, што, хаця пералічаныя вышэй настаўнікі і дапамаглі можа быць крыху разьвіцьцю таленту Бэтховэна, але галоўнейшым і сапраўдным настаўнікам яго быў ён сам сабе, яго гэніяльныя здольнасьці, гэніяльны музычны інстынкт.

Як быццам жыцьцё Бэтховэна ў Вене наладжвалася зусім ня дрэнна. Ён надзвычайна хутка заваяваў сабе популярнасьць як піяністы-віртуоз, а асабліва як гэніяльны непараўнаны імпровізатар. У гэтым апошнім ён ня меў сабе супраціўнікаў. Цяпер ён усё больш і больш аддаецца творчасьці і гэтым таксама набывае ўсё большую і большую славутнасьць. У 1795 годзе вышаў з друку яго ор. 1-ы. Гэта былі тры трыо для фортэп'яна, скрыпкі і віолёнчэлі. Яны зьвярнулі на сябе пільную ўвагу ўсіх музычных колаў сваёю сьвежасьцю, шчырасьцю, музычным харастом. У наступным годзе зьявіліся яго першыя фортэп'янныя сонаты ор. 2 (f-moll, A-dur, C-dur), і Бэтховэн выступіў публічна са сваім першым фортэп'янным концэртам (C-dur).

Яго не адрывалі ад творчасьці ні якая-небудзь музычная пасада, ні даваньне лекцый, ні артыстычныя падарожжы. Да канца свайго жыцьця ён не пакідаў Вены і яе бліжэйшых ваколіц і ад часу да часу езьдзіў у недалёкія курорты, каб падлячыцца. Толькі адзін раз ён выехаў з Вены ў артыстычнае турнэ, якое заняло 5-6 месяцаў (вясна—восень 1796 году). Ён пабываў у Нюрэнбэрзе, Празе, Дрэзьдзене, Лейпцыгу, Бэрліне. Але гэтым паддарожжам ён застаўся нездаволены, асабліва халодным прыёмам у Бэрліне, дзе кароль Фрыдрых-Вільгельм II, які лічыў сябе выдатным знаўцам музыкі, абмежаваўся некалькімі досыць халоднымі пахваламі і паслаў яму залатую табакерку, поўную люідораў. Гэтых люідо-

раў хапіла на вельмі кароткі час, бо Бэтховэн, як і большасьць гэніяльных людзей, быў надзвычайна непрактычным чалавекам.

А наогул у Вене яго матэрыяльныя сродкі складаліся з штогодняй пэнсіі, якую вызначыў яму князь Ліхноўскі, з прыбыткаў ад твораў, якія браліся ў яго нотнымі выдаўцамі вельмі ахвоча, і часам ад концэртаў.

І цяпер мы бачым, як магутна разгортваецца яго гэні. Нясупыннаю чаргою з-пад яго пяра выходзяць усё новыя і новыя творы, квартэты, сымфоніі, сонаты. Калі мы будзем разглядаць іх у хронолёгічным парадку, дык убачым, як Бэтховэн паступова, але хутка, вызваляецца ад уплыву сваіх вялікіх папярэднікаў, Гайдна і Моцарта, як ён усё больш і больш набывае ўласную музычную фізыономію, выяўляе сваю ўласную індывідуальнасьць, як усё болей і болей яго творы прасякаюцца характэрнымі Бэтховэнскімі настроямі, ідэямі і імкненьнямі, хаця, разумеецца, і ў самых ранейшых яго творах можна дзе-ні-дзе прадчуваць Бэтховэна дваццатых гадоў XIX сталецьця. Ад першае да дзевятае сымфоніі вялікі крок і такі-ж вялікі крок ад першых квартэтаў (ор. 18) да апошніх, хаця ў Adagio першага квартэту мы чуем ужо сапраўднага Бэтховэна.

Аднак, матэрыяльнае становішча Бэтховэна ня было такім, каб ён мог цалкам аддавацца творчасьці, ня думаючы аб заробку. Ён вечна быў бяз грошай. Справа ў тым, што пры ўсёй яго матэрыяльнай непрактычнасьці, клопаты аб матэрыяльным дабрабыце малодшых братоў яшчэ ляжалі на ім (і ляжалі бадай што да канца яго жыцьця). Гэтыя матэрыяльныя клопаты былі нязносным цяжарам для вялікага музыкі. Яны псавалі яго настрой, адрывалі ад працы, не давалі магчымасьці аддацца вольнай творчасьці. Бэтховэн пачаў рабіць заходы для атрыманьня такой пасады, якая дала-б яму сталае матэрыяльнае забесьпячэньне і вызваліла-б яго ад бязупынных і цяжкіх дум аб грашох. Атрымаць пасаду композытара пры дзяржаўным опэрным тэатры ў Вене яму не ўдалося, хаця за яго прасіў яго вучань, эрцгэрцог Рудольф. Але вось, у 1809-ым годзе, Бэтховэн атрымаў прапанову заняць пасаду капэльмайстра пры двары вэстфальскага караля Жэрома (брата Наполеона) у горадзе Кассэле. Прапанова была вельмі карысная: пэнсію яму давалі вялікую, а абавязкаў на яго ўскладалі вельмі мала. Бэтховэн хацеў ужо прыняць гэтую пасаду. Тады трое з яго найбольш палкіх прыхільнікаў, эрцгэрцог Рудольф і князі Лабковіч і Кінскі, зрабілі яму іншую прапанову: яны абавязаліся супольна плаціць яму пэнсію ў 4000 флёрынаў, каб ён толькі не пакідаў Вены. Бэтховэн згадзіўся, і між ім і памянёнымі асобамі зроблена была адпаведная пісьмовая ўмова. У 1811 годзе пэнсія гэтая значна паменшылася з прычыны банкроцтва Лабковіча і сьмерці Кінскага, але частка, што засталася, усё-ткі была досыць значная і давала Бэтховэну магчымасьць жыць бязьбедна.

Урэшце, ня так грашовыя справы мучылі Бэтховэна, як іншая акалічнасьць, якая зрабілася сапраўднай трагэдыяй яго жыцьця. Патрабава-

лася ўся надзвычайная сіла яго волі і ўсё яго замілаваньне да ўлюбёнага мастацтва, каб ён ня скончыў самазабойствам. Гэтай трагэдыяй была хвароба вушэй, якая скончылася поўнаю глухатой. Для вялікага музыкі зьнік пачуцьцёвы бок яго мастацтва, ён чуў гукі, альбо вярней ня чуў а разумеў іх толькі ў сваіх думках. Гэтая хвароба прынесла яму вялікія моральныя цярпеньні. Яму здавалася, што ўсе навокал сьмяюцца з яго, з усіх бакоў ён бачыў ворагаў. Усё больш і больш пачаў ён замыкацца ў сябе і адыходзіць ад людзей. Аб настроі Бэтховэна пад уплывам глухаты, аб яго моральных цярпеньнях сьведчаць яго лісты да прыяцеляў і асабліва так званы „Гейлігенштадзкі тэстамэнт“, ліст да братоў, які Бэтховэн напісаў у вёсцы Гейлігенштадт, недалёка ад Вены. Мы прывядзем вытрымку з гэтага тэстамэнту.

„Братом Карлу і Іогану Бэтховэнам.

Вы, якія лічыце і называеце мяне злым, упартым альбо мізантропам, як крыўдзіце вы мяне! Вы зусім ня ведаеце таемнае прычыны таго, што вы бачыце. Мой розум і сэрца з самага маленства былі поўныя добрых пачуцьцяў і чуласьці... Але падумайце толькі: ужо шэсьць год я знаходжуся ў нявылечным становішчы, пагоршаным дрэннымі лекарамі. З году ў год я ашукваю сябе надзеяй на паляпшэньне і, нарэшце, мушу прызнацца ў тым, што гэтага паляпшэньня ня відаць... Маючы ад прыроды гарачы, жывы тэмпэрамэнт, я любіў забаўляцца сярод людзей, але рана прымушаны быў адыйсьці ад іх і весьці жыцьцё ў адзіноце... Я-ж ня мог зварочвацца да людзей з запатрабаваньнем: „Кажэце галасьней, крычыце, бо я глухі!“ Дый ці-ж магчыма было паказваць слабасьць пачуцьця, якое ў мяне павінна было-б быць разьвіта ў непараўнальна большай меры, чымся ў іншых, пачуцьця, якім я некалі ўладаў у найвышэйшай ступені, у такой дасканаласьці, як нямногія з музыкаў уладаюць ці калі-небудзь уладалі. Ах, гэта звыш сіл маіх! Для мяне ня існуе адпачынку ў таварыскім гуртку, у задушэўных гутарках, у сардэчных размовах... Я павінен жыць быццам выгнаньнік. Як толькі я набліжаюся да людзей, мяне ахоплівае жах, каб ня выявіць свайго стану... Якую зьнявагу я адчуваў, калі тыя, хто стаялі каля мяне, чулі здалёк флейту, а я ня чуў нічога, альбо калі хто-небудзь чуў пяяньне пеўня, а я зноў нічога ня чуў. Такія выпадкі даводзілі мяне бадай што да роспачы. Яшчэ нямнога — і я скончыў-бы са сваім жыцьцём. Толькі адно яно, мастацтва, затрымлівала мяне! Ах, мне здавалася немажлівым пакінуць сьвет раней, чымся я выканаю тое, да чаго я адчуваў сябе здольным... Я з радасьцю сустрэну сьмерць... Зьявіся, калі хочаш: я бадзёра пайду табе насустрач“.

Бэтховэн зварочваўся за дапамогаю ў сваім няшчасьці да многіх выдатных дактароў, але ніхто з іх ня здолеў яму дапамагчы. А апошнія гады яго жыцьця былі папсуты яшчэ аднэю акалічнасьцю. У 1815 годзе памёр яго брат Караль, пакінуўшы пасьля сябе сына. Жонка нябожчыка была злая і распусная жанчына. Трэба было вырваць пляменьніка з-пад

уплыву маткі і ўзяць на сябе апеку над ім. Але „царыца ночы“, як называў яе Бэтховэн, не аддавала сынка. Пачаліся судовыя процэсы, якія скончыліся тым, што апякуном вызначаны быў Бэтховэн. Ён палка кахаў свайго пляменьніка, усынавіў яго, усяляк клапаціўся аб ім. Але і матка не давала спакою Бэтховэну, дый хлапец быў ужо канчаткова папсуты ўплывам маткі. Апека над ім была вялікім цяжарам для Бэтховэна да канца яго веку.

Дзеньнікі Бэтховэна, яго лісты, апавяданьні сучасьнікаў даюць сумныя малюнкі яго жыцьця ў гэтым пэрыодзе. Ён робіцца ўсё болей і болей пахмурым, рэзкім, дражлівым і адпіхае ад сябе найбліжэйшых сваіх сяброў. Толькі ад часу да часу патрэба любіць людзей, жыць сярод іх, патрэба, якая заўсёды жыла ў ім, паўстае з новаю сілаю,—Бэтховэн весялее, зьяўляецца ў знаёмых колах, пачынае нават жартаваць. Але праклятая глухата зноў гоніць яго ад людзей, і ён зноў адыходзіць у сваю самоту. Ён жыве адзін, адзін са сваімі цяжкімі думамі. А ў гэтых думах паўстаюць і праносяцца вялічэзныя, грандыёзныя музычныя ідэі. У гэтыя музычныя ідэі вялікі музыка ўкладае найглыбейшыя свае пачуцьці, думкі, жаданьні. Тады зьяўляюцца яго найвялікшыя творы, якімі ён на многа дзесяцілецьцяў папярэдзіў сваю эпоху, якія можа быць і дагэтуль яшчэ для многіх незразумелыя ў поўнай меры. Недарэмна многія гісторыкі кажуць, што няшчасьце Бэтховэна (яго глухата) было шчасьцем для музыкі, бо такія гэніяльныя рэчы, як 9-ая сымфонія, Missa solemnis, апошнія сонаты і квартэты не маглі-б зьявіцца бяз тэй адарванасьці ад людзей, бяз тэй самоты і паглыбленьня ў сябе, у якіх жыў апошнія гады свайго жыцьця Бэтховэн.

Увесну 1822-га году ў Вену прыехала італьянская опэра, якая была зорганізована славутным у тыя часы антрэпрэнэрам Барбайя, і на чале якой стаяў вялікі опэрны композытар Россіні. Тыя грамадзкія колы, да якіх належаў Бэтховэн, быццам звар'яцелі. Захапленьне італьянцамі было нязвычайнае. Забыты былі ранейшыя ўлюбёнцы—Гайдн, Моцарт, Бэтховэн. Слухаць хацелі толькі італьянцаў, гаварылі аб італьянцах, пяялі італьянскія арыі, пісалі аб італьянцах. Нават гэніяльны нямецкі композытар Вэбэр, які тады быў у Вене, захапіўся італьянцамі, а філёкоф Гегель пісаў да жонкі ў Бэрлін, што, пакуль у яго будуць грошы ў кішэні, ён будзе хадзіць у тэатр італьянцаў.

Бэтховэн чуў сябе абражаным. Яго глыбокія творы забыты былі для салодкіх мэлёдый і дзіцячых оркестравых акомпаніментаў Россіні. Ён захацеў пакараць венскую публіку за яе здраду і лёгкадумнасьць. Ён скончыў ужо сваю 9-ую сымфонію і Missa solemnis і пачаў весьці перамаўленьні з Бэрлінам аб пастаноўцы там гэтых рэчаў, бо ведаў, як венцы ганарацца тым, што яны першымі чуюць яго новыя творы, і лічаць яго сваім, родным, венскім. Тады да Бэтховэна зьявілася дэпутацыя ад арыстократаў-мэлёманаў і паднесла яму адрас, у якім гэтыя мэлёманы прасілі, каб гнеўны

маэстро зьмяніў свой гнеў на міласьць. Гэты адрас быў для Бэтховэна сьветлым праменем у яго сумным і самотным жыцьці, бо ён паказаў яму, што людзі не забываюцца аб ім, хаця ён адышоў ад іх.

Можа быць апошнім сьветлым праменем (апрача тых радасьцяй, якія давала Бэтховэну творчасьць), быў концэрт, даны вялікім кампазытарам 7-га мая 1824 году. Між іншымі рэчамі, выканана была 9-ая сымфонія і паасобныя арыі з Missa solemnis для галасоў solo і хора. Концэрт даны быў у Kärtnerthor—тэатры. Дырыгаваў Шупанціг. Заля была перапоўнена, і концэрт меў нябывалы посьпех. Бэтховэн стаяў з правага боку каля дырыжэрскага пульту. Перад кожнай часткай сымфоніі ён азначаў належныя тэмпы. Але ён быў абсолютна глухі. Ён ня чуў ні музыкі, ні тых бурных воплескаў і крыкаў захапленьня, якія несьліся да яго з залі, і стаяў сьпіною да публікі. Тады яго павярнулі тварам да залі. Ён ўбачыў поўныя захапленьня твары слухачоў, іх адчыненыя вусны, убачыў тысячы рук, якія пляскалі яму і махалі хусткамі, і пакланіўся, і тады овацыі падняліся з яшчэ большаю сілай.

Бэтховэн ня быў жанаты, хаця меў бязумоўны нахіл да сямейнага жыцьця, аб чым ён не адзін раз гаварыў і пісаў у сваіх лістох. Але галоўнай перашкодай да ажыцьцяўленьня мар аб сям'і была ўсё тая-ж глухата.

У сьнежні 1826-га году Бэтховэн захварэў на запаленьне лёгкіх. Гэта хвароба ўскладнілася потым вадзянкай. Прыяцель яго, доктар Вэгелер, бачыць прычыну гэтае вадзянкі ў тых сталых коліках у ніжняй частцы жывата, ад якіх Бэтховэн цярпеў ужо даўно. Вада пачала зьбірацца ў грудзёх, зрабіўся ацёк лёгкіх. Хворы задыхаўся, цярпеў страшэнна, ня мог заснуць. Тры разы яму выпушчалі ваду, але нішто не дапамагала. Раніцай 24-га сакавіка Бэтховэн страціў прытомнасьць, а з вечару таго-ж дня пачалася агонія. Яна цягнулася двое сутак, і а $5^3/_4$ гадзіны ўвечары 26 сакавіка 1827 году вялікага кампазытара ня стала.

Апошнія часы свайго жыцьця Бэтховэн жыў так самотна, далёка ад людзей, што венцы пачалі бадай што забывацца аб ім. Але яго сьмерць узбудзіла тыя грамадзкія колы, якія ведалі альбо яго асабіста, альбо яго творы, і за яго дамавінаю ішоў вялізарны натоўп у 20.000 чалавек. А калі праз 18 год пасьля яго сьмерці ў яго родным Бонне адчынялі яму помнік, дык кампазытар Ліст у сваёй прамове гаварыў: „Аб ім ня плакала жонка, забітая горам, ня плакалі сын ці дачка: над яго магілай плакаў увесь сьвет".

У гісторыі музыкі Бэтховэн мае бязьмежнае значэньне, галоўным чынам, як геніяльны майстар інструмантальнае музыкі. Гэта ня значыць, што ён ня пісаў музыкі і вокальнае. У гэтай галіне ён пакінуў пасьля сябе шмат песень, опэру Фідэліо, дзьве мессы (C-dur і Missa solemnis), розныя кантаты і інш. Але яго вокальныя творы маюць непараўнальна меншае значэньне, чымся інструмантальныя. Толькі ў інструмантальнай

музыцы, якая ня скута раней даным тэкстам, якая не абмяжоўваецца дыяпазонамі чалавечых галасоў, Бэтховэн знаходзіў належныя сродкі для выяўленьня сваіх ідэй, праз яе ён гаварыў з людзьмі. Бэтховэн не стварыў у гэтай інструмантальнай музыцы новых форм (калі ня лічыць форму scherzo). Ад сваіх вялікіх папярэднікаў, галоўным чынам Гайдна і Моцарта, ён узяў гэтыя формы: сонату, квартэт і сымфонію, але ўклаў у іх новы зьмест, дзеля чаго пашырыў і паглыбіў іх і давёў да такое дасканаласьці, што й дагэтуль яны застаюцца няўмірушчымі. Шмат пазьней пасьля Бэтховэна вялікі музычны дзеяч (піяністы, композытар і асьветнік) Антон Рубінштэйн, параўноўваючы музыку вокальную і інструмантальную, пісаў аб Бэтховэне: „Ніколі, ні ў якай опэры яшчэ не прагучэў і ня можа прагучэць такі трагізм, які мы чуем, напрыклад, у другой частцы трыо D-dur Бэтховэна, альбо ў яго сонатах op. 106 (2-ая частка) ці op. 110 (3-яя частка), альбо ў яго струнных квартэтах, у adagio F-dur, E-dur, e-moll... Таксама ніякі Рэквіэм, нават Моцартаўскі, так ня ўзрушае, як другая частка сымфоніі Eroica... Я ня скрыю, што для мяне трэцяя уверцюра „Леонора“ і ўступ да другое дзеі опэры „Фідэліо“ ёсьць больш высокае выяўленьне гэтае драмы, чымся сама опэра“.

Звычайна творчасьць Бэтховэна падзяляюць на тры пэрыоды і адзначаюць тры „манеры“ яго пісьма. У першым пэрыодзе (прыблізна да 1803 году) ён знаходзіцца яшчэ пад моцным уплывам Гайдна і Моцарта, ідзе па шляхох, паказаных імі, хаця, бязумоўна, выяўляе ўжо тут сваю орыгінальнасьць, сваю ўласную індывідуальнасьць. Да гэтага пэрыоду адносяцца першыя дзьве сымфоніі, першыя 11 фортэп'янных сонат, першыя два фортэп'янных концэрты, першыя квартэты і трыо і большасьць фортэп'янных варыяцый. У другім пэрыодзе (які цягнецца прыблізна да 1816 году) Бэтховэн канчаткова знаходзіць самога сябе. Шырака і глыбака разгортваецца яго гэні, яскрава выяўляецца напрамак і характар яго творчасьці. У гэтым пэрыодзе ўтвораны былі сымфоніі ад 3-яй да 8-ай, опэра Фідэліо, уверцюры Карыялан і Эгмонт, 3-ці, 4-ты і 5-ты фортэп'янныя концэрты, найпапулярнейшыя сонаты (Es-dur з хаўтурным маршам, cis-moll, Appassionata, d-moll op. 31 і інш.). Трэці пэрыод—час поўнае глухаты, калі вялікі композытар адыходзіць ад людзей у самоту і жыве толькі ўласнымі думамі. Гэта—пэрыод найглыбейшых яго твораў, пэрыод 9-ае сымфоніі, Missa solemnis, апошніх сонат і апошніх квартэтаў.

Творчасьць Бэтховэна трэба разглядаць ува ўсёй яе скупнасьці, цэльнасьці, бо праз усю яе праходзіць адна асноўная ідэя, якая родніць Бэтховэна з намі, робіць яго блізкім, зразумелым для нас. Тут ня месца спрачацца з тым напрамкам у музыцы (гансьлікіянствам), які сьцьвярджае, што музыка ня мае і ня можа мець ніякага зьместу, апрача чыста музычнага, ніякіх ідэй, апрача музычных тэм. Няхай для нас выстарчаюць погляды самога Бэтховэна на музыку, аб якіх гаварылася вышэй, няхай нам выстарчаюць яго словы: „Сьвет не падазравае, што музыка ёсьць вышэйшае выяўленьне, чымся ўся мудрасьць і філёзофія“.

Якая-ж асноўная ідэя прасякае ўсю творчасьць Бэтховэна? Гэтая ідэя, як ужо сказана вышэй, азначаецца, з аднаго боку, яго клясавай прыналежнасьцю, а з другога—тэй эпохай, калі жыў Бэтховэн (француская рэволюцыя). Можа быць і ў гэтых адносінах няшчасьце Бэтховэна, яго глухата, было шчасьцем для музыкі, бо пакуль бушавала рэволюцыя, ён чуў і адчуваў на сабе яе ўплыў, а калі яна была канчаткова прыдушана, ён быў ужо глухі, адышоў ад людзей і не адчуваў на сабе ўплыву рэакцыйных часоў пасьля Венскага конгрэсу. Прынамсі романтычны рух, які з палітычнага боку быў зьявішчам рэакцыйным, на яго творах 10-ых і 20-ых гадоў XIX сталецьця не адбіўся. Разумецца, і ў жыцьці паасобных індывідуумаў, і ў жыцьці грамадзтваў перакрыжоўваецца нязьлічонае мноства самых рознастайных кірункаў, уплываў, рухаў.

Бэтховэн—сьпявак гора і цярпеньняў чалавецтва, Бэтховэн—сьпявак вызваленьня і шчасьця чалавецтва. Абставіны жыцьця Бэтховэна надалі яму яго думкі, ідэі, а француская рэволюцыя абвеяла іх праўдзіва рэволюцыйным патосам (запалам). Гэты пахмуры і няпрыветны чалавек у сэрцы сваім абыймаў няшчаснае чалавецтва, кахаў яго і марыў. Ён марыў аб гэрої, які павядзе няшчаснае чалавецтва ў сьветлае царства вольнасьці і шчасьця. І як люта асьмеяны былі яго мары! Ён думаў, што Наполеон і ёсьць яго доўгачаканы гэрой. І ён уславіў яго ў сваёй 3-яй сымфоніі. На загалоўным аркушы яе стаяла вялікімі літарамі: Buonaparte, а пад ім Luigi van Beethoven. Ён хацеў ужо адаслаць партытуру Наполеону, калі атрымалася вестка, што рэспублікі францускае ўжо ня існуе, а ёсьць француская імпэрыя і імпэратар яе—Наполеон. Гэта быў цяжкі ўдар для Бэтховэна. „І ён такі, як усе",—з глыбокім сумам гаварыў ашуканы марыцель. Ён схапіў партытуру, сарваў яе вокладку і кінуў у печ.

А ў 5-ай сымфоніі ён зноў пяе аб цярпеньнях чалавецтва. Ён марыў, што прыдзе жаданы дзень, калі ланцугі будуць разарваны і чалавек здабудзе сабе вольнасьць і шчасьце. І якою ўрачыстаю і бязьмернаю радасьцю, радасьцю перамогі гучыць фінал 5-ае сымфоніі! І той-жа настрой, тую-ж упэўненасьць у канчатковай перамозе мы чуем і ў фінале 9-ае сымфоніі з хорам, які Бэтховэн напісаў на тэкст оды Шыльлера „Да вольнасьці" *).

Сьпявак людзкога гора і цярпеньняў Бэтховэн быў вялікім оптымістым. Дзесьці далёка мігаціць перад ім у думках сьвятло царства вольнасьці і шчасьця, у якое ідзе і, бязумоўна, увойдзе чалавецтва. Гэтая думка голасна гучыць у яго 7-ай і 8-ай сымфоніях і яшчэ глыбей і галасьней гучыць у апошніх квартэтах.

Сваімі творамі, апрача іх чыста музычнай дасканальнасьці, Бэтховэн зрабіў сабе няўмірушчы помнік. Вось чаму і сьвяткуецца сталецьце яго сьмерці.

---

*) Па запатрабаваньні цэнзуры Шыльлер зьмяніў слова Freiheit — вольнасьць на Freude—радасьць.

# ШЛЯХІ ДА ПАЛЕПШАНЬНЯ ЧАЛАВЕЧАГА РОДУ

*(Эўгеніка)*

**Я. Кіпель**

За апошнія стагодзьдзі заўважваецца значнае пагоршаньне здароўя сярод культурнага чалавецтва. Процант хворых, век якіх не дасягае да саракагадовага ўзросту, значна павялічваецца. Стагадовы старык зараз ужо рэдкасьць, а чалавек у шэсьцьдзесят гадоў, як агульнае правіла, да працы няздольны. Маладое пакаленьне часта хварэе на такія хваробы, якія раней былі бадай што невядомы; апрача гэтага, і агульная колькасьць нараджэньняў усюды значна зьніжаецца. Многія соцыяльныя хваробы, на якія хварэе цяперашняе культурнае чалавецтва, зьяўляюцца вынікам войнаў і іншых соцыяльных пэратурбацый, і калі гэтыя хваробы ня маюць асабліва вялікага ўплыву, на стан здароўя цяперашняга грамадзтва, то на прыроджаныя якасьці будучых пакаленьняў яны будуць мець значна большы ўплыў, і вельмі магчыма, што процэс пагоршаньня чалавечага здароўя ў будучых пакаленьнях будзе адбывацца яшчэ больш шпаркімі крокамі. Задача цяперашняе навукі—абараніць будучыя пакаленьні ад тэй небясьпекі, якую суляць яму цяперашнія соцыяльныя хваробы.

Сымптомы пагоршаньня чалавечага здароўя заўважаны навукай яшчэ ў мінулым стагодзьдзі, і асобныя вучоныя прынялі адпаведныя крокі для правільнага вырашэньня гэтага пытаньня. Была створана асобная навуковая дысцыпліна, так званая эўгеніка. Гэтая назва складаецца з двух грэцкіх слоў: эў—харошы і генос—род, пры перакладзе на нашую мову азначае „вучэньне аб харошым родзе“. Звычайна-ж эўгеніцы надаюць трошкі больш пашыранае разуменьне, яе разумеюць, як дысцыпліну, якая вывучае ўмовы і сродкі, з дапамогаю якіх можна палепшыць прыраджоныя якасьці будучых пакаленьняў. Заснаваў эўгеніку, як навуковую дысцыпліну, і даў ёй гэтае імя ангельскі вучоны Фрэнсіс Гальтон, стрэчны брат вядомага Чарльза Дарвіна. Сам Дарвін эўгенікай не займаўся, але ў сваёй працы „Пахаджэньне чалавека і палавы падбор“ ён дае цэлы шэраг прыкладаў, як у жывёл уласьцівасьці бацькоў перадаюцца дзецям, і ў канцы кнігі зазначае, што разумны падбор паміж людзьмі прынёс-бы вялікую карысьць чалавецтву. Гальтон вывучаў спадчыннасьць галоўным чынам на людзях, ён па гэтаму пытаньню напісаў шмат прац, якія сабраны і выпушчаны пад назвай „Эцюды па эўгеніцы“.

У сваіх працах Гальтон даводзіць, што палепшаньне прыраджоных якасьцяй людзей не зьяўляецца нечым немагчымым, яно можа быць цалкам зьдзейсьнена. Заўсёды існавала імкненьне да палепшаньня чалавечай пароды; тое, што ў адных народаў існуе полігамія, у другіх моногамія, у вадных народаў дазваляецца браць шлюб з блізкімі сваякамі, у другіх-жа гэта забараняецца,—бязумоўна ўсё гэта ня ёсьць вынік уласьцівасьці натуры таго ці іншага народу, а яно было выпрацавана пад уплывам тых ці іншых умоў адпаведна інтарэсам кожнага народу. Гэтыя абмежаваньні кожным народам выпрацоўваліся на працягу цэлых стагодзьдзяў, яны ўвайшлі ў звычай і ў рэлігію гэтага народу і складаюць неадлучную частку яго сьветапагляду; але гэта, па думцы Гальтона, не павінна перашкаджаць чалавецтву зараз сьвядома пераглядаць і перайначваць старыя палажэньні адпаведна новым умовам на карысьць усяго чалавецтва.

Гальтон не абмежаваўся толькі літаратурнай агітацыяй і друкаваньнем сваіх твораў, ён організаваў у 1905 годзе пры Лёндонскім Унівэрсытэце спэцыяльную эўгенічную ляdataboraторыю, у працу якое ўцягнуў шэраг выдатных навуковых маладых дзеячоў, а перад сьмерцю адказаў на карысьць ляборыторыі значную частку сваёй маемасьці, і праца ляборыторыі такім парадкам была забясьпечана. Гальтонаўскай ляборыторыяй быў зроблен цэлы шэраг вельмі цікавых досьледаў аб спадчыннасьці ў чалавека; гэтыя досьледы надрукованы асобнай кнігай пад назвай „Скарбніца чалавечай спадчыннасьці“, зьмест кнігі цалкам адпавядае яе назьве. Дзейнасьць Гальтона і яго наступнікаў хутка была заўважана вучонымі другіх дзяржаў Эўропы і Амэрыкі, і ў гэтых дзяржавах былі створаны дасьледчыя эўгенічныя ўстановы, аб якіх будзе зазначана трошкі ніжэй, а зараз сьцісла разгледзім тыя падставы, на якіх грунтуе сваю дзейнасьць эўгеніка, як навука.

Эўгеніка пабудавана на вывучэньні законаў спадчыннасьці і падбору. Законы спадчыннасьці ў той час, калі выпускаў Дарвін свае галоўныя творы, а Гальтон рабіў першыя спробы па эўгеніцы, гэта, прыблізна, гадоў пяцьдзесят таму назад, былі яшчэ добра невядомы тагачаснай навуцы. Сам Дарвін і бліжэйшыя яго пасьлядоўцы лічылі, што асаблівасьці, набытыя організмам за жыцьцё, перадаюцца ў спадчыну таксама, як і асаблівасьці прыраджоныя. Тады яшчэ нават не падзялялі асаблівасьцяй організму на асаблівасьці прыраджоныя і асаблівасьці набытыя. Усякаму вядома, што колер валасоў, вачэй і падобныя іншыя асаблівасьці перадаюцца організму ад бацькоў і таму завуцца прыраджонымі, а тыя асаблівасьці, якія організм сам набыў, напрыклад, твар, зьедзены воспай, адсечаная рука альбо палец будуць асаблівасьцямі набытымі,—яны ў спадчыну патомкам не перадаюцца, але ў часы Дарвіна лічылі, што ўсе гэтыя асаблівасьці для патомства маюць аднальковае значэньне. Супроць такога погляду выступіў нямецкі зоолёг Аўгуст Вэйсман, які давёў, што набытыя ў жыцьці асаб-

лівасьці альбо прыкметы патомству ў спадчыну не перадаюцца. Вэйсман браў для экспэрымэнтаў мышэй, адсякаў ім хвасты, а потым злучаў гэтых мышэй, і такім парадкам ён прапусьціў праз свае рукі тры тысячы пакаленьняў, але заўсёды ад бясхвостых бацькоў было патомства з хвастамі. Прыхільнікі поглядаў Вэйсмана зазначылі на факты яшчэ больш глыбокія, чымся акспэрымэнты самога Вэйсмана; яны гаварылі, што дзесяць мільёнаў яўрэяў робяць абрэзаньне даволі доўга, а 350 мільёнаў мусульман робяць гэткае-ж самае абрэзаньне амаль тысячу трыста гадоў, але яшчэ ня было ніколі такога выпадку, каб ад абрэзанага бацькі радзіўся абрэзаны сын. Выходзіць, што прыкметы, набытыя організмам у жыцьці, не перадаюцца організмам у спадчыну. Перад навукай паўстала пытаньне, якія асаблівасьці перадаюцца патомству, а якія не перадаюцца. Зьявіўся цэлы шэраг тэорый, але ні адна з гэтых тэорый не змагла дасканала адказаць на пастаўленае пытаньне. Вельмі ўдала разьвязала пастаўленае пытаньне знойдзеная ў архіве праца аўстрыйскага манаха Рыгора Мэндэля. Праца гэта з дня свайго выхаду праляжала нікім незаўважаная 35 гадоў, яна была надрукавана ў 1865 годзе ў горадзе Брунне гуртком аматараў прыроды, і аж да 1900 г. на яе ніхто не зьвярнуў увагі. Знайшлі гэтую працу праз шаснаццаць гадоў пасьля сьмерці аўтара; к гэтаму моманту не засталося ні аднэй паперкі з другіх прац Мэндэля, магчыма, што ў яго былі і яшчэ каштоўныя працы. Мэндэль, апрача манашаства, займаўся яшчэ выкладаньнем прыродазнаўства ў брунскім рэальным вучылішчы і на працягу многіх гадоў скрыжоўваў, галоўным чынам, гарох; на гэтых скрыжоўваньнях яму і ўдалося вывесьці свой славуты закон. Сутнасьць гэтага закону выяўляецца ў тым, што ня ўсе асаблівасьці бацькоў перадаюцца іх дзецям, некаторыя асаблівасьці бацькоў вельмі ўпарта трымаюцца за патомкаў у першым і ў далейшых пакаленьнях, а некаторыя асаблівасьці зусім не заўважваюцца ў першым пакаленьні, а толькі праяўляюцца ў другім і трэцім пакаленьні. Тыя асаблівасьці, якія перадаюцца першаму пакаленьню, Мэндэль назваў домінантнымі, а тыя асаблівасьці, якія праяўляюцца ў другім і трэцім пакаленьні, ён назваў рэцэсыўнымі (скрытнымі).

Каб лепш зразумець гэты закон, мы пастараемся вытлумачыць яго табліцай № 1. Возьмем, напрыклад, труса белага і чорнага і злучым іх. Якое будзе патомства ў першым пакаленьні адразу—трудна сказаць, але яно павінна быць абавязкова аднаго колеру. Дапусьцім, што яно будзе ўсё чорнае; тады, калі мы скрыжуем гэтых чорных паміж сабою, то ўжо ад чорных усе чорныя ня будуць, а будзе частка чорных і частка белых, прычым белых будзе ў тры разы меней, чым чорных. Значыць, чорны колер тут будзе домінантны, а белы—рэцэсыўны.

Некаторыя з трусоў другога пакаленьня ў будучыне будуць даваць чыстую лінію, гэта значыць чорныя—чорных, а белыя—белых, а некаторыя трусы будуць даваць мешанае патомства, але белых будзе заўсёды ў тры

разы менш, чым чорных. Як зазначалася вышэй, сам Мэндэль вёў працу ня з трусамі, а з гарохам, але пры праверцы-ж выявілася, што гэты закон праўдзівы ня толькі для жывёл, а і для чалавека, прычым гэтаму закону падпарадкавана перадача ўсіх асаблівасьцяй індывідуума як фізычных, таксама і духоўных. Пасьля таго, як закон Мэндэля быў дасьледваны на людзях, стала зразумелым, як часам унукі адказваюць за грахі дзядоў, і як часам талент дзеда пераходзіць да ўнукаў і праўнукаў. Для сельскае гаспадаркі гэты закон мае нязвычайна вялікае значэньне,

Табліца № 1




бо дае магчымасьць прадбачыць наперад тое, што суліць прырода ад скрыжаваньня пэўных об'ектаў. Але не заўсёды бывае, што першае пакаленьне падобна на каго-небудзь з бацькоў. Бываюць часам выпадкі, што першае пакаленьне зусім не падобна на сваіх бацькоў. Вось, напр., калі мы скрыжуем белую кветачку з чырвонай, то ў новае кветачкі, якая будзе паходзіць ад гэтых дзьвёх, колер ужо будзе ня чырвоны і ня белы, а ружовы, гэтыя-ж ружовыя пры далейшым скрыжаваньні зноў даюць чырвоных і белых. Гэткі выпадак завецца другім выпадкам закону Мэндэля. Ён мае месца ня толькі сярод расьлін і жывёл, але і сярод людзей. У Амэрыцы бываюць шлюбы паміж чорнымі нэграмі і белымі эўропэйцамі,—дзеці ад падобных асоб бываюць ня чорныя і ня белыя, а смуглыя, так званыя мулатыя. Па досьледах вучонага эўгеністага Дэвэнпорта, мулатыя таксама рашчапляюцца, гэта значыць даюць і чорнае і белае патомства, але тут трошкі справа стаіць складней, чымся ў кветак. Тым ня менш закон Мэндэля ў агульным і цэлым захоўваецца і тут.

Перадачай асаблівасьцяй загадваюць асобныя каморкі, так званыя палавыя каморкі. У палавых каморках і ва ўсіх іншых каморках знаходзяцца ядра; калі каморка дзеліцца на дзьве часткі, то ядра распадаюцца на ніткаватыя формы, якія завуцца хромазомамі. У гэтых хромазомах знаходзяцца асобныя ядрачкі, якія завуцца генамі, альбо фактарамі. Гены альбо фактары нясуць на сабе асаблівасьці бацькоў; гены бацькі знаходзяцца ў мужчынскім плоцьным продукце—спэрматозоідзе, а гены мацеры знаходзяцца ў мацерным яйцы. Пасьля запладненьня спэрматозоідам яйца, хромазомы так перагрупоўваюцца, што ня ўсе гены ў першым пака-

леньні выступаюць яскрава, некаторыя з іх выступаюць так моцна, што пакрываюць сабою прыкметы другіх генаў,—таму яны і называюцца домінантнымі. Некаторыя-ж з генаў хаця і знаходзяцца ў організьме, але яны не праяўляюцца, дзеля таго і прыкметы, якія носяць на сабе гэтыя гены, завуцца рэцэсыўнымі, альбо скрытнымі. Навука зараз дабілася вялікіх посьпехаў у галіне комбінаваньня розных прыкмет. Асабліва тут шмат зрабіў амэрыканец Морган, які дабіўся таго, што змог вывадзіць мух бяз роту, альбо такіх мух, што з аднаго боку яна зьяўляецца самцом, а з другога—самкай. Мух ён браў для сваіх экспэрымэнтаў таму, што яны хутка выводзяцца і скора растуць,—дзякуючы гэтаму можна хутка рабіць досьледы; а тыя законы, згодна якім разьвіваецца муха, аднальковы з законамі, якім падпарадкавана разьвіцьцё хрыбетных жывёл.

Тыя організмы, якія маюць у сабе аднальковыя гены, напрыклад, толькі гены высокага росту, чорных валасоў і г. д., называюцца гомозыготнымі, а тыя організмы, якія адначасна маюць і гены высокага росту, і гены нізкага росту, і гены чорных і белых валасоў і г. д. называюцца гэтарозыготнымі. Зыготай завуць каморку, якая атрымліваецца ад злучэньняў адно мужчынскага і жаночага плоцьных продуктаў, гомо – значыць аднолькавы, гэтаро— значыць розны. Гэтарозыготныя організмы— гэта такія організмы, якія маюць у сабе захаваныя (скрытныя—рэцэсыўныя) прыкметы. Пры скрыжоўваньні гэтыя організмы даюць патомства з рознымі ўласьцівасьцямі, альбо, інакш кажучы, рашчапляюцца. Дасьледжана, што ўсе тыя перажываньні альбо хваробы, якія пакідаюць сьлед у нэрвовай сыстэме, перадаюцца далейшаму патомству ў спадчыну. Гэтая перадача адбываецца выключна па законах Мэндэля, пры гэтым некаторыя хваробы перадаюцца першаму пакаленьню, і дзеля гэтага іх завуць домінантнымі, а тыя хваробы, якія выступаюць у другім і трэцім пакаленьнях, завуцца рэцэсыўнымі. Ход перадачы гэтых хвароб пастараемся вытлумачыць ніжэйпаданымі табліцамі. Тых хворых, якія ня маюць генаў здароўя, мы абазначым чорнымі кружочкамі, а здаровых, якія ня маюць у сабе генаў хваробы, абазначым белымі кружочкамі. Тых-жа хворых, якія маюць у сабе гены здароўя, абазначым чорнымі кружочкамі з белай кропачкай у сярэдзіне і, наадварот, тых здаровых, якія маюць у сабе гены хваробы, абазначым белымі кружочкамі з чорнай кропачкай пасярэдзіне.

На табліцы № 2 будзе выяўлены процэс перадачы домінантных хвароб.

Як відаць на малюнку, першым ад шлюбу паміж асобамі, з якіх адна хворая домінантнаю хваробаю, а другая здаровая, патомства будзе ўсё хворае, але ў хромазомах будуць і здаровыя гены. Калі двое такіх хворых пажэняцца, то з чатырох дзяцей (мал. 5) адно будзе зусім хворае гомозыготнае, адно здаровае гомозыготнае, а двое будуць хворыя гэтэрозыготныя, значыць у іх у хромазомах будуць здаровыя фактары. Калі хворы гэтэрозыготны возьме шлюб з здаровым, то палавіна дзяцей будзе хворых, а палавіна здаровых (мал. 3). Калі двое хворых гомозыготных

альбо двое здаровых гомозыготных бяруць шлюб, то ад хворых дзеці будуць хворыя, а ад здаровых дзеці—здаровыя (мал. 4 і 6). Зусім інакш перадаюцца хваробы рэцэсыўныя. Ніжэй пададзеная табліца № 3 дапаможа нам уявіць ход гэтага процэсу.

Табліца № 2




●— хворы гомозыготны, ◉—хворы гэтэрозыготны, ○—здаровы гомозыготны.

Тут ад шлюбу паміж хворым і здаровым (мал. 1) усе дзеці ў першым пакаленьні будуць здаровыя, але ў хромозомах будуць мецъ фактары хваробы, і калі двое такіх асоб возьмуць паміж сабою шлюб (мал. 5), то ў іх адно дзіця будзе зусім хворае, адно зусім здаровае і двое будуць з віду здаровыя, але ў сабе будуць мець фактары хваробы, якую і будуць перадаваць далейшаму патомству. Як бачым, процэс перадачы рэцэсыўных

*Табліца № 3*




●—хворы гомозыготны. ⊙—здаровы гэтэрозыготны. ○—здаровы гомозыготны.

хвароб зусім процілеглы процэсу перадачы домінантных хвароб. Калі возьмуць шлюб дзьве асобы, з якіх адна зусім хворая, а другая здаровая, але ў хромозомах мае фактары хваробы (мал. 2), то двое дзяцей будуць зусім хворыя, а двое здаровыя, але ў хромазомах будуць мець фактары хваробы; калі-ж бяруць шлюб паміж сабой здаровы гомозыготны і здаровы гэтэрозыготны (мал. 3), гэта значыць асоба здаровая, але мае фактары хваробы, то патомства будзе—двое здаровых гомозыготных і двое здаровых гэтэрозыготных. Тыя асобы, якія носяць у сабе фактары хва-

робы, яны бязумоўна адчуваюць сябе здаровымі, але патомству перадаюць хваробу.

Якія-ж хваробы і ўродзтва належаць да рэцэсыўных, а якія да домінантных? Падрабязны разбор гэтага пытаньня заняў-бы ў нас многа месца, і таму мы толькі зазначым аб некаторых з гэтых хвароб. З прыраджоных уродзтваў, якія перадаюцца ў домінантным парадку, будуць наступныя: брахідактылія, альбо кароткапаласьць; хворыя на гэту хваробу маюць на руках двухсустаўныя пальцы; многапаласьць—калі на руках альбо на нагах па шэсьць пальцаў. Недаразьвіцьцё ніжняй губы (заячча губа), недаразьвіцьцё нёба (воўчы рот), зьмяшчэньне ў мужчыны мачавога каналу ўніз і назад таксама належыць да домінантных уродзтваў, а ёсьць уродзтвы, якія перадаюцца ў рэцэсыўным парадку. Усе гэтыя ўродзтвы мала цікавяць эўгеністых, іх найбольш цікавяць душэўныя хваробы, вынікі алькоголізму і вынікі сыфілісу. Як алькоголізм, таксама і сыфіліс вядуць організм да псыхічных ненормальнасьцяй, якія перадаюцца патомству амаль выключна ў рэцэсыўным парадку. Алькоголізм робіць глыбокія зьмены ў нэрвовай сыстэме і вядзе да ідыётызму, а сыфіліс вядзе к сухотам сьпіннога мозгу, к паралічу і вар'яцтву. Сам сыфіліс—хвароба зьлячымая, калі яго лячыць. Зьлечаны сыфіліс не дае ніякіх благіх вынікаў, калі да лячэньня ён не зрабіў глыбокіх зьмен у нэрвовай сыстэме.

Уявім сабе паважную асобу, якая вядзе пахаджэньне ад людзей, хворых на адну з трох вышэйназваных хвароб. Дапусьцім, што гэтая асоба бярэ шлюб з здаровай асобай тады, калі мы хворую асобу абазначым белым кружочкам, а здаровую—чорным (гл. таб. № 1), то ад гэтае пары першае пакаленьне будзе ўсё здаровае, але ў другім і трэцім пакаленьні ўжо ў гэтай лініі абавязкова зьявяцца асобы фізычна слабыя і псыхічна ненормальныя. Праўда, гэтая псыхічная ненормальнасьць у некаторых выпадках выяўляецца паступова, паволі, але няўхільна прогрэсуе. Такім чынам, тая народная пагаворка „ў сям'і не бяз урода“ знаходзіць поўную падставу ў навуцы. У 70-ых гадох мінулага сталецьця італьянскі вучоны Ломбразо выступіў з вучэньнем аб прыраджоных злачынцах. Ён даводзіў, што няма злачынцаў, а ёсьць хворыя, якіх патрэбна не караць, а лячыць Ломбразо тады не паверылі. Бязумоўна, ня ўсе злачынцы зьяўляюцца прыраджонымі злачынцамі, а ёсьць асобы, якія сталі злачынцамі дзякуючы матэрыяльным недахопам, соцыяльна-політычным умовам і іншым прычынам, але, побач з такімі асобамі, ёсьць асобы, якія народжаны злачынцамі, такіх бясспрэчна ня трэба караць, а патрэбна лячыць. Вучэньне аб спадчыннасьці выявіла, што ў рэчаіснасьці ёсьць асобы, якія народжаны з нездаровымі псыхічнымі нахіламі, і тады толькі паверылі вучэньню Ломбразо і ў судовай практыцы пачалі інакш падыходзіць да некаторых злачынцаў.

Што датычыць перадачы надворных асаблівасьцяй чалавека, напрыклад, колеру скуры, валасоў, вачэй і інш., то тут існуе такая-ж самая

законнасьць, як і пры перадачы хвароб. Разгледзім некалькі прыкладаў гэтае законнасьці.

Возьмем, напрыклад, колер вачэй; усе адценьні гэтага колеру, ня гледзячы на ўсю align розьнастайнасьць, можна падзяліць на чатыры тыпы: блякітны, шэры, кары і чорны. З усіх гэтых колераў самым рэцэсыўным зьяўляецца блякітны колер, ён можа быць у першым пакаленьні тады, калі бацькі блякітнавокія гомозыготныя. Шэры колер заўсёды домінуе над блякітным, і дзеля гэтага ад дзьвюх асоб—блякітнавокай і шэравокай—усе патомкі будуць шэравокія, але гэтае патомства ўжо будзе гэтэрозыготнае, гэта значыць, што хоць яно будзе мець шэрыя вочы, але ў сабе мецьме фактары блякітнага колеру вачэй, і вось калі дзьве такія шэравокія, але гэтэрозыготныя асобы возьмуць паміж сабою шлюб, то на трое шэравокіх дзяцей абавязкова будзе адно дзіця блякітнавокае.

Нядаўныя досьледы сярод ленінградзкіх вучоных далі вельмі цікавыя вынікі адносна духоўных здольнасьцяй; гэтыя досьледы паказалі, што спэцыяльныя выдатныя здольнасьці чалавека (музычныя, матэматычныя, поэтычныя, выдатная памяць, здольнасьць да маляваньня, да моў і інш.) зьяўляюцца рэцэсыўнымі адносна тых здольнасьцяй, якія завуцца нормальнымі. Выходзіць, што ад шлюбу дзьвёх аднолькава выдатна-здольных уваднэй галіне асоб належыць чакаць такіх самых і дзяцей. Ад шлюбу дзьвёх нормальных асоб (ня выдатна-здольных) пры ўмове, калі гэтыя асобы вядуць сваё пахаджэньне ад людзей выдатна-здольных у якой-небудзь галіне, будуць дзеці і нормальныя і выдатна-здольныя—на трое нормальных будзе адно выдатна-здольнае.

Аўтары працы аб досьледах сярод ленінградзкіх вучоных Д. М. Дьяконов і Я. Я. Лус кажуць, што „каставыя“ шлюбы, гэта значыць шлюбы паміж асобамі, якія паходзяць з музычнай сям'і, з сям'і мастакоў і інш., павінны спрыяць захаваньню і выяўленьню гэтых-жа самых здольнасьцяй сярод іх патомкаў. Шлюб выдатна-здольнае асобы з асобаю звычайнай дае патомства нормальнае, значыць без усялякіх асаблівых здольнасьцяй. Ад асоб здольных у розным кірунку, напрыклад, ад мастака і ад матэматыка патомства зьяўляецца нормальнае, і здольнасьці, якімі ўладалі бацькі, не праяўляюцца ні ў трэцім, ні ў далейшых пакаленьнях. Досьледы замежных вучоных аб духоўнай спадчыннасьці даюць ня менш цікавы матэрыял. Так, сярод сям'і Бахаў музычны талент прасочан на працягу пяці пакаленьняў, а музычны талент у сем'ях Бэтховэна і Моцарта таксама цягнуўся ў некалькіх пакаленьнях. Здольнасьць да вынаходак у сям'і Сімэнсаў трымаецца на працягу некалькіх пакаленьняў, і, нарэшце, сям'я ангельскага натуралістага Эразма Дарвіна, унукамі якога былі Гальтон і Чарльз Дарвін, налічвае цэлы шэраг выдатных вучоных у прыродазнаўчых навуках. Сыны вядомага Чарльза Дарвіна—адзін выдатны астроном, а другі выдатны натуралісты—галава сучаснай ангельскай эўгенічнай організацыі.

Гальтон, разглядаючы спадчыннасьць таленту, падлічыў, што на 100 выдатных асоб прыпадае 31 выдатны айцец, 41 выдатны брат, 48 выдатных сыноў, 17 выдатных дзядоў і 14 выдатных дзядзькоў; такія-ж весткі падаюць і пазьнейшыя досьледы вучоных. Усё гэта гаворыць за тое, што выдатныя здольнасьці, сконцэнтраваныя ў якой-небудзь асобе, ня ёсьць выпадак альбо капрыз прыроды, гэтыя здольнасьці жылі і раней, але яны былі распылены ў продкаў, і толькі дзякуючы ўдалым шлюбам яны сконцэнтраваліся ў аднэй асобе. Паміж іншым, гэтыя навуковыя вывады далі падставу некаторым прадстаўнікам расійскай і чужаземнай інтэлігенцыі глядзець на інтэлігенцыю, як на насіцельніцу фактараў духоўнага багажу. У сваёй брошуры загадчык бюро па эўгеніцы пры Расійскай Акадэміі Навук праф. Філіпчанка скардзіцца, што, дзякуючы цяжкім умовам, інтэлігенцыя—насіцельніца вякамі прыдбанага духоўнага багажу, зараз выроджваецца. Тое, што факты адносна спадчыннасьці таленту вельмі і вельмі відавочны, то гэта бясспрэчна, але погляд на інтэлігенцыю, як на насіцельніцу генаў духоўных здольнасьцяй, панашаму, здаецца, няправільны. Возьмем к прыкладу інтэлігента, які жыў гадоў дзьвесьце таму назад, гэта прыблізна за тры-чатыры пакаленьні ад нас. Возьмем перадавога селяніна гэтага часу, то і ў тэорытычных ведах і ў сьветапаглядзе паміж гэтымі дзьвюма асобамі была невялікая розьніца. Мала гэтага, інтэлект селяніна павінен быў працаваць больш, бо селянін у змаганьні з умовамі за жыцьцё павінен быў спадзявацца толькі на сябе, а значыць, ён разьвіваў і капіў у сабе розныя духоўныя здольнасьці, напр., кемнасьць, цьвёрдасьць, жвавасьць, здольнасьць запамінаць і іншыя, усё гэта ён перадаваў, як спадчыну, свайму патомству. Ня можна-ж, у самой рэчы, лічыць інтэлігентам толькі таго, хто займаецца інтэлігентнай працай. Інтэлігентам можа быць усякі, бо сустракаюцца-ж часам рабочыя вынаходцы альбо поэты гарбары, кавалі і іншых профэсій. Ня рэдкія і такія выпадкі, што селянін у сваёй гаспадарцы робіць такія экспэрымэнты, што часам аграному прыходзіцца вучыцца ў гэтага селяніна. Бясспрэчна, што ўсе гэтыя асобы зьяўляюцца людзьмі высока інтэлігентнымі, гэта значыць людзьмі разумовай працы. Яшчэ прайшло мала часу, каб інтэлігенцыя толькі адна зрабілася насіцельніцай фактараў духоўнага багажу, а калі з простага народу выходзіў адносна малы процант выдатна-здольных асоб, то толькі таму, што перашкаджалі экономічна-політычныя ўмовы.

Як ні красамоўны факты аб спадчыннасьці таленту, тым ня менш існуе ня меншая колькасьць фактаў, якія кажуць аб тым, што ў выдатна-здольных бацькоў вельмі часта дзеці бываюць ні да чога няздольныя. Гэтыя факты даюць падставу многім вучоным сьцьвярджаць, што выдатныя здольнасьці перадаюцца далёка не заўсёды і на гэтую перадачу патрэбна глядзець, як на выключэньне; як правіла, духоўныя здольнасьці выдатных асоб не перадаюцца. Гэтыя вучоныя лічаць, што падобнае зьявішча ў прыродзе вельмі карыснае для чалавецтва, бо каб выдатныя ду-

хоўныя здольнасьці перадаваліся ў спадчыну патомству, то чалавецтва даўно-б ужо разьдзялілася на два лягеры—таленавітых і бесталентных, альбо, кажучы словамі нямецкага філёзофа Ніцшэ, на „звыш чалавекаў і чалавечкаў, маргаючых вочкамі“, гэта значыць халопаў. Гэтая катэгорыя вучоных трымаецца таго пункту погляду, што эўгеніка павінна займацца не падборам талентаў, а старацца ўхіліць чалавецтва ад цяжкіх вынікаў, якія нясуць яму розныя соцыяльныя хваробы.

Прыхільнікі таго погляду, што таленты перадаюцца, кажуць, што калі ў таленавітых бацькоў бываюць неталенавітыя дзеці, то толькі таму, што падбор быў няўдалы, інакш кажучы, супругі не адпавядалі адзін другому.

У галіне падбору людзей эўгеніка мае мала экспэрымэнтаў, усе свае довады, яна грунтуе на экспэрымэнтах з жывёламі. Дзеля таго, што яшчэ ня было такога выпадку, каб чалавек у сваім разьвіцьці абмінаў тыя біолёгічныя законы, якія абавязковы для разьвіцьця організмаў жывёлін, то можна лічыць, што вывады, зробленыя адносна разьвіцьця жывёл, будуць правільны і для чалавека. У галіне падбору сярод жывёл зараз дасягнуты значныя посьпехі. Паглядзеце, колькі зараз існуе парод коняй, рагатае жывёлы, авец, сьвіней, а таксама гародніны, садавіны,—і ўсё гэта выведзена ад звычайнай простай пароды, дзякуючы ўмеламу падбору. У пытаньнях шлюбу чалавек таксама кіруецца да некаторай ступені падборам, але тут яго меркаваньні вынікаюць дзякуючы розным традыцыям—рэлігійным, клясавым, нацыянальным і іншым, толькі ні ў якім выпадку ня тым, каб пакінуць пасьля сябе добрае здаровае патомства. Цікава і тое, што паводле досьледаў многіх вучоных усякія дэфэктыўныя элемэнты пераважна злучаюцца з такімі-ж самымі дэфэктыўнымі і бясспрэчна, што даюць дэфэктыўнае патомства. Удалым прыкладам тут можа быць сям'я Калікакаў, вывучаная Годартам. У канцы васемнаццатага і ў пачатку дзевятнаццатага сталецьця ў Амэрыцы ў штаце Нью-Джорсэй жыў Марцін Калікак (прозьвішча анонімнае), калі яму было 21 год, то ён даў пачатак дзьвюм сем'ям, альбо, ляпей кажучы, дзьвюм лініям Калікакаў. Адна лінія паходзіла ад здаровае асобы, а другая ад душэўна-хворай асобы. Усё патомства, якое паходзіла ад душэўна-хворай асобы, на працягу некалькіх пакаленьняў вызначалася тым, што сярод яго было многа зладзеяў-профэсыяналаў, простытутак, алькоголікаў і наогул злачыннага элемэнту. Вельмі часта былі выпадкі ў гэтай лініі, што блізкія дэфэктыўныя сваякі бралі шлюб, альбо звар'яцеўшы бацька жыў з псыхічна-ненормальнаю дачкою, і такім парадкам лік дэфэктыўных у гэтай лініі павялічваўся. З 480 чал. гэтае лініі, толькі 46 было здаровых і вялі нормальны парадак жыцьця, гэта значыць, усяго толькі 10%, 143 асобы былі псыхічна-ненормальныя, 82 асобы памёрлі, не дажыўшы сталага ўзросту. Зусім другі малюнак у здаровай лініі Калікакаў, з 496 асоб гэтае лініі 475 чал. былі здаровыя і займалі ўсе інтэлігентныя пасады, пятнаццаць чалавек памёрла дзецьмі і толькі быў адзін алькоголік і адзін псы-

хічна-ненормальны. Такіх прыкладаў можна даць яшчэ многа, але і гэтага досыць, каб уявіць, што значыць падбор у шлюбе. Вучоны Дэвэнпорт лічыць, што Амэрыка хутка вырасла ў вялікую культурную дзяржаву дзякуючы таму, што туды ехалі з усяго сьвету ўсе беспакойныя, жвавыя, энэргічныя людзі, якія там і застаўлялі падобнае да сябе патомства. Для падбору ўмовы там вельмі спрыялі, бо там адсутнічалі становыя разьмежаваньні, да і клясавая розьніца раней там вялікай ролі не адыгрывала. З другога боку, заняпад Ірляндыі і іншых падобных дзяржаў тлумачыцца тым, што адтуль многа выехала энэргічных і здольных людзей, а дзякуючы гэтаму гэтыя дзяржавы былі пазбаўлены значнай долі харошага патомства.

Эўгеніка—навука маладая, позьняе нараджэньне яе на сьвет трэба тлумачыць тым, што раней у ёй ня было такой моцнай патрэбы, якая зьявілася зараз. Яшчэ гадоў з сотню таму назад прырост насельніцтва ва ўсіх краёх ішоў шпаркім крокам угору. З нованароджаных слабейшыя паміралі (прыродны адбор), заставаліся больш дужыя, якія сваёю колькасьцю ў многа раз перавышалі тых, што паміралі ад старасьці і хвароб. Зараз і навука і культурныя ўмовы жыцьця пачалі змагацца з сьмертнасьцю маладога пакаленьня, у некаторых краёх давялі гэтую сьмертнасьць да мінімуму. Гэтаму трэба радавацца і вітаць, але побач з гэтым трэба імкнуцца да таго, каб гэтаму пакаленьню надаць добрыя прыраджоныя якасьці. Апрача таго, колькасьць нараджэньняў за апошнія гады ўжо перад вайной значна скарацілася, вось, напрыклад, у Нямеччыне ў 1874 годзе на 1000 душ насельніцтва прыходзілася 42 нованароджаныя, у 1894 годзе ўжо 37, а ў 1914 г. ўсяго 28; што датычыцца другіх дзяржаў, то там колькасьць нараджэньняў у 1914 годзе на тысячу душ была ў круглых лічбах такая:

| | |
|---|---|
| У Злучаных Штатах | 25 |
| У Англіі | 24 |
| У Францыі | 19 |

Як бачым, колькасьць штогодняга прыросту невялікая—яна йдзе ўніз, а ў Францыі гэты прырост чуць-чуць пакрываў сьмертнасьць. Калі ўзяць пад увагу, што сярод гэтых нованароджаных нейкі процант будзе відавочна хворых і калек, то здаровы прырост будзе яшчэ меншы, і вось калі гэтыя здаровыя нованароджаныя будуць індувідуальна ўладаць нявысокімі прыраджонымі якасьцямі, то тады факт выроджваньня чалавецтва будзе бясспрэчны і прыпыніць гэтае выроджваньне ўжо будзе бадай што немагчыма. Каб ухіліць чалавецтва ад гэтае небясьпекі і была створана асобная навука—эўгеніка.

Што датычыць бывшай Расіі, то да імпэрыялістычнай вайны тут на тысячу душ насельніцтва прыходзілася ў год 44 нараджэньні, толькі з гэтых 44 чалавек памірала больш за 40 проц., але ўсё-ж такі прырост жыхарства тут быў досыць значны, і лік жыхарства з кожным годам павялічваўся.

Чым-жа вытлумачваецца зьмяншэньне ліку нараджэньняў? Тут прычыны ў розных кляс розныя: у пролетарыяту—гэта цяжкае матэрыяльнае становішча, непасільныя абавязкі бацькі да сваіх дзяцей і г. д., у буржуазіі—прага да ўсякіх асалод жыцьця, нежаданьне дзяліць свой капітал на часткі у інтэлігенцыі розных груп прычыны таксама розныя. Самы вялікі лік нараджэньняў прыпадае ўсюды на сем'і гарадзкіх рабочых і сялян, і самы малы лік прыходзіцца на сем'і інтэлігенцыі і буржуазіі. Такое зьявішча асабліва многа надае жалю тым эўгеністым, якія лічаць інтэлігенцыю за насіцельніцу генаў вякамі прыдбанага багажу, некаторыя з іх вымагаюць, каб урад прыняў рашучыя крокі супроць Zweikindersystem'ы, запанаваўшай, галоўным чынам, сярод інтэлігенцыі. Тым ня менш, адкінуўшы ў бок усякія сымпатыі і антыпатыі, прыходзіцца прызнаць, што эўгеніка ў аднолькавай ступені патрэбна як для пролетарыяту, таксама і для інтэлігенцыі. Пролетарыят гісторыяй прызначан будаваць новы лад, само сабой зразумела, што гэты лад могуць будаваць толькі фізычна-моцныя і інтэлектуальна-багатыя людзі, а зьяўленьню на сьвет такіх людзей дапамогуць толькі эўгенічныя шлюбы. У жыцьці кожнага чалавека, паасобку і наогул у грамадзтве можа зьяміцца матэрыяльнае становішча, політычнае, клясавае і г. д., але ніколі ня зьменяцца ў працягу індывідуальнага жыцьця прыраджоныя якасьці чалавека—з чым яго радзіла маці на сьвет, з тым ён пойдзе і ў дамавіну. Ніякія унівэрсытэты ня прыбавяць яму ні капелькі, яны толькі разаўюць тое, што ў чалавеку ёсьць, і дадуць яму мэтод для працы. Калі ў чалавека слабая памяць, то колькі ня пічкайце яго ўсякімі ведамі, то ўсё роўна ад гэтага яна ў яго не павялічыцца, таксама, калі чалавек ад прыроды хударлявы, то, як вы яго ні кармеце, ён усё роўна застанецца хударлявым. Гэтыя апошнія запэўненьні могуць паказацца містычнымі, але тут няма нічога нязвычайнага, тут усё зразумела. Кожная чалавечая здольнасьць праяўляецца пэўнай часткай організму, напрыклад, здольнасьць мысьліць і запамінаць праяўляецца мозгам, а работа мозгу залежыць ад здароўя і суцэльнасьці нэрвовай сыстэмы, але ўявеце сабе, што нэрвовая сыстэма якое-небудзь асобы, дзякуючы хваробе бацькоў, добра не разьвілася, тут колькі-б вы ні стараліся, то гэтая асоба такою і застанецца, бо мэдыцына зараз далёка яшчэ ня ўсё можа зрабіць. Тое самае можна сказаць і аб іншых прыраджоных якасьцях. Вось дзеля чаго мы павінны ўважна сачыць за паляпшэньнем прыраджоных якасьцяй будучых пакаленьняў.

Як-жа эўгеніка робіць свае досьледы над людзьмі і ў чым выяўляецца яе праца? Эўгэніка з людзьмі ня можа рабіць такіх экспэрымэнтаў, якія жывёлавод робіць з жывёламі, эўгеніцы прыходзіцца ўжываць мэтоды больш далікатныя, адпаведныя годнасьці чалавека. Такімі мэтодамі зьяўляюцца статыстычны і генэолёгічны. Статыстычны мэтод заснаваў сам Гальтон, ён сабраў весткі аб росьце 200 бацькоў і аб іх дарос-

лых дзецях, лікам больш за 900 чалавек. Апрацаваўшы гэты матэрыял, Гальтон вывеў закон аб перадачы ў спадчыну высокага росту, але пры праверках выявілася, што закон гэты няверны, гэтым законам можна было карыстацца толькі ў асобных выпадках, а значыць і статыстычны мэтод ня можа цалкам разьвязаць усе пытаньні.

Больш дасканалым мэтодам зьяўляецца генэолёгічны мэтод. Генэолёгіяй завецца апісаньне радаводнай цэлых сем'яў, а адсюль назва—генэолёгічны мэтод, бо тут прасочваецца спадчыннасьць пэўнае асаблівасьці ў межах якое-небудзь сям'і на працягу цэлых пакаленьняў. Праўда, і гэты мэтод не такі дасканалы, як пастаноўка экспэрымэнтаў, але калі мы ведаем асноўныя законы прыродазнаўства, то і з дапамогаю генэолёгічнага мэтоду можна рабіць правільныя вывады адносна перадачы якое-небудзь асаблівасьці.

Каб паставіць эўгенічныя досьледы на належную вышыню, у Заходняй Эўропе і Амэрыцы створан шэраг дасьледчых інстытутаў і лябораторый, якія ўжо шмат зрабілі цікавых досьледаў сярод розных выдатных хворых і злачынных сем'яў. У Амэрыцы нават законадаўства стала на эўгенічны шлях, у некаторых штатах, некаторых злачынцаў і хворых стэрылізуюць для таго, каб яны не пакінулі пасьля сябе патомства. Стэрылізацыя выяўляецца ў тым, што асобам, ад якіх патомства не пажадана, пераразаюць—мужчынам семянныя канацікі, а жанчынам—халопіевы трубы. Гэта няшкодна для палавых процэсаў, але пазбаўляе магчымасьці пакідаць пасьля сябе патомства. Зараз ня будзем разглядаць, наколькі мэтазгодны такія сродкі, мы толькі зазначылі, што многія прыхільнікі эўгенікі супроць падобных сродкаў. У Амэрыцы, з мэтай пашырэньня эўгенічных ведаў, выдаюць шмат популярнай і навуковай літаратуры па пытаньнях аб эўгенічных шлюбах і спадчыннасьці. Эўгенічныя пытаньні там нават знаходзяць месца ў школе. Ужо было вышэй зазначана, што ў Англіі яшчэ Гальтон заснаваў пры унівэрсытэце лябораторыю, зараз там існуе цэлы шэраг розных гурткоў з досыць вялікімі сродкамі. Дзейнасьць ангельскіх эўгенічных організацый носіць выключна асьветны характар, нават гурток эўгеністых, організаваны яшчэ Гальтонам, надаў сабе такую назву: „Таварыства эўгенічнага выхаваньня“, гэтае ангельскае таварыства і кіруе ўсёй працай ангельскіх эўгенічных організацый.

У Нямеччыне эўгенічная організацыя з выгляду мае трохі нацыянальны характар, яна мае такую назву: „Нямецкае Таварыства Расавай Гігіены“. Гэтае таварыства складаецца з провінцыяльных нямецкіх таварыстваў, якія знаходзяцца амаль што ўва ўсіх гарадох Нямеччыны. Усе эўгенічныя таварыствы—нямецкія, ангельскія і амэрыканскія—зьяўляюцца прыватнымі організацыямі, але ад дзяржавы і асобных капіталістых яны атрымліваюць субсыды, і гэта дае ім магчымасьць весьці працу і выдаваць літаратуру. У Швэцыі створан спэцыяльны эўгенічны інстытут, які ўтрымліваецца на дзяржаўныя сродкі. У РСФСР пры Акадэміі На-

вук таксама існуе эўгенічнае бюро, якое стараецца пашырыць сваю працу, і з гэтаю мэтаю выдае спэцыяльную літаратуру, у якой зьмяшчаецца шмат цікавых вестак.

Абглядзеўшы сьцісла і популярна эўгеніку, як соцыяльна-прыродазнаўчую навуку, а таксама і тыя посьпехі, якія яна зрабіла за апошні час, нам застаецца паставіць пытаньне, ці патрэбны ў нас у БССР эўгенічныя організацыі. Каб адказаць на гэтае пытаньне, мы дамо весткі ў круглых лічбах аб нараджэньнях і сьмерцях на тысячу душ насельніцтва на абшарах быўшых губэрань Менскай, Віцебскай і Магілеўскай, якія з самага пачатку рэволюцыі амаль ня цалкам увайшлі ў склад нашае Рэспублікі.

| Колькасьць нараджэньня на 1000 душ. | | Колькасьць сьмярцей на 1000 душ. | |
|---|---|---|---|
| 1900—1901 г. | 44 душы | 1900—1901 г. | 25 душ |
| 1902—1904 „ | 43 „ | 1902—1904 „ | 24 „ |
| 1905—1907 „ | 40 „ | 1905—1907 „ | 22 „ |
| 1908—1910 „ | 38 „ | 1908—1910 „ | 20 „ |
| 1911—1913 „ | 38 „ | 1911—1913 „ | 19 „ |

Далей, да 1923 году статыстычныя весткі адсутнічаюць, але з гэтых вестак відаць, якая вялікая сьмертнасьць была на Беларусі, тут ня прыходзіцца дзівіцца, што ў нас невялікая колькасьць насельніцтва ў параўнаньні з другімі краінамі, бо фактычна прырост насельніцтва ў нас быў вельмі малы. Агульны лік жыхарства на тэрыторыі быўшай Расіі к 1914 году значна ўзрос, на 1000 душ прыходзілася 44 нараджэньні, а на Беларусі лік жыхарства штогодна зьмяншаўся, у 1913 годзе прыходзілася 38 нараджэньняў, значыць лік нараджэньняў у некаторых частках быўш. Расіі быў значна большы за 44.

У лічбах аб нараджэньнях ня ўзята пад увагу, што нейкі процант з ованароджаных будуць калекі і хворыя, і тады здаровы прырост насельніцтва будзе яшчэ меншы. Статыстычныя весткі яшчэ нам ня кажуць, якіх асоб больш паміраe, калі ў нас больш паміраe дзяцей, то тады перад намі стаіць няцікавая проблема, бо прыдзе такі час, што старое пакаленьне ў нас лічбова будзе ў многа раз больш за маладое, а гэта прывядзе к таму, што ў нейкі дзесятак год лічба насельніцтва адразу зьменшыцца на цэлыя мільёны, і гэта, бясспрэчна, будзе мець адмоўнае значэньне для ўсіх галін грамадзкага жыцьця.

З 1923 па 1925 год статыстычныя даныя даюць нам поўнае ўяўленьне аб нараджэньнях і сьмерцях сярод гарадзкога і вясковага насельніцтва:

Колькасьць нараджэньняў на 1000 душ.

| | 1923 г. | 1924 г. | 1925 г. |
|---|---|---|---|
| Сельск. мясц. | 37 | 39 | 41 |
| Гарадзк. „ | 37 | 33 | 33 |
| У Менску | 39 | 34 | 36 |

Колькасьць сьмярцей
на 1000 душ.

| | 1923 г. | 1924 г. | 1925 г. |
|---|---|---|---|
| Сельск. мясц. . . | 13 | 14 | 18 |
| Гарадзк. „ . . | 16 | 16 | 16 |
| У Менску . . . | 18 | 17 | 16 |

Зноў такі, колькі сярод нованароджаных здаровых, аб гэтым ніхто вестак ня зьбіраў, але з гэтых даных відаць, што лік нараджэньняў на Беларусі зьмяншаецца з кожным годам, за выключэньнем сельскіх мясцовасьцяй, дзе лік нараджэньняў пачаў падымацца да лічбы 1900 г., але затое там і лік сьмярцей з кожным годам пачаў узрастаць. Такая залежнасьць паміж сьмерцямі і нараджэньнямі кажа аб тым, што значная доля сьмярцей прыпадае на нованароджаных. У агульным і цэлым, калі ўзяць пад увагу розныя эміграцыі і перасяленьні, то прырост атрымаецца нявысокі, і ў некаторых раёнах магчыма што прырост не пакрые расходу. Калі ня будзем браць пад увагу эміграцый і перасяленьняў, то і тады ўбачым, што прырост жыхарства з кожным годам зьмяншаецца, пачынаючы з 1900 году.

Праўда, за апошнія два гады прырост жыхарства пачаў узрастаць, але ўсё такі гэты прырост далёка яшчэ не дасягнуў лічбаў 1900 году. Апрача зьмяншэньня прыросту, ёсьць яшчэ і другія соцыяльныя фактары, якія вельмі мала цешаць сваім існаваньнем: згодна даных Цэнтральнай Дзіцячай Амбуляторыі ў нас вельмі вялікі процант дзяцей школьнага ўзросту зьяўляецца ў большай ці меншай ступені хворымі. Гэтае пытаньне не павінна канчацца толькі тым, што доктар прапіша рэцэпт, яно павінна быць дасьледавана ў сувязі са спадчыннасьцю, але гэтая праца будзе не пад сілу аднаму чалавеку, будзь ён ці то доктар, ці настаўнік, для гэтага патрэбна цэлая організацыя людзей. На нашу думку было-б вельмі добра, каб пры ЦБ Краязнаўства была створана эўгенічная падсэкцыя, якая-б і занялася нарыхтаваньнем працы ў гэтай галіне ў цэнтры і па акругах. Калі мы лічым патрэбным вывучаць акаляючую нас беларускую прыроду і быт, то ня менш патрэбна і ня менш карысна вывучаць прыраджоныя ўласьцівасьці самога жыхара Беларусі.

Ня будзем зараз падрабязна маляваць працу, якою павінны будуць заняцца беларускія эўгеністыя, зазначым толькі на некаторыя асобныя моманты гэтае працы. Для шырокага азнаямленьня з мэтамі і задачамі эўгенікі патрэбна выдаць цэлы шэраг популярных брошур, нарыхтаваць пэрыодычную газэту альбо часопісь, сыстэматычна організоўваць лекцыі на фабрыках, заводах і ў вёсках. У галіне школьнага будаўніцтва патрэбна веды аб эўгеніцы так уплесьці ў агульны курс прыродазнаўства, каб дзеці, якія вывучаюць прыродазнаўства, пазнавалі і тыя законы, якім падпарадкаван чалавек, а гэта ўсё мела-б пэўны ўплыў на шлюбы.

У заключэньне трэба сказаць, што некаторыя з прадстаўнікоў прыродазнаўчых катэдр БДУ дазволілі сабе публічна выступіць з дакладам на тэму аб эўгеніцы і яе мэтодах; гэтыя даклады выклікалі ў прысутных вялікую цікавасьць і жвавы абмен думкамі; вось гэтая зацікаўленасьць з боку жыхарства кажа аб тым, што эўгенічныя пытаньні зьяўляюцца жыцьцёвымі пытаньнямі; яны, як відаць, больш цікавяць нашага жыхара, чымся расьсяленьне якое-небудзь аўсянкі альбо жыцьцё дразда і г. п. Нам, здаецца, было-б вельмі карысна і мэтазгодна стварыць эўгенічную організацыю, якая-б, з аднаго боку, вяла асьветную справу ў гэтай галіне, а з другога боку, вывучала-б прыраджоныя ўласьцівасьці нашага жыхара і тыя ўмовы, з дапамогаю якіх можна было-б палепшыць прыродныя якасьці будучых пакаленьняў.

# ЯПОНІЯ СЁНЬНЯ

## Л. Каган

У шэрагу папярэдніх нарысаў [1]) мы датыкаліся краін Усходу, якія перажываюць час нацыянальна-вызваленчай барацьбы, барацьбы з чужаземным імпэрыялізмам. Зусім адрозьнена сярод іншых усходніх краін—дзяржаў поўколёній—стаіць Японія. Яна сама ў цяперашні час адна з буйнейшых імпэрыялістычных дзяржаў у сьвеце, сама вядзе адносна памежных з ёю больш някультурных дзяржаў колёнізатарскую палітыку.

Заданьне гэтага невялічкага артыкулу—бліжэй пазнаёміць чытача з гэтаю далёкаю суседкаю СССР, яе экономікаю, унутранаю варожасьцю, палітыкаю. Вось-жа і па агульным прызнаньні—гэта пакрэсьліў і што нядаўна адбыўся VII пашыраны пленум Комінтэрну—новых непаразуменьняў і войнаў належыць чакаць якраз там, на Ціхаакіянскім узьбярэжжы, дзе скрыжоўваюцца інтарэсы буйнейшых імпэрыялістычных сусьветных драпежнікаў Японіі і Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатаў. І адно, што можа гэтай вайны не дапусьціць,—унутраныя выбухі ў гэтых недаступных мурох сусьветнага імпэрыялізму. Якія рэволюцыйныя прадбачнасьці ў Японіі? Што там спрыяе росту рэволюцыйных настрояў, што затрымоўвае рэволюцыю ў Японіі? Ніжэй пастараемся па магчымасьці адказаць на гэтыя балючыя пытаньні сучаснасьці.

I

Перш за ўсё—трошкі географіі.

Японія—краіна выспаў: яна налічвае на сваім абшары амаль што 600 выспаў, раскіданых паўздож Азіяцкага контынэнту і ў заходняй частцы Ціхага акіяну. Ляжаць гэтыя выспы паміж 21°45′ і 50°56′ паўночнай шырыні і 119°51′ і 156°32′ усходняй даўжыні. Галоўных выспаў чатыры: Хансю (альбо Ніппон), Сікоку, Кюсю і Хаккайдо (альбо Едзо). Астатнія выспы раскіданы па Ціхім акіяне на працягу больш чым на дзьве тысячы міль. Агульная плошча, якую займае Японія,—386 т. кв. кілёмэтраў. Жыве на ёй 58.481.500 чалавек (па зьвестках 1923 г.). На кожную сям'ю сярэднім лікам выпадае, гэткім чынам, у Японіі менш трох акраў. Японія—краіна з хутка ўзрастаючым гарадзкім насельніцтвам. Гэта відаць з наступнай табліцы [2]):

---

[1]) Гл. „Полымя“ за 1925 і 1926 год.

[2]) Лічбы ўзяты з кніжкі А. Папова—„Японія“.

| ГАРАДЫ | Насельніцтва ў 1898 г. | Насельніцтва ў 1920 г. |
|---|---|---|
| Токіё . . . . | 1.440.121 | 2.173.162 |
| Асака . . . . | 821.235 | 1.252.972 |
| Кіото . . . . | 353.139 | 591.305 |
| Нагоя . . . . | 244.145 | 429.990 |
| Кобе . . . . | 215.780 | 608.628 |
| Пакахама . . | 193.762 | 422.942 |
| Нагасакі . . | 107.422 | 176.554 |

І ўсё-ж такі гарадзкое насельніцтва складае ў Японіі толькі 20 проц. агульнай лічбы жыхарства, хлебаробствам-жа там займаецца 50 проц. насельніцтва.

Японія—краіна гарыстая, чым і тлумачыцца параўнаўча нязначная плошча апрацоўваемай у ёй зямлі: усяго 15 мільёнаў акраў.

Яе галоўныя горныя хрыбты: адзін—які ідзе праз Хакандо і паўночную Японію, другі—так званыя Куэлускія горы (праходзячыя цераз Кіушу, Шыкоко і Гоншу) і трэці—Фуджыйская горная купа. Багата Японія і вульканамі, сярод якіх самы большы (12.170 футаў вышыні),—японскі Вэзуві,—Фуджыяма.

Рэкі ў Японіі кароткія і шпарка бягучыя, прыгодныя дзеля суднаходзтва толькі ў сваіх нізавых частках.

Клімат, дзякуючы паветранай плыні, якая ідзе з Індыйскага акіяну, мяккі і спрыяючы для багатай флёры Японіі. Толькі Хакандо і паўночнаўсходняя частка Ганшу маюць суровы клімат.

Здабываюцца ў Японіі амаль што ня ўсе віды сельска-гаспадарчай вытворчасьці, і да рэволюцыі 1868 году Японія, можна сказаць, зусім ня ведала ніякага ўвозу і жыла па прынцыпу самаздавальненьня: амаль што за тры вякі кіраваньня роду Такугава (1603—1867) Японія не выпускала сваіх грамадзян за межы бацькаўшчыны і не дапускала ў Японію чужаземцаў.

Дзьве пераможныя вайны,—з Кітаем у 1894-5 гадох і з Расіяй у 1904-5 гадох,—значна павялічылі абшар уладаньня Японіі. Ад гэтага яна мела выспу Фармозу з люднасьцю ў 4 мільёны чалавек, Корэю з 17.5 мільёнаў жыхарства і паўднёвую частку Сахаліну ў 100 тысяч чалавек. Апроч гэтага Японія грунтоўна заснавалася на правах доўгатэрміновай арэнды на Ляадунскай паўвысьпе з горадам Порт-Артурам і Дальнім.

II

Цяпер аб мінулым капіталістычнага разьвіцьця Японіі. Дзьве прычыны—удалае географічнае становішча і надзвычайна шпаркі пераход краіны ад фэўдалізму да капіталізму—ня толькі збавілі Японію ад звычайнага лёсу ўсходніх дзяржаў—зрабіцца ахвярай імпэрыялістычных дзяржаў, але й дапамаглі таму, што Японія сама пачала іграць жывую ролю ў сусьветнай імпэрыялістычнай політыцы. А пераход Японіі ад фэўдальных форм гаспадараньня да капіталістычнай быў па сваёй шпаркасьці сапраўды дзіўным: за якія-небудзь два-тры дзесяткі гадоў пасьля падзеньня фэўдалізму краіна гэта ўзмацнела, што перамагла двух мацнейшых ворагаў—Корэю (у 1894-5 г.) і Расію (у 1905 г.) і, дзякуючы гэтым перамогам, прыстасавалася да сям'і „вялікіх дзяржаў“. Зразумела, у гэтым перараджэньні нічога цудоўнага няма яго падрыхтавала папярэдняе гістарычнае разьвіцьцё краіны,—гэта прызнае гісторык японскай духоўнай культуры Хага, які шукае тлумачэньня шпаркага капіталістычнага разьвіцьця Японіі ў працісканьні ў краіну на працягу трох тысячалецьцяў бліскучых культур Кітаю і Індыі і трох сталецьцяў культуры эўропэйскай; больш жыцьцёва—японскі прогрэс на грунце разьвіцьця ў краіне хлебаробства, саматужна-рамесьніцкай прамысловасьці, гандлёвага і ліхвярнага капіталу—тлумачыць японскі профэсар Сано.

Старасьвецкую вобшчынную гаспадарку ў Японіі фэўдалізм зьмяніў у X веку, а канчаткова замацаваўся ў XII-ым. Твар японскага фэўдалізму быў звычайны, мала розьніўся ад яго эўропэйскіх сабратаў; амаль поўная адмежаванасьць аднаго ад другога паасобных фэўдальных уладаньняў з прычыны панаваўшай у іх натуральнай гаспадаркі, заўсёдныя войны паміж буйнымі фэўдаламі—дайміо—за ўладу над краінаю, страшэннае абядненьне сялянства, як вынік гэтых прадвечных войнаў.

Аб'яднана была Японія пасьля шэрагу грамадзянскіх войнаў у пачатку XVII веку пад уладаю *сіагуна**) Такугава-Іеясу, які цэнтралізаваў кіраваньне краінаю і імпэратара паставіў у поўную фактычную ад сябе залежнасьць. Дынастыя Такугава з 1603 году пратрымалася да 1868 г., калі ў выніку рэволюцыі... зноў была зьвернута моц улады імпэратару. Сталіцаю гэтай дынастыі стаў горад Едо, перайменаваны пазьней у Токіё.

Фэўдальная імпэрыя Такугава грунтавалася на натуральна-гаспадарчым жыцьцёвым укладзе: самастойны дробны арандатар альбо селянін зямляўласьнік (яны складалі вельмі значную большасьць насельніцтва ў тую эпоху) павінны былі натурай аддаваць свайму фэўдалу 40—70% ураджаю. З другога боку, запатрабаваньне фэўдальнай арыстократыі на рэчы раскошы выклікалі і значнае разьвіцьцё рамяства, адмежаваньне апошняга ад зямляробства. Да рэчы—дзеля больш пэўнага выцісканьня

---

*) Сіагун—нешта накшталт вайсковага дыктатара, пры якім імпэратар карыстаўся толькі назваю вышэйшай улады. З XVII веку сіагунат альбо „бакуфу“ робіцца насьледным да 1868 году.

падаткаў з рамесьнікаў апошнія штучна злучаліся фэўдаламі ў асабістыя корпорацыі, якія пазьней перавярнуліся ў цэхі. Цэхі гэтыя дамагліся монополіі ў тэй ці іншай галіне рамесьніцкай альбо саматужнай вытворчасьці. Пры Такугава, з прычыны разьвіцьця рамесьніцкай вытворчасьці, робіцца магутны рост гарадоў. Урад пільна вартуе краіну ад праціскань-ня ў яе чужаземных купцоў і ад гандлю з імі сваіх уласных грамадзян. Але ўсё-ж багацьце Японіі расьце і ад дазволенага гандлю, і ад рамесь-ніцкай вытворчасьці ў сярэдзіне краіны, і ад контрабандных гандлёва-пра-мысловых сувязяй з Кітаем і Корэяй. Праўда—сіагуны, завіхаючыся, вы-пампоўваюць з купцоў значную частку іх прыбыткаў, але ўсяго пры-бытку гандлёвага капіталу ім забраць не ўдаецца: сыстэма монополіі, уведзеная Такугава і замацоўваўшая за асобнымі гільдыямі ці сем'ямі гандлёвыя правы ў вядомых мясцовасьцях, утварае вельмі спрыяючыя ўмовы дзеля абагачэньня. Побач з гэтым ідзе абядненьне масы вытвор-цаў, у значнай меры з прычыны росту ў Японіі ліхвярскага капіталу. Справа ў тым, што ў гэты момант нарастаньня ў краіне грашовай гас-падарчасьці, востра адчуваецца нястача ў грошах, для ліхвяроў выпадае выключна-спрыяючая магчымасьць браць вялізныя проценты за свае гра-шовыя пазыкі.

Між іншым—ліхвярскі капітал зьявіўся ў XIX веку ў Японіі і фак-тарам рэволюцыйным: ён у значнай меры дапамагаў разбурэньню фэў-дальнага ладу і падрыхтаваў глебу для разьвіцьця прамысловага капі-талізму. Натуральна з ліхвяроў Такугаўскага часу нарадзіліся буйней-шыя капіталістыя сучаснай Японіі: Кануікі Міцці і інш.

Такім спосабам—у другой палавіне мінулага сталецьця рэжым фэў-дальнай монархіі Такугава, пад унутраным націскам узмоцненага паволі ў краіне капіталізму і дзякуючы зьвязанаму з ім распластаваньню со-цыяльных груп фэўдальнага грамадзтва, цалком збанкрутаваўся.

Экономіка ўласьціва вымагала: „Laissez faiu, laissez passer", а Таку-гава ўпарта трымаў краіну замкнутаю, і толькі ў 1853 г. ўпяршыню даз-воліла, пад націскам гармат коммодора Перрі, амэрыканцам і іншым чужа-земцам ступіць на зямлю Японіі. (Да гэтага толькі ў Асака, у асобным квартале, дазвалялася жыць голяндзкім і кітайскім купцом і гандляваць-ня з прыватнымі асобамі, а з дзяржаўнымі гандлёва-прамысловымі орга-нізацыямі). Былі, як аб гэтым гаварылася раней, і ўсякія абмежаваньні для капіталістычнай дзейнасьці ўнутры краіны. Крызіс спрытна скарыс-тала опозыцыя мікадо, апрануўшыся ў вопратку лібэралізму.

Адбылася рэволюцыя ў 1868 г. Яна лёгка ўдалася дзеля таго, што стары рэжым амаль ня меў прыхільнікаў у Японіі. 3 і 4 студзеня 1868 г. ў ваколіцы Кіото трохтысячнае войска мікадо разьбіла дзесяцітысячнае войска Такугава. У студзені-ж мікадо быў каранаваны, і пачалася гэта рэформа ў краіне (1868—1894 г.г.) Галоўныя з гэтых рэформ?

Найперш за ўсё прынятая ўрадам у студзені-ж 1868 г. так званая „Вялікая хартыя“, грунтоўныя пункты якой: 1) прадстаўніцкае кіраваньне краінаю, 2) належаць да адмены „дзікія звычаі мінулага часу, і грамадзянскае жыцьцё павінна быць заснавана на натуральных прынцыпах, 3) Імпэрыя Мікадо павінна будавацца на грунце ведаў і навукі“ *).

І Японія сапраўды, не на словах толькі пазнаецца з цывілізацыяй, зачэрпанай за межамі сваёй дзяржаўнасьці. Фэўдальныя перажыткі разбурваюцца шпарка і бязьлітасна. Урад конфіскуе ўсе вялікія фэўдальныя маёнткі без заплаты ўладаром, а правы ўласнасьці на зямлю перадае яе фактычным карыстальнікам—сялянам.

Кляса самураеў, насьледная вайсковая каста, касуецца, для абароны краіны заводзіцца абавязковая вайсковая павіннасьць. Гэтаю мераю поўмільённая маса дваран, жыўшых уперад за кошт людзей, прымушаецца зарабляць сабе харчаваньне ўласнай працаю.

Нарэшце, адмяняюцца ўсякія прывілеі і монополіі ў галіне вытворчасьці і гандлю, здымаецца забарона для асоб ніжэйшага стану жаніцца на жанчынах вышэйшай клясы, забараняецца крывавая помста і „Харакіры“ (самагубства праз распорваньне сабе жывата).

Урад энэргічна насаджвае пісьменнасьць і асьвету.

Вядома, было-б абмылкаю з сказанага рабіць вынік, што Японія робіцца ў рэзультаце рэволюцыі 1868 году зусім дэмократычнаю краінаю. Гарматныя стрэлы 1868 г. і барацьба паміж прогрэсыўнымі і консэрватыўнымі элемэнтамі, даходзячая часамі да грамадзянскай вайны ў 70-ых і 80-ых гадох, пераварочваюць Японію к 90-ым гадом мінулага сталецьця ў канстытуцыйную монархію з даволі такі куртатымі свабодамі. Гэтак, выбарнымі правамі там к канцу мінулага веку пачынаюць карыстацца толькі 900 т. чалавек з 50 мільёнаў насельніцтва (між іншым, і зьмяніўшае фэўдалаў на зямлі больш заможнае сялянства—тая яго частка, якая плаціла пазямельнай рэнты ня менш 15 іен), мікадо асабова безаказны, парлямант—установа хутчэй законадарадчая, чымся законадаўчая, апроч парляманту існуе яшчэ палата вобшчын і палата насьледных законадаўцаў краіны—пэраў. І ўсё-ж гэтых рамак аказваецца, як мае быць, даволі для вялізарнага разьвіцьця капіталізму ў Японіі.

Першымі пасьля падзеньня дынастыі Такугава пачынаюць засноўваць фабрычна-заводзкія прадпрыемствы ў Японіі чужаземцы, потым, пры актыўным падтрыманьні дзяржавы, за гэту справу пачынае брацца і больш заможнае тамашняе насельніцтва. Пачынаюць узьнікаць баваўнянапральныя фабрыкі, гарбарні, папяровыя фабрыкі, гуты, цэмантовыя фабрыкі.

Вось некалькі лічбаў, азначаючых рост капіталізму ў Японіі ў час да вайны з Кітаем 1894 году:

*) Узята з кніжкі „Современная Японія“ Сен-Катаяма.

1) Ядвабу-сырцу з Японіі ў 1884 г. было вывезена на 11 міл. іен, у 1888 г.—на 26 мільёнаў іен.

2) Ядвабнай тканіны вывезьлі з краіны ў 1884 г. на 170 т. іен, у 1888 г.—на 1.680 т. іен.

3) Агульная сума штогодняга вывазу і ўвозу, складаўшая паміж 1878—1885 гадамі прыблізна 60 міл. іен, у 1886 годзе дасягае 81 міл., а ў наступныя гады—100 і нават 130 мільёнаў іен.

Японія, зразумела, узмацняецца ў зьвязку з гэткім разьвіцьцём у ёй капіталізму, яе пачынаюць „паважаць“ дзяржавы, з ёю пачынаюць рабіць роўнапраўныя ўмовы. Асабліва глыбокаю гэта „павага“ робіцца пасьля Кітайска-Японскай вайны, якая прынесла Японіі вялізныя матэрыяльныя выгады.

Наогул, гэтыя войны—свайго роду Рубікон дзеля японскага капіталізму. Калі ён шпарка рос і раней, дык цяпер, пасьля вайны 94-95 г.г., тэмп гэтага росту становіцца гэтакім, што робіць Японію тыповаю імпэрыялістычнаю дзяржаваю. Для яснасьці—зноў некалькі лічбаў.

У 1894 г. ў Японіі было 40 тэкстыльных фабрык эўропэйскага тыпу, з лікам верацён 382 тыс. і выпрацоўкаю 39 мільёнаў кіло пражы ў год. Праз чатыры толькі гады гэтакіх фабрык ужо 72 з 1.146.000 верацён, і вырабляюць яны 126 мільёнаў кіло пражы ў год. За гэта-ж чатырохгодзьдзе вырастае ўдвая выраб ядвабу. Вываз каменнага вугалю ў час 1896—99 г.г. лікам учацьвярыўся, а па агульнай каштоўнасьці павялічыўся ў 6 разоў. Гандлёвых параходаў Японія ў 1880 г. мела 210, зьмяшчаўшых 41.209 тон, а ў 1899 годзе—1.221, зьмяшчаўшых 315.168 тон. Разьмеры замежнага гандлю, якія ў 1887 г. раўняліся 96,7 мільёна іен, к 1900 г. дасягаюць поўмільярда іен. Агульны лік фабрык у Японіі ў 1894 г. складаў 2.409, у 1895 г. іх ужо было 2.758, у 1896 г.—3.037.

І прогрэс гэты паступова атрымоўвае яшчэ два магутных штурханцы—пасьля пераможнай вайны з Расіяй у 1904-5 г.г. і ў час імпэрыялістычнай вайны, калі Японія на час зрабілася поўным верхаводцам на азіяцкім сухазем'і.

Захад японскага капіталізму пачынаецца толькі пасьля імпэрыялістычнай вайны, і, тым больш, пасьля зямлятрасеньня 1923 г.

Але больш падрабязна аб экономіцы сучаснай Японіі і пэрспэктывах японскага капіталізму ў наступным разьдзеле.

## III

Твар сучаснага японскага капіталізму?

Прасочым яго па асобных галінах прамысловасьці.

Прамысловасьць гарадзкая. Гэта—Ахілесава пята Японіі: уласных запасаў сырцу ў яе мала, і гэтым у значнай меры і тлумачыцца імкненьне Японіі на азіяцкае сухазем'е.

У Японіі надзвычайна мала ўласнага жалеза, вугалю, нафты—багата Японія толькі „белым вугалем“—нязьлічонымі дужымі вадаспадамі, шырока выкарыстанымі для мэт электрыфікацыі.

Некалькі лічбаў, выяўляючых японскую горную прамысловасьць: у 1920 годзе ў Японіі было здабыта 25.394.671 тона вугалю, на Фармозе—1.139.358, на Корэі—289.056; лічбы гэтыя амаль не зьмяняліся і ў наступныя гады.

Нязначная ў Японіі і здабыча нафты: у 1923 г. здабыта 1.505.067 коку (1 коку—39,7 галлона). Толькі па здабычы медзі Японія займае пачэснае месца—другое на сьвеце: у 1921 годзе ў ёй было здабыта 66.003 тоны медзі.

Апрацоўваючая прамысловасьць. Тут, па статыстыцы 1920 году 45.806 фабрык, з лікам рабочых больш 5-ці.

Першае месца сярод іншых галін прамысловасьці, як гэта будзе відаць з табліцы, займае тэкстыльная.

| Вытворчасьць | Лік | З іх маюць рухачы. |
|---|---|---|
| Тэкстыльная | 18.093 | 12.588 |
| Машынабудаўнічая | 6.245 | 5.081 |
| Хэмічная | 5.589 | 2.848 |
| Харчовая | 7.771 | 4.164 |
| Усякая | 7.833 | 4.852 |
| Электрычная, газавая і інш. | 345 | 327 |
| Усяго | 45.807 | 29.855*) |

Гэта апроч надта буйных дзяржаўных прадпрыемстваў—арсэналаў, вэрфаў, сталяліцейных заводаў, якіх таксама налічваецца звыш паўтары сотні.

Наогул-жа самымі буйнымі, як па абсталяваньню, гэтак і па суме ўложанага ў іх капіталу, зьяўляюцца ў Японіі тэкстыльная, горнапрамысловая, электратэхнічная і суднабудаўнічая вытворчасьць. Вось табліца параўнаўчай каштоўнасьці здабычы японскай апрацоўваючай прамысловасьці ў 1920 годзе.

| Вытворчасьць. | Каштоўнасьць у іенах. |
|---|---|
| Тэкстыльная | 2.487.494.000 |
| Машынабудаўнічая | 965.246.000 |
| Хэмічная | 933.926.000 |
| Харчовая | 787.086.000 |
| Усякая | 482.050.000 |
| Электрычная, газавая | 184.650.000 |
| Рэчы мастацтва і інш. | 135.085.000 |
| Усяго | 5.943.543.000 |

*) Лічбы ўзяты з кніжкі А. Папова „Японія“.

Страшны ўдар японскаму капіталізму прычыніла зямлятрасеньне 1923 г. (1-га верасьня). Ад яго панесьлі пакуту 6 профэктур: Канагава, Ціба, Яманаш, Сайтама, Сідзуока і Ібаракі. Па ўрадовых толькі зьвестках (бяссумненна, шмат зьменшаных) разбурана было зямлятрасеньнем 706.624 будыніны і забіта 160 тысяч чалавек.

Вось як адчулася зямлятрасеньне на прамысловасьці Японіі.

| Прамысловасьць | Лік разбураных фабрык | Лік рабочых. |
|---|---|---|
| Тэкстыльная | 558 | 88.181 |
| Машынабудаўнічая | 383 | 55.780 |
| Хэмічная | 202 | 21.782 |
| Харчовая | 111 | 7.771 |
| Газавая, электрычная | 13 | 1.297 |
| Усякая | 200 | 22.495 |
| Усяго | 1.467 | 197.306*) |

Як вынік сусьветнай вайны і зямлятрасеньня 1923 году належыць адзначыць рост *згуртаваньня* капіталізму ў Японіі. У значнай меры згуртаваньне гэта тлумачыцца тым, што некалькі концэрнаў мелі пасьля зямлятрасеньня ад ураду монополію на адбудоўчую працу ў разбураных раёнах. Вядома, гэта не адна толькі прычына: тут маюць месца звычайныя экономічныя фактары, вымагаючыя згуртаваньня капіталу, толькі падвоеныя памянёнаю прычынаю.

Гэтакім чынам, у цяперашні момант Японія—краіна буйнейшых капіталістычных концэрнаў. Сярод іх належыць адзначыць перш-на-перш корпорацыю Міцубісі (Міцубісі Госі Капся), на чале якой стаяць мільянэры Івасакі. У склад гэтага концэрну ўваходзяць: суднабудаўнічае і машынабудаўнічае таварыства (Міцубісі Дзонен Капся), буйнейшая вывозна-ўвозная гандлёвая кампанія (Міцубісі Сіодзі Капся), банк Міцубісі (Міцубісі Гінко) з капіталам у 50 мільёнаў іен. Капіталы гэтага концэрну складаюць некалькі сот мільёнаў іен. Іншыя буйныя японскія концэрны— кампанія Міцуі з капіталам звыш 300 мільёнаў іен, кампанія Ясуда, кампанія Судзукі (амаль што монопольшчыкі на высьпе Фармоза), Сумітома Фудзіта і інш.

Значыць, Яопнія—тыповая капіталістычная краіна, адзіная імпэрыялістычная „жоўтая" імпэрыя ў сьвеце. Але ўсё-ж ёсьць шэраг прычын

*) Лічбы ўзяты з кніжкі А. Папова „Японія".

чыста экономічнага характару—апроч нутраных клясавых непагоджанасьцяй (аб іх яшчэ гутарка наперадзе), якія сьведчаць з бяссумненнасьцю, што японскі капіталізм уваходзіць у паласу захаду. Якавы гэтыя прычыны? Г. Гані ў сваёй прыгожай кніжцы „Капітал і праца ў Японіі“ лічыць найгалоўнейшымі прычынамі пэрманэнтнага крызісу, які ва ўвесь пасьляваенны час перажывае Японія, наступныя:

1) Нутраныя: шпаркае павялічэньне насельніцтва; няспрыяючыя вынікі протэкцыяніцкай політыкі (дарагоўля тавараў); вялікія падаткі, якія ідуць пераважна на мілітарыстычныя мэты; агульнае павышэньне жыцьцёвага ўзроўню (выкліканае выключна-спрыяючымі абставінамі, у якіх апынулася Японія ў час імпэрыялістычнай вайны і якія мінуліся разам з вайною); адсутнасьць сырцу для экспортных галін прамысловасьці (як аб гэтым ужо гаварылася раней, Японія надзвычайна бедна нафтаю і вугалем).

2) Прычыны міжнароднага характару: конкурэнцыя з боку таннай кітайскай працы; разьвіцьцё прамысловасьці ў Кітаі, Індыі і іншых заняпалых краінах Азіі; конкурэнцыя з боку Англіі і Амэрыкі.

Важнейшаю зброяю японскага капіталізму ў яго барацьбе на міжнароднай арэне была танная праца. Вось дзеля чаго ў Японіі выраблялися грубыя тавары, не патрабуючыя вялікай вывучкі: тоўстая пража, ядвабны сырэц, медзь і сурма ў выглядзе руды; рэчы поўручное вытворчасьці: шчоткі, забаўкі. Але танная праца ў Японіі ў апошнія гады перастала быць таннаю, а больш танная кітайская праца пачынае выпіхаць японскія вывазныя тавары з сусьветнага рынку.

І вынікі цяжкага экономічнага становішча, якое перажывае цяпер японская грамадзянская гаспадарка, ужо пачынаюць выяўляцца: мы ў ёй наглядаем пэрманэнтную тэндэнцыю перавагі ўвозу над вывазам—усё больш зьніжаецца вываз гэтакіх тавараў, як запалкі, вееры, вырабы з бамбуку; усё ўздымаецца ўвоз у Японію рэчаў нутранога ўжываньня з Кітаю і Амэрыкі—парасонаў, дрыўляных чаравікаў, зубачыстак і г. д.

Аднэй з важнейшых рэчаў японскага экспорту была баваўнянапапяровая тканіна для кітайскага рынку. Гэтаму экспорту нанесла сьмяротэльны пабой разьвіцьцё прадзільнай прамысловасьці ў Кітаі. Кітайская пража нават пачынае пранікаць у Японію.

Японія была буйнейшым вытворцам медзі, займаючы ў гэтай вытворчасьці другое месца пасьля Злучаных Штатаў Амэрыкі. Цяпер японскай медзі на сусьветным рынку няма зусім—больш гэтага—Японія сама ўвозіць медзь з-за межаў.

Побач з экономічным крызісам ідзе і разбурэньне японскага імпэрыялізму. Ужо памянёныя прычыны і ў дадатак злосны пабой землятрасеньня 1923 году выбілі на час (а можа і назаўсёды) Японію з тых позыцый, на якіх яна трымалася ў гады імпэрыялістычнай вайны. Вось

важнейшыя дыплёматычныя няўдачы Японіі за апошнія гады: адмова Японіі ад абароны сваіх інтарэсаў у Цындао; данае права Амэрыцы на фортыфікацыйныя работы на Ярскіх выспах; скасаваньне „дагавору Ішы-Лансінга“ (адмова Японіі ад асабістых інтарэсаў у Манжурыі і Монголіі); уступка японскага ўраду ў пытаньні аб эміграцыі японцаў у Амэрыку. Паказальны факт саветапрыхільніцкіх настрояў буйнейшых імпэрыялістычных дзеячоў Японіі—Гото, Кото, Кавекамі—прыгожае праканаьне не рэволюцыйнасьці, вядома, гэтых дзяржаўных мужоў, а поўнай самотнасьці (ізоляванасьці) Японіі. Аднак-жа, цяжкі крызіс, які перажываецца японскім капіталам, далёка не сустракае надзейных да сябе адносін з боку саміх капіталістых. З адвагаю адчаю вядуць яны барацьбу за сваю ўладу над краінаю, і вядуць барацьбу не бяз посьпеху. Але да ўсіх ужо пералічаных прычын, якія запынілі ў астатні час японскі капіталізм у кутох, далучылася яшчэ адна—самая істотная, якой капіталістым ніяк ня здолець і якая, у канчатковым рахунку, прывядзе да пераможнай рэволюцыі ў краіне. Гэта—рост самадзейнасьці японскага пролетарыяту.

## IV

Дзе шырока разгарнулася прамысловасьць, дзе разьвіцьцё яе ішло шпаркім тэмпам—там, натуральна, існуе і шматлікая рабочая кляса. А паколькі японскі капіталізм, пасьля шалёнага росту ў гады імпэрыялістычнай вайны, уступіў у працяжны пэрыод дэпрэсіі, там павінна была ўтварыцца глеба для вялікіх клясавых спатычак. Разглядам гэтага пытаньня мы і займемся ў гэтым разьдзеле.

„Няхай паны эксплёататары пасьпяшацца, іх дні пералічаны. Блізка час, калі і тут, як і ўсюды, згода паміж працаю і капіталам будзе парушана... У японцаў, як і ў кітайцаў, дух аб'яднаньня, дух згоды вельмі багаты; у гэтым сэнсе яны добра ўзброены дзеля барацьбы. Запатрабаваньні павялічваюцца, дарагоўля расьце. Цярплівасьць, цярплівасьць. Японія таксама будзе перажываць свой соцыяльны крызіс“ (Жак Доск—„Сучасная Японія“). Гэта піша буржуа—вандроўшчык па Японіі яшчэ ў 1893 г., і піша ня так сабе: апроч легальных шляхоў, рабочыя саюзы пачынаюць узьнікаць у Японіі ўжо з 1882 году, прычым паперадзе заўсёды ішлі рабочыя паўночнай Японіі.

„Рабочыя поўначы—піша Жорж Вэплерс у сваёй „Японіі сёнешняга дня“—гэта сьмятана японскага пролетарыяту. Суровы клімат умацоўвае натуры; работа больш суровая, больш напружаная, прымушаючы да адпачынку, дае магчымасьць карыстацца вядомым вольным часам. А больш простае, менш лёгкадумнае жыцьцё зьяўляецца прычынай таго, што вольны час і грошы ня трацяцца на забавы. Замест забаўляньня паўночнікі больш чытаюць, больш размышляюць. І рабочыя, будучы менш шматлікімі, могуць лягчэй дыхтаваць свае ўмовы наймаючым. На поўдні, наадварот, паміж рабочымі злосная конкурэнцыя з-за працы;

расьпешчваючы мяккі клімат і лёгкія натуры; праца без напружанасьці, але й без адпачынку. І рабочая маса на паўдні больш адсталая".

Але перш за ўсё праўдзівыя даныя аб японскім пролетарыяце, яго ліку, складзе, умовах жыцьця.

Трэба гэта адзначыць—у адменнасьць ад хаотычнай кітайскай статыстыкі—японская рабочая статыстыка на вышыні. Вось шэраг найбольш цікавых даных па цікавячаму нас пытаньню *).

Пачнем з табліцы, якая характарызуе склад 11-мільённай рабочай арміі Японіі ў 1924 г.

| Катэгорыі рабочых | Лік рабочых |
|---|---|
| Сельска-гаспадарчая | 3.117.582 |
| Фабрычна-заводзкая | 1.833.282 |
| Саматужнікі | 1.619.000 |
| Рабочыя рыбнай прамысловасьці | 1.335 555 |
| Транспортнікі | 1.240.005 |
| Рабочыя лясной прамысловасьці | 715.705 |
| Сталяры, брукары, цесьляры | 688.262 |
| Гарнякі | 439.159 |
| Рабочыя салянай прамысловасьці | 47.221 |
| Усяго | 11.035.771 |

Пры гэтым, з амаль што двухмільённай арміі фабрычна-заводзкіх рабочых, прыкладам, 45% выпадае на занятых у тэкстыльнай вытворчасьці—818.975 чалавек. Жанчын у гэтай арміі таксама значны процант—824.303 на агульны лік 1.833.282 фабрычна-заводзкіх рабочых.

Заработак японскага рабочага? Ён вельмі вырас у гады прамысловага ўздыму, выкліканага імпэрыялістычнаю вайною 1914 году, але яшчэ больш узрасла дарагоўля (ня гледзячы на рост заработку ў 2½ разы супроць даваеннага часу, пакупная яго здольнасьць у цяперашні час ня толькі ня больш, але нават на 30% ніжэй праўдзівага даваеннага заработку). Вось даныя зборнай справаздачы Асакскай Гандлёвай палаты аб заработках японскага рабочага, распублікаваныя ў 1923 годзе.

*) Табліцы і лічбы ўзяты з 1) Г. Тоні—„Капітал і праца ў Японіі.
2) А. Папоў—„Японія".
3) Сэн-Катаяма—„Сучасная Японія".

| Катэгорыя рабочых. | Заработак у дзень у іенах і сэнах. |
|---|---|
| Пральлі | 1.10 |
| Ткачыхі | 0.90 |
| Вязальніцы | 1.67 |
| Мельнікі | 1.33 |
| Рабочыя меднай вытворчасьці | 2.98 |
| Сталяліцейнікі | 2.23 |
| Бляхары | 2.40 |
| Рабочыя-электрыкі | 2.05 |
| Рабочыя па суднастройнях | 2.31 |
| Рабочыя на гутах | 2.33 |
| Рабочыя запалачных фабрык | 2.35 |

Зьвесткі тэй самай палаты аб даўжыні рабочага дня ў Асака:

1) Тэкстыльшчыкі . . 10 гадзін.
2) Мэталістыя . . . 9 „
3) Хэмікі . . . . $9^1/_2$ „
4) Краўцы . . . . 12 „
5) Друкары . . . . $9^1/_2$ „
6) Будаўнікі . . . 10 „
7) Рабочыя дзяржаўных прадпрыемстваў . . . 10 „

Гэта—у Асакі, самым буйным прамысловым цэнтры Японіі. Наогул-жа сярэдняя даўжыня рабочага дня ў Японіі 11-12 гадзін, а ў прамысловасьці саматужнай 13-15 гадзін.

Дадамо да ўжо сказанага, што кватэрны крызіс у Японіі, асабліва пасьля зямлятрасеньня, жудасны, і на кватэру рабочы траціць непамерна вялікую частку свайго прыбытку. І ў давяршэньне ўсяго асабліва востра адчуваецца ў апошнія 5-7 гадоў беспрацоўе—2 мільёны беспрацоўных у 1924 годзе (лік іх у цяперашні час бяссумненна большы) пры надзвычайна абмяжованых эміграцкіх магчымасьцях—у Амэрыку японцаў амаль што ня ўпускаюць, а блізка ляжачыя краіны—Філіпіны, Гавая, Голяндзкая Індыя ўжо і бяз гэтага перапоўнены збыткам японскага і кітайскага насельніцтва.

Праўнае становішча рабочага? Японскае рабочае законадаўства?

Толькі ў 1916 годзе ў Японіі прымаецца закон, некалькі абмяжоўваючы выкарыстаньне жаночай і дзіцячай працы. Згодна гэтаму-ж закону працоўны дзень не павінен перавышаць 12 гадзін, але да яго маецца шэраг абмовак, якія прыводзяць да нічога самы закон: гэтак, тэкстыльная прамысловасьць, грунтоўная ў Японіі, выключана з ведама гэтага закону на 15 гадоў; у другіх галінах вытворчасьці таксама дазваляецца праца звыш 12 гадзін, але ня больш 7 дзён у месяц.

У Японіі да самага нядаўнага часу—1924 году—праводзіўся ў жыцьцё закон, выданы ў 1900-м годзе, згодна 17-га артыкулу якога зусім забараняюцца забастоўкі і падбухторваньне да іх. Згодна гэтага закону правадыры і дзейныя кіраўнікі забастовак належаць да арышту і да высідкі ў турме на 6 мес.

У 1924 годзе выпрацаван Соцыяльным Бюро Міністэрства ўнутраных спраў новы закон у адмену памянёнага закону 1900 году, закон, згодна якога легалізуюцца профэсыянальныя організацыі Японіі, але адначасна ўтвараецца падпольны контроль ураду. Вось дзеля прыкладу некалькі, наўгад узятых, артыкулаў гэтага дзіўнага закону:

Пункт II. Асоба, якая зьяўляецца прадстаўніком саюзу, роўна, як і статут гэтага саюзу, павінны быць зарэгістраваны ў канцылярыі начальніка адпаведнай профэктуры.

Пункт IV. Начальнік профэктуры мае права патрабаваць ад саюзу справаздачы ў яго дзейнасьці, а гэтак сама справаздачы аб яго грашовым становішчы.

Пункт V. Начальнік профэктуры мае права загадаць усякаму саюзу скасаваць тую ці іншую яго пастанову альбо праведзеныя ім выбары, калі, па яго думцы, апошнія пярэчаць статуту саюзу альбо закону ўсяе дзяржавы.

Тлумачэньні да гэтага „дэмократычнага“ закону будуць залішнія. Ня гледзячы на вялікія протэсты рабочых, парлямант гэты закон замацаваў. Да-рэчы, мы ня ўспомнілі яшчэ аднаго пункту гэтага закону, згодна якога супроцьдзяржаўная агітацыя караецца турмою ня звыш 7 гадоў. Вось якое, у самых агульных рысах, матэрыяльнае і праўнае становішча японскага рабочага. Натуральна, яно не прабуджвае ў ім асабістых сымпатый да капіталістых. Мы ня будзем у нашым невялічкім нарысе датыкацца грамадзянскіх організацый, узьнікаўшых яшчэ на зары рабочага руху ў Японіі. Пачнем проста з тых сярод іх, якія пачалі будавацца рукамі саміх рабочых у эпоху прамысловага росквіту. Гэта ўзьнікшы яшчэ ў 1887 годзе ў Токіё Сінко Гулло—саюз мэталістых, моцна вырасшы ў наступныя гады, які організаваў каля 40 сваіх аддзяленьняў у розных гарадох Японіі. Амаль што адначасна з Сінка Гуллі ўзьнікаюць у Японіі яшчэ некалькі саюзаў—гарнякоў, друкароў, накладчыкаў і г. д. У 1899 годзе організавалася ў Японіі „Грамада для падрыхтоўкі організацыі профэсыянальных саюзаў“, налічваўшая каля 6.000 чалавек.

„Братэрскі сход рабочых“—масавая дэмонстрацыя, якая адбылася ў Токіё 3-га красавіка 1901 году і прыгарнула да сябе 30.000 чалавек, паказвае, што ўжо ў першыя гады нашага веку японскія рабочыя сябе клясава зразумелі.

Наступленьне імпэрыялізму (гэта было напярэдадні Расійска-Японскай вайны) прыдушыла законам 1900 году малады рабочы профэсыянальны рух у Японіі.

Троху пазьней профэсыянальных саюзаў узьнікае ў Японіі с.-д. партыя. Яна арганізавалася ў маі 1902 году.

Расійска-Японская вайна 1904 году для маладой японскай соцыялдэмократыі была тым самым, чым сусьветная вайна зрабілася для соцыял-дэмократыі нямецкай. Сьпярша яна аднадушна гаварыла на старонках свайго поўофіцыяльнага органу—„Манго"—супроць вайны. Але перад самаю вайною „Манго" зьмяніла супроцьваенную позыцыю на абарончаскую, а сапраўдна рэволюцыйныя элемэнты японскай соцыялдэмократыі заснавалі „Соцыялістычную Партыю Японіі", органам якой зрабіўся „Хэймін" („Народ").

Адважныя „Хэймінцы" не пакідалі сваёй супроцьваеннай пропаганды і за гэта сталі прадметам ненавіснасьці капіталістычнага ўраду. Іх пачалі бязьлітасна ўціскаць, а нарэшце, зьліквідавалі зусім вядомым „процэсам Катаку", які закончыўся караю сьмерці 24 самых дзейных „хэймінцаў".

Гэтак прыдушыў Японскі ўрад малады рабочы рух аж да 1914 г.

З восені 1915 году, дзякуючы вайне паміж сусьветнымі капіталістычнымі драпежнікамі, для японскай прамысловасьці пачынаецца „залаты век". За час вайны ў Японіі зьявілася 5.316 новых фабрык, і лік рабочых, занятых вытворчасьцю, павялічыўся на 596.200 чалавек. Адначасна ідзе ня меншы рост ліку рабочых і на транспорце, у горнай прамысловасьці і г. д.

Зьявіліся nouveau-riche'ы, зьявілася надта добра аплачваемая рабочая арыстократыя, але каштоўнасьць рэчаў першай патрэбы ўзьнялася ў 3-4 разы, і, ня гледзячы на павышэньне і заработку, жыцьцёвыя ўмовы рабочай клясы ў агульным рэзка пагоршыліся.

У выніку—агульнанацыянальнае паўстаньне, амаль што рэволюцыя, вядомае пад назваю „рысавых бунтаў" улетку 1918 г. Тры тыдні, з 3 жніўня 1918 году, у 33-х провінцыях, з агульнага ліку 47, адбываліся масавыя выступленьні, за якімі ішло зруйнаваньне харчовых крам і палацаў багацеяў.

Каб разбурыць паўстаньне, было мобілізавана 10 дывізій. 7.813 чалавек былі асуджаны на розныя тэрміны катаргі і турмы за ўдзел у бунтах, некалькі чалавек былі асуджаны на сьмерць.

„Рысавыя бунты"—толькі найвышэйшы пункт тых рэзка-опозыцыйных настрояў, якімі былі ахоплены японскія рабочыя ў ваенны і пасьляваенны пэрыод. Аб гэтым сьведчыць рост забастовачнага руху ў час з 1912 году. Прыводзім для відавочнасьці табліцу гэтага росту.

| Год | Лік забастовак | Лік бастуючых |
|---|---|---|
| 1912 . . . | 49 | 5.736 |
| 1913 . . . | 47 | 5.242 |
| 1914 . . . | 50 | 7.904 |
| 1915 . . . | 64 | 7.852 |
| 1916 . . . | 108 | 8.413 |
| 1917 . . . | 398 | 57.309 |
| 1918 . . . | 417 | 66.457 |
| 1919 . . . | 497 | 63.137 |
| 1920 . . . | 282 | 36.371 |
| 1921 . . . | 346 | 58.225 |
| 1922 . . . | 250 | 41.503 |
| 1923 . . . | 263 | 35.126 |
| 1924 . . . | 274 | 46.710 |

Хто кіраваў у Японіі рабочым рухам?

Сьпяршапачатку ідэолёгамі гэтага руху былі анарха-сындыкалістыя. Буйнейшыя з іх—Асугі (забіты ў час зямлятрасеньня), Ямакова, Арахата (цяпер самавітыя бальшавікі). Але вялікая расійская рэволюцыя вызваліла правадыроў японскага рабочага руху ад анарха-сындыкаліцкіх ілюзій, штурханула іх на праўдзівы шлях рэволюцыйнага марксызму.

У 1920-м годзе організавалася Японская Соцыялістычная Ліга (Ніпон Шакайшугі Дамэй), аб'яднаўшая каля 3.000 чалавек—першая ў Японіі пасьля разгрому 1911 г. рэволюцыйная рабочая організацыя. Яна поўлегальна праіснавала да мая 1921 году, калі канчаткова была зьліквідавана ўрадам.

Належыць адзначыць, што ў Соц. Лізе ўвесь час яе існаваньня вялася барацьба паміж анарха-сындыкалістымі і комуністымі, якая скончылася поўнаю ідэолёгічнаю перамогаю апошніх: у цяперашні час анархасындыкалізм амаль што ня мае глебы ў японскім рабочым руху.

Трэба гэтак сама памятаць, што ў 1921 годзе зложылася японская комуністычная партыя.

Напэўна, становішча японскага капіталізму было-б сапраўды трагічным, калі-б да яго паслугі ня было спрактыкаванага хаўрусьніка-соцыялрэформізму. Яго няпрыступнае месца—Японская Фэдэрацыя Працы—

буйнейшая саюзная арганізацыя Японіі *). Барацьба ўнутры гэтай Фэдэрацыі прыняла асабліва завостраны характар на XIV-м зьезьдзе яе ў сакавіку 1925 году. Спрэчкі адбываліся па пытаньні аб арганізацыі новай рабоча-сялянскай партыі, прычым рэформістыя націскалі на тое, што гэта партыя павінна вырасьці з самой Фэдэрацыі і заставацца пад яе контролем, левае-ж крыло націскала на тое, што партыя не павінна быць політычнаю зброяю профэсыянальных саюзаў. Спрэчкі скончыліся выключэньнем 29 левых саюзаў са складу Фэдэрацыі. Выключаныя саюзы ў супроцьвагу рэформіцкай Японскай Фэдэрацыі Працы ўтварылі Японскі Савет Профэсыянальных Саюзаў (Ніхон Шакайшугі Домей), які вабіць да сябе ўсё больш і больш спагаду японскага пролетарыяту.

Трэба аддаць праўдзівасьць японскаму соцыял-рэформізму: ён дзейна і энэргічна працуе на карысьць капіталізму бацькаўшчыны. Японскі Вандэрвэльдэ—гр-н Судзукі, старшыня Японскай Фэдэрацыі Працы, трымае моцную сувязь з Амстэрдамам, організаваў Далёкаўсходні Аддзел Рабочага Бюро пры Лізе Нацый, разаслаў запрашэньні на пан-азіяцкую „рабочую“ конфэрэнцыю. Таварышы па працы гр-на Судзукі—вартыя яго памоцнікі ў справе абдурачваньня шырокіх рабочых мас.

І ўсё-ж—японскі капіталізм перад заходам. Яму пагражае сьмерцю экономічная дэпрэсія, аб якой ужо даволі гаварылася раней.

Яму няма куды прылажыць працу 2-мільённай запаснай арміі пролетараў і няма куды іх выселіць. Яму, пасьля пабою, прычыненага японскім зямлятрасеньнем, цяжка, амаль што немагчыма, аднавіць сваю былую славу ў сям'і сусьветных імпэрыялістычных драпежнікаў.

Яго точыць у сярэдзіне рост клясавай непагоджанасьці, рост сьвядомасьці рабочай клясы, рост уплыву на японскі пролетарыят бальшавізму.

Па ім б'юць, на астатку, аграрныя непарадкі і гэтак званы рух „Суіхэй“. Справа ў тым, што экономічная дэпрэсія ў Японіі загнала ў безнадзейны куток і сельскую гаспадарку, пасьля „прыгожага часу“ высокіх цэн на хлеб у час сусьветнай вайны.

Гэта выклікала амаль што нечакана ў рэзкім маштабе значны аграрны рух у Японіі.

Што-ж тычыцца руху „Суіхэй“,—ён пачаўся ў 1922 годзе. „Суіхэй Ша“—нацыянальная організацыя японскіх парыяў, якіх у Японіі каля 3-х мільёнаў. Парыяў гэтых у Японіі завуць „Эта“ (гадкія людзі) і яны там пазбаўлены праў удзелу ў вытворчасьці. Ня дзіва, што „Эта“ ня

*) У Японіі профрух параўнаўча невялікі дзеля краіны з 11-мільённым пролетарыятам: у ёй 423 профэсыянальныя саюзы з агульным лікам сяброў—150.302. Гэта тлумачыцца поўным задушэньнем рабочага руху ў даваенны час. Буйнейшыя профэсыянальныя організацыі Японіі: 1) Японская Ўсеагульная Фэдэрацыя Працы, яднаючая 35 саюзаў з 25.000 рабочых (Ніхон Родо Содомей); 2) Усеагульная Фэдэрацыя рабочых дзяржаўных прадпрыемстваў (Качыо Родо Содомей), яднаючая 8 саюзаў; 3) Японскае аб'яднаньне рабочых саюзаў (Ніхон Родо Куміай Рэнчакай); 4) Аб'яднаны саюз маракоў далёкага плаваньня (Кайо Тонцу Куміай), які налічвае каля 15 т. чалавек.

менш пролетараў нездаволены існуючым у Японіі ладам, дзейна ўдзельнічалі ў „рысавых“ бунтах, дамагаюцца ўсеагульнай роўнасьці ў краіне, організавалі ўжо памянёную „Суіхэй Ша“, падтрымоўваюць шчыльную сувязь з Японскаю комуністычнаю партыяй. Сярод ворагаў японскага капіталізму—„Эта“—далёка не астатняя сіла.

Вось гэтакая сучасная Японія. Надворна—магутная, вялікая, падобная да Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатаў, з залатым поўнакроўем, узброеная да зубоў і бязупынна ўзбройвае сябе дзеля таго, што яе спасеньне ў імкненьні за межы ўласнай тэрыторыі, якую яна ўжо даўно перарасла. Японія сьмяртэльна-хвора шматлікімі цяжкімі ўнутранымі хваробамі. Што здарыцца раней—сьмяртэльная схватка японскага імпэрыялізму з паўночна-амэрыканскім пры дзейным падтрыманьні соцыял-рэнэгатаў абедзьвюх краін ці пролетарская рэволюцыя ў Японіі?

Выразнага адказу на гэта пытаньне даць нельга—гэта пакажа недалёкая будучына.

# РАСПРАЦОЎКА ГІСТОРЫІ ЛІТОЎСКА-БЕЛАРУСКАГА ПРАВА XV-XVI СТАЛЕЦЬЦЯЎ У ГІСТОРЫЯГРАФІІ

**Праф. У. Пічэта *)**

Важнасьць і значэньне Літоўскай Мэтрыкі для вывучэньня мінулага Беларусі выразна ўяўлялася дасьледчыкамі. Дзеля гэтага Літоўская Мэтрыка была прадметам стараннага вывучэньня з боку дасьледчыкаў. Шмат хто з іх, выдаючы гісторыка-юрыдычныя манографіі, прысьвечаныя тым або іншым пытаньням, у форме дадатку, друкавалі дакуманты з Літоўскай Мэтрыкі. Гэтак сама рабіла і Археографічная Камісія. У выніку, асобныя дакуманты, узятыя з архіву Літоўскай Мэтрыкі, былі надрукаваны ў наступных выданьнях: 1) Зборнік Муханова, М., 1836. 2) Акты што датычаць гісторыі Заходняй Расіі, т. I—V. 3) Акты, што датычаць, гісторыі Паўднёвай і Заходняй Расіі, сабраныя і выданыя Археографічнай Камісіяй, СПБ, 1853. 4) Бэрштадзкі С. А.—дакуманты і рэестры па гісторыі Літоўскіх Яўрэяў, т. I і II, СПБ, 1882. 5) М. К. Любаўскі—„Областное деление и местное управление в Литовско-Русском государстве ко времени издания I Литовского Статута"—М., 1839. 6) Акты Літоўскай Мэтрыкі, сабраныя Ф. І. Леантовічам (з варшаўскай копіі мэтрыка) і выданыя Варшаўскім Унівэрсытэтам, т. I, 1413—1489 і 2 т. 1499—1507, Варшава, 1896—1897. 7) М. В. Доўнар-Запольскі—„Польско-Литовская уния на сеймах до 1569 г.", М., 1897. У працы Славянскай Камісіі пры Імп. Археолёгічным таварыстве і асобна. 8) Дакуманты Маскоўскага Архіву Міністэрства Юстыцыі, т. I, М., 1897. 9) М. В. Доўнар-Запольскі—„Литовские упоминки татарским ордам", Сімфэропаль, 1898. 10) Акты Літоўска-Рускай дзяржавы, выданыя М. В. Доўнар-Запольскім, в. I (1390—1529), М. 1899, 11) М. К. Любаўскі—„Литовско-Русский Сейм", М., 1901. 12) Доўнар-Запольскі—„Государственное Хозяйство Вел. Княжества Литовского пры Ягеллонах", т. I, Кіеў, 1901. 13) М. В. Доўнар-Запольскі—„Очерки по организации Западно-Русского крестьянства в XVI в.", Кіеў, 1905 г. 14) І. А. Маліноўскі—Зборнік матэрыялаў, што датычаць гісторыі паноў Рады Вял. Княства Літоўскага, т. I і II, (1901)—Томск, 1911 г. 15). І. І. Лаппо—„Великое княжество Литовское во второй половине XVI ст.", „Літовско-русский повет и его сеймик", СПБ, 1911 г. 16) М. К. Любаўскі—„Очерки истории Литовско-Русского государста до

*) Глядзі „Полымя" № 8 за 1926 г.

Люблинской унии включительно", М., 1910 і другое выданьне—М., 1915. 18) „Русская Историческая Библиотека", т. XX, XXVII, XXX і XXXIII.

Віцебскі Цэнтральны Архіў, пачынаючы з 1871 г. да 1901 году, выдаваў свае гісторыка-юрыдычныя матэрыялы, запазычаныя з актаў і кніг губэрань Віцебскай і Магілеўскай, якія былі захаваны ў Цэнтральным Архіве. Гэтыя матэрыялы зьяўляюцца зборам дакумантаў першараднай каштоўнасьці. Асабліва шмат матэрыялаў надрукавана ў стасунку да гораду Магілева. Для дасьледчыкаў Беларусі гэтыя матэрыялы маюць такое-ж вялікае значэньне, як і матэрыялы Віленскай Археографічнай Камісіі, паколькі, у проціленжнасьць выданьням апошняй, яны высьвятляюць Народна-гаспадарчае і культурна-бытавое жыцьцё Усходняй Беларусі.

Цэнтральнымі ўстановамі ў Пецярбургу таксама выдаваліся матэрыялы, якія ў некаторай сваёй частцы зьяўляюцца крыніцамі першараднай важнасьці для вывучэньня мінулага Беларусі. Гэтак, другі аддзел Уласнай яго вялічаства Канцыляры выдаў Поўны Збор Законаў Расійскай імпэрыі ў 46 тамох з паказальнікамі, куды ўвайшлі законадаўчыя акты з 1649 году па 12-га сьнежня 1825 г. (1830). Усе акты, выданыя ўрадовай уладай, што датычыліся Беларусі і Літвы, пасьля іх уваходжаньня ў склад Расійскай імпэрыі, знаходзяцца ў гэтым Поўным Зборы Законаў. Вывучэньне ўсёй палітыкі расійскага ўраду на Беларусі бяз Поўнага Збору Законаў зьяўляецца фактычна немагчымым. Такое-ж самае мае значэньне і Другі Поўны Збор Законаў, пачынаючы з 12-га сьнежня 1825 году па 1-га сакавіка 1881 г. у 55 тамох (1884). Трэці Поўны Збор Законаў ахапляў законадаўчыя акты, пачынаючы з 1-га сакавіка 1881 г. і застаўся да гэтага часу незакончаным.

Акадэмія Навук, распачаўшы ў пачатку XX ст. выданьне цэлага шэрагу дакумантаў старажытнай і новай Расіі, зьбіралася, галоўным чынам, выдаць дакуманты, што датычаць гісторыі Вялікарасіі. Праўда, з таго пляну, які быў вызначаны, ажыцьцёвілася мала. Усе выданьні ня мелі ніякага дачыненьня да гісторыі Беларусі, калі ня лічыць публікацыі „Дневника Стан. Понятовского", у двух тамох (1914—1924), які быў надта каштоўным дакумантам для азнаямленьня з польскімі ўнутранымі адносінамі ў другой палове XVIII ст. Гістарычнае Таварыства ў Пецярбургу на працягу шэрагу гадоў выдавала так зв. „Сборники Исторического Общества", у якіх надрукавана вялізарная колькасьць дакумантаў першараднай гістарычнай вартасьці. У некаторых тамох параскідана шмат матэрыялаў, што датычыліся гісторыі Беларусі, часткова Расійскім Гістарычным Таварыствам надрукаваны дакуманты па гісторыі дыплёматычных зносін Масквы і Рэчы Паспалітай. Матэрыялы, здабытыя з архіву Пасольскай Мэтрыкі, зьяўляюцца дакумантамі, без якіх нельга абыйсьціся пры вывучэньні дыплёматычных адносін Масквы і Літоўска-Беларускай дзяржавы [т. 35, 59, 67, (1882—1892)]. Кіеўскім Унівэрсытэтам, у яго „Университетских Известиях" (1868—№ 79) былі надрукаваны, пад рэдакцыяй

В. Антановіча і К. Казлоўскага, Граматы Вял. Кн. Літоўскіх, з 1390 па 1569 год. Гэтыя граматы дужа важны для характарыстыкі ўнутраной політыкі Вял. Кн. Літоўскага. З грамат, што маюць больш ці менш мясцовае значэньне, трэба адзначыць граматы Менскай губэрні. Так, Менскі губарнатар А. В. Семенов надрукаваў „Грамоты и акты Минской губернии“ (Менск, 1846). Гэтыя акты былі сабраны з царкоўных архіваў. Крыху пазьней было выпушчана новае выданьне—„Собрание древних грамот и актов городов Минской губернии, православных монастырей, церквей и по разным предметам“ (Менск, 1848). Ня гледзячы на выпадковасьць падбору матэрыялу і на ненавуковае выданьне, абодва гэтыя выданьні захоўваюць сваё значэньне, як матэрыялы для вывучэньня Меншчыны, а, значыцца, і для вывучэньня тых або іншых бакоў жыцьця Вялікага Княства Літоўскага.

Асаблівае месца сярод мясцовых выданьняў займае „Витебская Старина“ А. П. Сапунова (т. I, Віцебск, 1883 г., т. IV, 1885 г. і т. V—1888 г.). А. П. Сапунов належаў да ліку людзей, якія дужа цікавіліся гістарычнымі ведамі, і быў палкім дасьледчыкам мінулага Віцебшчыны. Дакуманты, выданыя ім у „Витебской Старине“, ня гледзячы на некаторыя іх недахопы, захоўваюць сваё значэньне і да цяперашняга часу. На жаль, А. П. Сапунов не заўсёды прыводзіць крыніцу ў поўнасьці; часамі ён упускае значную частку апошняй, раз тая або іншая яе частка, па яго думцы, няістотна. Апрача таго, некаторыя крыніцы пададзены ім як пераказ дакуманту. У кожным разе, дасьледчыкі не заўсёды могуць давярацца гэтаму выданьню,—патрэбна за праверкай і папаўненьнямі зварочвацца да першакрыніцы. Трэба адзначыць, што Сапунов, бяручы акты з Літоўскай Мэтрыкі, не паказваў, з якіх кніг Літоўскай Мэтрыкі ён бярэ гэтыя акты. Кнігі Запісаў, Кнігі Публічных Дзел і Кнігі Перапісаў—усе яны цытуюцца пад аднэй агульнай назвай „Літоўскай Мэтрыкі“. Хоць-жа, для свайго часу гэтыя выданьні, як матэрыялы краязнаўчага характару, былі надта харошымі, тым больш, што ўсё гэта рабілася на асабістыя сродкі, якія А. Сапунов зарабляў сваім выкладаньнем і крыху літаратурнай дзейнасьцю. Першы том „Витебской Старины“ зьмяшчае ў сабе рознастайныя дакуманты, што датычаць мінулага Віцебскай губэрні на працягу XVI—XIX ст. ст. Выдавец захапіў занадта вялікі матэрыял, і нічога няма дзіўнага ў тым, што гэты матэрыял быў надмерна стракаты.

Чацьверты том „Витебской Старины“ характарызуе Маскоўска-Беларускія адносіны ў эпоху Лівонскай вайны і окупацыі Беларусі маскоўскімі войскамі пры Аляксею Міхайлавічу. Тут прыведзены дужа каштоўныя дакуманты, праўда, у вынятках запазычаныя з дакумантаў Маскоўскіх архіваў, што характарызуюць сабой політыку Ів. Грознага і Аляксея Міхайлавіча ў адносінах да Беларусі. Да выданьня дадаецца прадмова, якая надта аднабока высьвятляе політыку Масквы ў адносінах да Беларусі.

Нарэшце, пяты том „Витебской Старины“ прысьвечаны царкоўным справам і адносінам. Трэба адзначыць, што прадмова напісана надта тэндэнцыйна і ўяўляе сабой як дзейнасьць уніяцкай царквы, так і барацьбу уніятаў з праваслаўнымі, пераломленую скрозь прызму офіцыяльнага праваслаўя.

Вядомае значэньне для выданьня дакумантаў мелі дзейнасьць Архіўных Камісій, Віцебскай і Смаленскай. У „Витебской Старине“ надрукованы цікавыя матэрыялы, што датычаць, галоўным чынам, больш пазьнейшай эпохі, а таксама дасьледваньні па асобных пытаньнях. Матэрыял друкаваўся бяз усякай сыстэмы і падбору і меў чыста выпадковы характар. Больш паважным зьяўляецца выданьне Архіўнай Камісіі ў Смаленску.

„Смаленская Старина“ зьмяшчае ў сабе шэраг крыніц і матэрыялаў, асабліва характарызуючых жыцьцё Смаленшчыны ў канцы XIII і пачатку XIV стал.

У васобных гістарычных выданьнях, як „Киевская Старина“, „Русский Архив“, „Старина и Новизна“ пад рэдакцыяй С. Д. Шэрэметьева, „Исторический Вестник“, які выдаваўся з 1880 г., раскідана шмат матэрыялу і нататак, што датычаць гісторыі і права Вялікага Княства Літоўскага і зьвязаных з ім Беларусі і Украіны. Праўда, часамі гэтыя нататкі і ўспаміны надта аднабокія і высьвятляюць асобныя здарэньні, асабліва XIX стал., надмерна тэндэнцыйна. Гэта патрэбна заўважыць асабліва адносна запісак і дакумантаў, што высьвятляюць расійскую палітыку ў краі і ў асаблівасьці, што характарызавалі дзейнасьць Муравьёва, якога такія гістарычныя журналы, як „Русский Архив“ і „Исторический Вестник“, абаранялі. Зразумела, што, пры крытычных і асьцярожных адносінах да такіх дакумантаў, і гэтыя матэрыялы могуць быць карыснымі для дасьледчыка. Трэба таксама адзначыць, што ў так званых „Памятных Книжках“ губэрань і ў „Губернских Статистических Сборниках“, сабрана надта шмат матэрыялу, у васаблівасьці па фінансава-экономічнай гісторыі, як дарэформенай, так і парэформенай эпохі. Гэтыя матэрыялы, ня гледзячы на сваё офіцыяльнае паходжаньне, маюць пэўную вартасьць і навуковае значэньне. Наогул, колькасьць выданых матэрыялаў зьяўляецца мізэрнай параўнаўча з тымі матэрыяламі, якія яшчэ знаходзяцца ў архівах. Няйвялікшая частка надрукаваных дакумантаў датычыць Беларусі XV—XVIII ст. ст. Дакуманты па гісторыі і праву XIX ст. знаходзяцца ў архівах як цэнтральных, так і провінцыяльных і чакаюць яшчэ свайго дасьледваньня. Трэба таксама адзначыць, што ў мясцовых „Губернских Ведомостях“, у мясцовых газэтах, а таксама губэрскіх эпархіяльных ведамасьцях усьцяж зьмяшчаўся каштоўны архіўны матэрыял, які мае вялікае краязнаўчае значэньне. Разглядаць гэты матэрыял яшчэ не пачалі. У далейшым, калі прыходзіцца складаць краязнаўчую бібліографію асобных губэрань, на мясцовае выданьне неабходна зьвярнуць асаблівую ўвагу.

Адначасна і польскімі дасьледчыкамі, археографамі і гісторыкамі ўвесь час выдаваліся дакуманты. Выдавецкая дзейнасьць польскіх дасьледчыкаў дужа паважная, і абыйсьціся бяз выданых палякамі дакумантаў, пры вывучэньні мінулага Беларусі, амаль немагчыма. Выданьне дакумантаў пачалося яшчэ ў XVIII сталецьці. З польскіх гістарычных выданьняў на першае месца трэба паставіць выданьні Кракаўскай Акадэміі Навук. Былі выданы:

Monumenta medii aevi historica res gestas Poloniae illustrantia m. VI, XII, XIV.

Scriptores rerum polonicarum, m. I—XX (1872—1899).

*Stanislaw Kutrzeba i Wladyslaw Semkowicz:* Acta unji Polski z Litwą (друкуецца).

Archivum komyssyi prawniczej, t. VII, 1900.

З іншых выданьняў маюць асаблівае значэньне:

Acta Tomiciana, t. 1—13. Poznań (1852—1915).

*Maciej Dogiel.* Codex diplomaticus Regni Polonial et Magni Ducatus Lituaniae (1758), т. I.

*Dzialynski.* Zbiór praw litewskich, Poznań, 1841.

*Raczynski.* Codex diplom. Lithuaniae, 1845.

*Danilowicz.* Scarbiec dyplomatów, t. I—III, 1862.

Volumina legum, т. I—VII (1732—1782).

Каштоўны гісторыка-юрыдычны матэрыял знаходзіцца ў Archivum Sanguszków, т. I—IV (1887—1890).

У параўнаньні з гістарычнай і з гісторыка-юрыдычнай літаратурай па гісторыі „рускага“ права ва ўласным сэнсе гэтага слова, спэцыяльная літаратура па гісторыі беларускага права адрозьніваецца адноснай убогасьцю, можа быць прадстаўлена параўнаўча нязначнай колькасьцю прац, як у гісторыяграфіі польскай, так і ў расійскай, беларуска-украінскай. Расійскія вучоныя, як Н. М. Карамзін, С. М. Соловьев, В. О. Ключэўскі, а за ім усе гісторыкі, што датыкаліся ў сваіх лекцыях гісторыі Вялікага Княства Літоўскага, выкладалі гэты прадмет у зьвязку з гісторыяй расійскага народу і выходзілі ад пэўных вялікадзяржаўных настрояў. Гісторыя Літвы і Беларусі займала ў гэтых творах другараднае месца, і гісторыкі ёю цікавіліся пастолькі, паколькі яна тлумачыла і высьвятляла тыя або іншыя моманты ў гісторыі Маскоўскай дзяржавы. Тое-ж самае трэ‘ адзначыць і адносна гісторыі беларускага права у такіх вучоных, як В. І. Сергяевіч, М. Ф. Уладзімірскі-Буданов, М. А. Дьяконов, А. Н. Філіпов, якія ў сваіх працах па гісторыі „рускага“ права зусім не датыкаліся беларускага права.

Адзіным выключэньнем сярод аўтараў, якія складалі падручнікі па гісторыі „рускага“ права, зьяўляецца І. А. Маліноўскі, адзін з найбольш выдатных дасьледчыкаў гісторыі літоўска-беларускага права. Асаблівасьцю

курсу акад. Маліноўскага па гісторыі „рускага“ права [1]) зьяўляецца тое, што ён увёў у агульны курс „рускага“ права гісторыю так званага „заходня-рускага“ права, якая разглядаецца аўтарам, як складаная частка гісторыі „агульна-рускага“ права. У курсе проф. Маліноўскага дана знадворная і ўнутраная гісторыя літоўска-беларускага права. Аўтар курсу гісторыі „рускага“ права знаёміць свайго чытача з крыніцамі літоўска-беларускага права, з гісторыяй дзяржаўнага, грамадзянскага і крымінальнага права. Літоўска-беларускае права выкладае І. А. Маліноўскі менш дэтальна, параўнаўча з гісторыяй „агульна-рускага права“, і гэта зусім зразумела, бо літоўска-беларускае права цікавіць аўтара не само па сабе, а толькі як складаная частка „агульна-рускага“ права.

Ідэолёгічна І. А. Маліноўскі далучаецца да тых вучоных дасьледчыкаў „рускага“ права, якія трымаліся пункту погляду вялікадзяржаўнасьці вялікарускага народу. Як-бы там ні было, праца паважанага дасьледчыка гісторыі Літоўска-Беларускага права зьяўляецца першай агульнай працай па гісторыі апошняга, якая можа служыць дасканалым падручнікам для вывучэньня асноў Літоўска-Беларускага права.

Вывучэньне гісторыі права ўсякага народу цесна зьвязана з вывучэньнем яго гістарычнага лёсу. Догматычнае вывучэньне адных юрыдычных крыніц, па-за сувязьзю з тымі ўмовамі, продуктам якіх зьяўляюцца праўныя нормы, што знайшлі адбітак у тэй або іншай юрыдычнай крыніцы, мэтодолёгічна, зразумела, зьяўляецца немагчымым. Маруднасьць паступовага руху ў вывучэньні гісторыі літоўска-беларускага народу тым самым затрымлівала і вывучэньне гісторыі права. Вывучэньне дынамікі гістарычнага процэсу дае магчымасьць зразумець сутнасьць тых або іншых норм, якія характарызуюць гісторыка-юрыдычныя зьявы ў іх статычным стане. Гісторыка-юрыдычная літаратура, прысьвечаная вывучэньню гістарычнага лёсу беларускага народу, у эпоху, калі Беларусь увайшла ў склад Вялікага Княства Літоўскага, выяўлена невялікай колькасьцю дасьледваньняў, што асабліва на сябе зварачае ўвагу, параўнаўча з гісторыяграфіяй, якая датычыць гістарычнага лёсу вялікарускага і украінскага народу. Маруднасьць руху гісторыка-ырыдычных ведаў у значнай меры тлумачыцца тым, што на тэрыторыі Беларусі каля сто год ня было вышэйшай навучальнай установы, якая-б магла стаць цэнтрам аб‘яднаньня ўсіх навуковых працаўнікоў, з аднаго боку, і распрацоўкі пытаньняў гісторыка-юрыдычных ведаў—з другога.

Гісторыя і гісторыя права беларускага народу доўгі час зусім не вывучалася ў старой Расіі або падлягала вывучэньню пад кутом надта прадузятых пунктаў погляду. Толькі ў 90-ых гадох мінулага сталецьця расійскія дасьледчыкі зьвярнулі сваю вучоную ўвагу на вывучэньне гісторыі і гісторыі права літоўска-беларускага народу. Гэты навуковы рух

[1]) Новая праца *Р. Лященко*—„Лекції по історії українського права“, ч. II, вип. I, 1924, пакуль што мне засталася яшчэ невядомай.

выяўлены шэрагам бліскучых прадстаўнікоў, якія пусьцілі ў ход новыя гістарычныя матэрыялы і залажылі моцны фундамант для далейшага разьвіцьця гісторыка-юрыдычных ведаў. Толькі дзякуючы бліскучай чарадзе гісторыкаў і гісторыкаў-юрыстых зьявілася магчымасьць сыстэматычнага выкладаньня літоўска-беларускага права, якое засталося да гэтага часу зусім недасьледванай і нявывучанай галіной. Навуковы інтарэс дасьледчыкаў згрупаваўся, галоўным чынам, наўкол вывучэньня гістарычных і гісторыка-юрыдычных зьяў у пэрыод IX—XVI сталецьцяў. У гэткім хронолёгічным абмежаваньні думка дасьледчыка дасягнула значных вынікаў.

У першай палове XIX сталецьця горад Вільня быў агульна-беларускім культурным цэнтрам, да якога цягнуліся тагачасныя шляхецкія інтэлігенцкія колы. Гэта тлумачыцца тым, што ў сталіцы былшага Вялікага Княства Літоўскага быў рассаднік вышэйшай асьветы, унівэрсытэт, заснаваны расійскім урадам, у маі 1803 г., па ініцыятыве кн. Адама Чартарыйскага. Віленскі Унівэрсытэт быў зачынены па загаду ўраду Мікалая I—ад 1-га сакавіка 1832 году. Урад Мікалая I аднёсься з падазронасьцю да Віленскага Унівэрсытэту, як да цэнтру ўсяпольскай ідэолёгіі, выхаванцы якога спрыялі і падтрымлівалі ідэолёгію польскага паўстаньня 1830 г. Калі для польскіх ідэолёгаў Вялікае Княства Літоўскае, разам з Беларусьсю, зьяўляецца толькі часткова польскай тэрыторыяй, якая рана ці позна павінна адыйсьці ў склад адроджанай Рэчы Паспалітай, дык для расійскага ўраду Беларусь і Літва складалі толькі Заходнюю Русь, крыху адрозьненую ў бытавых адносінах ад Русі Вялікарускай. Зусім зразумела, што з гэткай ідэолёгіяй расійскага ўраду Віленскі Унівэрсытэт, як цэнтр усяпольскіх сымпатый, бязумоўна, ня мог існаваць.

Агульна-польскі пункт погляду на тое, што Вялікае Княства Літоўскае і Польшча складаюць адзін народ, што ўжо афармілася ў XIV ст., пры заключэньні першай вуніі Літвы з Польшчай, пахіснулася ў больш пазьнейшы час. У 1835 г., у Вільні выходзіць праца гісторыка, літоўца пахаджэньнем, Т. Нарбута *„Dzieje narodu litewskiego"*, які на працягу 6 год выдаў 9 тамоў. Гадунец польскай культуры, Нарбут пісаў на польскай мове; значыцца, яго гісторыя мела параўнаўча вялікае распаўсюджаньне. Нарбут лічыць, што Вялікае Княства Літоўскае да 1569 году было самастойнай і незалежнай дзяржавай, але што пасьля Люблінскай вуніі 1569 году гэтай самастойнасьці быў паложаны канец. Нарбут, як і Карамазін, бачыць сутнасьць гісторыі ў разьвіцьці дзяржавы і ў пераменах організацыі ўлады. Галоўная заслуга Нарбута ёсьць у тым, што ён аддзяліў Вялікае Княства Літоўскае ў зусім самастойную навуковую дысцыпліну. Хаця-ж пункт погляду Нарбута быў адзінокім, цэлы шэраг польскіх вучоных, як Ярашэвіч, Балінскі, Даніловіч, якія датыкаліся гісторыі Вялікага Княства Літоўскага і зьвязаных з ёй беларуска-украінскіх земляў, трымаліся пастарому ўсяпольскага пункту погляду і, зразу-

мела, не маглі зьвярнуць увагі на асаблівасьці гістарычнага лёсу літоўска-беларускага народу. Нацыянальна-культурны ўсяпольскі пункт погляду перашкаджаў польскім дасьледчыкам падыйсьці да закранутых імі пытаньняў з об'ектыўнага пункту гледжаньня.

З закрыцьцём Віленскага Унівэрсытэту Беларускі край страціў сваю вышэйшую навуковую ўстанову. Замест Віленскага Унівэрсытэту быў адчынены унівэрсытэт у Кіеве, які цяпер становіцца цэнтрам вывучэньня гісторыі Вялікага Княства Літоўскага і зьвязанай з ім гісторыі украінскага і беларускага народу. Кіеўская школа гісторыкаў, пачынаючы з М. І. Костомарова, трымалася зусім іншых пунктаў погляду на сутнасьць гістарычнага процэсу, параўнаўча з гісторыка-юрыдычнай школай, названай імем С. М. Соловьева і К. Д. Кавеліна. Калі для гісторыка-юрыдычнай школы сутнасьць гістарычнага процэсу зьяўляецца ў разьвіцьці дзяржавы, дык для Костомарова самае істотнае ў гістарычным процэсе—гэта жыцьцё і дзейнасьць народу, як галоўнага дзеяча гісторыі. Зусім зразумела, што кіеўская школа гісторыкаў скіравала ўсю сваю ўвагу на вывучэньне гісторыі украінскага і беларускага народу, як народу, які выявіў значную самадзейнасьць як у нацыянальнай, так і ў культурнай барацьбе супроць палякаў і польскай культуры. Трэ' адзначыць, што першыя кіеўскія гісторыкі, як, напр., Костомаров, былі скарэй рамантыкамі мінулага жыцьця украінскага народу, чымся яго дасьледчыкамі, і, з нашага пункту погляду, іх працы ў шмат чым выклікаюць вялікія пярэчаньні. Тым ня менш быў зроблены пачатак таму новаму навуковаму руху, які павінен быў даць раней ці пазьней значныя вынікі. Калі, з аднаго боку, Кіеў меў гісторыка-рамантыка ў асобе Костомарова, дык, побач з гэтым, зьявіліся такія дужа выдатныя вучоныя, як Максімовіч, які паказваў на існаваньне трох галін „рускага“ народу і, прызнаючы адасобненасьць іх гістарычнага жыцьця, у той-жа самы час быў прыхільнікам адзінства „Земли Русской“. Само сабой зразумела, што ў мікалаеўскае царстваваньне не магло быць выказана ніякага другога пункту погляду. У кожным разе надта каштоўна тое, што Максімовіч прызнаваў у мінулым самастойнае існаваньне гістарычнага жыцьця вялікарускага, украінскага і беларускага народаў. Навуковая школа, створаная Максімовічам, мела далейшае разьвіцьцё. Кіеўскія вучоныя выдавалі розныя акты і былі галоўнымі дзеячамі Кіеўскай Археографічнай Камісіі, і ў той-жа самы час яны зрабілі пачатак навуковаму вывучэньню гісторыі украінскага народу. З працягам часу, на чале Кіеўскай Школы становіцца В. Б. Антановіч, сапраўдны заснавальнік новай украінскай гісторыяграфіі. В. Б. Антановіч, які стварыў цэлую гістарычную школу сваіх вучняў, агульнымі сіламі зрабіў надта шмат для вывучэньня мінулага, як Вялікага Княства Літоўскага, так і украінскага народу. Для Антановіча Вялікае Княства Літоўскае было самастойным дзяржаўна-праўным організмам, які падпадаў, пад уплывам

польскай культуры, значным зьменам у галіне культуры і грамадзкапраўных адносін, і падпадаў уплыву ня ў бок станоўчы, а ў адмоўны. Так ўпяршыню ў гісторыяграфіі, у процілегласьць польскім вучоным, была выказана думка аб адмоўным уплыве польскай культуры на лёс Вялікага Княства Літоўскага і на гісторыю украінскага народу. Адначасна ў Кіеўскім Унівэрсытэце стала ўтварацца і юрыдычная школа, па вывучэньню права Беларусі і Украіны, зьвязаная з імем М. Ф. Уладзімірскага-Буданава і яго вучняў—Н. А. Максімейка, І. А. Маліноўскага і Н. Г. Дземчэнка. Вынікі гісторыка-юрыдычных дасьледваньняў, распачатыя кіеўскай школай гісторыкаў-юрыстых, былі дужа значныя і высьветлілі шмат якія цёмныя бакі літоўска-беларускага права. Кіеўская традыцыя па вывучэньню беларускага і украінскага права адрадзілася адначасова з заснаваньнем Украінскай Акадэміі Навук, у Юрыдычнай сэкцыі якой ідзе вялікая праца па вывучэньню Украінскага Права; вынікі працы ўжо апублікаваны асобнымі артыкуламі маладых вучоных у адпаведных выданьнях Украінскай Акадэміі Навук.

Што датычыцца расійскай школы гісторыкаў-юрыстых, дык прадстаўнікі гісторыка-юрыдычных ведаў у Пецярбургу і Маскве вельм мала цікавіліся пытаньнямі, зьвязанымі з гістарычным лёсам Вялікага Княства Літоўскага. Калі апошнія цікавіліся гісторыяй Вялікага Княства Літоўскага, дык пастолькі, паколькі яна была зьвязана з гісторыяй Маскоўскай дзяржавы. Зварачалася асаблівая ўвага на царкоўныя адносіны, адносіны праваслаўных да каталікоў, бо ў гэтай барацьбе розных рэлігійных сыстэм бачылі сутнасьць гістарычнага жыцьця беларускага і украінскага народу.

Адзіным выключэньнем можна лічыць працу О. Турчынсвіча—„Обозрение Истории Белоруссии с древнейших времен“ (1857), якая выключна занята пытаньнямі знадворнай гісторыі. Між іншым, асобныя гісторыкі-юрыстыя, у сваіх монографіях, прысьвечаных тым або іншым пытаньням права, датыкаліся і асобных норм Літоўскіх Статутаў, вызначаючы ў іх, дзякуючы „Русской Правде“, агульнае з нормамі старога славянскага права.

З 90-х гадоў XIX сталецьця намячаецца новы момант у распрацоўцы гісторыка-юрыдычных ведаў, што датычаць Літоўска-Беларускай дзяржавы. З гэтага часу пачалі зьʼяўляцца шэрагі клясычных прац, напісаных, галоўным чынам, на падставе Літоўскай Мэтрыкі, дзякуючы чаму стаў распрацоўвацца матэрыял, да якога да гэтага часу не датыкалася рука дасьледчыка. Аснова-закладчыкам гэтага руху быў профэсар Маскоўскага Унівэрсытэту, М. К. Любаўскі, які выступіў з дзьвюма дужа выдатнымі працамі па гісторыі беларускага права. Усьлед за ім выступіў шэраг вучоных, што не належалі да Маскоўскага Унівэрсытэту, як, напр.: Н. А. Максімейка, І. А. Маліноўскі, І. І. Лаппо, М. В. Доўнар-Запольскі і іншыя асобы, якія далей цягнулі працу Любаўскага, бліскуча

распрацавалі шэраг новых проблем, што маюць першараднае значэньне для гісторыі і гісторыі права беларускага народу. Роўналежна працы дасьледчыкаў у унівэрсытэцкіх цэнтрах, ішла таксама праца і на мясцох у провінцыі, дзе былі атрыманы значныя вынікі па вывучэньню мясцовай гісторыі. У асаблівасьці былі значныя навуковыя дасягненьні па вывучэньню Віцебшчыны. І польскія вучоныя надта шмат займаліся гістарычнымі і гісторыка-юрыдычнымі проблемамі, у зьвязку з гісторыяй і гісторыяй права Беларусі. Навуковымі цэнтрамі па вывучэньню гістарычнага лёсу Вялікага Княства Літоўскага былі Кракаў, Львоў і Варшава. Праца польскіх гісторыкаў была вялізарнай, і вынікі прац былі дужа значныя. Аднолькава і украінскія вучоныя, якія аб'ядналіся вакол „Наукового Товариства імени Шевченка у Львові“, шляхам распрацоўкі шэрагу гістарычных проблем, значна пашырылі нашыя зьвесткі аб гісторыі і праве Вялікага Княства Літоўскага.

Праўда, вывучэньне гісторыі і гісторыі права беларускага народу выяўлена надта ўбога, параўнаўча з аналёгічнымі зьявамі мінулага Вялікарасіі. Мноства першараднай важнасьці гістарычных і гісторыка-юрыдычных проблем застаюцца нераспрацаванымі і чакаюць свайго дасьледваньня. Амаль усе працы, што датычаць гісторыі і гісторыі права беларускага народу, адносяцца да эпохі да-Люблінскай вуніі. Тут ужо дасьледчык стаіць на цьвёрдай глебе. Затое гістарычныя і гісторыка-юрыдычныя зьявы пасьля Люблінскай вуніі толькі пачаты вывучэньнем. Можна сказаць, што да іх яшчэ амаль не датыкалася рука дасьледчыка. Для дасьледчыка ў гэтай галіне адчыняюцца шырокія магчымасьці, вялікія пэрспэктывы.

У зьвязку з заснаваньнем на тэрыторыі Савецкай Беларусі новага рассадніку асьветы—Унівэрсытэту, а таксама з адбудаваньнем польскім урадам Унівэрсытэту ў Вільні і літоўскім у Коўні, вывучэньне гістарычных і гісторыка-праўных зьяў, што датычаць мінулага беларускага народу, значна пасунецца наперад.

Дзяржаўна-праўнае становішча, якое перамянілася на Беларусі, настойна высоўвае ў першую чаргу вывучэньне гістарычных і гісторыка-юрыдычных проблем, у зьвязку з мінулым Беларусі. Ад новых навуковых цэнтраў, спэцыяльна зацікаўленых у разьвіцьці адпаведных ведаў, што датычаць мінулага Беларусі, гістарычная і гісторыка-юрыдычная навука маюць права чакаць надта шмат чаго, хоць, можна сказаць, што мэтодолёгічныя спосабы і пункты гледжаньня, якія будуць ужывацца ў гістарычных і гісторыка-юрыдычных дасьледваньнях, будуць далёка неаднолькавымі ў Менску і ў Вільні. Патрэбна констатаваць у сучасны момант дужа значнае ажыўленьне польскай дасьледчай думкі ў галіне вывучэньня Вялікага Княства Літоўскага. У пэрыод 1914—1924 г. г. польскія дасьледчыкі выдалі шэраг самых каштоўных прац.

Праца дасьледчыкаў па вывучэньню мінулага Беларусі доўгі час згрупоўвалася на вывучэньні асобных момантаў, атрымаўшых яскравы адбітак у шэрагу надта прыгожых монографій. Толькі дзякуючы накапленьню монографічнага матэрыялу зьявілася, урэшце, магчымасьць даць і сынтэтычны нарыс гістарычных і гісторыка-юрыдычных зьяў мінулага жыцьця беларускага народу. Першы гісторыка-юрыдычны нарыс Вялікага Княства Літоўскага даны віленскім вучоным Ярашэвічам, у яго працы „Obraz Litwy pod względem jej cywilizacyji, od czaców najdawniejszych do końca wieku XVIII", cz. I—III. Wilno, 1844—1845. Праца Ярашэвіча досыць схэматычная, але для свайго часу зьяўляецца дужа добрай у шмат якіх адносінах, ня гледзячы на некаторую прадузятасьць высьвятленьня асобных момантаў у мінулым Вялікага Княства Літоўскага. Выдатны ў шмат якіх адносінах, рэдкі для свайго часу дасьледчык ацэньваў гістарычныя і гісторыка-юрыдычныя зьявы пад кутом польскага пункту гледжаньня, дзеля чаго асобныя зьявы мелі часткова суб'ектыўнае, некалькі прадузятае высьвятленьне.

Навуковая гісторыя Вялікага Княства Літоўскага, зразумела, доўгі час не магла зьявіцца на сьвет, дзеля таго што монографічнае вывучэньне мінулага Літвы і Беларусі пасувалася надта марудна. Толькі дзякуючы зьяўленьню цэлага шэрагу прац, прысьвечаных вывучэньню асобных спэцыяльных пытаньняў, была магчымасьць скласьці першы навуковы нарыс гісторыі Вялікага Княства Літоўскага, які прыналежаў М. К. Любаўскаму,—„Очерки истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно" (Масква, 1910) былі выдатным зьяўленьнем. Яны даюць выразнае ўразуменьне аб соцыяльным і палітычным разьвіцьці Вялікага Княства Літоўскага і беларускіх земляў аж да Люблінскай вуніі. У якасьці дадатку да кнігі, даны шляхецкія прывілеі, апублікаваныя вял. кн. літоўскімі, з 1413 г. да 1565 г., а таксама прывілеі, выданыя Бельскаму павету, Дарагіцкай Зямлі, Смаленскай Зямлі, Кіеўскай, Валынскай, Жмудзкай, Полацкай і Віцебскай Землям. Проф. Любаўскі, будучы прыхільнікам гісторыка-юрыдычнай школы, цэнтрам сваёй вучонай увагі выбраў соцыяльныя і палітычныя зьявы. Зьявы экономічныя і культурна-рэлігійныя пакінуты бяз увагі. Скарочаны нарыс гісторыі Літоўска-Рускай дзяржавы аж да вуніі 1569 году даны Ў. І. Пічэтай у кнізе—„Русская история в очерках и рассказах", пад рэдакцыяй М. В. Доўнар-Запольскага, т. II, Кіеў, 1910.

Гісторыя Вялікага Княства Літоўскага вывучана таксама і М. С. Грушэўскім у яго гісторыі—„Украіни—Русі", т. IV—V, паколькі Украіна ўваходзіла ў склад Вялікага Княства Літоўскага. Праца акад. Грушэўскага выдатна ў шмат якіх адносінах і вызначаецца шмат якімі асабістымі пунктамі погляду. Нарэшце, кракаўскі вучоны, акадэмік Ст. Кутшэба даў абагульняючы нарыс пад загалоўкам—„Historia ustroju Polski w zarysie Litwa", выд. 2-ое, 1921 г. Проф. Кутшэба дацягнуў сваё выкладань-

не да 1791 г. Праўда, апошняя частка працы ад 1569 году да 1791 году надта скарочана, бо гэтая эпоха яшчэ чакае свайго дасьледчыка. Затое першыя дзьве часткі працы з старажытных часоў і да 1386 году і ад 1387 да 1569 гадоў, ня гледзячы на ўсю сьцісласьць выкладаньня і некаторую догматычнасьць апошняга, даюць яскравае і выразнае ўяўленьне аб дзяржаўна-праўнай будове Літоўскага Вялікага Княства. Аўтарам прыняты пад увагу дасягненьні ўсіх вучоных у вывучэньні мінулага Літоўска-Беларускай дзяржавы, як расійскіх і украінскіх вучоных, з аднаго боку, так і польскіх—з другога. Апрача таго, на беларускай мове ёсьць нарысы гісторыі Беларусі, напісаныя проф. Ў. М. Ігнатоўскім, пад загалоўкам „Кароткі нарыс гісторыі Беларусі“, Менск, 1925 г. Апошняя ахапляе ўсе гісторыка-юрыдычныя зьявы да канца XIX сталецьця, прычым з асаблівай сьцісласьцю выкладаньня адзначаецца эпоха пасьля Люблінскай вуніі ад 1569 году да канца XIX сталецьця. Нарыс гісторыі Беларусі Ў. М. Ігнатоўскага, ня гледзячы на ўсю сваю скарочанасьць, дае дужа яскравае ўяўленьне аб гісторыі Беларусі, якая мысьліцца ім, як самаважкі этнографічны організм, які захаваў свае нацыянальныя асаблівасьці, ня гледзячы на зьменнасьць гістарычнага лёсу беларускага народу.

Зьяўляючыся прадстаўніком матэрыялістычнага разуменьня гісторыі, У. М. Ігнатоўскі першы разгледзеў гістарычныя факты скрозь прызму матэрыялістычнага разуменьня. Пяру проф. Ігнатоўскага належыць таксама і спэцыяльная праца па гісторыі Беларусі XIX сталецьця (Менск, 1926 г.), у якой, між іншым, гісторыка-юрыдычным зьявам выдзелена нязначнае месца. Нарэшце, проф. У. І. Пічэта, у сваім сьцíслым нарысе—„Гісторыя Беларусі“, ч. I, Менск, 1924 г., даў агульны малюнак эволюцыі жыцьця беларускага народу, пачынаючы з самых старажытных часоў і канчаючы Люблінскай вуніяй. У гэтай працы гісторыка-юрыдычныя зьявы займаюць дужа важнае месца. Аўтар таксама імкнуўся разглядаць цікавіўшыя яго зьявы скрозь прызму матэрыялістычнага разуменьня гісторыі. Вось агульныя працы па гісторыі Літоўска-Беларускай дзяржавы. Зусім натуральна, што ўсе названыя аўтары, галоўным чынам, былі скіравалі сваю ўвагу на фактах і зьявах да 1569 году, дзеля таго што гэтая эпоха выяўлена больш багата ў спэцыяльнай монографічнай літаратуры, хоць далёка ня ўсе бакі жыцьця Літоўска-Беларускай дзяржавы вывучаны з аднолькавай поўнасьцю і падрабязнасьцямі. Дэталізацыя-ж асобных гісторыка-юрыдычных зьяў пасьля 1569 году будзе магчымай толькі ў будучым, пасьля таго, калі гэтая эпоха будзе монографічна вывучана цэлым шэрагам вучоных.

Монографічнае вывучэньне асобных бакоў жыцьця Літоўска-Беларускай дзяржавы ўяўляецца цяпер у такім становішчы. Гісторыкі і гісторыкі-юрыстыя аддалі шмат увагі вывучэньню ўзьнікненьня тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага. Гэтая праца вялася з вялікім посьпехам, як

вялікарускімі і украінскімі вучонымі, з аднаго боку, і польскімі—з другога. У гэтай галіне атрыманы даволі значныя вынікі. Ініцыятыва пастаноўкі гэтага пытаньня ішла з Кіева, з боку закладчыка кіеўска-украінскай гістарычнай школы, у асобе проф. В. Б. Антановіча, які выступіў з працай „Очерк истории Великого Княжества Литовского до смерти Ольгерда", Кіеў, 1885. Дасьледчык зьвярнуў сваю ўвагу на формацыю Вялікага Княства Літоўскага і на яго першы гістарычны лёс. В. Б. Антановіч дужа цікавіцца проблемай узьнікненьня вялікага палітычнага організму, які спачатку дасяг значнага росту, а затым даволі скора зьнік з гістарычнай сцэны. В. Б. Антановіч тлумачыў гэтую катастрофу тым што ў Літоўска-Беларускай дзяржаве існавала пляменная рознавіднасьць двух этнографічных тыпаў, унутрана ня зьвязаных, але ў той-ж час складаючых адзіны палітычны організм. Узаемаадносіны тых пачаткаў, што ўваходзілі ў склад Вялікага Княства Літоўскага, складаюць, па думцы В. Б. Антановіча, зацікаўленасьць, якая даходзіць часамі да вялікага драматызму. Вось як пастаўлена пытаньне. Тлумачачы процэс узьнікненьня тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага, В. Б. Антановіч прыдае вялікае значэньне заваёўным тэндэнцыям вял. княз. літоўскіх. Пытаньні, пастаўленыя В. Б. Антановічам, былі дэтальна распрацованы ў асяродку бліжэйшых яго вучняў, якія складалі асноўнае ядро кіеўскай гістарычнай школы. Вучні Антановіча скіравалі ўсю сваю ўвагу выключна на вывучэньні процэсу ўзьнікненьня Літоўска-Беларускай дзяржавы і культурна-палітычнага становішча асобных галін у момант уваходжаньня апошніх у склад Вялікага Княства Літоўскага. Гэтае вывучэньне складаных адзінак Вялікага Княства Літоўскага, аднастайнае па мэтоду, зразумела, мае вялікае навуковае значэньне па сваіх station становічых выніках дзеля таго што гэткае шматграфічнае вывучэньне асобных галін дае чытачу магчымасьць выразна ўявіць сабе аб культурна-палітычным твары кожнай галіны ў асобнасьці. Да гэтай групы прац належаць: „История Полоцкой Земли до конца XIV в."—В. Е. Данілевіча, Кіеў, 1896 года; „История Смоленской Земли до начала XV стол."—Н. В. Галубоўскага, Кіеў, 1895; „Очерк истории Кривичской и Дреговичской земель до конца XII ст."—проф. М. В. Доўнар-Запольскага, Кіеў, 1891 года; „Очерк истории Турово-Пинского княжества в X—XIII в. в."—М. С. Грушэўскага, Кіеў, 1901 года; „История Киевской Земли"—М. С. Грушэўскага, Кіеў, 1891 г.; „Очерк истории Волынской земли до конца XIX в."—А. М. Андріашева, Кіеў, 1888 года; а таксама „Исторические судьбы Волынской Земли до конца XIV ст."—П. А. Іванова, Адэса, 1895 г.; „История Северской земли до половины XIX стол."—Д. І. Багалея, Кіеў, 1882 года; „История Северской земли до половины XIX стол."—П. В. Галубоўскага, Кіеў, 1881 г.

Пасьля прац Антановіча, пытаньне аб узьнікненьні тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага і аб агульным характары гэтага дзяржаўнага

організму было зноў паднята М. К. Любаўскім, у яго працы—„Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Статута“, Масква, 1892 г. Зьяўленьне гэтай дужа выдатнай працы склала эпоху ў вывучэньні гісторыка-юрыдычнага лёсу Літоўска-Беларускай дзяржавы. М. К. Любаўскі прыцягнуў да сваёй працы вялізарны матэрыял, упяршыню ім здабыты з так званай Літоўскай Мэтрыкі. Зьмест вышэй паказанай працы М. К. Любаўскага надзвычайна багаты. Яна датыкаецца да асноўных проблем гістарычнага жыцьця Вялікага Княства Літоўскага, зьвязаных як з організацыяй кіраваньня, так і з соцыяльным адбудаваньнем Літоўска-Беларускай дзяржавы. М. К. Любаўскі прысьвячае асобны разьдзел процэсу ўзьнікненьня тэрыторыі Літоўска-Беларускай дзяржавы і адводзіць факту заваяваньня, у справе ўзьнікненьня тэрыторыі, другараднае значэньне, высоўваючы прынцып добраахвотнага прызнаньня асобнымі землямі літоўскага сувэрэнітэту. М. К. Любаўскі першы зьвярнуў увагу на фэдэрацыйны характар тэрыторыі Літоўска-Беларускай дзяржавы, нагляданьне, стаўшае агульнапрызнаным сучаснай гісторыяграфіяй. Гісторыю тэрыторыяльнага ўзьнікненьня Літоўска-Беларускай дзяржавы таксама вывучаў Ф. І. Леантовіч, у „Очерках истории литовско-русского права“, „Образование территории Литовского государства“, Пецярбург 1894 г. Праца надта цікавая сваімі падрабязнасьцямі і прыватнасьцямі, але яна напісана на падставе матэрыялу, які быў недаволі крытычна праверany, і без здавальняючых паказаньняў на тое, што шмат якія пункты былі выказаны да Леантовіча проф. М. К. Любаўскім. Праца Ф. І. Леантовіча была дужа старанна разгледжана з крытычнага боку М. К. Любаўскім, у рэцэнзіі „К вопросу об удельных князьях и местном управлении в Литовско-Русском государстве“, Жур. Мин. Нар. Прос., 1894 г., кн. № 8. У польскай гістарычнай літаратуры няма спэцыяльных прац, што датычылі-б пытаньня аб узьнікненьні тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага, але затое маецца шэраг надта добрых монографій, якія дэтальна высьвятляюць першапачатковыя моманты ў гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Да іх належаць—*L. Latkowski*—„Mendog, król Litewski“, Kraków 1892; *Stadnicki*—„Synowie Gedymina“—Lwów, 1881, „Olgierd i Kiejstut“, L., 1870; *Wolff*—„Ród Gedymina“, Kraków, 1886.

Апрача гэтага, W. Komieniecki апублікаваў надта каштоўную працу—„Geneza państwa litewskiego“ (Przegląd historyczny, t. 19), з якой вельмі патрэбна лічыцца дасьледчыкам першых момантаў узьнікненьня тэрыторыі Вял. Кн. Літоўскага.

Спачатку выказаная В. Б. Антановічам думка аб узьнікненьні тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага, дзякуючы працам М. К. Любаўскага, не спаткала агульна-навуковага прызнаньня, але паказаньні таго-ж самага аўтара на тое, што двоісты этнографічны склад Вялікага Княства Літоўскага меў вялізарны ўплыў на гістарычны лёс Вялікага Княства

Літоўскага, мела далейшае разьвіцьцё і абаснаваньне ў працах М. К. Любаўскага. З пунктам погляду, выказаным апошнім аўтарам, згаджаецца проф. Кутшэба і Лявіцкі, у яго працы—„Powstanie Swidrygiełły", Kr., 1892. Праўда, у апошні час агульнапрыняты пункт погляду на ўзаемныя адносіны нацыянальнасьцяй спаткаў адмоўныя да сябе адносіны з боку маладога польскага вучонага О. Галецкага, у артыкуле—„Litwa, Ruś i Zmudź jako części składowe Wielkiego Księstwa Litewskiego" (Rozprawy Ak. Um., Serja II, t. XXXIV, Kr., 1916 г.).

Гэты артыкул зьяўляецца спробай даць некалькі іншае тлумачэньне ўзаемаадносінам уласна-літоўскіх і беларуска-украінскіх зямель, на глебе поўнай адмоўнасьці якой-бы то ні было нацыянальна-палітычнай супраціўнасьці паміж уласна-літоўскімі і беларуска-украінскімі землямі, а таксама шляхам некалькі іншага тлумачэньня юрыдычнага становішча Жмудзі, у складзе Вялікага Княства Літоўскага. Гэтым самым аўтар замяняе дуалізм будовы Літоўска-Беларускай дзяржавы сыстэмай трыалізму (Літва, Русь, Жмудзь). Зразумела, пытаньне, пастаўленае О. Галецкім, патрабуе дэтальнага вывучэньня.

Другое спрэчнае пытаньне аб палітыка-юрыдычных адносінах Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага багата выяўлена ў спэцыяльнай гісторыка-юрыдычнай літаратуры. Поўная гісторыя Літоўска-Польскай вуніі, паколькі апошняя зрабіла ўплыў на разьвіцьцё і на расшырэньне компэтэнцыі вялікага вальнага сойму выразна, выяўлена ў працы М. К. Любаўскага „Литовско-Русский Сейм" (Масква, 1901 г.). Поцяг Польшчы і Літвы да заключэньня унітарных адносін аўтар тлумачыць уплывам шэрагу ўнутраных і знадворных прычын, якія, у моц свайго об'ектыўнага дзеяньня, прымушалі абедзьве дзяржавы адчуваць поцяг адна да другое. Але унітарнае пытаньне, яго посьпехі і няпосьпехі, аўтар зьвязвае з экономічнай і палітычнай барацьбой, якая увесь час ішла ўнутры шляхецкага стану і якая мела асабліва варожыя адносіны ў першай палове XVI сталецьця. У той час, калі буйныя магнаты выступалі супраціўнікамі вуніі, дробнае і сярэдняе шляхецкае зямляўласьніцтва стала рэзка на бок вуніі і дабілася яе рэалізацыі на Люблінскім Сойме 1569 г. Некалькі раней унітарная проблема да 1569 году была прадметам вучонай увагі М. В. Доўнар-Запольскага, у працы „Польско-Литовская уния на сеймах до 1569 года", „Труды Славянской Комиссии при Московском Археологическом Обществе", т. II, М., 1898. Аўтар, галоўным чынам, скіраваў сваю ўвагу на вывучэньне унітарных проектаў XV сталецьця, у асаблівасьці проекту 1499 году. Унітарная проблема была разгледжана Ў. І. Пічэтай ў артыкуле „Литовско-Польские унии и отношение к ним литовско-русской шляхты—Сборник статей, посвященных В. О. Ключевскому", Масква, 1909 г. Проблема вуніі, якая абмяркоўвалася на Люблінскім Сойме, была прадметам дакладнага вывучэньня з боку І. І. Лаппо ў яго працы „Виленское Княжество Литовское за время от заключения

Люблинской унии до смерти Стефана Баторыя (1569—1586)", Петр., 1901. І. І. Лаппо вывучае проблему Люблінскай вуніі з літоўскага пункту погляду, які адстойваў нацыянальную самастойнасьць Вялікага Княства Літоўскага. Люблінская вунія была ўважліва высьветлена і ў працы М. С. Грушэўскага—„История Украины и Руси", т. IV. Проблема літоўска-польскіх вуній была прадметам дакладнага вывучэньня з боку польскай гістарычнай навукі, якой прыходзілася датыкацца польска-літоўскіх адносін, у зьвязку з вывучэньнем асобных навуковых пытаньняў.

Раньняя гісторыя літоўска-польскіх вуній была багата выяўлена ў польскай літаратуры. Адзначаем працы: *Шайноха*—„Ядвига и Ягелло", т. I і II, СПБ., 1880. *St. Smolka*—„Kiejstut i Jagełło", Kraków, 1888. *F. Koneczny*—„Jagełło i Witold", cz. I, Lwów, 1893. *Lewicki*—„Powstanie Swidrigiełły", а таксама „Über das staatrechtliche Verhältniss Litauens zu Polen unter Jageilo und Witold", Gdańsk, 1894. *J. Kochanowski*—„Witold, wielki książe Litewski", Lwów, 1900. *O. Halecki*—„Ostatnie lata Świdrygiełły i sprawa Wołyńska za Kazimierza Jagiełłończyka", Kraków, 1915.

Апрача таго, у польскай гісторыяграфіі ёсьць шэраг дужа добрых прац па пытаньню аб літоўска-польскіх вуніях. Яшчэ ў 1913 г. акадэмік Кутшэба, у сваёй прамове аб мэтодзе вывучэньня літоўска-польскіх вуній, прызнаў надзвычайную актуальнасьць данага пытаньня для польскай гісторыка-юрыдычнай думкі і паказаў на патрэбнасьць дакладнага і ўважлівага яго вывучэньня, тым больш, што наўкол пытаньня аб польска-літоўскіх землях назьбіралася шмат літаратуры, якая падыходзіць да гэтага надзвычайнай важнасьці пытаньня вельмі аднабока. Пяцісотгадовы юбілей Горадэльскай вуніі выклікаў узьнікненьне шэрагу спэцыяльных досьледаў па пытаньні аб Горадэльскай вуніі, з ліку якіх зварочвае на сябе асаблівую ўвагу праца Львоўскага профэсара Бальцэра—Unią Horodelska, Lw., 1913. У зьвязку з Горадэльскай вуніяй разгледжана унітарная проблема А. Прохаска, у артыкуле—„Unia" Kwar. Histor., 1913, k. 2-3. Апрача таго, таму-ж аўтару належыць спэцыяльная праца аб вуніях—Przyczyny krytyczne do dziejów unji, Rozprawy Ak. Um., Serja II, t. 33, Kr., 1896.

У эпоху імпэрыялістычнай вайны, калі перад узроджанай Польшчай адкрываліся новыя вялікія магчымасьці і пэрспэктывы, у польскай гісторыяграфіі зьявілася некалькі каштоўных прац аб літоўска-польскіх вуніях, якія фактычна зьяўляліся пераглядам ўсяго таго матэрыялу, якога назьбіралася як ў галіне крыніцазнаўства, так і гісторыяграфіі.

Трэба прызнаць, што рэвізыянізм зьяўляўся вельмі патрэбным. Гэтага патрабавала як наяўнасьць дужа значнай, першараднай па якасьці літаратуры, так і важнасьць самой проблемы, якая патрабавала, каб яна сама па сабе стала цэнтрам увагі вучонай дасьледніцкай думкі. Гэткі рэвізыянізм і быў выкананы польскай гістарычнай навукай. Юбілей Го-

радэльскай вуніі пацягнуў за сабой публікацыю акад. Кутшэбай спэцыяльнага выданьня пад загалоўкам „Polska i Litwa w dziejowym stosunku“—Kr., 1914, у якім акад. Кутшэбе належыць вялікі досьлед аб літоўска-польскіх вуніях—„Unia Litwy z Polską“. Досьлед акад. Кутшэбы мае некалькі іншыя мэты і заданьні, параўнаўча з папярэднімі працамі па гісторыі вуніі. Акад. Кутшэба зусім мае рацыю ў сваім пацьвярджэньні, што папярэдняя гісторыка-юрыдычная гісторыяграфія ў здавальняючай поўнасьці выясьніла палітычнае значэньне літоўска-польскіх вуній. Таму то таксама ўжо пачалося вывучэньне літоўска-польскіх адносін з пункту погляду значэньня апошняй для культуры і дзяржаўнага ладу.

Гэты новы рух ужо даў багатыя вынікі. Дасьледчыкі літоўска-польскіх вуній не падыходзілі да гэтага часу да вывучэньня апошніх з дзяржаўна-праўнага пункту погляду. Заставалася зусім недасьледвана пытаньне аб юрыдычным характары літоўска-польскай вуніі, з высьвятленьнямі тых агульных прычын, якія дапамагалі замацаваньню унітарных сувязяй Літвы з Польшчай. Праца проф. Кутшэбы, напісаная з уласьцівым для аўтара мастацтвам, зьяўляецца каштоўным укладам у літаратуру вывучэньня літоўска-польскіх унітарных адносін. Праз 5 год проф. О. Галецкі выдаў спэцыяльны досьлед, прысьвечаны пытаньню аб літоўска-польскіх адносінах. У сваёй працы—„Dzieje Unii Jagiełłońskiej“ t. I i II, Kraków, 1919—1920. O. Halecki дае дасканалы досьлед аб літоўска-польскіх вуніях. Папярэдняя гісторыяграфія ў значнай меры аблягчыла працу аўтару. Прысьвячаючы літоўска-польскай вуніі спэцыяльны досьлед, O. Halecki прыцягнуў да досьледу ўвесь, які ён меў, матэрыял крыніц, і, калі ў працы аўтара няма новых поглядаў, што ў тэй ці іншай меры ня выказваліся-б у спэцыяльнай гісторыка-юрыдычнай літаратуры, як у расійска-украінскай, так і польскай, дык яна адначасова дае поўную спэцыяльную гісторыю літоўска-польскіх вуній. O. Halecki скіраваў сваю ўвагу на двух пытаньнях: 1) Фактычнай гісторыі літоўска-польскіх адносін і перагавораў у зьвязку з вуніяй, а таксама 2) высьвятленьні тых умоў, якія рабілі ўплыў на літоўска-польскія адносіны. Гэтыя ўмовы былі падвойнага характару. З аднаго боку, агульныя географічныя і гісторыка-палітычныя ўмовы піхалі абедзьве дзяржавы ў бок заключэньня унітарнай згоды. Гэтыя ўмовы былі так здольнадзейны, што, ня гледзячы на значны ўплыў асяродкавых імкненьняў, яны ўвесь час падтрымоўвалі унітарны поцяг Літвы да Польшчы. Кажучы аб адасяродкавых імкненьнях, аўтар падкрэсьлівае тую вялізарную ролю, якую выяўляў аб'яднаны Лівонска-Тэўтонскі ордэн да літоўска-польскіх адносін. Палітыка нямецкага ордэну ўвесь час будавалася на прынцыпе імкненьня адасабленьня Літвы ад Польшчы і падтрыманьня ў першай адасяродкавых імкненьняў. У далейшым, патрэбнасьць абараняць граніцы як ад татарскіх нападаў, гэтак і ад націску Масквы, была моцным фактарам, які дапамагаў падтрыманьню літоўска-польскіх унітарных адносін і пастаноўцы гэтай перша-

раднай важнасьці проблемы ў некалькі іншай форме, параўнача з характарам і з сутнасьцю папярэдніх літоўска-польскіх унітарных згод. Нарэшце, Якубоўскі, у сваім цікавым артыкуле—„Z zagadnień unji polska-litewskiej“—Przegląd historyczny, t. 22, Warszawa, 1919—1921, разглядае асобныя пытаньні ў зьвязку з унітарнымі літоўска-польскімі адносінамі, высунутымі праф. Кутшэбай у яго монографіі аб уніі Літвы і Польшчы, і Halecki'м, у яго артыкулах—„Przegląd historyczny“, якія ўпасьледку ўвайшлі ў яго досьлед аб вуніях.

У расійска-украінскай гісторыяграфіі, а таксама часткова і ў польскай, лічыцца агульна прызнаным фактам дваістасьць нацыянальнага складу Вялікага Княства Літоўскага. Усе расійска-украінскія гісторыкі прызнавалі колькасную і якасную пераважнасьць украінска-беларускай народнасьці. На гэтым факце перавагі будаваўся складаны малюнак нацыянальнай і палітычнай барацьбы, а таксама і нацыянальна-палітычных адносін у Літоўска-Беларускай дзяржаве. Гэты пункт погляду адбіўся ў працах: *Н. Дашкевіча*—„Борьба культур и народностей в Лит.-Русском государстве в период династической унии Литвы с Польшей“ („Киев. Унив. Изв.“ 1884, X і XII т.) і *А. Г. Вольдэмар*—„Национальная борьба в Великом Княжестве Литовском в XV—XVI в. в.“ („Изв. рус. языка и словесности Ак. Наук“, 1909 г., т. XIV, кн. 3). Аднак-жа гэты пункт погляду выклікаў пярэчаньне з боку Я. Якубоўскага ў працы,—„Studya nad Stosunkami narodowościowemi na Litwie przed unia Lubelską“, War., 1912 г., дужа цікавай па свайму зьместу і нагляданьнях, але дужа спрэчнай па сваіх вавадах. Я. Якубоўскі выступае супроць пануючай думкі, што „руская“ нацыя мае пераважнасьць ў складзе Вялікага Княства Літоўскага. Зусім новую пабудову нацыянальна-палітычных адносін, якая зусім не прызнавала нацыянальнай супраціўнасьці ўнутры Вялікага Княства Літоўскага, дае О. Галецкі ў сваёй працы—„Litwa, Ruś i Żmudź, jako cześci składowe Wielkiego Księstwa Litewśkiego“ (Rozprawy, Serja II, t. XXXIV, Kr., 1916 г.).

Праца О. Галецкага, зразумела, будзе прадметам самага ўважлівага вывучэньня з боку ўсіх дасьледчыкаў гісторыка-юрыдычнага мінулага Беларусі. Калі нагляданьні аўтара будуць прызнаны правільнымі, дык прыдзецца адмовіцца ад агульнапрынятых пунктаў погляду на характар унутраных нацыянальных адносін у Вялікім Княстве Літоўскім, якія прыдзецца высьветліць з зусім новых пунктаў гледжаньня. Працы О. Галецкага, натуральна, павінны выклікаць рэвізыянізм цэлага шэрагу пытаньняў, здавалася-б ужо даволі поўна і выразна высьветленых у гісторыка-юрыдычнай літаратуры. Нацыянальны склад Вялікага Княства Літоўскага адзначаўся пэўнай стракатасьцю. Асабліва юрыдычнае становішча займалі ў Вялікім Княстве Літоўскім яўрэі і татары. Гістарычны лёс яўрэяў і іх юрыдычнае становішча разгледжаны С. А. Бэршадзкім у яго працы—„Литовские евреи“, Пец., 1883. Юрыдычна-экономічнага

становішча татар датыкаўся спачатку А. Мухлінскі ў яго працы—„Исследование о литовских татарах“, СПБ., 1857 г., а пасьля І. І. Лаппо ў сваёй працы „Великое Княжество Литовское“.

Гісторыка-юрыдычная навука з выстарчаючай увагай вывучала організацыю дзяржаўнага ладу Вялікага Княства Літоўскага. Гэтая організацыя да Люблінскай вуніі ўключна паказана ў гісторыяграфіі далёка ня поўна. Да гэтага часу ня было асобнай монографіі, прысьвечанай гісторыі вялікакняскай улады. Гісторыкі і юрыстыя ў сваіх монографіях заўсёды датыкаліся пытаньня аб юрыдычным становішчы вялікакняскай улады. Ёсьць цэлы шэраг каштоўных нагляданьняў і ўваг, якія застаюцца да гэтага часу ня прыведзенымі ў сыстэму і не абагульненымі. Так, для характарыстыкі міжкняскіх адносін у XIV сталецьці трэ‘ зьвярнуцца да дзьвюх невялікіх дужа каштоўных монографій М. К. Любаўскага: „К вопросу об удельных князьях и местном управлении в Литовско-Русском государстве“ („Журнал Мин. Нар. Прос.“ 1894, кн. 8) і „О распределении владений и об отношениях между великими и другими князьями Гедиминова рода в XIV—XV веках“ („Моск. Истор. О-во“ 1896 г., т. I).

Апрача таго, тое-ж пытаньне разглядалася Ф. І. Леантовічам у „Очерках по истории литовско-русского права“,—Пецяр. 1894 г., а таксама ў вышэй названых працах Стадніцкага і Вольфа—Ród Gedymina“, 1886 г. і „Kniaziowie Litewsko-Ruscy“, War. 1895. Гісторыя вялікакняскай улады пры Вітаўце выяўлена ў шэрагу монографій, напісаных як расійска-украінскімі, так і польскімі дасьледчыкамі. Час Вітаўта даволі поўна абсьледваны ў дужа добрых монографіях А. Барбашэва—„Витовт и его политика до Грюнвальдской битвы“, Пецяр. 1885 г. і „Витовт, последние 20 лет княжения (1410—1430)“, Пецяр. 1891 г. У украінскай гісторыяграфіі тая-ж эпоха падрабязна абсьледвана М. С. Грушэўскім у яго „Истории Украини-Руси“, т. IV, Кіеў—Львоў, 1907. У польскай гісторыяграфіі эпосе Вітаўта прысьвечаны працы: *I. Kochanowski*—Witold Wielki książe Litewski, Lwów, 1900; *An. Prochaska*—«Szkice historyczne w XV wieku», Kr., 1884.

Гісторыя вялікакняскай улады пасьля Вітаўта разгледжана ў працы Haleck'ara—„Ostatnie lata Świdrygiełły“, Kr., 1915. Сыгізмунду Кейстутавічу спэцыяльна прысьвечана асобная монографія, напісаная Барвінскім—„Zygmunt Kiejst (Zólkiew. 1915). Вялікакняскай уладзе пры Казіміру Ягелончыку прысьвечаны дзьве працы: *A. Lewicki*, Wstąpienie na tron Kazimierza Jagiełłonczyka, Kz. 1896. *Papée*, Polska i Litwa na przełomie wieków srednich, t. I, Kr. 1903 г.

Гісторыя вялікакняскай улады пры Сыгізмундзе I і Сыгізмундзе II паказана ў працы *Finkel*'я—Elekcyja Zygmunta I—Sr. 1909 і *S. Kolankowski* „Zygmunt-August, wielki księże Litwy do roku 1548“. Lwów, 1913.

Агульная эволюцыя вялікакняскай улады ў Літве з 1386 г. па 1569 г. дана М. К. Любаўскім у яго „Литовско-Русском сейме“ (М. 1901).

Аўтар датыкаецца гісторыі вялікакняскай улады пастолькі, паколькі апошняя была зьвязана з гісторыяй літоўска-беларускага вялікага вальнага сойму. Гісторыі вялікакняскай улады датыкаецца *М. Чубатны* ў сваёй працы „Державно правне становище українських земель Литовской держави під кінец XIV в.“ („Записки Наук. Тов. імени Шевченко у Львові“, ст. 134-135). Наогул монографічнае вывучэньне гісторыі вялікакняскай улады да Люблінскай вуніі складае чарговую задачу гісторыка-юрыдычнай навукі.

Другі складаны элемэнт дзяржаўнай улады ў Літоўска-Беларускай дзяржаве, так званы вялікі вальны сойм, паказаны дужа багата ў гісторыка-юрыдычнай літаратуры. М. К. Любаўскі ў 1901 годзе надрукаваў сваю вядомую працу „Литовско-Русский Сейм“, у якой аўтар на фоне знадворных і ўнутраных адносін, у якіх праходзіла дзяржаўна-праўнае жыцьцё Вялікага Княства Літоўскага, дае поўную гісторыю вялікага вальнага сойму, з моманту зараджэньня аж да Люблінскай вуніі ўключна. У сваёй працы М. К. Любаўскі датыкаецца таксама цэлага шэрагу пытаньняў, якія мелі вялізарны ўплыў на разьвіцьцё вял. вальнага сойму, у прыватнасьці ім вывучана гісторыя літоўска-польскіх адносін.

Разам з тым, на агульным фоне разьвіцьця вялікага вальнага сойму, ім дана гісторыя вялікакняскай улады, гісторыя вялікакняскай рады, гісторыя ўзьнікненьня шляхецкага стану, а таксама ідэолёгія апошняга. Заснаваная на вялізарным сьвежым архіўным матэрыяле, праца М. К. Любаўскага склала эпоху ў разьвіцьці гісторыка-юрыдычных ведаў, што датычыла мінулага Літоўска-Беларускай дзяржавы. У наступным годзе вышла праца Харкаўскага профэсара Н. А. Максімейка— „Сеймы Литовско-Русского государства до Люблинской унии 1569 г.“, Хар. 1902. Аўтар, юрысты па спэцыяльнасьці, працаваў па тых-жа матэрыялах, што і М. К. Любаўскі. Дзеля гэтага нават у прыложаных да досьледу матэрыялах з Літоўскай Мэтрыкі ёсьць дакументы, тожсамыя з надрукаванымі дакумантамі М. К. Любаўскага. Гэта тлумачыцца тым, што гэтыя дакументы былі надрукаваны Н. А. Максімейка задоўга да выйсьця ў сьвет працы М. К. Любаўскага. У значнай сваёй частцы праца Н. А. Максімейка зьяўляецца крытычным разборам досьледу Любаўскага. Па сваёй пабудове і зьместу досьлед Н. А. Максімейка зусім розьніцца ад працы М. К. Любаўскага. Перш за усё, уся ўвага дасьледчыка скіравана на вывучэньне сойму, як такога. Рэшта проблем, цесна зьвязаных з гісторыяй вялікага вальнага сойму, заставаліся па-за вучонай увагай Н. А. Максімейка. Уся гісторыя унутраных адносін, якія ўплывалі на разьвіцьцё вялікага вальнага сойму, не закранута дасьледчыкам. Па думцы аўтара, вялікі вальны сойм вырас у зьвязку з знадворным становішчам Вялікага Княства Літоўскага і адносінамі цэнтральных краін да беларуска-украінскіх зямель. З крытыкай асобных палажэньняў М. К. Любаўскага выступіў проф. М. В. Доўнар-Запольскі, які выдаў

невялікую, але дужа каштоўную гісторыка-юрыдычную працу „Спорные вопросы по истории литовско-русского сейма“, Ж. М. Н. П., 1901—10. Погляды, выказаныя М. В. Доўнар-Запольскім і Н. А. Максімейка разьбіраліся былі Любаўскім у артыкуле „Новые труды по истории литовско-русского сейма“, Ж. Н. М. П., 1903, № 2-3. Работа М. К. Любаўскага была таксама крытычна разабрана І. І. Лаппо, які даваў водзыў па даручэньню Акадэміі Навук і Таварыства Гісторыі Старажытнасьці, куды М. К. Любаўскі падаў сваю працу для атрыманьня прэміі. Хаця-ж рэцэнзія і ня мае ў сабе ніякіх новых пунктаў погляду („Чтение Об Ист. и Др. Рос.“, 1903, кн. 3). Нарэшце, з расійскіх дасьледчыкаў пытаньня аб Вальных Соймах дакрануўся Ф. І. Леантовіч у артыкуле „Веча, сеймы и сеймики в Великом Княжестве Литовском“, Ж. М. Н. П. 1910, № 2-3. Гэтая праца ўяўляе сабой сыстэматычнае выкладаньне асобных фактаў, дужа расплыўчатае з мэтодолёгічнага боку і новага нічога не дае.

Гісторыя Гаспадарскай Рады, як аднэй з складаных частак вялікага вальнага сойму, была дана ў сваіх асноўных рысах М. К. Любаўскім у „Литовско-Русском сейме“. Асобныя ўвагі па гісторыі рады былі зроблены М. В. Доўнар-Запольскім у названым вышэй крытычным дасьледзе на працу Любаўскага. Спэцыяльныя досьледы па гісторыі Рады вялікага княства былі даны І. А. Маліноўскім, досьледы якога („Рада Великого Княжества Литовского в связи с боярской Думой древней России“, ч. I і II. Томск, 1904—1912“) хоць не даюць ніякіх новых прынцыповых вывадаў параўнаўча з М. К. Любаўскім, але ў той-жа час зьмяшчаюць у сабе мноства першараднай важнасьці падрабязнасьцяй, якія датычаць дзяржаўнай дзейнасьці Рады і высьвятляюць дужа важныя бакі жыцьця Вялікага Княства Літоўскага. Ф. І. Леантовіч таксама адклікнуўся на высунутую навукай проблему ў артыкуле „Рада Великих Князей Литовских“, Ж. М. Н. П., 1907, № 9-10. Але гэты артыкул каштоўны толькі як справачны, і нічога не дае новага. Крыху пазьней М. К. Любаўскі, у артыкуле „К вопросу об ограничении политических прав православных князей, панов и шляхты в Великом Княжестве Литовском“—Сборник статей, посвященных В. О. Ключевскому, Масква, 1909, датычыць пытаньня аб уваходжаньні праваслаўных вяльмож у Вялікакняскую Раду. Аўтар адзначае, што на практыцы артыкул Гарадэльскага прывілею фактычна не ажыцьцяўляўся. Апошняя проблема таксама была вывучана і двума польскімі аўтарамі—*Katienieck*'ім у артыкуле „Ograniczenia wyznaniowe w prawodawstwie litewskim w XV—XVI wieku“ (Przegląd historyczny, t. 13, 1911). *Chodynick*'ім у артыкуле—„Geneza równoprawienia schyzmatyków w W. Ks. Litewskim“ (Przeg. Hist., 1919—1921), якія нанова пераглядзелі гэтае пытаньне.

Асабліва цікавая праца другога польскага гісторыка, які паказвае на толерантнасьць рэлігійнай палітыкі ўраду Вялікага Княства Літоўскага.

Організацыя і сыстэма цэнтральнага кіраваньня даволі поўна паказаны ў названых вышэй працах М. К. Любаўскага, І. А. Маліноўскага, М. В. Доўнар-Запольскага, Н. А. Максімейка і Ф. І. Леантовіча ў артыкуле „Литовские господари и центральные органы управления до и после Люблинской унии“ (Юрыдычныя запіскі, Праслаўль, 1908, т. I). Гэтая работа не дае таксама нічога прынцыпова новага, цікава толькі некаторымі сваімі дэталямі. Організацыя краёвага падзелу і мясцовага кіраваньня ў эпоху да 1529 г. дасьледвана М. К. Любаўскім у працы—„Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского Статута“ (М., 1892). Праца М. К. Любаўскага надзвычайна багата сваім зьместам, які далёка не пакрывае свайго загалоўку. Яна закранае грунтоўныя пытаньні, зьвязаныя з організацыяй кіраваньня і соцыяльнай пабудовы Літоўска-Беларускай дзяржавы, і дае адказ на шэраг першараднай важнасьці пытаньняў, з якіх большасьць былі ім пастаўлены ўпяршыню, а іншыя былі перагледжаны, бо аўтар, маючы дужа багаты архіўны матэрыял, мог на падставе шмат якіх даных прыйсьці да зусім іншых вынікаў і гэтым самым прызнаць бяздоваднасьць шмат якіх раней выказаных поглядаў. Істотным дапаўненьнем да досьледу М. К. Любаўскага зьяўляецца досьлед М. В. Доўнар-Запольскага—„Очерки по организации западно-русского крестьянства в XVI в.“ (Кіеў, 1905 г.), у якім аўтар спэцыяльна вывучыў організацыю сялянскага самакіраваньня ва ўсходніх краёх Літоўска-Беларускай дзяржавы. Характарыстыка дзейнасьці провінцыяльнай адміністрацыі, як органаў гаспадарча-грашовага кіраваньня, у гаспадарскіх доменах, надзвычайна багата выяўлена М. В. Доўнар-Запольскім у яго клясычнай працы—„Государственное Хозяйство Великого Княжества Литовского при Ягеллонах“ (т. I, Кіеў, 1901 г.).

Шмат асобных зьвестак па організацыі кіраваньня раскідана ў бязладнай працы Ф. І. Леантовіча „Крестьянский двор в Литовско-Русском государстве“ (Ж. М. Н. П., 1896, II-IV, VII, X, XII і 1897—IV і V). Аўтар зусім ня меў сілы справіцца з тым вялізарным матэрыялам, які знаходзіўся пад яго ведамам. Урэшце, ім таксама напісаны і спэцыяльны досьлед „Областное управление в Великом Княжестве Литовском до и после Люблинской унии“ (Юрыдычныя запіскі, 1908, II, 1903, III).

Аўтар грунтуецца на Любаўскім і імкнецца ўнесьці некаторыя корэктывы ў тэорыю Любаўскага. Наогул-жа першая частка працы не дае нічога новага, цікавая толькі данымі, што датычаць да эпохі пасьля Люблінскай вуніі, зусім нераспрацаванымі ў гісторыяграфіі. Надзвычайна каштоўным для вывучэньня мясцовага кіраваньня зьяўляецца досьлед М. В. Доўнар-Запольскага—„Украинские староства в первой половине XVI века“ (Кіеў, 1908). Апіраючыся на мясцовыя актавыя матэрыялы, М. В. Доўнар-Запольскі дае шэраг каштоўных дапаўненьняў да гісторыі мясцовага кіраваньня і ўносіць некаторыя папраўкі ў азначэньне

компэтэнцыі Кіеўскага ваяводы, якое некалькі мяняла погляд М. К. Любаўскага на гэтае пытаньне.

Рэформа мясцовага кіраваньня ў 60-ых гадох XVI сталецьця была часткова закранута М. К. Любаўскім у яго „Литовско-Русском Сейме". Аўтар дакрануўся гэтай рэформы пастолькі, паколькі гэта было патрэбна для выкладу апошняй стадыі ў эволюцыі вялікага вальнага сойму. Гэтая-ж проблема была спэцыяльна распрацавана ў працы І. І. Лаппо— „Великое Княжество Литовское во второй половине XVI столетия; Литовско-Русский Повет и его сеймик" (Юр'еў, 1911), а таксама ў шэрагу самых каштоўных артыкулаў, што датычаць рэформы судатворчасьці, а іменна: „Земский Суд в Великом Княжестве Литовском в XVI столетии" (Ж. М. Н. П., 1897, № 6); „Гродский Суд в Великом Княжестве Литовском в XVI столетии" (Ж. М. Н П., 1908, I) і „Подкоморский Суд в Великом Княжестве Литовском в конце XVI и начале XVII века" (Ж. М. Н. П., 1899, № 8). Стан мясцовага кіраваньня і краёвы падзел пасьля 1569 году дасьледваны І. І. Лаппо ў працы „Великое Княжество Литовское за время от заключения Люблинской унии до смерти Стефана Батория (1569—1586)", Пецярбург, 1901 г., у якой таксама дана і організацыя цэнтральных установ і пасад па провінцыяльнаму кіраваньню. Агульны водзыў аб гэтай працы быў даны М. К. Любаўскім (Ж. М. Н. П., 1911 г.).

Грамадзкія адносіны ў Вялікім Княстве Літоўскім да Люблінскай вуніі не аднолькава выяўлены ў гісторыка-юрыдычнай літаратуры. Можна сказаць, што гэтыя пытаньні, адзначаныя ў асноўных сваіх рысах, яшчэ чакаюць свайго спэцыяльнага абагульняючага дасьледваньня. Агульны малюнак узьнікненьня і заснаваньня шляхецкага стану і часткова характарыстыка юрыдычнага становішча апошняга ёсьць у „Литовско-Русском Сейме" М. К. Любаўскага. Пытаньні, зьвязаныя з разьвіцьцём і відамі шляхецкага зямляўладаньня, шырока разгледжаны М. В. Доўнар-Запольскім у яго „Государственном Хозяйстве В. К. Литовскага при Ягеллонах", М. В. Уладзімірскім-Будановым у артыкуле „Поместье" (Кіеў, 1889). Тых-жа пытаньняў датыкаўся М. К. Любаўскі ў сваім „Областном делении и местном управлении". Зараджэньня „служилого класса" датыкаецца Ф. І. Леантовіч у сваім артыкуле „Бояре и служилые люди в Литовско-Русском государстве" (Журнал Министер. Юстиции, 1907, № 5). Гэты артыкул запоўнены, як заўсёды, вялізарным матэрыялам, але на дзіва бесталкова ў сэнсе мэтоду. Юрыдычнаму стану літоўска-беларускай шляхты прысьвечаны спэцыяльны досьлед Ф. І. Леантовіча— „Правоспособность Литовско-русской шляхты" (Журнал М. Н. П., 1908, кніга 3, 5, 6 і 7 і 1909 году—кніга 2 і 3). Гісторыя разьвіцьця шляхецкага стану і яго юрыдычнае становішча подрабязна разгледжаны І. І. Лаппо ў яго працы „Великое Княжество Литовское, за время от заключения Люблинской унии до смерти Стефана Батория", Птр. 1901. Роля і значэньне

шляхецкага стану ў павятовым кіраваньні таксама дасьледвана І. І. Лаппо у яго досьледзе „Литовско-русский повет и его сейм“. Тое-ж пытаньне багата паказана і ў польскай гісторыка-юрыдычнай літаратуры. Так, І. Бараноўскі, датыкаючыся надта важнай проблемы аб фэўдалізьме ў Вялікім Княстве Літоўскім, агульная характарыстыка якога была дана М. К. Любаўскім у артыкуле „Феодализм“ (энцыклёпэдычны слоўнік Брокгауза і Эфрона, том 35), прысьвяціў гэтаму пытаньню каштоўныя досьледы—„Z dziejów feudalizmu na Podlasiu“ (Przeg. Hist., 1907, t. IV).

Тых-жа пытаньняў датыкаецца Бараноўскі і ў сваіх працах—„Podlasie w przededniu unji Lubelskiej“ (Przeg. Hist., 1908, t. VIII) і „Sprawa szlachty poddańczej w starostwie Tykocińskiem“ (Przeg. Hist., t. 3, 1911).

Проблема росту юрыдычнага становішча шляхецкага стану разглядаецца і проф. Стан. Кутшэбай у яго працы „Unia Polski z Litwą“.

Узаемаадносіны польскай шляхты і літоўска-рускага баярства, у моц унітарнай згоды 1413 году, разгледжаны *W. Semkowicz*'ам у дужа добрым досьледзе „Braterstwo szlachty polskiej z bojarstwem litewskim w unii Horodelskiej 1413 r.“ (Polska i Litwa w dziejowym stosunku). Тыя-ж пытаньні гэральдыкі былі закрануты *Piekosinsk*'ім у досьледзе „O źródłach heraldyki ruskiej“ (Rozprawy Ak. Um. t. 87, 1899) і *Jabłonowsk*'ім ў арт. „W sprawie sredniewecznej heraldyki litewsko-ruskiej“ (Kwar. hist., 1898, t. 12).

Менш падрабязна паказана ў гісторыка-юрыдычнай літаратуры горад і гарадзкі стан. Юрыдычнае і экономічнае становішча месц, якія ня мелі магдэбурскага права, выяўлены ў працах В. Б. Антановіча—„Исследованиях о городах Юго-Западного края“, М. К. Любаўскага—„Областное деление и местное управление“ і М. В. Доўнар-Запольскага—„Государственное хозяйство Великого Княжества Литовского“, а таксама ў нядаўна вышаўшай монографіі А. С. Грушэўскага „Города Великого Княжества Литовского“ (Кіеў, 1918). У гэтай рабоце дана абагульняючая характарыстыка гарадоў без магдэбурскага права. Для гэтай мэты аўтарам скарыстаны ўсе надрукаваныя дакуманты, параскіданыя ў розных выданьнях. Работа В. Б. Антановіча, у пэўнай меры, ужо ўстарэлая. Да гэтага-ж зьмены ў жыцьці і ладзе літоўска-беларускага гораду выяўлены аўтарам надта аднабока. Адносна гарадоў з магдэбурскім правам маецца некаторая гісторыка-юрыдычная літаратура, наогул не багатая па колькасьці, але затое дужа каштоўная па зьместу.

Гэтая проблема зьяўляецца найменш распрацаванай у гісторыка-юрыдычнай літаратуры. М. Ф. Уладзімірскі-Буданов быў першым дасьледчыкам гісторыі магдэбурскага права ў Вялікім Княстве Літоўскім. Яго самая каштоўная праца „Немецкое право в Польше и Литве“ (С—Пецярбург, 1868), зьяўляецца спробай вывучэньня дзеяньня Магдэбурскага права, у якім яно выяўлялася ў дзеяньні гарадзкога самакіраваньня. Дасьледчык не абмяжоўваецца толькі вывучэньнем пытаньня ў дынамічным і статычным адносінах; яму таксама прыходзіцца датыкацца пы-

таньня аб культурных адносінах Польшчы і Літвы, проблемы першараднай важнасьці, але якая патрабуе надта об'ектыўных адносін з боку дасьледчыка. У сучасны момант з шмат якімі нагляданьнямі нябожчыка кіеўскага гісторыка-юрыстага, зразумела, нельга згадзіцца. Яго разважаньні аб узьнікненьні магдэбурскага права ў Літве і ўплыў апошняга на гісторыю грамадзкіх парадкаў і адносін трэ' прызнаць дужа ўстарэлымі, якія не патрабуюць перагляду. Другім дасьледчыкам быў Ф. В. Тараноўскі, аўтар дужа каштоўнага досьледу „Обзор памятников магдебургского права западно-русских городов Литовской эпохи“ (Варшава, 1897), які зьяўляецца патрэбным справачным падручнікам для вывучэньня магдэбурскага права як у яго дынаміцы, так і статыцы. Дасьледчыкам вызначана для далейшага вывучэньня першараднай важнасьці проблема, а іменна: Чым-жа ў рэчаіснасьці зьяўлялася магдэбурскае права ў гарадох Літвы? У якіх узаемаадносінах былі, з аднаго боку, мясцовае і звычаёвае права і чужое нямецкае права? Новыя, дужа каштоўныя даныя аб магдэбурскім праве паведамляе М. В. Доўнар-Запольскі ў сваім „Государственном Хозяйстве“. Экономічныя і юрыдычныя зьмены ў жыцьці гарадоў ў зьвязку з аграрнай рэформай Сыгізмунда-Аўгуста закрануты ў працы Ў. І. Пічэты „Аграрная рэформа Сигизмунда-Августа в Литовско-Русском государстве“ (ч. I і II, Масква, 1917). Нарэшце, Е. Кліменка падышоў да вывучэньня беларускіх цэхаў у досьледзе „Западно-Русские цехи“ (Кіеў, 1913). Аўтар вывучае апошнія ў параўнауча гістарычным высьвятленьні. Аўтар паставіў на чаргу для монографічнага вывучэньня пытаньне вялізарнай навуковай важнасьці і каштоўнасьці. Магдэбурскае права на Беларусі да гэтага часу заставалася па-за ўплывам вывучэньня польскіх гісторыкаў і юрыстых, калі ня лічыць невялічкага досьледу *Lowmiański* Wchody miast litewskich“ (Ateneum Wilenskie 1923, № 3—4). Затое ў нямецкай гістарычнай літаратуры тое-ж пытаньне было паднята *Halban*'ам у працы „Zur Geschichte des deutsches Rechts in Podolien; Wolhynien und der Ukraina, Berlin 1896. Аўтар пераканаўча даводзіць, што ўвядзеньне магдэбурскага права ня зьнішчыла дзеяньня мясцовага звычаёвага права. Вынікае ўзаемадзеяньне старога звычаёвага права і новага, пісанага, магдэбурскага права. На глебе ўзаемадзеяньня старога і новага права стварылася судовай практыкай спэцыфічна гарадзкое права, яшчэ хаця і мала дасьледванае. Але, зразумела, гэтая проблема зьяўляецца пытаньнем вялізарнай навуковай вартасьці і важнасьці. У якасьці тэмы для вывучэньня яна пастаўлена Украінскай Акадэміяй Навук і распрацоўваецца Юрыдычнай Камісіяй пры Акадэміі Навук. У выніку вывучэньня гарадзкога права зьявіліся артыкулы ў „Працах камісії для виучування історії західно-руського та вкраінського права“, в. І., К. 1925 г., якія зьяўляюцца, відочна, пачаткам значных прац у гэтай галіне.

Гісторыка-юрыдычны стан сялянскага насельніцтва ў Вялікім Княстве Літоўскім паказаны больш багата, параўнаўча з гарадамі ў гісторыка-

юрыдычнай літаратуры, хоць аб поўнай распрацоўцы вышэйазначанага пытаньня ня можа быць і гутаркі. Матэрыялу назьбіралася шмат, але ён патрабуе перагляду, асабліва пытаньне аб зараджэньні прыгоннага права. Першую навуковую працу па гісторыі беларуска-украінскага сялянства даў Ф. І. Леантовіч. Яго досьлед „Крестьяне Юго-Западной России по Литовскому праву XV—XVI в. в.“ (Кіеў, 1863) дазваляе добра ўявіць сабе аб юрыдычным стане сялянскага насельніцтва, галоўным чынам, на падставе законадаўства трох літоўскіх Статутаў. Аўтар таксама закрануў надта цікавае пытаньне аб тым, які ўплыў зрабіла на лёс „господарского“ сялянства валочная памера. У працы І. П. Навіцкага—„Очерк истории крестьянского сословия Юго-Западной России в XV—XVIII в.в.“ (Архіў Паўдзённа-Заходняй Расіі, ч. VI, т. I, Кіеў, 1876) даецца малюнак эканамічнага быту сялянства, для свайго часу даволі ўдачна ўстаноўлены. Статыстычнае становішча сялянства ў „господарских“ двароx даецца ў працы М. К. Любаўскага—„Областное деление“ (1892), у якой ён датыкаецца і проблемы аб узьнікненьні прыгоннага права. Калі магчыма згадзіцца з М. К. Любаўскім у тым, што прыгоннае становішча ня ёсьць перароджанае нявольніцкае становішча, дык ні ў якім разе нельга далучыцца да яго погляду на ўзьнікненьне прыгоннага права. Ф. І. Леантовіч у надта каштоўным артыкуле,—„Панский двор в Литовско-Русском государстве“ (Варш. Унив. Изв. 1895, кн. V)—даў дужа каштоўны малюнак узаемаадносін сялян і паноў. Далей той-жа Леантовіч выдаў дужа каштоўны па матэрыялу, але бязладны па мэтоду досьлед „Крестьянский двор в Литовско-Русском государстве“ (Журн. Мин. Нар. Просв. 1896, кн. II, III, IV, VII, X і XII; 1897, кн. IV і V). Узьнікненьне вышэйшых ступеняй сярод сялянскага насельніцтва, так званага ваеннага баярства, закранута Ф. І. Леантовічам у досьледзе „Бояре и служилые люди в Литовско Русском государстве“ (Ж. М. Н. Ю. 1907, кн. V і VI).

Стан сельскіх рамесьнікаў і прамыслоўцаў, апрача прац М.К. Любаўскага ў „Областном делении“, меў выразны адбітак у спэцыяльных артыкулах Ф. І. Леантовіча (Варш. Унив. Изв. 1898, кн. II і III і 1897, кн. IV, V і VII). Стан сялян ва ўсходніх краінах дужа выразна паказаны ў працы М. В. Доўнар-Запольскага—„Очерки па организации западно-русского крестьянства в XVI веке“ (Кіеў 1905), а таксама ў досьледзе М. С. Грушэўскага „Пинское Полесье XIV—XVI века“ (Кіеў, 1903). Апрача таго, у працы М. К. Любаўскага „Областное деление“ таксама закранута пытаньне аб экономічным і юрыдычным стане сельскага насельніцтва ва ўсходніх краінах. А. Я. Ефіменко ў артыкуле „Литовско-русские данники и их дани“ (Ж. М. Н. П. 1903, кн. I) дала спэцыяльны досьлед аб стане даньнікаў ва ўсходніх краінах. Гэтаму аўтару належыць артыкул „Дворищное землевладение в Южной Руси („Русская Мысль“ 1892, кн. IV і V), у якім аўтар разглядае пытаньне аб сялянскім зямляўладаньні ва ўсходніх краінах.

Зьмены, што адбыліся ў стане сельскага насельніцтва, у зьвязку з аграрнай рэформай Сыгізмунда-Аўгуста, вывучаліся М. В. Доўнар-Запольскім у толькі што названай працы, і працы У. І. Пічэта ў досьледзе— „Аграрная реформа Сигизмунда-Августа в Литовско-Русском государстве“, ч. І і ІІ, Масква, 1917. Маецца шэраг дужа каштоўных нататак у акадэмічным водзыве М. К. Любаўскага на вышэйпаказаныя досьледы М. В. Доўнар-Запольскага. У польскай гісторыяграфія маецца надзвычайна каштоўная монографія В. Камянецкага—„Rozwoj własności w dobie przed litewskim statutem, Kr. 1914 г., у якой аўтар датыкаецца шэрагу пытаньняў, ў зьвязку з экономічным станам сялян. Праўда, гэтыя пытаньні ўжо былі дасьледваны украінскімі і расійскімі гісторыкамі, але аўтар, паставіўшы сабе пэўныя задачы, пайшоў некалькі іншым шляхам. Апрача таго, праца Ў. І. Пічэты—„Аграрная реформа“ была крытычна дасьледвана профэсарам Віленскага Унівэрсытэту, Ходзяніцкім, які даў шэраг каштоўных меркаваньняў па закранутым У. І. Пічэтай пытаньні ў артыкуле—„Ateneum Wileńskie“, № 2 і 3.

Узаемаадносіны царквы і дзяржавы ў Вялікім Княстве Літоўскім параўнаўча мала вывучаная проблема. Заслугоўвае асаблівае ўвагі з боку дасьледчыкаў пытаньне аб стане праваслаўя ў Вялікім Княстве Літоўскім да прывілею 1563 году, пытаньне, якім неаднакрать цікавіліся як прадстаўнікі расійска-украінскай гісторыяграфіі, так і польскай гісторыка-юрыдычнай навукі. Агульны малюнак юрыдычнага становішча праваслаўнай царквы ў Вялікім Княстве Літоўскім даны В. А. Беднавым у працы „Православная церковь в Польше и Литве по Volumina legum“ (Екацярынаслаў, 1902). Монографія В. А. Беднава дае яскравы малюнак стану праваслаўнай царквы, на падставе дзейнага права, і ў гэтым сэнсе яна заслугоўвае поўнае ўвагі, хоць у мэтодолёгічным стасунку яна выклікае супроць сябе шмат пярэчаньняў, бо той догматыка-юрыдычны мэтод, на які ўвесь час апіраецца аўтар, трэ' прызнаць надта аднабокім. Да пытаньня аб стане праваслаўя ў Вялікім Княстве Літоўскім неаднакрать варочаліся рускія і польскія вучоныя. Гэтай проблемы датыкаўся М. К. Любаўскі ў сваім „Литовско-Русском Сейме“ і, спэцыяльным нарысе, „К вопросу об ограничении политических прав православных князей, панов и шляхты в Великом Княжестве Литовском до Люблинской Унии“ („Сборник статей в честь Ключевского“, Масква, 1912). Аўтар лічыць, што фактычнае становішча праваслаўных расходзілася з тымі юрыдычнымі нормамі, якія вызначалі становішча праваслаўнай царквы ў Вялікім Княстве Літоўскім. З польскіх дасьледчыкаў тая-ж проблема была прадметам стараннага досьледу *Czermak*'а ў працы— „Sprawa równoprawnienia schizmatyków i katolików na Litwie (1432—1563)“ Rozprawy Ak. Um. 1903. Гэтых-жа пытаньняў датыкаюцца W. Kamieniecki, St. Kutrzeba, Chodynicki, O. Halecki ў вышэйпаказаных працах. Навейшая польская гісторыка-юрыдычная навука схіляецца да вывадаў, выказаных М. К. Любаўскім.

Гісторыка-юрыдычная гісторыяграфія, што вывучала дзяржаўна-праўныя інстытуты, чынныя ў Вялікім Княстве Літоўскім,—колькасьцю небагатая, але якасьцю яна надта высокая. Гісторыка-юрыдычнымі проблемамі займаліся, і прытым дужа карысна, дасьледчыкі як кракаўскія і варшаўскія, львоўскія, віленскія, кіеўскія, харкаўскія, гэтак маскоўскія і пецярбурскія. Праўда, дасьледчыкі часта разыходзяцца ў сваіх вывадах, але фактычнае абаснаваньне дасьледчыкамі сваіх палажэньняў дае падставу для рэвізіі, здавалася-б ужо даволі вывучанага пытаньня. Убогасьць гісторыка-юрыдычнай літаратуры, па пытаньнях Літоўска-Беларускага Права, упарта высоўвае думку, што патрэбна прыцягнуць да дасьледчай працы як мага вялікую колькасьць навуковых працаўнікоў. Калі дзяржаўна-праўныя інстытуты, якія дзейнічалі ў Вялікім Княстве Літоўскім, у тэй або іншай меры былі прадметам дужа пільнага і карыснага дасьледваньня, дык гісторыка-юрыдычная літаратура, па вывучэньню грунтоўных крыніц, дужа бедная. Можна сказаць, што ў гэтай галіне толькі пачынаецца вывучэньне. Так, да гэтага часу няма поўнага сьпісу кніг Літоўскай Мэтрыкі, што захоўваліся ў Маскве ў быўшым Архіве Міністэрства Юстыцыі. Навуковае апісаньне першых кніг Запісаў, складзенае быўшымі мэтрыкантамі, С. К. Шамбінаю і Г. М. Бережковым, пакуль што спынілася на першым томе, а між тым такое апісаньне для дасьледчыка літоўска-беларускага права зьяўляецца канечна патрэбным. Апрача таго, Літоўская Мэтрыка ні поўнасьцю, ні часткова ня была з навуковага боку дасьледвана. Важнасьць такой проблемы, зразумела, відочная. А таксама гэткая, першараднай важнасьці крыніца, для гісторыі Літоўска-Беларускай дзяржавы, як Літоўска-Беларускія летапісы, толькі ў апошні час зьвярнула на сябе ўвагу дасьледчыкаў. Літоўска-беларускімі летапісаньнямі, выданымі Пецярбурскай Археографічнай Камісіяй, пад загалоўкам „Западно-Русские Летописи" (П. С. Л., т. XVII) сталі займацца спачатку украінскія гісторыкі, зараз за якімі пайшлі польскія і расійскія вучоныя. Пачатак гэтаму вывучэньню быў паложаны украінскім дасьледчыкам П. Шаранневічам, яго надта добрым досьледам на польскай мове—„O latopisach i kronikach ruskich w XV—XVI wieku, a zwłaszcza o Latopisie Vielikoho kniaźstwa Litowskoho i Żomoitskoho" (Rozprawy i spraw. Ak. Um., t. XV, Kr., 1882). Затым выступіў польскі вучоны St. Smolko, з дужа каштоўным гісторыка-крытычным досьледам: Naidawniejsze pomniki dziejopisarstwa rusko-litewskiego" (Pomiętnik Ak. Um. t. VIII, Kr., 1890, а таксама *A. Prochacka*—„Latopis litewski"—Lw. 1890.

М. С. Грушэўскі падышоў да крытычнага вывучэньня літоўска-беларускіх летапісаў у артыкуле „Похвала князю Витовту", *„Килька уваг про склад найдавнейшой Руско-Литовськой Літописі"* („Зап. Навук. Тав. імені Шевченко", 1895, кн. IV). З расійскіх вучоных літоўскім летапісаньнем займаліся І. А. Тіхоміров. Праца апошняга па вывучэньню літоўска-беларускіх летапісаў атрымала конкрэтнае выяўленьне ў крытычным артыкуле

„Два польских труда о западно-русских летописях“ (Ж. М. Н. П., 1891, 2) і яшчэ ў новай рэцэнзіі на працу А. Прохаско (Ж. М. Н. П. 1893, кн. V). Затым той-жа дасьледчык выступіў з самастойным дасьледваньнем аб складзе заходня-рускіх так званых „Литовских летописей“ (Ж. М. Н. П. 1901, 3, 5). Потым П. С. Іконнікаў даў абагульненьне ўсёй гісторыяграфічнай дасьледчай працы аб Літоўска-Беларускіх летапісах—„Опыт русской историографии“, т. II, кн. 2. Нарэшце, акадэмік Д. М. Багалей, у сваім дасьледваньні „Нарыс Украінской историографии“ (т. I, Літопісі, вып. I., Кіев, 1923) прысьвяціў надта каштоўны разьдзел Літоўскім летапісам. Крыху раней проф. Т. Сушчынскі выдаў працу, якая засталася, на жаль, нясконачанай, з прычыны сьмерці аўтара—„*Західно-Руські літописі, як памятнік літератури*“, ч. I., К., 1921 г.; праца мае вялікае навуковае значэньне. Гэтымі працамі фактычна вычэрпваецца вывучэньне літоўскіх летапісаў, і далейшая праца складае бліжэйшую задачу ўсіх, хто цікавіцца гістарычным мінулым Вялікага Княства Літоўскага.

Другая асноўная крыніца для гісторыі літоўска-беларускага права, усіх відаў прывілеі, таксама ледзь пачата навуковым дасьледваньнем. Праўда, усе дасьледчыкі гісторыка-юрыдычнага мінулага Вялікага Княства Літоўскага датыкаліся зьместу гэтых прывілеяў, але спэцыяльнаму вывучэньню, спэцыяльнаму гісторыка-юрыдычнаму аналізу, за некаторымі выключэньнямі, яны не падлягалі. Найвялікшая ўвага была зьвернута крыніцаведамі, так званым, Земскім Прывілеям. М. Н. Ясінскі выдаў дужа каштоўны досьлед „Уставные Грамоты Литовско-Русского государства“ (К. 1889), у якім спачатку дае гісторыю ўзьнікненьня Земскіх Прывілеяў, а затым самы тэкст вывучае параўнаўча з гістарычнага баку, з пункту погляду зьмешчаных у ім юрыдычных норм. Узьнікненьня складу Земскіх Прывілеяў датыкаецца Ф. І. Леантовіч у артыкуле „Источники Литовско-русского права“ („Варш. Унив. Изв.“, 1894, т. I). Асабліва каштоўным зьяўляецца досьлед І. Якубоўскага „Земские привилеи Великого Княжества Литовского“ (Ж. М. Н. П., 1903, кн. IV—V), у якім маецца шмат каштоўных меркаваньняў, аб часе і ўзьнікненьні першых краёвых прывілеяў. Няма спэцыяльных досьледаў аб шляхецкіх прывілеях. Зусім была пакінута без разгляду проблема аб узаемаадносінах польскіх і літоўска-беларускіх прывілеяў. Самае дакладнае вывучэньне пытаньня аб узьнікненьні і складзе шляхецкіх прывілеяў—чарговая задача літоўска-беларускага крыніцазнаўства.

Пачатак гэтаму паложаны польскім дасьледчыкам О. Галецкім, які ў сваёй працы—Litwa etc, аб якой ужо было вышэй упамянута, лічыць, што прывілей 6-га мая 1434 г. быў першым агульназемскім прывілеем. Гэтая думка знаходзіцца ў рэзкім супярэчаньні з агульна-прынятым поглядам у навуковай літаратуры, згодна якому першым агульназемскім прывілеем быў прывілей 2-га мая 1447 году. Рэшта прывілеяў ня былі прадметам спэцыяльнага вывучэньня.

Некалькі пашанцавала больш яўрэйскім прывілеям, пільна дасьледваным у працы С. А. Бершадзкага—„Литовские евреи“ (Пец., 1883). Яшчэ раней гэтага-ж пытаньня дакрануўся Ф. І. Леантовіч у сваёй працы „Историческое исследование о правах литовско-русских евреев“ (Кіеўскі Унів. 1864, № 3—4).

Літоўска-беларускае законадаўства таксама параўнаўча мала вывучана, ня гледзячы на значную колькасьць прац, прысьвечаных статутам. Так застаецца яшчэ нявырашанай проблема аб крыніцах статутавага законадаўства, хоць апошняе даўным-даўно стала актуальным, і да яго падходзілі з розных бакоў дасьледчыкі. Пачатак спэцыяльнага дасьледваньня літоўска-беларускага права быў паложаны польскімі вучонымі. Так, віленскі дасьледчык проф. Даніловіч, упасьледку профэсар Харкаўскага Унівэрсытэту, выдаў дужа цікавую працу: Opisanie bibliograficzne dotąd znanych egzemplarzy statutu litewskiego, rękopiśmiennych i edycyi drukowanych ak. w ruskim originalnym, jako też polskim i łacińskim języku (Dzieńnik Wileński, Wilno, 1823, t. 1 i 2).

Вывучэньне літоўска-беларускага права было пачата ў Кіеве Чарнецкім, які прысьвяціў гэтаму пытаньню вялікую працу, дужа стракатую па зьместу, але даволі прымітыўную па мэтоду, і ў сучасны момант маючую толькі выключна бібліографічную цікавасьць („Киев. Унив. Изв.,“ 1866—1867). Затым статутавым законадаўствам займалася група вучняў проф. М. Ф. Уладзімірскага-Буданова. Так І. А. Маліноўскі выступіў з каштоўнай працай „Учение о преступлении по Литовскому Статуту“ (Кіеў, 1894). Аўтар прымае пад увагу Статут усіх трох рэдакцый. Н. А. Максімейка выдаў досьлед „Источники уголовных законов Литовского Статута“ (К., 1894) і В. А. Дземчанка „Наказание по Литовскому Статуту“ (К. 1897). Для дасьледчыкаў Статуту залежнасьць апошняга ад законадаўства „Русской Правды“ была відочнай. Ужо Леантовіч высунуў гэтае пытаньне на першы плян у досьледзе „Русская Правда і Литовский Статут“ (К., 1865). Аналёгічнага пытаньня датыкаецца і Н. А. Максімейка ў арт. аналёгічнае назвы („Сборник статей в честь проф. М. Ф. Владимирского-Буданова“—Кіеў, 1911 г.). М. К. Любаўскі ў сваёй працы „Литовско-Русский Сейм“ прывёў шэраг каштоўных даных па пытаньні аб узьнікненьні і складаньні першага і другога Статутаў. Ня гледзячы на гэтыя працы, трэ' прызнаць, што па сутнасьці ўся сыстэма законадаўства Статутаў яшчэ зусім ня вывучана, калі ня лічыць вывучэньня М. Ф. Уладзімірскім-Будановым норм застаўнога зямляўладаньня ў дасьледваньні аб узьнікненьні характару апошняга. Віленскі проф. *Ehrenkreutz* выдаў працу „Stan badań nad statutami litewskiemi“ (At. Wilen. № 7—8), у якой даў падробны агляд становічша пытаньня аб вывучэньні Статуту. Нарэшце, апошняя праца *Jan Adamus*—„Zastaw w prawie litewskiem XV—XVI wieku“, Lw., 1925 г., зьяўляецца каштоўным укладам у вывучэньні літоўскага права па пытаньні аб застаўным зямля-

ўладаньні. Апрача таго, у апошні час вышлі вельмі цікавыя працы *M. Bernstein*'а „Poprawa I Statutu Litewskiego", Kr. 1916 г. *St. Ehrenkreutz* выдаў артыкул аб III Літоўскім Статуце—„Uwagi nad roździalem VII-ym statutu litewskiego trzeciego" (Rocznik prawniczy Wileński) і Ў. І. Пічэта—„Зямельнае права ў статутах 1529—1566 г.г.", Працы Б. Д. У. № 11.

Такім чынам, трэ' прызнаць, што навуковае вывучэньне крыніц права Вялікага Княства Літоўскага яшчэ толькі пачынаецца.

# КАЗІМІР ЛЫШЧЫНСКІ—БЕЛАРУСКІ БЯЗБОЖНІК XVII ВЕКУ

*(З гісторыі сьветапоглядаў XVII в. на Беларусі)*

**В. Дружчыц**

XVII век у гісторыі Беларусі можа быць прызнаны самым цёмным. Цёмны ён ня толькі па прычыне нявывучанасьці яго ў гістарычнай літаратуры, але і цёмны па сваім жыцьці. Беларусь у гэты час перажывае экономічны і культурны заняпад. Над усім пануе самая чорная каталіцка-езуіцкая рэакцыя, якая ахапляе ўсе думкі грамадзтва таго часу.

Крыніцамі, адкуль чарпала грамадзтва XVII веку Беларусі свае веды, былі школы. Нельга сказаць, што школ на Беларусі ў XVII сталецьці было мала. Амаль што ня кожнае места і мястэчка мела школу. Школы Беларусі XVII, як і XVI вякоў адчыняюцца тымі царквамі, якія існавалі на Беларусі. Галоўнымі царквамі на Беларусі былі каталіцкая, праваслаўная і вуніяцкая. Кожная з гэтых царкоўных організацый мае свае школы. Школы каталіцкай царквы існавалі на Беларусі з пачатку XVI веку.

Асабліва яны ўзмацняюцца і павялічваюцца ў сваёй колькасьці з зьяўленьнем на Беларусі езуітаў (1564 г.), якія, галоўным чынам, праз школы ўзмацняюць і пашыраюць каталіцтва сярод шляхецтва і мяншчанства. Езуіты адчынілі свае колегіумы ў Вільні ў 1570 годзе, у Полацку—у 1581 г., у Несьвіжы—у 1584 г., у Воршы—у 1606 г., у Крожах (Жамойцкая зямля)—у 1616 г., у Пінску—у 1633 г. У XVII ст. адчыняюцца школы ў Берасьці, у Горадні, Бабруйску, у Мерачы, у Магілеве, у Слоніме і ў Віцебску *). Езуіцкія колегіумы былі падобны на заходня-эўропэйскія сярэднявяковыя школы.

Поўны колегіум складаўся з пяці кляс: I—III клясы насілі назву граматыкі (1. infima classis grammaticae, 2. media classis grammaticae, 3. suprema classis grammaticae aut syntaxis), IV кляса—поэтыкі (Humanitas aut poësis) і V кляса—рэторыка (Rhetorica). У кожнай клясе вучыліся па году, апроч рэторыкі, у якой звычайна вучыліся па два гады. Езуіцкія колегіумы былі сярэднімі школамі таго часу і давалі падрыхтоўку да вышэйшай школы. У колегіумах, галоўным чынам, вывучалася лацінская

---

*) Historya szkoł w Koronie i w Wielkim księstwie Litewskim od najdawniejszych czasów aż do roku 1794, przez Józefa Łukaszewicza. Poznań, t. I—IV; 1849 1851 г. К. Харламповіч. Западно-русские православные школы XVI и начала XVII в. Казань 1898 г.

мова, на якой адбывалася і выкладаньне, затым поэтыка і рэторыка па лацінскіх клясычных творах Овідыя, Віргілія і Цыцэрона і асновы тэолёгіі. Апроч таго, выкладаліся пачатковыя веды географіі, гісторыі і матэматыкі. Вывучаліся і некаторыя мовы, як польская, а ў некаторых колегіумах, як у Полацку, і беларуская.

Езуіты адчынілі і вышэйшую школу ў Вільні—акадэмію на правох унівэрсытэту. У 1579 г. Стэфан Баторы выдаў прывілеіс, на аснове якое дазвалялася езуітам віленскі колегіум рэорганізаваць ў акадэмію з двума факультэтамі: філёзофскім і тэолёгічным. На філёзофскім факультэце выкладаліся наступныя прадметы: этыка і політыка, лёгіка, філёзофія, матэматыка, фізыка, поэтыка, красамоўства (рэторыка), гісторыя, географія, лацінская мова, італьлянская мова, француская, нямецкая і ў пачатку існаваньня акадэміі—ангельская. На тэолёгічным факультэце выкладаліся: догматычная тэолёгія, полемічная тэолёгія, казуістычная тэолёгія, касьцёльнае права, царкоўная гісторыя, сьвятое пісаньне, гэбрэйская мова і грэцкая мова.

У 1641 г. езуітам было дазволена адчыніць яшчэ два факультэты: праўны і мэдычны. Мэдычны факультэт езуітамі ніколі ня быў адчынены, а праўны адчыніўся ў 1644 годзе, але і на ім выкладалася, галоўным чынам, канонічнае права, бо большаю часткаю ня было профэсароў цывільнага права, і катэдра была вакантнай [1]).

Фактычна акадэмія мела сваім заданьнем даць духоўную асьвету ў каталіцкім напрамку. Вырасшы на грунце барацьбы з протэстантызмам, акадэмія ў далейшыя часы не парушылася з свайго існаваньня і амяртвела на старых прынцыпах, не задаваляючы жыцьцёвых патрэб грамадзтва свайго часу і праводзячы сваю асноўную лінію—замацаваньне і пашырэньне каталіцтва і ортодоксальных поглядаў каталіцкае царквы.

Па ўзору езуіцкіх колегіумаў адчыніліся школы вуніяцкае царквы і нават праваслаўнае. Пабудаваныя па тых-жа навучальных плянах, яны мелі той-жа зьмест і тую самую програму. Сваёй мэтай яны мелі пашырэньне і ўзмацненьне сваіх царкоўных організацый і абарону сваіх інтарэсаў ад пакусаў сваіх ворагаў.

Усе гэтыя школы былі, канечна, зусім недаступны для сялянства. Нават і ня ўсё шляхецтва было пісьменным. Няпісьменнасьць шляхты—зьява звычайная для XVII веку, што выразна выяўляецца ў актах таго часу. Выраз „письма и права неуместный“ часта ўжываецца ў актах і дакумантах XVII веку, што заключаліся шляхтай па розных справах [2]).

Школы былі мала даступнымі і для шырокіх мас мяшчанства таго часу. Толькі болей заможныя з шляхты і мяшчанства выкарыстоўвалі школы для сваёй асьветы, але і гэта асьвета мела клерыкальны характар.

[1]) Józef Bieliński. Uniwersitet Wilenski (1579—1831). Kraków 1899—1900, t. II, ст. 4.

[2]) И. И. Лаппо, Великое княжество Литовское. С.-Петербург 1901 г., ст. 503.

Другой крыніцай асьветы была кніга. Кніжкі таго часу, аднак, таксама былі маладаступнымі нават для сярэдняй шляхты і мяшчанства, дзякуючы сваёй дарагоўлі. Так у 1649 годзе Славянская біблія Астрожскага выданьня цанілася ў 10 польскіх злотых, псалтыр—2 злотых, а малітвенік, выданы Мамонічамі, каштаваў 6 грошай. Гэта вельмі значныя сумы грошай для свайго часу і зразумела, што у тэстамэнтах XVII веку сярод астаўляемай маемасьці насьледнікам вельмі рэдка сустракаюцца кнігі, у той час як пералічаецца самая дробная маемасьць, як гусі, вуткі і таму падобныя рэчы. Кніга, як і школа, былі даступнымі толькі для заможных людзей таго часу, а сярэдняя шляхта і сярэдняе па заможнасьці мяшчанства не карысталіся кнігай.

Для нас цікава, якія кнігі былі пашыраны ў XVII сталецьці сярод пісьменнага грамадзянства. Аб гэтым сьведчыць тэстамэнт віленскага бурмістра Стэфана Лябедзіча 1649 г.*).

З гэтага тэстамэнту высьняецца, што ў бібліотэцы Стэфана Лябедзіча было кніг 94 назвы. З іх славянскіх—беларускага і украінскага друку—12 кніжак, некалькі кніжак польскага друку, большая-ж частка кнігі лацінскія. Пры гэтым трэба заўважыць, што беларускія, украінскія і польскія кнігі амаль што выключна рэлігійнага зьместу, і толькі кнігі на лацінскай мове часткаю сьвецкага характару. З апошніх, галоўным чынам, творы клясычнае літаратуры—М. Т. Цыцэрона, Гомера, Валерыя Максіма, Кая Юлія Цэзара, Публія Тэропцыя і іншых клясыкаў. Апроч клясычных твораў у бібліотэцы Лябедзіча былі творы клясычных і сярэднявечных філёзофаў, як Арыстотэля, Яна Цэзарыя і іншых. Былі кнігі па гісторыі, мэдыцыне і прыродазнаўству.

Прысутнасьць значнага ліку лацінскіх кніг, па розных галінах ведаў, сьведчыць аб тым, што вярхі адукаванага грамадзтва Беларусі XVII сталецьця былі зьвязаны з агульнай асьветай Заходняй Эўропы таго часу.

Агульныя сьветапогляды грамадзтва выпрацоўваліся, галоўным чынам, царквою таго часу. Цэрквы-ж як каталіцкая, так і праваслаўная і вуніяцкая вялі ў той час змаганьне, асабліва вуніяцкая з праваслаўнай. Кожная імкнулася да перамогі над другою і хацела быць адзінаю на Беларусі. Ня гледзячы на афіцыйнае прызнаньне артыкуламі Ўладыслава IV існаваньня праваслаўнай царквы, фактычна ўвесь час ідзе барацьба паміж ёю і царквой вуніяцкай. Па прычыне гэтай барацьбы выпрацоўваецца нецярпімасьць да свабоды сьветапоглядаў, астаткі якіх яшчэ захоўваліся сярод разьбітых асколкаў протэстанскіх вучэньняў, якія засталіся яшчэ на Беларусі. Сыстэма асьветы ў езуіцкіх школах і ўся дзейнасьць каталіцкае царквы таксама выхоўваюць фанатызм, які выразна выяўляецца ўва ўсёй дзейнасьці езуіцкага закону і яго ўстаноў.

---

*) Акты Виленской комиссии, т. IX, ст. 479—485.

Выхаванцы езуітаў, займаючы высокія пасады ў Літоўскім княстве, праводзяць у жыцьцё тыя ідэі, якімі яны пранікаліся ў езуіцкіх школах. Яшчэ ў канцы XVI веку біскуп віленскі Юры Радзівіл зьбірае па ўсяму княству кнігі, выданыя дысэдэнтамі, і ўрачыста іх паліць у Вільні. Студэнты Віленскае акадэміі робяць адчыненыя напады на кальвіністых, іх школы і зборы. Фанатызм і нецярпімасьць—характэрнейшая рыса эпохі каталіцкай рэакцыі, якая пачалася ў нас у другой палове XVI веку і цягнулася да канца XVIII. У XVII сталецьці гэта асабліва ярка выяўляецца дзякуючы яшчэ таму экономічнаму заняпаду, які перажывае ў гэты час уся Беларусь. Такім самым фанатызмам і рэлігійнай нецярпімасьцю пранікаецца і вуніяцкая царква.

Пры такім агульным настроі для вольнай думкі ня было месца. Ортодоксальнасьць поглядаў той ці іншай царквы з зьвязанымі з імі і выцякаючымі з іх усімі забабонамі былі агульнымі для ўсяго грамадзтва XVII веку. Аднак, сярод яго, у самым цэнтры, адкуль ішла кіраўнічая нітка, а іменна, сярод езуіцкіх колаў, знаходзяцца адзінкі, якія ня йдуць за масаю, а будуюць свае ўласныя сьветапогляды, зусім проціваежныя тым, сярод якіх яны выраслі. Адным з такіх вольнадумцаў быў *Казімір Лышчынскі*, берасьцейскі падсудак, які абвінавачан быў у атэізьме і справа якога разглядалася на Варшаўскім сойме 15 лютага 1689 году*). Адносна справы К. Лышчынскага захавалася два дакуманты: 1) прамова інстыгатара (так зваліся ў той час прокуроры) Вялікага Княства Літоўскага, Сымона Куровіча, у якой ён прыводзіць асноўныя погляды Лышчынскага, за якія ён быў прыцягнут у суд і 2) Супліка (просьба аб памілаваньні) Лышчынскага, напісаная ім да караля з вязеньня ў Вільні ў 1688 г.

З гэтых дакумантаў выясьняецца, што Казімір Лышчынскі радзіўся ў шляхецкай сям'і, вучыўся ў езуіцкіх школах, стаў членам езуіцкага ордэну, дзе быў досыць значны час, быў настаўнікам у езуіцкіх школах і нават прыняў пасьвячэньне клерыка, але затым вышаў з езуіцкага брацтва і духоўнага стану і, як шляхціч і чалавек з асьветаю, быў абран на павятовым Берасьцейскім сойміку кандыдатам на пасаду падсудка Берасьцейскага земскага суду і зацьверджан каралём у гэтай пасадзе. Займаючы ўрад падсудка земскага суду, К. Лышчынскі не пакідае сваіх студый і вынікам іх зьяўляецца праца філёзофскага характару на 265 картах, гэта значыць на 530 старонках. Частка гэтай працы папала ў рукі Браслаўскага стольніка пана Яна Казіміра Броскі, які быў ворагам К. Лышчынскага. Я. Броска, зразумеўшы зьмест працы Лышчынскага, зрабіў данос Віленскаму каталіцкаму біскупу Константыну Бжастоўскаму, які прыцягнуў да адказнасьці К. Лышчынскага, пасадзіў яго ў турму і абвінаваціў у атэізьме. Казімір Лышчынскі, ведаючы характар духоўных судоў, якія прымянялі пыткі ў часе дапросаў і судовага процэсу, прасіў

*) Zrzód'a do dziejiw polskich wydane przez M. Malinowskiego i A. Przezdzeckiego. Tom II, Wilno 1844 г., st. 433—453.

караля аб разборы яго справы ў сьвецкім судзе на сойме. Дзякуючы таму, што просьба яго была задаволена, да нас дайшлі дакуманты па гэтай справе.

Сутнасьць поглядаў К. Лышчынскага выясьняецца з прамовы інстыгатара Сымона Куровіча. Погляды Лышчынскага маюць пэўную сыстэму і склаліся пад уплывам азнаямленьня з заходня-эўропэйскай літаратурай, якая была забаронена каталіцкаю царквою. „Да такіх поглядаў“, кажа інстыгатар, „прывелі паганскія філёзофскія вучэньні, чытаньне кніг, забароненых царквою і выданых дзесьці за морам рознымі атэістымі ў пякельнай друкарні, з каторых ён (Лышчынскі) даведаўся аб гэтым“.

Асноўным пунктам гледжаньня Лышчынскага было філёзофскае палажэньне: „Лепей усяго прызнацца, калі сярод выкладчыкаў філёзофіі падымецца суджэньне аб прыродзе багоў, што мы аб гэтым нічога ня ведаем“ (Optimum est, ubi inter sapientiae magistros de Deorum natura disquisitio venerit, fateri se nihil Scire).

К. Лышчынскі не застанавіўся, аднак, на гэтым адмоўным палажэньні і пачаў будаваць свой уласны сьветапогляд. Выходзячы з палажэньня, што чалавек ня можа нічога ведаць аб прыродзе бога, ён прыходзіць да перакана624ньня, што бога няма, што бог ня існуе (Ergo non est Deus, ergo non est Deus).

Тое ўяўленьне бога, якое існуе сярод людзей, зьяўляецца чалавечай творчасьцю (creaturam hominis), хімерай, патварай, пустой сьвятыняй, выдуманай і нямаючай рэальнасьці істотай.

Тыя, хто верыць у існаваньне бога, па думцы Лышчынскага, зьяўляюцца нявольнікамі бажаства, ідалапаклоньнікамі, тварцамі бога (Deicolos, idolatras, Dei creatores).

Прышоўшы да такога радыкальнага для таго часу адмаўленьня існаваньня бога, Лышчынскі, натуральна, выказаў свае адносіны да духавенства, як галоўных праваднікоў веры ў бога і яго служыцеляў. Ён лічыць настаўнікаў каталіцкае веры і тэолёгаў „рамесьнікамі, вёрткімі вужамі, сьляпымі, што бачаць цемнату, ня вучонымі, а звадзіцелямі, ня філёзофамі, а ашуканцамі, якія абараняюць глупствы, абмылкі і абманы продкаў“ (Techologos, serpentes tortuosos, caecos videntes tenebras, non doctores, sed seductores, non philosophos, sed philosophastros, stultitias, errores et dolos majorum defendentes). Адмовіўшыся ад традыцыйнай веры ў бога, як тварца ўсяго сьвету, які кіруе ўсім сьветам, Лышчынскі падымае пытаньне аб тым, як кіруецца сьвет, і вырашае яго. Па яго думцы кіраўніцтва і парадак з пэўнымі законамі на небе і на зямлі зьяўляецца прыраджонай уласьцівасьцю самой прыроды (Natural naturatae regimen et ordinem).

К. Лышчынскі ў сваёй працы, якая папала ў рукі інстыгатара Вялікага Княства Літоўскага, выказаў свае адносіны і да асноўных крыніц

хрысьціянскага вучэньня—Бібліі. Па яго погляду Новы і Стары тэстамэнт (Завет) зьяўляюцца байкамі і першы выдуманы Хрыстом, а другі—Маісеем. У гэтым поглядзе Лышчынскі ссылаецца на погляд якіх-та тэолёгаў, аднак, з прамовы інстыгатара ня відна, хто яны былі, бо назвы іх ня ўказаны.

Затым К. Лышчынскі даводзіць, што ня існуе ні анёлаў, ні неба, ні пекла, няма вечнасьці ні для добрых, ні злых людзей, таксама як няма кары ні для тых, ні для другіх.

Пекла выдумана тэолёгамі для таго, каб страхам яго ўтрымліваць паспаліты люд ад злых учынкаў, як бацька розгаю стрымлівае сваіх дзяцей, а чысьцілішчам царква пагражае людзям для свайго ўласнага прыбытку.

Разам з гэтым К. Лышчынскі разважаў і аб чалавеку і прышоў да вываду аб адсутнасьці душы, як асобнай істоты. Лышчынскі, па выразу Куровіча, „параўнаў чалавечую разумную і бясьсьмертную душу з жывёлаю, быдлам“.

К. Лышчынскі выказаў свае погляды і адносна грамадзкіх узаемаадносін, як шлюб, і адмоўна адносіўся да гэтых інстытуцый таго часу. Аднак, гэтыя погляды высьветлены нявыразна і поўнага прадстаўленьня аб іх вывесьці немагчыма з галоўнай крыніцы—прамовы інстыгатара Сымона Куровіча.

Ёсьць намёкі на палітычныя погляды Лышчынскага. З іх можна зрабіць вывад, што ён прыбліжаўся да анархізму, адмаўляў неабходнасьць існаваньня ўсялякае ўлады. Але і гэтыя погляды няясны, тым болей, што інстыгатару папала ў рукі невялічкая частка працы К. Лышчынскага.

Такія сьветапогляды з пункту гледжаньня таго часу былі найцяжэйшым злачынствам, і іх інстыгатар у сваёй прамове кваліфікуе болей значным дзеяньнем, ніж абраза каралеўскага маестату, айцабойства, маткабойства, братабойства, дзіцябойства, акрамя сьвятыні, адступленьне ад веры, чараўніцтва, бунты, пакушэньні на чужое здароўе або славу і іншыя злосныя ўчынкі чалавека. З пункту гледжаньня грамадзтва, таго часу нішто болей не разбурае дзяржаўнасьці і дзяржавы, як сэкты. Такія-ж погляды, як Лышчынскага, яны ў аснове падрываюць і дзяржаву і грамадзкія парадкі,—„яны, як атрута“ атраўляюць жыцьцё. Такія погляды караліся сьмерцю, чаго і патрабуе інстыгатар Куровіч у адносінах да Лышчынскага.

К. Лышчынскі, як падсудак, добра ведаў законы і што яму пагражае па законах таго часу і, папаўшы ў турму, прымушан быў адмовіцца ад сваіх поглядаў. У сваёй заяве на імя караля, якую ён падаў з Віленскай турмы ў 1688 годзе, ён адмаўляецца ад тых поглядаў, якія яму прыпісвалі, і тлумачыць гэта тым, што ён пісаў ня супроць бога, але аб богу, што тыя нататкі, якія ён пісаў для сябе і для прапанаваньня якому-небудзь тэолёгу, былі ня вучэньнем і ня поглядамі і ня верай яго,

а толькі простымі дыспутацыямі (рассуджэньнямі). У гэтых дыспутацыях ён з набожнай мэтай выставіў, як асоб па сцэне, тэолёга і тых, што сумляваюцца ў існаваньні бога, прычыны і довады для сумненьня, з аднаго боку, і аргуманты тэолёга супроць гэтых поглядаў. Такім чынам, К. Лышчынскі атэістычныя думкі свайго твору тлумачыць дыалёгічным прыёмам выкладаньня сваёй працы і піша, што гэтыя довады і сумненьні не яго ўласныя думкі, але тых, хто часам сумняваецца ў існаваньні бога. „Не ад сябе я выкладаў, а ад іх імя, паводле іх зданьня, але без маёй згоды, бяз жаднага сумненьня ў мысьлі аб існаваньні бога“. „Праз аргуманты такіх сумняваючыхся я выступаў ня супроць бога, але супроць довадаў тэолёга, каторымі даводзіў, што можна даказаць існаваньне бога“.

Дыалёгічны мэтод часта ўжываўся ў тыя часы і быў звычайным у езуітаў. Трудна, аднак, дапусьціць, што толькі за мэтод і яго ўжываньне быў засуджан Лышчынскі. На вялікі жаль, праца самога Лышчынскага не захавалася, і па гэтай прычыне немагчыма зрабіць правільныя вывады. Ужо ў той час ня ўсе верылі праўдзівасьці абвінавачаньняў Лышчынскага, а прыпісвалі яго суд варожасьці да яго Яна Броскі, яго даўжніка, і дзейнасьці Пазнанскага біскупа Станіслава Вітвінскага, які праз спаленьне Лышчынскага спадзяваўся дабіцца ў рымскага папы для сябе кардынальнай годнасьці.

Праўдзівей усё-ж такі думаць, што погляды, ад якіх адмаўляўся Лышчынскі, былі яго сапраўднымі поглядамі. Аб гэтым сьведчыць яго выхад з езуіцкага ордэну і адмаўленьне ад духоўнай годнасьці; другім довадам зьяўляецца хаваньне ад чужых вачэй сваёй працы Лышчынскім, якая вырасла ўжо ў значны том на 265 картак. Калі-б яго адмоўныя адносіны да існаваньня бога былі-б толькі спосабам даказаць існаваньне бога, то прадстаўленьне ўсёй працы расьсеяла-б тое абвінавачаньне, якое паднялі супроць Лышчынскага.

Казімір Лышчынскі па звычаях суду таго часу папаў пад розныя мучэньні і пыткі, а затым яго спалілі на кастры.

# НА ШЛЯХОХ ДА НОВАГА БЕЛАРУСКАГА МАСТАЦТВА

*(Нарыс творчасьці Міхася Філіповіча).*

**М. Шчакаціхін**

I

Творчыя сілы беларускага народу, такія багатыя ў сваёй прыроднай шырыні, гармонічнасьці і фантазіі, доўгі час былі глыбока схованы пад монотоннай паверхняй зрусыфікаванага беларускага бытаваньня, ня маючы выхаду, ня маючы належных умоў для свайго выяўленьня. Ранейшыя культурныя асяродкі—месты—пазбавіліся свае ранейшае ролі тых цэнтраў, дзе выхадцы з вёскі маглі знайсьці шырокае поле да прыстасаваньня сваіх мастацкіх талентаў і здольнасьцяй. У нацыянальным мастацтве тут ужо ня было патрэбы, ня было заказчыка і спажыўца; і гэта мастацтва звузілася і ў зьмесьце сваім, і ў сфэры свайго выяўленьня; яно засталося ў вёсцы, у вузкіх межах хатніх эстэтычных патрэб, як сродак для іх саматужнага здавальненьня ў штодзенным нярухомым побыце. У вясковай глушы, у далёкіх кутках Беларусі, толькі нашыя вясковыя жанчыны—захавальніцы старадаўніх нязьменных форм жыцьця—яшчэ цягнулі моцныя ніці нацыянальнай мастацкай традыцыі, пільнавалі і берaглі своеасаблівыя стылістычныя асновы беларускага орнамэнтальнага пачуцьця ў харастве сваіх бясконца рознастайных тканін і гафтаў. І ў гэтым, ды яшчэ ў хатнім разьбярстве, амаль што на працягу сталецьця, замыкаўся ўвесь вузкі круг рэальных магчымасьцяй для беларускай мастацкай творчасьці. Часам, калі хто-небудзь імкнуўся выйсьці з гэтага „зачараванага круга“ на болей шырокі, культурны творчы шлях,—ён не знаходзіў сабе ў об‘ектыўных умовах часу таго патрэбнага „пункту абапоры“, дзякуючы якому ён мог-бы задаволіць сваё імкненьне, не адрываючыся пры гэтым ад свае роднае глебы. Адсутнасьць спэцыяльных навучальных установ, адсутнасьць наогул спагадных абставін для мастацкае дзейнасьці ў межах Беларусі, нарэшце—наносны характар нават таго нямногага і нязначнага, што ў тыя часы было ў нашай краіне ў галіне мастацтва,—усё гэта прымушала яго, кідаючы бацькаўшчыну, спачатку шукаць для сябе магчымасьці атрымаць адпаведную адукацыю ў спэцыяльных інстытуцыях нашых суседзяў, а потым, паступова асымілюючыся з імі ў самым процэсе гэтае адукацыі,—ужо аканчальна адыходзіць ад сваіх нацыянальных крыніц і аддаваць свае сілы і здольнасьці на карысьць чужой мастацкай культуры. Тут адбывалася тое-ж

самае, што мы наглядаем часам у іншых галінах нашага культурна-мастацкага жыцьця ў дарэволюцыйныя часы; аналёгічна таму, як, напрыклад, расійская літаратура атрымала ад Беларусі Дастаеўскага, а польская— Міцкевіча, падобна да таго, як беларусы родам—Манюшка і Глінка— зрабіліся выдатнымі дзеячамі, адзін у польскай, а другі ў расійскай музыцы,—таксама і ў галіне прасторавых мастацтваў беларускія сілы ня раз набывалі сабе досыць значнае імя ня ў нашым, уласным, але ў чужым нацыянальным мастацтве. Досыць, для прыкладу, хоць-бы ў расійскім малярстве XIX сталецьця назваць імёны: Багданава-Бельскага, Бялыніцкага-Бірулі, Крыжыцкага, якія сталі настолькі расійскімі і па манеры сваёй, і па напрамку, і па тэматыцы мастакамі, што нават зусім забылася іх беларускае пахаджэньне...

У такім становішчы знаходзілася мастацтва Беларусі да самых апошніх часоў, пакуль уздым рэволюцыйнае хвалі ня звольніў беларускі народ з яго ланцугоў і не забясьпечыў яму магчымасьці нормальнага культурнага разьвіцьця. Варта ўвагі, пры гэтым, што папярэдняя эпоха сьвядомага беларускага адраджэньня, якая на працягу амаль што дваццаці год так многа зрабіла ў справе пашырэньня і ўмацаваньня новае беларускае літаратуры, публіцыстыкі, тэатру, дый наагул у справе абуджэньня нацыянальнае сьвядомасьці беларускіх працоўных мас,—зусім не кранула, амаль што, нашых прасторавых мастацтваў, у галіне якіх пасьлярэволюцыйная Беларусь як быццам апынулася перад аркушам чыстае паперы, прыгодным для напісаньня на ім усяго, што патрэбна і пажадана, але пры поўнай адсутнасьці тых „пісьменьнікаў“, якія здолелі-б гэта зрабіць. Усю працу тут трэба было пачынаць нанова. Але яшчэ і ў цяперашні час яна можа лічыцца толькі ледзь распачатай. Надзвычайна павольна, сутрымана, часам з вялікімі цяжкасьцямі і перашкодамі, новае беларускае мастацтва імкнецца цяпер да свайго аформленьня, няпрыкметна, але ўпарта шукае сваіх шляхоў. Надворныя формы нашага сучаснага жыцьця, ды часткова і чыста-матэрыяльныя ўмовы, далёка яшчэ не стварылі належнага грунту для інтэнсыўнага разьвіцьця гэтай новай мастацкай творчасьці, яшчэ не абудзілі ў шырокіх беларускіх масах тэй органічнай патрэбы ў нацыянальным мастацтве, якая адна магла-б зьліць цяперашнія першыя адасобленыя творчыя ручайкі ў адзіны магутны і імпэтны струмень нашай новай мастацкай культуры. Гэта, зразумела, справа будучыны,—можа, праўда, блізкай ужо. Але і цяпер магчыма, аднак, ужо наглядаць, як паступова варушацца маладыя сілы, як імкнуцца яны аформіць і выявіць свае прыродныя здольнасьці і выйсьці з граніц аматарства на болей шырокую творчую арэну, як абуджаецца, нарэшце, грамадзкая думка навокал яшчэ так нядаўна зусім няцікавых і незразумелых для яе пытаньняў мастацтва, што часам знаходзіць сабе выяўленьне і ў пэўных практычных дзяржаўных мерапрыемствах. Аб гэтым сьведчыць і праца заснаванага ў Віцебску Беларускага Мастацкага

Тэхнікуму, куды штогод імкнецца нашая моладзь для атрыманьня належных тэорэтычных вед і практычных навыкаў, і посьпех організаванае ў мінулым годзе Першае Ўсебеларускае Мастацкае Выстаўкі, якая мела болей за сто ўдзельнікаў і каля дзесяці тысяч гледачоў на працягу палутара месяцаў.

Гэтая-ж выстаўка, між іншым, дала магчымасьць зрабіць і яшчэ адно надзвычайна важнае назіраньне. Разам з першаю зеленьню нашае маладое мастацкае руні, яна паказала і тое, якую цяжкую спадчыну мы атрымалі ў мастацтве ад старых часоў. У масе рознастайных выставачных экспонатаў так мала было вытвораў чыста нацыянальных, сьвядома, мы сказалі-б, нацыянальных і па тэматыцы сваёй і па апрацоўцы. Большасьць прац зьяўлялася ўсё-ж выпадковай, часам „агульна-мастацкай“, часам з беларускім сюжэтам, але абраным не наўмысьля, а як і кожны іншы аднолькова абыякі сюжэт. Пасьля гэтай выстаўкі мы ўбачылі, што хоць у межах Савецкае Беларусі, ды нават і ў адным толькі Менску, і ёсьць параўнальна значны лік мастакоў, але большасьць з іх зьяўляецца для нас чужой, ня зьвязанай шчыльна з беларускай глебай, часта нават зусім ад яе адарванай, ня гледзячы на сваё беларускае пахаджэньне, альбо ў кожным выпадку зусім не зацікаўленай у справе нашага нацыянальна-культурнага будаўніцтва, далёкай ад нашых сучасных імкненьняў, мэт і задач. Становішча нашага сучаснага мастацтва выявілася тут зусім ясна. Прышлося прызнаць, што ласьне большасьць нашых мастацкіх сіл ня можа ў далейшым граць колькі-небудзь важнае ролі ў справе аформленьня і стварэньня нашага новага мастацтва. Зразумела, частку іх можна выкарыстаць, як гэта ўжо і робіцца, для выкананьня пэўных конкрэтных заданьняў, дзе мастак, фактычна, зьяўляецца толькі тэхнічным выканаўцай тае ці іншае думкі, паданай яму з боку заказчыка, разам з дакладна азначанымі сюжэтнымі і стылістычнымі вымаганьнямі; але гэта ня ёсьць новая беларуская мастацкая творчасьць, да якой у большасьці нашых мастакоў няма ні жаданьня, ні належнае падрыхтоўкі. Выказваліся думкі, што тут магло-б дапамагчы пэўнае перавыхаваньне іх у пажаданым напрамку, накіраванае ў бок абуджэньня нацыянальнае сьвядомасьці, або ў бок, гэтак кажучы, мастацкае „беларусізацыі“; часткова і мы трымаемся такога пагляду*); але ня трэба тут забывацца на тое, што не заўсёды гэткае перавыхаваньне зможа даць належныя вынікі: прымусова яго не правядзеш; мастака ня прымусіш перавыхоўвацца, калі ён сам таго не захоча; але шмат хто напэўна не захоча,—гэта выявілася цяпер ужо бясспрэчна; дый цяжка, можа, закончанаму больш-менш і аформленаму мастаку раптам зыйсьці з свайго ранейшага шляху і раптам запаліцца тым маладым і моцным энтузыязмам, без якога ў галіне нацыянальнага адраджэньня, у галіне адбудовы пры-

*) Пар., напр., думкі, выказаныя ў артыкуле „Сучаснае мастацтва Беларусі“— „Полымя“, № 6 за 1926 год, стар. 135, 142—147.

гнечанае раней культуры, працаваць з пэўным посьпехам, бязумоўна, нельга. На нашую думку, асабліва значных вынікаў тут ня будзе; можа толькі частковыя; і ў кожным выпадку не на гэтых „перавыхаваных“ майстроў мы ўскладаем надзеі ў справе далейшага разьвіцьця нашага новага беларускага мастацтва: тут слова належыць моладзі, тым маладым творчым сілам, якія пастулова выходзяць з шырокіх гушчаў беларускага працоўнага народу, якія нясуць з сабою, апроч неразьвітых яшчэ і цалкам ня выяўленых здольнасьцяй,—яшчэ і глыбокае замілаваньне да роднага краю, шчыльную сувязь з ім і ў творчасьці і ў жыцьці, нявычарпаную крыніцу маладое энэргіі і захапленьня—словам, усё тое важнае і істотнае, што забясьпечвае ім перамогу і посьпех, што пастулова расчыняе шляхі новаму мастацтву Савецкае Беларусі.

Таму з асаблівай цікавасьцю і ўвагай сочым мы за кожнай такой новай сілай, калі яна пачынае сябе выяўляць у нашай мастацкай творчасьці. Кожная з іх зьяўляецца ўжо сьвядомым і надзейным элемэнтам нашай будучай мастацкай культуры, посьпех яе на шляху мастацкае працы зьяўляецца нашым агульным культурным дасягненьнем, крокі яе па гэтым шляху выклікаюць асаблівы жывы і напружаны інтарэс. З гэтай, уласна, прычыны ў сучасны момант і можна лічыць асабліва цікаўнай і вартай увагі хоць і далёка яшчэ не закончаную і не аформленую, але цалком сьвядомую, беларускую, глыбока нацыянальную творчасьць маладога нашага мастака Міхася Філіповіча, якая зьяўляецца тэмай гэтага кароткага нарысу.

II

Міхась Філіповіч радзіўся ў Менску ў 1896 годзе *). Ён быў самым малодшым у сям'і свайго бацькі—чыгуначніка, які паходзіў з сялян б. Барысаўскага павету, але застаўся працаваць у месьце пасьля сканчэньня тэрміну вайсковае службы. Бацькоў сваіх Міхась амаль што ня ведаў; абодва яны рана памерлі, калі ён меў ледзь чатыры гады. Першы час пасьля сьмерці бацькоў ён разам з братам сваім і сёстрамі гадаваўся ў сям'і сваёй старэйшай замужняй сястры; пазьней перайшоў да дзядзькі, пад апекай якога рос і атрымліваў першапачатковую адукацыю. Мяшкаючы ў Менску, ён вучыўся спачатку ў царкоўна-прыходзкай школе, потым у рэальным вучылішчы. Ужо з дзіцячых год ён адчуваў у сабе імкненьне да мастацкае дзейнасьці, любіў рысаваньне і маляваньне, якімі займаўся па ўласнай ініцыятыве, бяз усякага кіраўніцтва. Гады навучаньня ў менскім рэальным вучылішчы ўпяршыню далі яму гэтае кіраўніцтва з боку адпаведных настаўнікаў, у тым ліку калісьці аселых у Менску мастакоў—Ермакова і Палазава. Але ўспамінаючы цяпер гэты час, сам мастак наш ня лічыць, каб гэтае кіраўніцтва школьных настаўнікаў дало яму асабліва многа як у сэнсе тэхнічных навыкаў, так і з боку аформленьня яго ўласнага творчага напрамку; часткова, можа, выяўленае

*) Усе факты біографіі мастака падаюцца намі з яго ўласных слоў.

ўжо тады імкненьне маладога здольнага хлопца да пэўнае спэцыялізацыі ласьне ў мастацкіх занятках ня ўкладалася ў вузкія рамкі школьнае праграмы, абмежаванае толькі традыцыйнымі лекцыямі рысаваньня; з другога боку, ён успамінае таксама і тыя варожыя, часам, адносіны, якія выяўляліся з боку настаўнікаў, асабліва апошняга, да яго ўласных творчых спроб і шуканьняў, што нават прыводзіла ў некаторых выпадках да непаразуменьняў і конфліктаў. Апроч таго, з пачаткам вайны і самае навучаньне ў рэальным вучылішчы зрабілася меней спакойным і сыстэматычным; з 1914 году, з прычыны эвакуацыі з Менску, вучылішча пачало вандраваць па розных местах Расіі, паступова пераяжджаючы спачатку ў Гжацк, потым у Маскву і, нарэшце, у Яраслаўль. Разам з вучылішчам вандраваў і Міхась Філіповіч, скончыўшы яго ў апошнім з паказаных намі местаў у 1917 годзе. У гэты час на кароткі тэрмін ён вярнуўся да родзічаў у Менск; але імкненьне да далейшае навукі не дазволіла яму надоўга тут затрымацца: у 1918 годзе ён едзе ізноў у Маскву, дзе паступае студэнтам у Межавы Інстытут. Гэты крок, аднак, не зьяўляўся для яго самамэтай; ён быў толькі сродкам, каб мець магчымасьць наблізіцца да пэўнага асяродку мастацкае культуры, каб выкарыстаць часовую аселасьць у Маскве для таго спэцыяльнага мастацкага навучаньня, да якога ён яшчэ здаўна прагавіта імкнуўся і якога, зразумела, ён ня мог атрымаць у часе сваёй папярэдняй агульнай адукацыі. Адначасна з Межавым Інстытутам, Філіповіч працуе ў 1918 годзе ў студыі мастака А. Хатулёва; з наступнага году ён зусім пакідае Інстытут і пераходзіць з другога курсу яго ў „Вольныя Мастацкія Дзяржаўныя Майстэрні" (былае „Училище Ваяния и Зодчества"), дзе аддаецца цалкам выключна мастацкай навуцы і працы. Вайсковая служба часова спыніла гэтае навучаньне. У 1919-20 годзе Філіповіч служыў санітарам на санітарным цягніку, што працаваў на дэнікінскім фронце; але слабое здароўе звольніла яго праз год ад гэтае службы, дзеля чаго ён быў адкамандыраваны ізноў у Маскву, у „Вышэйшую Школу Вайсковае Маскіроўкі", адкуль у канцы 1920 году быў пераведзены ў „Вышэйшыя Мастацка-Тэхнічныя Майстэрні" (скарочана „Вхутэмас"). Тут на працягу году ён меў магчымасьць ізноў выключна вучыцца па сваёй спэцыяльнасьці. Але скончыць у той час гэтае навучаньне яму, на жаль, не ўдалося: матэрыяльныя абставіны прымусілі яго ў 1921 годзе вярнуцца на бацькаўшчыну ў Менск і тут шукаць сабе сродкаў для існаваньня шляхам службы ў розных дзяржаўных установах і інстытуцыях.

Першы пэрыод выпадковай і часта надта адрывачнай і няпоўнай мастацкай адукацыі Філіповіча на гэтым быў скончаны, і з чыста об'ектыўных прычын ён апынуўся на пэўны час прадстаўленым выключна самому сабе, адданым на волю цалком самастойных, часам вельмі цяжкіх шуканьняў, абмежаваным у рамках толькі сваёй уласнай, нікім не накіраванай самастойнай творчасьці. Усё-ж, аднак, можна лічыць, што і гэтая

першая, досыць кароткая, праца яго ў Маскве дала вельмі значныя вынікі; яна пазнаёміла яго, хоць-бы часткова, з пэўнаю школай, дала некаторыя тэорэтычныя і тэхнічныя веды, нарэшце,—што самае галоўнае—увяла яго наогул у культурную мастацкую атмосфэру, у самы вір інтэнсыўнага, напруджанага мастацкага жыцьця, дзе перад ім раскрыліся пэўныя шырокія горызонты, дзе ён меў магчымасьць паглыбіць і аформіць свой творчы сьветапагляд, дакрануцца шэрагу рознастайных сучасных мастацкіх проблем і тым падмяніць свае ранейшыя няпэўныя, пераважна інтуіцыйныя, адносіны да тых ці іншых пытаньняў мастацкае творчасьці і свайго ўласнага творчага шляху—на болей ясныя і сьвядомыя. Мастацкае жыцьцё Масквы ў тыя часы было надзвычайна жывым і цікаўным. Яшчэ і да рэволюцыі досыць „рэволюцыйная“ ў чыста мастацкім (формальным) сэнсе Масква перажывала тады першы моцны ўздым пасьлярэволюцыйнага творчага энтузыязму, эпоху захапленьня грунтоўнай пераацэнкай ранейшых мастацкіх каштоўнасьцяй, дзе, як у калейдаскопе, што хвілю мяняліся самыя рознастайныя мастацкія плыні, групоўкі, цячэньні, тэорыі і іх практычныя выяўленьні ў часовых перамогах то аднаго, то другога мастацкага напрамку на бурнай паверхні новага рэволюцыйнага побыту. Звольненыя рэволюцыяй, а часам і высунутыя ў першыя шэрагі, так званыя „левыя“ цячэньні заваёўвалі сабе кіраўнічыя ролі, „левае“ мастацтва выходзіла на вуліцы, у клюбы, у шырокія колы, імкнулася на новых падставах перабудаваць усе надворныя формы жыцьця. У імкненьнях да новага пролетарскага мастацтва адбывалася рэволюцыя зьместу; разам з ёй і роўналежна ёй ішла рэволюцыя формы, шуканьне новых формальных і тэхнічных прыёмаў, новых сродкаў формальнага выяўленьня для новых пастаўленых мастацтву высокіх і ўзьдзячных задач. У штодзеннай творчасьці зьмяняліся і перакрыжоўваліся розныя формальныя напрамкі, цэлы віхар „ізмаў“, часам глыбокіх і сур'ёзных, часам павярхоўных і бязгрунтоўных, але заўсёды энтузыястычных, нясутрыманых, палкіх да неразважнасьці ў тэорыі і ў практыцы сваіх адэптаў. Тут быў і пост-імпрэсыёнізм, які, выходзячы з глыбокіх формальных дасягненьняў Сэзанна, то паглыбляўся ў строгія шуканьні мастацкае праўды, то зводзіўся да абсурду ў творчасьці найболей крайніх сваіх прадстаўнікоў; шумны футурызм, які крычаў: „Я—бальшавізм у мастацтве!“ (хоць мала хто яму верыў)—і на падставе гэтага патрабаваў для сябе ў дзяржаўным мастацтве неабмежаванае дыктатуры; супрэматызм, фанатычна захоплены ідэяй звальненьня чыстага колеру з-пад улады зьместу і формы; часткова вызначаліся шляхі конструктывізму—адваротнае мастацкае тэорыі і практыкі чыстае формы з „мэтавай устаноўкай“; і над усім гэтым хаосам напрамкаў ужо уздымалася строгая здань нэо-рэалізму з поклічамісьці ў мастацтве ад блізкіх, не надуманых і не перакручаных, рэальна-жыцьцёвых форм—шляхам працавітага, удасканаленага, глыбокага майстэрства.

Уплывы ўсіх гэтых тагачасных мастацкіх цячэньняў не маглі, зразумела, абмінуць і Міхася Філіповіча. Пагружаны ў гэтую завірушную атмосфэру, ён аддаў сваю „даніну захапленьня“ розным чарговым формальным плыням да футурызму і кубізму ўключна. Але павярхоўная галасьлівасьць і беспадстаўная прэтэнцыёзнасьць гэтых апошніх не маглі на даўгі час затрымаць увагі яго ад прыроды глыбокай мастацкай натуры. Болей сур'ёзнае значэньне меў для яго пост-імпрэсыёнізм у сваёй лепшай частцы, разам з знаёмствам з творчасьцю ранейшых францускіх імпрэсыёністых, магчымасьць чаго яму дала тая-ж Масква з яе багатымі зборамі ў „Музэі Новага Заходня-Эўропэйскага Малярства“. Асабліва ўплыў тут аказаў, магчыма, Сэзанн, залежнасьць ад формальных прыёмаў якога нярэдка адчуваецца ў працах Філіповіча 1922—1925 г. Разам з тым, аднак, ён ужо ў хуткім часе захапляецца і Рэнуарам з яго болей празрыстым, лёгкім і радасным колёрытам, з яго высокім майстэрствам чыстага формальнага выяўленьня, злучанага ў той-жа час з самымі тонкімі эфэктамі сьвятла і паветра. Захапленьне гэтае шмат у чым вызначыла яго ўласны далейшы шлях: пры скарыстаньні пэўных прыёмаў Сэзанна—паступовы адыход ад яго і, галоўным чынам, ад „сэзанізму“, у сэнсе адыходу ад пастаноўкі чыста формальных задач, з імкненьнем да болей суцэльнага і гармонічна ўраўнаважанага ва ўсіх сваіх элемэнтах рэалізму. Але шырокі рэалізм—гэта ўжо ня толькі формальны напрамак; паняцьце рэалізму ахапляе сабой таксама і сфэру тэматыкі, асабліва, калі паставіць проблему так, як ставіць яе сам Філіповіч,—г. зн. вызначаючы мэтай сваёй шуканьне нейкае „жыцьцёвае праўды“ ў мастацтве, выяўленай з дапамогаю адпаведна праўдзівых формальных сродкаў. Тут значнае месца займае ўжо і сюжэт,—і ўласна затым, пэўна, у творчасьці Філіповіча мы і знаходзім асаблівую цікавасьць да сюжэту, асаблівую ўвагу да яго абраньня і належнай трактоўкі, адпаведнай узятаму зьместу. Можна лічыць, што якраз тут Філіповіч упяршыню і „знайшоў сам сябе“, як мастака, выключна і цалком беларускага,—ня толькі сваім паходжаньнем і нацыянальнай прыналежнасьцю, але таксама і ўсім абхватам свае мастацкае творчасьці, кожным замыслам, кожным помазам пэндзаля ці рыскаю алавіка.

Шчыльна зьвязаны з роднай краінай ухілам жыцьцёвых сваіх інтарэсаў, шчырым замілаваньнем і часта глыбокім, правільным разуменьнем, Філіповіч не парваў гэтай сувязі ў вандроўках сваіх на чужыну, але наадварот—здолеў яшчэ ўзмацніць яе і пагрунтаваць на цьвёрдых падставах мастацкіх сваіх інтарэсаў. Ставячы сабе мэтай выяўленьне „жыцьцёвае праўды“ ў мастацкай творчасьці, ён не зьвярнуўся да гэтае праўды наогул, але сьвядома абмежаваў сябе праўдай аб жыцьці Беларусі, якая адна ў самых розных формах яе і праявах, асьветленая з самых розных бакоў, стала адзінай нязьменнай тэмай яго мастацтва—на доўгі час, напэўна, на ўсё жыцьцё. Спэцыяльнае тэорэтычнае і практычнае ўсьве-

дамленьне, праца ў асяродку чужой мастацкай культуры, нават залежнасьць ад некаторых сучасных яе цячэньняў,—усё гэта зьявілася для Філіповіча толькі сродкам для свайго формальнага самавызначэньня, для тэхнічнага ўдасканаленьня, г. зн.—належнага ўзбраеньня, каб добра падрыхтаваным выйсьці на шлях стварэньня новага беларускага мастацтва, у якасьці аднаго з першых яго піонэраў. Абставіны склаліся так, што ў той першы пэрыод сваёй адукацыі, аб якім мы кажам, ён ня меў, на вялікі жаль, магчымасьці давесьці да канца гэтую распачатую працу і змушаны быў, спыніўшы яе на палове, часова зьвярнуцца ў Менск і ўжо ня вучыцца, але працаваць самастойна. Асноўны шлях, аднак, быў тады ўжо знойдзены, і Філіповіч цьвёрда стаў на ім, каб ніколі з яго ня зыйсьці. Прыехаўшы ў Менск у 1921 годзе, ён быў хоць яшчэ і нявыяўленым канчаткова ў формальных адносінах, яшчэ не ўсталяваным у тэхніцы, і ня выхаваным у пэўных прыёмах,—але ўжо цалкам сьвядомым беларускім мастаком, праца якога, з пачатку і да канца беларуская, ня гледзячы нават на шмат якія няўхільныя яе недахопы, зьявілася глыбока патрэбнай і важнай у справе разьвіцьця нашай новай мастацкай культуры.

Працуючы ў Менску з 1921 па 1925 год, Філіповіч ва ўсім абхваце выявіў вялікую сваю працаздольнасьць, творчую энэргію і ўпартасьць у дасягненьні пастаўленых мэт. Працаваць прыходзілася ў досыць цяжкіх умовах: ня маючы належнага памяшканьня, пры недахваце патрэбнага матэрыялу, нават пры недахваце вольнага часу. Матэрыяльна незабясьпечаны, ён павінен быў зарабляць сабе сродкі для існаваньня спачатку выкладаньнем у школах, потым, з 1923 году,—службай у Дзяржаўным Музэі. Заняты ўдзень, ён быў прымушаны займацца мастацкаю працай пераважна па вечарох, або ў вольныя ад службы дні, і выдзяляць з свайго абмежаванага заробку пэўныя сумы на набыцьцё матэрыялаў і фарб, часта адмаўляючы сабе дзеля гэтага ў самым патрэбным. Ня гледзячы, аднак, на ўсе неспагадныя варункі, ён здолеў за гэты час зрабіць вялізную колькасьць рысункаў, эскізаў, малюнкаў і, нарэшце, больш-менш скончаных аляёвых карцін, лепшыя з якіх тады-ж трапілі ў Дзяржаўны Музэй, а таксама экспонаваліся на некаторых выстаўках у тым ліку на выстаўцы дэкорацыйнага мастацтва ў Парыжы, а таксама на І-ай Усебеларускай Мастацкай Выстаўцы *). Гэтай працай Філіповіч у поўнай меры выказаў усе свае здольнасьці і шырокія творчыя магчымасьці, выявіў сябе, як адну з найболей цікаўных і значных сіл у новым беларускім мастацтве, і выклікаў да сябе належную спагадную ўвагу. Вынікам зьявілася тое, што ў мінулым 1925 годзе Народны Камісарыят Асьветы палічыў патрэбным даць яму магчымасьць скончыць распачатую ім некалькі гадоў назад спэцыяльную адукацыю і адкамандыраваў яго за

*) Гл. Каталёг 1-ай Усебеларускай Мастацкай Выстаўкі. Менск, 1925. №№ 632—657.

свой кошт, з прызначэньнем дзяржаўнае стыпэндыі, ізноў у Маскву, у Вышэйшыя Мастацка-Тэхнічныя Майстэрні („Вхутэмас“) для канчатковае падрыхтоўкі ў галіне абранае спэцыяльнасьці.

У цяперашні час заняткі Філіповіча ў Маскве канчаткова формуюць яго, як мастака, надаюць яго творчасьці поўную надворную закончанасьць, роўнавагу паміж сюжэтам і формальным яго выяўленьнем. Ён праходзіць строгую тэхнічную школу, якая пазбаўляе яго некаторых ранейшых хістаньняў, навучае цалкам уладаць сваімі формальнымі сродкамі для сьціслага і дакладнага замацаваньня сваіх рознастайных замыслаў. Два гады ён мае працаваць у майстэрні Дрэвіна, потым пяройдзе для канчальнай „шліфоўкі“ пад кіраўніцтва вядомага Машкова. Па ўласнай сваёй патрэбе ён галоўным чынам імкнецца цяпер да заўладаньня тэхнікай чыстага выяўленчага майстэрства, ідзе ад сваіх ранейшых формальных умоўнасьцяй і схэматызацый у бок шырокай дэталізацыі формы і колеру, з якіх складаецца рэальны вобраз кожнага прадмету. Яго настаўнікамі ў гэтым, апроч беспасрэдных кіраўнікоў, зьяўляюцца яшчэ і высокія ўзоры старых майстроў, уплывы якіх паступова падмяняюць у ім ранейшыя ўплывы францускіх імпрэсыёністых *). Усё гэта стварае той моцны і трывалы грунт, на якім мы можам чакаць у самай блізкай будучыне шырокага і поўнага росквіту яго таленту, цалком адданага пачэснай справе служэньня новаму беларускаму мастацтву,—і дазваляе спадзявацца, што злучаная з гэтым талентам у васобе Філіповіча шчырая нацыянальная сьвядомасьць, паднятая ў творчых адносінах на вышыню эўропэйскае мастацкае культуры, высуне яго ў далейшым на адно з самых першых месцаў у шэрагах маладых беларускіх мастакоў.

## III

Характарыстыка творчасьці Філіповіча, у сучасны момант, зразумела, ня можа быць поўнай і дэталёвай, паколькі працы яго да апошняга часу, на моцы зазначаных намі вышэй об'ектыўных умоў, маюць у большасьці эскізны характар, і толькі ў некаторых паасобных выпадках уяўляюць прыклады болей грунтоўна распрацаваных композыцый. Аднак, і ў эскізах нават творчасьць гэтая ўжо вызначаецца рысамі сваёй уласнай індывідуальнай манеры пісьма і рысунку, а таксама пэўнай суцэльнасьцю свайго агульнага стылю, якія, зьяўляючыся яе тыповай асновай, ня зьнікнуць, напэўна, у працэсе далейшага творчага разьвіцьця мастака, але толькі яшчэ болей выразна і пасьлядоўна аформяцца і знойдуць сабе болей глыбокія і дасканалыя сродкі для належнага выяўленьня. Асноўная лінія мастацтва Філіповіча ў формальных адносінах—гэта пераважна лінія пасьлядоўнага рэалістычнага разьвязаньня вы-

*) Беспасрэднае азнаямленьне з гэтымі ўзорамі па аўтэнтыках зрабілася цяпер у Маскве магчымым, дзякуючы адчыненьню аддзелу старога заходня-эўропэйскага малярства ў Музэі Прыгожых Мастацтваў.

яўленчых ці композыцыйных проблем, з частковым адыходам—але выключна ў рысунках—у бок графічнае стылізацыі. У характары гэтага рэалізму, асабліва ў працах ранейшых па часе свайго выкананьня, можна заўважыць, як мы ўжо вызначалі, вядомыя рысы залежнасьці ад манеры Сэзанна ў сэнсе збліжэньня формальных і колёрыстычных задач, разам з імкненьнем да выяўленьня пэўнае формы, перш за ўсё праз агульную злучнасьць і ўзаемаадносіны адпаведных зьлітых у гэтай форме колераў. Такім чынам, пераважную ролю тут грае тэндэнцыя чыстае маляўнічасьці. Але часам адсутнасьць скончанай „школы“ адчуваецца тут у адсутнасьці належнае роўнавагі паміж асобных формальных элемэнтаў і ласьне ў асабліва выяўнай пераваге толькі маляўнічага прынцыпу, у маладым захапленьні гучнасьцю living рознастайных яскравых колераў. У некаторых выпадках нейкая нясутрыманасьць палетры выводзіць мастака з узятай асноўнай фарбавай гамы ў рознагалосьсі рэзкіх каляровых дысонансаў, што лягчэй за ўсё можна бачыць у найменей распрацаваных, раптоўных эскізах, дзе выяўлены найболей выразна шляхі яго інтуіцыйных шуканьняў. Нават і тут, аднак, шырыня і вольнасьць яго неспрактыкаванага, можа, пэндзаля ўсё-ж ніколі ня выходзіць за межы ў аснове сваёй рэалістычнага замыслу і выяўляе яго толькі ў крыху перапавялічаных тонах, але ў чытэльна ўзятай, па большасьці, форме сынтэтычнага, монумэнталізаванага характару. У другіх выпадках, асабліва ў болей значных аляёвых композыцыях, Філіповіч выказвае сябе крыху болей умеркаваным, спакойным, у самых апошніх працах—ужо нават скупым на чыстыя каляровыя эфэкты, што сьведчыць аб пэўнай усталяванасьці яго мастацкага сьветаадчуваньня, якое імкнецца да лепшага заўладаньня тэхнічнымі сродкамі майстэрства. Гэтая рыса, зьявіўшыся ў творчасьці яго самастойна, прывядзе яго, бясспрэчна, у далейшым, пры належным правільна накіраваным выхаваньні, да болей строгай і гармонічнай манеры, уроўнаважанай па ўсіх сваіх паасобных прыёмах, чаго ў цяперашні час яму, можа, яшчэ і бракуе, хоць брак гэты, шчыра кажучы, усё-ж нідзе ў яго працах ня робіць няпрыемнага ўражаньня і выяўляе толькі той шырокі, палкі размах, які так натуральны і нават пажаданы ў кожнай маладой творчай сіле.

Захапленьне Філіповіча колерам (характэрнае, між іншым, для беларускага мастацкага пачуцьця наогул) часам надае яму пэўны ўхіл да дэкорацыйнасьці, выводзячы працы яго з вузкай сфэры чыстага станковага малярства. У вядомай сувязі з гэтым знаходзіцца і ўласьцівае яму трактаваньне формы. Рэальная аснова яе выяўляецца, пераважна, як сынтэз яе тыповых рыс, абагульненых і зьведзеных да нейкага монумэнталізаванага вобразу. Звычайна гэта не парушае яе жыцьцёвасьці, паколькі ўжываньне такога прыёму, у большасьці, можа і ня зусім сьвядома, узгоднена з тэматыкай, дзе Філіповіч часьцей за ўсё ўнікае момантаў шпаркага руху, экспрэсіі ці псыхолёгічнай выразнасьці, падмя-

няючы іх малюнкамі павольнага, разьмерна цякучага жыцьця, спрадвеку афармленага ў аднальковых тыповых сваіх выяўленьнях, як мерны рытм сялянскай працы і побыту, як несканчоныя фэрмато беларускае песьні ці монотонныя мэлёдыі дудароў. Калі Філіповіч ухіляецца ад гэтых тэм, ён ідзе ўжо толькі шляхам схэматызацый,—але гэта ўласьціва амаль што выключна яго графічным працам, асабліва ілюстрацыйнага характару, дзе на дапамогу да чыстае формы, ужо пазбаўленай болей як на палову свайго маляўнічага вызначэньня, зьяўляецца таксама і лінія ў сваёй напруджанай і гострай выразнасьці. Апошняя катэгорыя прац складае, аднак, у творах Філіповіча зусім асобную групу, якая характарызуецца крыху іншымі рысамі стылістычнае апрацоўкі. Да графікі Філіповіч падыходзіць, пераважна, як да ілюстрацыйнага сродку, з дапамогай якога ён мае выявіць сьцісла азначаны сюжэт згодна запатрабаваньняў кніжнае орнамэнтыкі. Композыцыя ў гэтых выпадках набывае строга і пасьлядоўна вытрыманы роўнічны характар, дзе колеры служаць толькі для плоскае расфарбоўкі асобных частак, без пераходаў і зьмяшэньня, але толькі ў контраставых, часам пабудаваных па прынцыпе процілегласьці, спалучэньнях. Навокал гэтых асобных каляровых плям асабліва важнае значэньне набываюць граніцы абрысаў; яны падкрэсьліваюцца, звычайна, чытэльнымі цьвёрдымі контурамі, цікаўнай лініяй, пераважна ў гострых зломах, ухілах і перагібах, якая вядзе асноўную графічную мэлёдыю пад заглушаны акомпанімэнт рытмічна разьмеркаваных у межах контураў фарб. Часта да гэтага далучаюцца і чыста орнамэнтальныя, пазбаўленыя выяўленчага зьместу, мотывы, якія то сьцісла пераплятаюцца з самай композыцыяй, то толькі спраладжаюць яе дадатковай паралельнай тэмай.

Што датычыць композыцый, дык тут таксама наглядаецца пэўная розьніца паміж графічных і маляўнічых прац Філіповіча. У першых яна зьяўляецца часам занадта заблытанай, складаецца з шэрагу дробных дэталяй, зьвязаных перабойным графічным рытмам і сплеценых у складаны дэкорацыйны рысунак, дзе паасобныя часткі ў некаторых выпадках трацяць сваё падлеглае значэньне, і, выступаючы на першы плян, зацямняюць агульную суцэльнасьць сюжэту. Там, дзе гэтае хібы няма, асобныя дэталі падлягаюць адзінай лінейнай рытміцы, якая пераважвае над іх уласнай характарыстыкай, зьліваючы ўсю композыцыю ў выразную і часта фантастычную схэму чыстага графічнага характару. Але графіка, як „мастацтва спрашчэньня“, зьяўляецца тут яшчэ параўнальна рэдка, паколькі мастак у большасьці выпадкаў лічыцца з вымаганьнямі пэўнага сюжэту, часта занадта складанага ў сваім зьмесьце. Калі такое спрашчэньне магчыма—яно выяўляецца часьцей у паасобных фігурах, і меней у іх агульным спалучэньні, амаль што не закранаючы, такім чынам, уласна композыцыйнага моманту. Крыху іншыя композыцыйныя прыёмы можна бачыць у малярскіх творах Філіповіча, і, разам з тым, у некато-

рых, малюнках не ілюстрацыйнага характару. Агулам кажучы, тут пануе композыцыя натуральная, простая, г. зн. беспасрэдна залежная ад тэй запраўднай натуры, якой карыстаўся мастак; важным зьяўляецца тут толькі абраньне пэўнага пункту і лініі назіраньня, якія заўсёды абіраюцца Філіповічам з такім разрахункам, каб асабліва, часам нават перапавялічана, выявіць найболей істотныя прадметы, паклаўшы на іх, да таго-ж, ня толькі композыцыйны, але таксама і формальны акцэнт. Пры штучных композыцыях больш-менш сюжэтнага характару—ён таксама імкнецца да гэтага выдзяленьня найболей значных, з яго погляду, элементаў, разьмяшчаючы іх у такіх суадносінах да іншых, каб адразу-ж выразна выяўлялася іх галоўная кіраўнічая роля. Гэтага ўражаньня ён дасягае або шляхам цэнтралізацыі, або формальнымі сродкамі, г. зн. большай ці меншай дэталізаванасьцю асноўнага і другараднага. Часта-ж і наогул уся композыцыя складаецца толькі з аднэй, ці дзьвёх-трох аднолькава важных фігур, што знаходзіцца ўжо ў блізкай залежнасьці ад характэрнай для творчасьці Філіповіча тэматыкі.

Калі ў формальных адносінах у Філіповіча яшчэ і няма канчаткова ўсталяваных і цьвёрда афармленых прыёмаў, калі нават у тэхнічным сэнсе ён яшчэ не ўладае цалком закончанай і ўдасканаленай манерай,—дык гэтага ні ў якім разе нельга сказаць аб уласьцівых яму сюжэтах і тэмах. Зьмест свайго мастацтва ён ужо вызначыў раз і назаўсёды, надаўшы яму шырокі абхват пры сьціслым абмежаваньні асноўнае задачы. Зьместам гэтым зьяўляецца Беларусь, адзіна і выключна, у самых розных праявах свайго сучаснага і мінулага жыцьця, у рознастайных формах свайго тыповага побыту, у асаблівай, нарэшце, стылістыцы свайго народнага мастацкага пачуцьця. Глыбока зьліты ўсім лёсам сваім з лёсам беларускага народу, паходзячы з нетраў яго, і трымаючыся непарывальнае сувязі з краінаю сваіх бацькоў,—Філіповіч ня ведае іншых тэматычных інтарэсаў; у кожным выпадку, сярод усіх яго рознастайных і значных ужо сваім лікам прац—небеларускіх сюжэтаў мы ня бачылі. Затое ў беларускіх сюжэтах ён зьяўляецца шырока рознабокім: места і вёска, прырода і побыт, гісторыя і народная творчасьць—усё гэта знаходзіць сабе ў творах Філіповіча сваё адбіцьцё, да ўсяго ён зьвяртае сваю жывую зацікаўленую ўвагу.

Першае месца, аднак, сярод гэтых сюжэтаў займаюць пабытовыя тэмы, бо сам беларускі народ, беларускае сялянства—ёсьць першым прадметам замілаваньня і жвавага інтарэсу мастака. Ён шукае і ловіць рыскі гэтага побыту ўсюды, дзе можна яго знайсьці,—і седзячы ў Менску, і ў вандроўках сваіх па Беларусі,—зьбірае, як старэнны колекцыянэр, асобныя сцэнкі, тыпы, вопраткі, характэрныя вобразы беларускага сялянскага жыцьця, і робіць з іх то маленькія, выразныя і яскравыя эскізы, то болей скончаныя, монумэнтальныя палотны, каштоўныя сваёй глыбокай жыцьцёвай праўдай, далёкай, у той-жа час, ад сухасьці вузкага этнографізму.

Расьцярушаныя па прыватных зборах, часта адданыя няма ведама куды, працы гэтыя ў цяперашні час немагчыма сабраць і ацаніць у поўным складзе, і толькі некаторыя з іх можна коратка тут памянуць. Добра засталіся ў памяці, напрыклад, цікаўныя тыпы ў старасьвецкіх вопратках што паступова выходзяць цяпер з ужытку, і маленькія, сакавіта напісаныя ў цёплых багатых тонах, сцэнкі на нейкім кірмашы, якія былі сярод экспонатаў 1-ай Усебеларускай Мастацкай Выстаўкі [1]). Адна з найлепшых, можа, у гэтым характары прац—моцна скомпанаваныя, залітыя чырвоным вечаровым сонцам „*Касцы*" ў павольным тэмпе зморанага звароту з поля—вядома нам у ваднымі прыватным зборы [2]). Нарэшце, трэба зазначыць некаторыя, болей значныя па разьмерах, композыцыі ў зборах Беларускага Дзяржаўнага Музэю ў Менску: сярод іх асабліва выдзяляюцца „*Дудар*"—монумэнтальная, як быццам высечаная з каменю, фігура, напісаная часткова ў сэзанаўскай манеры, з пэўнай абагульненасьцю формы, і „*Група лернікаў на кірмашы*", абкружаная натоўпам слухачоў—тыповая сцэна выхапленая з самага жыцьця, у натуральную велічыню, з яскравымі плямамі цікаўных жаночых вопратак [3]). Усюды ў гэтых працах (да якіх можна далучыць і яшчэ цэлы шэраг пераважна дробных эскізаў і рысункаў аналёгічнага характару ў тым-жа Музэі і ў прыватных руках) можна заўважыць адну супольную тыповую для творчасьці Філіповіча рысу: беларускі побыт цікавіць яго, галоўным чынам, з боку надворных форм свайго выяўленьня; тут няма чаго шукаць „нутраных", пабудаваных на пэўным зьмесьце, сюжэтаў; мастацтва Філіповіча надзвычайна далёка ад „літаратурнасьці", ад псыхолёгізму; ён нічога не апавядае, а толькі выяўляе, падыходзячы да кожнага жыцьцёвага факту, як да крыніцы таго маляўнічага ўражаньня, якое можна яскрава і сьцісла перадаць моваю сталай, азначанай формы і гарачых, насычаных органічнай дэкорацыйнасьцю, фарб; так выяўляецца ў сваім надворным, асаблівым аблічы тая Беларусь, якая яшчэ існуе цяпер, але якой мо' ўжо хутка ня будзе, якая была, але якой ужо і цяпер няма; і гэтае абліччa, глыбака вернае ў сваім асноўным тоне і стушаванае ў дэталях—ёсьць, часам, нейкім абагульненым яе абліччам, злучнасьцю яе найболей тыповых формальных рыс, знойдзеных у самых глыбінях традыцыйнага народнага бытаваньня. Для такога падыходу характэрна і зразумела тая асаблівая цікавасьць, якую Філіповіч заўсёды выяўляе да вопраткі, да народнага орнамэнту, да ўсяго таго, што ў руках этнографа зьяўляецца толькі мёртвым матэрыялам для вывучэньня, у руках-жа мастака робіцца крыніцай глыбака нацыянальнага мастацкага сьветаадчуваньня і гэткага-ж стылістычнага аформленьня. Характэрны і самыя колёрыстычныя яго прыёмы, цалкам залежныя ад аблю-

[1]) № № 632, 635—639, 642—643, 647—650.

[2]) Члена Інстытуту Беларускае Культуы Міколы Красінскага.

[3]) Абедзьве гэтыя працы, разам з некаторымі іншымі, знаходзяцца цяпер у Этнографічным аддзеле музэю.

бёных народных каляровых схэм, а таксама ўжо ў іншых сюжэтах, бепагрунтаваныя на сучасным быце романтычныя мары аб тым далёкім беларускім мінулым, калі з самай глебы струменіліся жывыя крыніцы народнае творчасьці, якія яшчэ і да нашых дзён прасякаюць спрадвечны беларускі побыт. Уходзячы ў далі сталецьцяў, ён уваскрашае, напрыклад, старадаўняе паганскае *„Веснавое сьвята“* з яго захопленым жыцьцёваю земскаю радасьцю карагодам, што вынікае быццам з сіва-лілёвых туманных даляй дагісторыі, альбо будуе сваё пазачаснае, аднолькова магчымае і сёньня і тысячу год назад *„На купальле“*, дзе навокал закружанага віхравым колам купальскага агню сплятаюцца ў паганскім фальлічным экстазе белыя кашулі хлапцоў з чырвонымі, поўнымі летняга палу, гарсэткамі разьюшаных у завірушным танцы дзяўчат [1]).

Наогул, Філіповіч кахае і адчувае беларускую старасьветчыну. У некаторых тэмах яго, як, напрыклад, у пэйзажы, першае месца займаюць гарадзкія краявіды, амаль выключна менскія зарысоўкі, з цікаўнымі пэрспэктывамі вуліц старога места і старадаўніх будынкаў ва ўсёй архаічнай маляўнічасьці іх старых, пацямнелых муроў і скучаных у важкія групы рознакаляровых дахаў. Ён ведае, як знайсьці тут асабліва цікаўны пункт назіраньня, як адшукаць эфэкты найболей адпаведнага тэме, пераважна вячэрняга, асьвятленьня, раптоўных праблескаў жоўта-чырвонага захаду і сініх змрокаў, што спавіваюць абрысы дамоў і вуліц. Часам ён падыходзіць да гэтай тэмы ў каляровай і радзей у чорнай графіцы, але ў большасьці ў алеі, цэлы шэраг узораў чаго мае Беларускі Дзяржаўны Музэй [2]). Не адзін раз, пры гэтым, ён варачаецца да тэмы менскага „Замчышча“, у стромкіх кручах і пачарнелых, напалову зруйнаваных халупках якога ён быццам шукае незахаваных сьлядоў далёкага старадаўняга жыцьця. Сэрыя пэйзажных эскізаў канчаецца тут надзвычайна цікаўнай фантазіяй—спробай інтуіцыйнае рэканструкцыі старога *Менскага замку* [3]), дзе асабліва выразна выяўляецца ўласьцівае Філіповічу глыбокае і стылістычна аформленае пачуцьцё старасьветчыны. Праца гэтая робіць моцнае ўражаньне, на фоне вячэрняга неба з зеленаватымі воблакамі над цёмнымі глыбака-сінімі з зялёным адценьнем водамі Сьвіслачы, важкі драўляны масыў з магутным парканам і квадратовымі пахмурнымі вежамі знойдзены рэдка ўдала і сваімі архітэктурнымі масамі, і тэй агульнай сваёй старадаўняй стылёвасьцю, якая зьяўляецца ня столькі сьвядома выяўленай, колькі беспасрэдна пачутай. Ад гэтай концэпцыі Філіповічу ўжо лёгка было перайсьці,—не ў формальных, але ў сюжэтных адносінах,—да шэрагу поўгістарычных тэм ілюстрацыйнага характару, узятых са зьместу „Слова аб палку Ігаравым“. Першай, пэўна, была

1) Таксама ў Этнографічным аддзеле Беларускага Дзяржаўнага Музэю.

2) Па інвэнтары: аддз. I, №№ 1001—1008 і інш.

3) Беларускі Дзяржаўны Музэй, I, № 1019.

тут алеевая композыцыя *„Бойкі на Нямізе“* [1]), навеяная тым-жа замілаваньнем да старажытнага Менску; яна напісана хоць і эскізна, але энэргічна, з шырокім размахам, з напруджанай экспрэсыяй апошняй рашучай сутычкі старадаўніх багатыроў пад зеленаватым казачным небам, на фоне лілёвых даляй, зьніклых у сізым тумане. Далей была намечана мастаком цэлая сэрыя ілюстрацый да „Слова“ графічнага характару; з яе мы бачылі калісьці ў аўтара тую-ж тэму бойкі на Нямізе, як памятаем, вельмі ўдалую; адтуль-жа ў нашым уласным зборы знаходзіцца невялікая акварэль *„Плач Яраслаўны“*, цікаўная дэкорацыйным вырашэньнем композыцыі, а таксама дэталяй старасьвецкае вопраткі. Але здаецца, што гэтая сэрыя засталася нясконччанай, дый наогул у вапошнія часы Філіповіч неяк адышоў ад падобных сюжэтаў, аддаўшы пераважнае сваё захапленьне рэальнаму быту і, часткова, вясковаму пэйзажу, прычым у апошнім, аднак, яму не ўдалося пакуль што дасягнуць асабліва значных вынікаў.

Асобную групу тэм складаюць у творчасьці Філіповіча яго ілюстрацыі да беларускіх народных казак [2]). Гострае адчуваньне народнае творчасьці, дзе разам пераплятаюцца рэальнае штодзеннае жыцьцё і казачная фантастыка, уменьне ў адпаведных вобразах выявіць гэтыя падвойныя элемэнты ў кожным асобным сюжэце, нарэшце, асабліва падкрэсьленая, наўмысная ілюстрацыйнасьць,—усё гэта робіць даную групу аднэй з асабліва цікаўных і ня меней каштоўнай, як пабытовыя тэмы. Паглыбляючыся да самых крыніц народных творчых замыслаў, такіх багатых па сваіх формальных магчымасьцях, мастак зьлівае тут гэтыя замыслы з сваім уласным стылізацыйным майстэрствам, робячы іх асновай для шэрагу дэкорацыйных композыцый, якія пры ўсёй сваёй органічнай „народнасьці“ ўжо ўздымаюцца, аднак, на вышыню пабудаваных у поўнай згодзе з сучаснымі мастацкімі вымаганьнямі рысункаў. Па выкананьні рысункі гэтыя належаць выключна да прац графічнага характару, маючы ўсе тыя дадатныя і адмоўныя бакі, якія мы вызначылі вышэй, разглядаючы графіку Філіповіча наогул. Выразныя характарыстычныя абрысы фігур злучаны тут з поліхромнай роўнічнай расфарбоўкай, у мякка падабраных колерах; у лепшых узорах мастак дасягае тут асаблівае графічнае прастаты, абмяжоўваючы сябе толькі строга патрэбным формальным матэрыялам; часам, аднак, пры пэўнай складанасьці тэмы наглядаецца і залішняя заблытанасьць композыцыі ў пагоні за чыстым дэкорацыйным эфэктам, але ў гэтых выпадках уласна эфэктоўнасьць уражаньня прымушае часткова забывацца на композыцыйныя хібы, тым болей, што характарыстыка асобных фігур застаецца і тут, як звычайна, гострай, чытэльнай і заўсёды цікаўнай. За мінулы час працы Філіповічам быў ілюстраваны цэлы шэраг беларускіх казак: *„Каваль-асілак“*, *„Каваль і цмок“*, *„Палящук і чорт“*, *„Чорт і баба“*, *„Іван-прастачок“*,

[1]) Беларускі Дзяржаўны Музэй, I, № 1021.

[2]) Знаходзяцца пераважна ў Беларускім Дзяржаўным Музэі.

*„Зьмей“, „Сьмелы“, „Сабака і воўк“* і некаторыя іншыя. Праца гэтая ня спынілася і цяпер, і ў вольныя ад навучаньня гадзіны наш мастак рыхтуе новыя ілюстрацыі, якія павінны будуць яшчэ дапоўніць гэтую і так ужо значную па колькасьці сваіх нумараў сэрыю. Падыход Філіповіча да ілюстраваньня казак у аснове сваёй пагрунтаваны на імкненьні расшыфраваць у конкрэтных вобразах неаформленую плястычна народную фантазію і даць выяўленьне асобных момантаў данага сюжэту, найболей істотных у яго разьвіцьці. Падвойнасьць зьместу ў большасьці казак узгадняецца самым графічным вырашэньнем тэмы; элемэнты рэальныя, захоўваючы свае запраўдныя рысы, толькі праламляюць іх, схэматызуюць, часта выяўляюць у перапавялічаных формах гротэску, што дае найболей удалыя па ўражаньні вынікі; але тут мастак яшчэ абмежаваны запраўдным бытам з яго сталымі формамі, што вымагаюць трымацца ў пэўных рамках, далей якіх ужо немагчымы нават казачныя ўхіленьні. Затое поўную свабоду беспасрэднае творчасьці мастак атрымлівае ў трактаваньні элемэнтаў бязьмежнае казачнае фантастыкі, і можа ўласна затым яна асабліва, быццам, яго цікавіць і захапляе. Застаючыся на грунце чыста народнага разуменьня і сьветаадчуваньня, ён выяўляе ў дзівосных, нязвычайных вобразах забабонныя мары цёмнага, беспараднага селяніна, жудасныя і таемныя формы створаных яго палахлівай фантазіяй надпрыродных істот: зьмея, чорта, крылатага, з агністым подыхам „цмока“,—і побач з тым казачна-сьветлыя малюнкі нейкіх далёкіх, няма ведама дзе палеглых, прамяністых краін, аб якіх селянін гэты марыў спрадвеку, забіты і зморany бязупыннай і цяжкай працай у глушы сваіх непраглядных лясоў і балот. Для гэтых форм Філіповіч умее знаходзіць заўсёды цікаўныя графічныя выяўленьні, і асабліва выразных эфэктаў ён дасягае ў контрастах, у супроцьстаўленьнях рэальных і фантастычных фігур, адзначаных і рознымі манерамі выкананьня. Як асабліва ўдалы прыклад можна паказаць хоць-бы адну з ілюстрацый да казкі „Паляшук і чорт“, дзе, пачынаючы ад фігуры паляшука, асьветленай чырвонымі праменямі кастра, усё так проста, звычайна і жыцьцёва ў гэтай сфэры цёплага сьвятла, а далей, дзе ўздымаецца цёмны таемны лес,—кожная лінія ўжо поўна жаху і жудасьці прымітыўнае паляшуцкае псыхікі, і дрэвы сплятаюцца, як лясныя здані, і, за бліжэйшым, прытаіўся чорт, сам падобны да старога імшастага дрэва. Зразумела, такога роду ілюстрацыі ў цяперашні час практычнага значэньня ня маюць, дый ня прызначаны для шырокага апублікаваньня разам з самымі тымі старымі народнымі казкамі, зьместам якіх яны былі мастаку падказаны. Але гэта не пазбаўляе іх бясспрэчнае мастацкае вартасьці, як надзвычайна ўдалай спробы графічнага аформленьня і стылізацыі беларускага этнографічнага матэрыялу, дзе аўтар здолеў знайсьці належныя выяўленчыя сродкі для замацаваньня тыповых рыс народнае поэтыцкае творчасьці. Гэта дапамагло яму і ў іншых выпадках устанавіць сабе пэўную

графічную манеру, якая ў лепшых узорах дасягае тэй лаконічнай лінейнай выразнасьці, што асабліва пажадана ў кожнай ілюстрацыі наогул. З тых-жа казак можна зазначыць, напрыклад, „Сабаку і воўка“, характэрныя фігуры якіх дадзены лёгкімі, гострымі сілуэтамі на фоне празрыстага васеньняга лесу,—так чытэльна і проста, што ня толькі зьмест, але нават і эстэтычную прывабнасьць малюнку зразумее кожнае дзіцянё. Тут можна толькі пажадаць, каб і надалей мастак ішоў у сваіх ілюстрацыйных працах шляхам такога спрашчэньня да найболей сьціслых графічных схэм і, скарыстаўшы сваю ранейшую, ужо выяўленую ў „Казках“ спрактыкаванасьць, прыклаў-бы свае бясспрэчныя ілюстрацыйныя здольнасьці да болей патрэбных і блізкіх нашай сучаснасьці сюжэтаў.

---

У межах кароткага нарысу няма, зразумела, магчымасьці даць поўны і ўсебаковы малюнак творчасьці нават аднаго мастака. Але ў адносінах да Філіповіча ў цяперашні час у такой дакладнасьці, можа, яшчэ і няма патрэбы. Творчы шлях яго яшчэ ў самым пачатку, і ўласна ў далейшым мы можам чакаць ад яго на гэтым шляху самых значных і каштоўных для нас дасягненьняў. Тое, што ім ужо зроблена,—гэта толькі першы крок. Гэты крок, аднак, мы ўжо вітаем, бо ён патрэбны і правільны; бо ён ня толькі яго ўласны, асабісты крок па ўласным мастацкім шляху, але таксама і першы поступ маладога мастацтва Беларусі ў тыя сьветлыя далі, якія ўжо мігацяць перад намі, залітыя яскравым сонцам нашай дасягнутай вольнасьці.

# АЛЕСЬ БУРБІС

*(Рэволюцыйная характарыстыка)*

**З. Жылуновіч**

На шляху да культурна-нацыянальнага адраджэньня Беларусі, на дарозе да палітычна-соцыяльнага вызваленьня яе працоўных гушчаў— ужо наглядаецца шэраг магіл тых барацьбітоў, якія аддалі жыцьцё за гэту вялікую справу.

Зараз мы зьяўляемся сьведкамі шырокага разгарненьня дзяржаўнага і гаспадарчага жыцьця моцна зложанай, аформленай, заваёванай рабочымі і сялянамі Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікі. Перад намі разгортваецца дзіўны процэс культурнага ўздыму таго народу, які нядаўна зусім ня меў свайго твару, нават імя свайго ня ведаў. На глухіх абшарах яго краіны гадавалася культура пануючых станаў, расійскіх чыноўнікаў і польскіх паноў. Людзкі поступ, поступ жыцьця накіроўваўся ў бок інтарэсаў невялікае жменькі багацеяў, абірацеляў працаўніка. Беларускі селянін, беларускі рабочы доўгія вякі заставаліся ў цемры бяскультурнасьці, чужыя вялікадзяржаўнаму культуртрэгерству самадзяржаўнае Расіі ды памешчыцкай Польшчы.

Тым магутней ёсьць тыя падзеі аднаўленьня працоўнай творчасьці, рабоча-сялянскага будаўніцтва, да якіх прышоў беларускі народ. І тым даражэй нам павінны быць тыя змаганьнікі за нашу сучаснасьць, якія адышлі ад нас, не дачакаўшыся ўрачыстасьці сваіх ідэй і пратварэньня свае працы ў рэчаіснасьць.

Адным з гэткіх ваяк, неўгамонных і рашучых, самаахвярных барацьбітоў быў Алесь Лаўрэнаў Бурбіс, з часу сьмерці якога ў сакавіку бягучага году споўнілася пяць год. А. Бурбіс памёр яшчэ не старым чалавекам, у веку 40 г., калі сама што гізуе думка і арудуе разумная чыннасьць асобы. Яго падтачыла цяжкая хвароба—сухоты, якую ён набыў дзякуючы няўтомнай, самаахвярнай працы на полі нацыянальна-рэволюцыйнага змаганьня і за якую таксама прасядзеў некалькі год у вастрозе. Гэта праца захапіла А. Бурбіса яшчэ з маладых гадоў. Будучы гімназістым, ён разам з іншымі беларускімі студэнтамі закладае ў 1902 годзе віленскую організацыю Беларускай Рэволюцыйнай Грамады. Гэта першая беларуская соцыялістычная партыя, што паставіла грунтоўна пытаньне соцыяльна-нацыянальнага вызваленьня беларускіх працоўных гушчаў, займала ўсю

кіпучую чыннасьць А. Бурбіса. Ен зьвязаў з ёю свой лёс, сваё жыцьце, аддаўшыся энэргічнай агітацыі і пропагандзе ідэй грамады сярод рабочых і сялян. Бяспраўнасьць беларускага працаўніка, яго культурная забітасьць, побач з гэтым нясутрымны разгул царскіх чыноўнікаў, гвалтуючых і нішчачых Беларусь, як гэткую, абуралі маладога палкага рэволюцыянэра, якім быў А. Бурбіс.

А. Бурбіс ясна бачыў перад сабою ўсе жахі нацыянальнае няволі, што паглыбляла сабою няволю соцыяльную, і прысьвяціў сябе змаганьню за соцыяльнае і нацыянальнае вызваленьне Беларусі. Гэтыя два пачаткі неадлучна абуралі яго нутро, і ён ня мог перадаць цалкам свае энэргіі на службу аднаму з іх. Умовы, якія акружалі яго, падмацоўвалі тэзісы А. Бурбіса. Тут-жа, побач, ён бачыў працу другіх нацыянальна-соцыялістычных партый, як Бунд, ППС, СДПЛ і П і інш., каторыя ставілі сваёю мэтаю нацыянальнае вызваленьне яўрэйскага, польскага, літоўскага працоўнага народу, і ня мог ня прыняць вырашэньня гэтага пытаньня ў адносінах беларускага працаўніка. Галоўныя масы яго былі на вёсцы, да якое пакуль не дасягалі ў павіннай меры соцыялістычныя ідэі, цэнтр цяжару падаў на гарады, на прамысловыя асяродкі, дзе рабочыя былі ў большасьці з яўрэяў ды палякаў, якіх абслугоўвалі Бунд і ППС. Беларуская Рэволюцыйная Грамада накіравала сваю ўвагу на вёску. І А. Бурбіс, стаючы ў яе асяродку, нясупынна адпраўляўся на гутаркі да сялян, аб'яжджаючы вёску за вёскай, агітуючы словам і раздаючы часта напісаныя ім-жа проклямацыі. Калі ў 1903 годзе адбыўся зьезд партыі, на якім яна была перайменавана з Беларускай Рэволюцыйнай Грамады ў Беларускую Соцыялістычную Грамаду, А. Бурбіс папаў у склад яе цэнтральнага камітэту. Гэтым ён усклаў на сябе яшчэ большыя абавязкі, літаральна раскідаючыся на часткі ў завірусе змаганьня. Агітацыйная праца ўскладнілася організацыйнаю работаю. Паміж-партыйныя адносіны, літаратурныя абавязкі, агульна-політычныя кампаніі і разам чыннасьць радавіка — вось нагрузка А. Бурбіса ў перадрэволюцыйны час. Зразумела, што гэткая вывучка ў абставінах нелегальнасьці надала яму ўсе якасьці заўзятага, загартаванага ваякі... Практычны стаж трохгадовага знаходжаньня ў радох соцыялістычных працаўнікоў не перашкаджаў А. Бурбісу папаўняць свае веды ў галінах соцыяльных навук, гісторыі вызваленчага руху і ў справе нацыянальнага пытаньня. К 1905 году ён быў дасканала аформленым і падгатаваным працаўнікам для таго, каб ясна разьбірацца ў рэволюцыйнай сытуацыі. Дзякуючы гэтаму, мы бачым А. Бурбіса ўвосень 1905 г. кіраўніком рэволюцыйнага руху ў адным з паветаў Ковеншчыны, у скутку якога ён захоплівае ў мястэчку Мейшаголы ўладу і трымае яе некалькі дзён... Гэты эпізод з так празыванаю „Мейшагольскаю рэспублікаю“ акрасьляе далейшую адпаведную працу А. Бурбіса ў пачатку 1906 году. К гэтаму часу Беларуская Соцыялістычная Грамада вырастае ў значную масавую партыю. Яе ўплыў расьце ня толькі сярод беларускага сялян-

ства на вёсцы, а і сярод рабочых у Вільні, Нова-Вілейцы, Менску і інш. Якраз другі зьезд яе, што адбыўся ў студзені 1906 г., радыкальна пераглядзеў програму БСГ, прыняўшы цалкам програму-мінімум соцыял-дэмократыі, а таксама маслаўскую муніцыпалізацыю зямлі. У пытаньнях бягучага палітычнага змаганьня зьезд далучыўся да тактыкі бальшавікоў у адносінах да выбараў у дзяржаўную думу і ў справе ўзбройнага паўстаньня. Аднак, побач з гэтым, пасьлязьездаўская праца БСГ ня мае сталае, раз абранае дарогі і раскідаецца ў розныя бакі. Гэта часткаю тлумачыцца тым, што актыў яе ня ў моцы быў ахапіць тую шырокую хвалю рэволюцыйнага разгону, які хлынуў Беларусьсю. Тым ня меней Беларуская Соцыялістычная Грамада ўтварыла „беларускі сялянскі саюз“, залажыла „беларускі настаўніцкі саюз“, „беларускі саюз настаўніцкіх сэмінарый“ і інш. Адначасова яна захоплівае пад свой уплыў восеньню 1906 г. забастовачны рух сельска-гаспадарчых рабочых, што шырака разгарнуўся па Меншчыне. Таксама ёю праводзіцца ў Менску гэтым-жа годам забастоўка сталяроў. На чале забастовачных камітэтаў абодвух забастовак стаіць А. Бурбіс і ўмела імі кіруе. Посьпех у некаторых мясцох забастоўкі сельска-гаспадарчых рабочых, так званай „бульбяной забастоўкі“, у многім павінны яго кіраўніцтву. Але на гэтым перарываецца чыннасьць А. Бурбіса. Яго арыштоўваюць і садзяць у вастрог, дзе ён праседжвае каля трох гадоў.

У час знаходжаньня А. Бурбіса ў вастрозе адбываюцца вялікія зьмены ў палітычнай сытуацыі ў Расіі. Рэволюцыйны рух царскі ўрад разбурыў дарэшты. Карныя атрады залілі крывёю Сібір, Каўказ, Прыбальтыку. Віселіцы і расстрэлы, катарга і высылка запоўнілі крывавымі падзеямі хроніку дзяржаўнага жыцьця. Партыі спынілі працу—яны былі абясьсілены рэпрэсіямі азьвярэўшага самадзяржаўя. Побач з іншымі соцыялістычнымі партыямі была моцна спалярушавана і Беларуская Соцыялістычная Грамада. Частка яе актыўных сяброў, камітэтчыкаў і кіраўнікоў організацый была заарыштавана, частка выслана ў Сібір, частка кінулася ў эміграцыю. Тыя ядынкі грамадаўцаў, якія ўцалелі ад уціску ўлады, суцішылі вострасьць рэволюцыйна-палітычнай працы, накіраваўшы яе на шлях культурна-асьветнае чыннасьці. Замест Віленскага і Менскага камітэтаў Грамады, якія ў 1906 г. мела БСГ, гуртаваньне рэштак сіл партыі стала адбывацца вакол адчыненай тыднёвай беларускай газэты „Наша Ніва“. Пры рэдакцыі яе рабіліся палітычныя нарады, распрацоўваліся пляны кампаніі па выбарах у дзяржаўную Думу; рэдакцыя „Нашае Нівы“ служыла месцам сходаў і складам нелегальнае літаратуры. Таксама пры „Нашай Ніве“ хутка было адчынена невялічкае выдавецтва, якое выпускала кніжачкі па пытаньнях соцыялістычнага характару.

У першыя часы свайго існаваньня, газэта „Наша Ніва“, будучы органам Беларускае Соцыялістычнае Грамады, галоўную ўвагу аддавала высьвятленьню палітычна-соцыяльных пытаньняў. Пазьней ужо, пад

канец 1907 г., калі рэакцыя дамаглася зьліквідаваньня рэштак свабод 1905 г. і ў краі запанавала духоўнае разладзьдзе ў шэрагах опозыцыйнае грамадзкасьці, рэдакцыя вымушана была крыху прытупіць вострасьць політычных выступленьняў. Яе старонкі ўсё болей ды болей аддавалі месца нацыянальна-культурным пытаньням і экономіцы краю. Праўда, ва ўмовах політычнага жыцьця „Паўночна-Заходняга краю“ ня так лёгка было абыйсьціся без політыкі, якою была і сама культурная справа. Дбайнае вока начальства востра сачыла за кожным подыхам чалавека. Існаваньне ў яго пад бокам беларускае газэты, заснаванае далёка неблаганадзейнымі людзьмі, было заўсёдным будзіцелем непакою. Малейшае выяўленьне нацыянальнага руху сьведчыла аб пагрозе і небясьпецы „цэласьці ды непадзельнасьці Расіі“ з боку рэволюцыянэраў-сэпаратыстых. Загэтым над „Нашай Ніваю“ быў пастаўлены пільны поліцэйскі нагляд. Час-ад-часу „прадстаўнікі“ ўлады наведвалі рэдакцыю газэты; час-ад-часу за яе артыкулы даводзілася трапляць рэдактару ў суды і ў вастрог. Апроч гэтага, адміністрацыяй краю для змаганьня з уплывам „Нашае Нівы“ на беларускае сялянства было даручана сетцы чорнасоценных організацый, як „Саюз Міхаіла Архангела, Саюз ісьцінна-рускіх людзей“ ды інш., паралюшаваць гэта праз свае выступленьні і выданьне свае, чорнасоценнае прэсы. У процілежнасьць „Нашай Ніве“ была заложана газэта „Крестьянин“, якую выдаваў знарок організаваны ўладаю чорнасотніцкі „Белорусский крестьянский союз“. Ідэолёг гэтага саюзу А. Саланевіч праз сваю газэту „Северо-Западная Жизнь“ вёў нясьціханнае цкаваньне „Нашае Нівы“ і ўсяе справы беларускага руху. Поўнае забароны чыннасьці рэдакцыі „Нашае Нівы“ ўлада не зрабіла выключна з тэй прычыны, што лічыла яе пакуль не настолькі сур‘ёзнаю, каб яна магла зараз-жа падарваць „исконные начала“ самадзяржаўнай улады ў краі. Прынятыя супроціў яе рады пакуль забясьпечвалі спакой вышэйшага начальства. Апошняму было ясна, што беларускі нацыянальна-рэволюцыйны рух быў—непасрэдным нараджэньнем ад агульна-расійскага рэволюцыйнага руху. І паколькі на абшарах усяе Расіі тупала цяжкая нага сталыпіншчыны, пастолькі можна было ня дбаць за „Северо-Западный Край“. Але ў гэтым яно мылялася. Скуткам рэакцыі і яе рэпрэсій паперш усяго засталося ўхіленьне ад рэволюцыйнага руху некаторых колаў інтэлігенцыі, вучнёўскае моладзі і буржуазіі. Рабочая-ж кляса, згубіўшы сваіх правадыроў, далёка не разьвіталася з думкамі далейшае організацыі сваіх сіл для нямінучага паўстаньня. Практыка 1905 году дала штырхач думкам над тым, у які бок павярнуць гэту організацыю і які характар прыдаць ёй у наступным. І ў той час, калі інтэлігенцыя кінулася ў богаадшуканьне, у любаваньне цела, у містыцызм, рабочыя ўпарта прыняліся за організацыю сродкаў асьветы, як заснаваньне рабочае газэты, пабудаваньне рабочага дому, заклад культурна-асьветных таварыстваў, вобчастваў і інш.

У Беларусі адбываліся аналёгічныя зьявішчы ў адносінах руханьня соцыяльна-політычных пытаньняў, але ў большай меры наглядалася ажыўленьне ў галіне ўздыму беларускага нацыянальна-рэволюцыйнага руху. Процэс гуртаваньня рабоча-сялянскіх сіл вакол вырашэньня нацыянальнага пытаньня асабліва шырокія памеры набыў у пачатку 1908 г. Ён захапіў сабою буйныя колы беларускае сялянскае моладзі, местачковых рамесьнікаў і часткаю гарадзкіх рабочых. Нацыянальнае пытаньне прасачылася ў захаваныя соцыял-дэмократычныя організацыі, стаўшы на парадку дню ў іх бягучай працы. Дзякуючы гэтаму шпарка рос слой чытачоў „Нашае Нівы“, і газэта хутка ўжо стала незадавальняць таго беларускага актыву, які высунула вёска для набыцьця сувязі з ёю праз корэспондыраваньне. Прага да беларускага друкаванага слова, як да жывога голасу працоўнага народу краіны, нясьціханна расла і абвострывалася. Гэта было тым пікантней, што на беларускім-рэволюцыйным небасхіле выразна абмаляваліся свае выдатныя пісьменьнікі і песьняры. Апошнія натхнёна кідалі лёзунгі, поўныя соцыяльным прасякненьнем, палкія, оклічныя. Расійская буржуазна-інтэлігенцкая літаратура ў гэты час, у сваёй большасьці, займалася санціншчынаю, містыцызмам, усім тым, што туманіла маладую думку і гасіла рэзвае пачуцьцё,—і беларускі чытач, як ваду ў сьпёку, лавіў бадзёрыя словы беларускіх пісьменьнікаў. Гэткім чынам вочавідкі адчынялася шырокае поле чыннасьці, на якую патрабавалася ўсё болей ды болей працаўнікоў.

А. Бурбіс быў адным з пажаданых у гэтым ліку. Вышаўшы з вастрогу, ён накіраваў у Вільню і йзноў цалкам аддаўся беларускай працы. Супрацоўнічаючы ў „Нашай Ніве“ пад рознымі псэўдонімамі, ён у той-жа час хапаецца за думку організацыі беларускага тэатру. Пад яго кіраўніцтвам у Вільні закладаюцца першыя беларускія тэатральныя вечарыны, у якіх першую скрыпку адыгрывае А. Бурбіс. Вечарыны гэтыя ў значнай меры падымалі агульную цікавасьць да беларускае культурнае справы. Аб іх гутарыла віленскае грамадзянства ўсіх нацыянальнасьцяй, ім прысьвячалі артыкулы рознанацыянальныя газэты.

Разам з гэтым пільней настарожывала вуха начальства і шпарчэй шавялілася ісьцінна-руская думка. Баромэтр апошняе, Л. Саланевіч, вышэй паднімаў голас, шпегаўскі не даючы начальству супакоіцца перад пагрозаю „беларусінскага мазепінства“. Ён (а з ім і Кавалюкі) мастацкі накіроўваў увагу „каму ведаць належыць“ на страшэнную апаску росту „беларускага сэпаратызму“, вынаходзячы ў ім гэткія праступкі, як нават „шпегаўства (!) на карысьць Нямеччыны“... З часу ўзмацненьня беларускага нацыянальна-рэволюцыйнага руху і да самае лютаўскае рэволюцыі, паступова, водлуг яго росту і пашырэньня, ішло нясупыннае, чым далей— заядлейшае цкаваньне, провоцыраваньне яго. „Што беларускі сэпаратызм, створаны палякамі,—на розны лад вар'іраваў Л. Саланевіч,—гэтага не адкідае і „Наша Ніва“. Але ў палякаў была зусім акрэсьленая мэта.

Яны ствaралі беларускі сэпаратызм зусім не дзеля таго, каб адрэзаць, калі ня ўсіх беларусаў, та хоць-бы частку іх ад уплыву расійскае культуры і затым праглынуць іх культураю польскаю [1]). Пагрозы гэтага не павінна ня дбаць начальства краю—бо „беларусінства“ ня гэткая нязначная плынь, каб аб ёй забываць“. „У нас тут, у Беларусі,—дапамінае Л. Саланевіч,—зьявіўся нарыў, праўда, яшчэ зусім нязначны нарыў, каб даць сябе моцна адчуваць—так празыванае „беларусінства“. І хто можа сказаць, што яно не сустрачае падтрымкі ў вельмі і вельмі многіх наіўных інтэлігентаў нашае роднае краіны, якія ня ведаюць, з якіх крыніц выцякае гэтае „беларусінства“, і шчыра нахільны думаць, што гэта толькі „культурная“ плынь, якая нічым ня грозіць ні народу, ні краіне“ [2])... Л. Саланевіч зьвяртае ўвагу чытача на корэспондэнцыю ў „Северо-Западную Жизнь“ свайго сябра Зянчэнкі аб ужываньні „Нашай Нівaю“ слоў „рускае войска“, а ня „наша войска“, інспіруе, каго сьлед: „Калі мы ўсе рускія, усе сыны аднаго вялікага народу, аднае вялікае дзяржавы, незалежна ад таго, ці адзеты мы ў салдацкія шынялі, сярмягі, ці піджакі, лічым справу сучаснае вайны сваёю справаю, лічым перамогі нашага доблеснага войска нашымі перамогамі, калі мы з трапяткою радасьцю кажам і пішам „наша войска атрымала перамогу“, „наша войска ўзяло Галіцыю“, „наша войска ўступіла на Карпаты“,—гэта зусім зразумела... Ці могуць гэтыя пачуцьці перажываць дзеячы з „Нашае Нівы“, лічачы сябе ня рускімі, а чужаземцамі, якія ачуліся пад уціскам Расіі? Ці могуць яны казаць і пісаць „мы наступаем“, „мы перамагаем“. Ня толькі ня могуць, а і ня маюць права. Для „Нашае Нівы“ і яе дзеячоў наша войска—ня наша, а „расійскае“, нашы перамогі—ня нашы, а „расійскія“—гэта факт... Не надышоў яшчэ час для выяўленьня цёмных бакоў мінулага і цяперашняга „Нашае Нівы“, але час гэты недалёка і выяўленьні выйдуць з нетраў самое „Нашае Нівы“. Тады і будзе відаць, чым кіравалася „Наша Ніва“, абмінаючы словы „наша войска“, „нашы перамогі“ [3]).

І гэткія даносы з дня ў дзень аблівалі памыямі беларускі нацыянальна-рэволюцыйны рух і яго ўдзельнікаў. А. Бурбіс, як актыўны яго праваднік, даставаў большую частку гэткіх провокацыйных выбрыкаў на свой кошт, за сваю працу. Яму, як аднаму з кіраўнікоў беларускае справы ў тыя часы, больш усяго пагражалі рэальныя вынікі гэткай пісаніны. Але ён мала зважаў на гэта. Ён ужо быў знаёмы з аддзякаю самадзяржаўя за рэволюцыйную працу і пакуль чулася брахня—ішоў сваёю дарогаю неўгамоннай чыннасьці... Наадварот—злосьць і цкаваньні чорнае сотні яго мацней інтрыгавалі, болей захаплялі працаю.

---

[1]) „Северо-Западная жизнь“ № 84 ад 8-IV 1915 г.

[2]) „Северо-Западная жизнь“ ад 20-III 1915 г:

[3]) „Северо-Западная Жизнь“ № 100, ад 28-IV 1915 г.

Паміма культурнае працы, як супрацоўніцтва ў „Нашай Ніве“ і тэатральнае справы, А. Бурбіс ні на момант не выпускаў з вока і працы політычнае. У гэтай палогасьці на А. Бурбісе ляжалі абавязкі падтрыманьня сувязі з прадстаўнікамі нацыянальна-рэволюцыйных організацый, інформацыя іх аб становішчы беларускага руху і коордынацыя чыннасьці ў часы розных выступленьняў па тых ці іншых пытаньнях агульна-політычнага жыцьця.

На ім, як на адным з невялікае лічбы правадыроў, трымалася беларуская справа ў першыя гады яе разьвіцьця. Вось чаму, ня гледзячы на цяжкія матэрыяльныя ўмовы, ён ня кідаў Вільні ні на кароткі час, каб не адарвацца ад працы, да якое ён сябе прысьвяціў.

І толькі ў 1915 годзе, пры захопе немцамі Заходняе Беларусі, А. Бурбіс разам з большасьцю беларускіх працаўнікоў пакідае Вільню і пераяжджае ў Маскву.

Становішча адарванасьці ад радзімы, як месца для яго працы, сур'ёзная небясьпека ўсёй справе, на якую ён столькі паклаў працы, балюча адбіваюцца на настроі А. Бурбіса. Што наступны дзень суліць? Як пойдуць разьвівацца здарэньні ў адносінах да Беларусі? Ці надойдзе калі момант, што яго краіна, бедная, цёмная краіна, фактычна колёнія самадзяржаўнага расійскага ўраду, ці гэта краіна атрымае сваё вызваленьне? Ці хоць калі паднімецца яе працаўнік на ступню, з якое пачынаецца панства соцыяльнае і нацыянальнае свабоды? А. Бурбіса, як і іншых яго таварышоў па справе, вельмі непакоілі гэтыя думкі. Ён, як і яго таварышы, пільна сачыў за далейшым разьвіненьнем вайны і за нямецкаю політыкаю ў окупаваных мясцох. Малейшыя калыханьні яе адбіваліся на А. Бурбісу, як зьмена ціску атмосфэры на стрэлцы тэрмомэтру.

Але выйсьце ў Вільні, пасьля некаторага часу пасьля яе захопу немцамі, беларускае газэты „Гоман“ асабліва абрадавала А. Бурбіса. Яму было ясна, што хоць і далёкая ад свабодалюбія кайзэраўская ваеншчына, усё-ж яна ведае, па якой струне біць, каб раздражніць ворага. А. Бурбіс разам з іншымі, ацэньваючы становішча беларускага працаўніка пад царскаю ўладаю, папершае, трымаўся „паражэнчай“ думкі. Свабодная Расія, якая ў скутку перамогі над ёю Нямеччыны, абавязкова гэткаю стане, бясспрэчна лепей за кайзэраўскую Германію. І тады іншага шукаць суседа для Беларусі ня прыстала. Але, крый чаго, паража Расія? Стаў крыж над вызваленьнем Беларусі... А за гэтым А. Бурбіс быў заўзентым „паражэнцам“. Выйсьце „Гоману“ ў Вільні і адчыненьне беларускіх школ немцамі ў окупаванай частцы Беларусі падтрымоўвалі яго цьвёрдасьць у гэтым. Хоць окупанты кіраваліся ў сваёй працы і ня зусім шчыраю думкаю, тым ня меней яны адчынялі прагаліну для разьвіцьця беларускае грамадзкасьці. Гэта заўсёды будзе мець сваё значэньне. І А. Бурбіс пільна сачыў за падзеямі ў Заходняй Беларусі, падтрымоўваючы свой настрой.

Ня меней займала А. Бурбіса і тая беларуская праца, якая пакрысе давала адзнакі жыцьця ў розных мясцох Расіі. Адчыненьне бежанскіх камітэтаў у Пецярбурзе, Менску, Калузе і інш., наладжаньне ў Пецярбурзе і ў Менску выданьняў газэты „Дзяньніца", „Сьветач" і кніжак, захоплівае А. Бурбіса. Ён завязвае сувязь з усімі організацыямі і асобнымі дзеячамі беларускімі і ў лістох абгаварвае пляны наступнае працы. Політычная сытуацыя ў Расіі і стан паміжнародных адносін не ўцякае з яго ваччу ні на час. У тых разбурэньнях, якія нясла грандыёзная вайна, А. Бурбіс бачыў вялікую катастрофу гаспадарчага жыцьця і нямінучы катаклізм у жыцьці політычным. Конкрэтна, у адносінах да самадзяржаўя, ён адчуваў нямінучы крызіс. Ня кідаючы ні на момант сачыць за настроямі рабочых, за рознастайнымі праявамі рэволюцыйнага руху, ён уверана гатаваўся да блізкага нізрынуцьця самадзяржаўя. А пасьля гэтага—А. Бурбіс ведаў,—разам з іншымі пытаньнямі, ва ўсёй сваёй шырызьне паўстане і пытаньне нацыянальнае.

Як соцыяліст-нацыянал, А. Бурбіс ня кідаў быць у курсе сучаснага яму становішча нацыянальнага пытаньня. Болей таго, гэта пытаньне ён вывучаў удоўж і ўпоперак і ведаў яго далёка не павярхоўна й з тэорэтычнага боку. Усе выданьні аб нацыянальным пытаньні, якія толькі зьяўляліся ў друку, былі яму вядомымі. Пасьля лютаўскае рэволюцыі А. Бурбіс прысьвяціў шмат артыкулаў у беларускім друку высьвятленьню нацыянальнага пытаньня ў праломе пабудаваньня дзяржаўнага ладу Расіі.

Апроч нацыянальнага пытаньня, А. Бурбіс быў дасканала падгатаваны ў пытаньнях экономічных і ў коопэрацыі. Экономіцы Беларусі ён пазьней ужо прысьвяціў адну грунтоўную сваю працу.

Займайся-б А. Бурбіс навуковаю працаю, ён-бы даў шмат каштоўных укладаў у беларускую навуку, асабліва ў галінах экономікі і нацыянальнага пытаньня. Але ён быў створаны не для ціхае габінэтнае маруднае працы. Яго прызначыла жыцьцё быць рэволюцыянэрам-разбурыцелем. Яго натура, яго склад, яго псыхіка былі наладжаны на нясупыннае хваляваньне, рух, непакой. Ён чула адгукаўся на найменшыя політычныя падзеі. І трэба было блізка ведаць гэту чуласьць Бурбісаўскае істоты, каб уявіць сабе тое ўражаньне, тое захапленьне, якія надала яму лютаўская рэволюцыя.

Яна застала А. Бурбіса ў Маскве, дзе ён працаваў у народным банку. І вось яшчэ не адгучэлі апошнія стрэлы паўстанцаў, як ён, побач з выйсьцем на адчыненую арэну чыннасьці соцыялістычных партый, закладае Маскоўскую організацыю Беларускае Соцыялістычнае Грамады. Першы сход яе выбірае А. Бурбіса старшынёю організацыі. Памяшканьне для працы ўправы організацыі ён дае ў сваёй кватэры, якая робіцца штабам беларускіх соцыялістычных працаўнікоў у Маскве.

А. Бурбіс пераварочваецца ў машыну, якая нясупынна рухае, верціцца: наладжвае сходы сябраў організацыі Бел. Соц. Грамады, зборы

беларусаў-бежанцаў, устанаўляе сувязь з вайсковымі беларусамі ў Маскоўскім гарнізоне, з паштавікамі-беларусамі, з чыгуначнікамі і рабочымі розных фабрык і заводаў; сам піша шэраг адозваў і проклямацый; прымае ўдзел ва ўсіх міжпартыйных нарадах, у рэволюцыйных установах; вядзе заядлае змаганьне з беларускаю чорна-соценшчынаю, якая ў Маскве, як і ў іншых гарадох, зразу-ж пасьля лютаўскае рэволюцыі выступае адзіным фронтам з эсэраўшчынаю супроціў беларускага рэволюцыйнага руху. З-за процьмы адпаведнейшых заданьняў, узложаных на А. Бурбіса самім сабою і Маскоўскаю організацыяй Беларускае Соцыялістычнае Грамады, ён манкіруе службаю і нядбаліць аб сямейным жыцьці, якое ня вельмі ўдала склалася ў А. Бурбіса. Рэволюцыйныя падзеі—вось яго стыхія, а будаўніцтва працоўнай незалежнай Беларускай Рэспублікі—яго жыцьцё. Ён адзнаваў вялікасьць сваіх заслуг, што набыў іх упартаю працаю на ніве беларускай і ня меней упартым змаганьнем у справе станаўленьня беларускага пытаньня пры царызьме, і праз гэта меў права прымаць бліжэйшы ўдзел у аформленьні яе дзяржаўнага жыцьця. Але адарванасьць ад Беларусі некалькі абмяжоўвала гэта яго права. Масква таксама давала мажлівасьць для беларускае працы, толькі значнасьць і памер яе не адпавядаў ні сілам, ні размаху А. Бурбіса. Яму хацелася больш шырокага поля чыннасьці, а шэраг умоў гэтаму мяшаў. Найбольшай перашкодаю была немажлівасьць перабрацца на жыцьцё ў Менск. Беларускі рух быў пакуль настолькі слабым матэрыяльна, што ня мог забясьпечыць і дзесятку чалавек. Але А. Бурбіс ішоў на ўсё, каб не астацца бяздзельным у адпаведных акцыях беларускага рэволюцыйнага жыцьця.

На працягу 1917 г. не адбылося амаль ніводнага буйнага здарэньня ў ім, на якім-бы ён ня прымаў удзелу. Усягды яго асоба выдавалася з шэрагу іншых палкасьцю выступленьняў, заўзятасьцю і настойнасьцю ў абстойваньні сваіх думак і плянаў. Часта ўпартасьць А. Бурбіса ў гэткім стане выходзіла за межы прыстойнасьці: ён не шкадаваў рэзкасьці і жорсткасьці ў асудзе сваіх няпрыхільнікаў, гледзячы на іх, як на ня „сталых“, не сьвядомых. Самаўверанасьць у сваёй правовасьці сьведчыла за частую Бурбісаву незгаворнасьць і няўважлівасьць да чужых слоў і думак. Аднак, калі прыняць на ўвагу тое, што за яго ўпартасьцю ды настойнасьцю хаваліся інтарэсы працоўнай Беларусі, хацелася тлумачыць гэту яго асабістасьць, як дадатны бок, як патрэбную якасьць. Болей як праўдзіва, што А. Бурбісам заўсёды кіравала пачуцьцё аховы не сваіх, асабовых інтарэсаў, а справы рэволюцыі, справы працаўнікоў. Гэта добра разумелі ўсе тыя, хто меў з ім спатканьне, хто з ім працаваў. А таму А. Бурбіс карыстаўся павагаю і, за малымі перабоямі, знаходзіўся ўвесь час на носе карабля, які вёз наперад беларускі нацыянальна-рэволюцыйны рух.

А. Бурбіс быў загартаваны libверaю ў справу соцыялізму. Соцыялістычныя ідэі прасякалі ўсю яго істоту; яны надавалі яму натхненьня

і надзей, бадзёрасьці і радаснага настрою. Калі ён і аддаваўся рэдкімі хвілінамі сумаваньню, то гэта было ў баку ад людзей, сам-на-сам; перад другімі, сябрамі і знаёмымі ці чужымі людзьмі, ён ніколі ня скардзіўся і не паказваў пэсымістычных нотак. Наадварот, А. Бурбіс заўсёды разьвейваў няверра ў тых, хто перад ім выдаваў гэта. Тым, бязумоўна, тлумачыцца яго цьвёрдасьць у сваіх ідэях і ў іх абароне. Ён быў заядлым ворагам усяго хілкага, палавінчатага, ліцамернага. Чалавек, каторы „і вашым і нашым“, у вачох А. Бурбіса цаніўся на капейку. Ён ненавідзеў падхалімства ва ўсіх яго выявах. Асабліва яму адварочвала палітычная фарысэйства. Пераканаы ў свае ідэі вораг ня траціў у А. Бурбіса свае чалавечае вартасьці. Але гэта ня значыла, што А. Бурбіс мог схіліцца перад ворагам. Далёка не! У яго хапала беспагаднасьці, каб рашыцца на зьнішчэньне гэткага. Спагады А. Бурбіс да сваіх ворагаў ня меў жаднае. Усягды і заўсюды ён прымаў бойку і з адчаем біўся. Гэткіх боек на палітычнай арэне А. Бурбісу прышлося вытрымаць ня мала. І яны яго не тамілі, а яшчэ больш разгарачалі, гартавалі.

Хутка пасьля лютаўскае рэволюцыі, у сакавіку месяцы (25) А. Бурбіс прымаў удзел у зьезьдзе беларускіх грамадзкіх дзеячоў у Менску. На гэтым зьезьдзе адыграўся вядомы інцыдэнт паміж удзельнікамі зьезду і запрошаным на зьезд памоцнікам губэрскага камісара правым эсэрам Метліным. Апошні, абраны ў прэзыдыум, у прывітальным слове пачаў разводзіць эсэраўскую (з ісьцінна-рускім духам) антымонію накшталт таго, што „ніякіх беларусаў няма“, што „гэта справа дзьмутая“, што „ўсякі нацыянальны рух не да часу“, пакуль „ня будзе даведзена да канца вайна і ўстаноўчы збор ня вызначыць лёсу вялікае Расіі“ і інш. Агульнае абурэньне зьезду было адказам на гэткае прывітаньне прадстаўніка „рэволюцыйнай“ улады. А. Бурбіс абураўся болей усіх і першы пачаў гнаць... Метліна з памяшканьня зьезду. Ён весь перавярнуўся ў жывую злосьць, у якой, каб прымеў, раструіў-бы сваю ахвяру... Калі Метлін мусіў пакінуць зьезд, то больш „шчэпецільныя“ ўдзельнікі яго, сярод якіх знашлося некалькі прыхільнікаў Метліна, накінуліся на А. Бурбіса з кулакамі, лаянкамі і крыкамі, пазываючы яго рознымі недалікатнымі імёнамі. А. Бурбіс і вокам не павёў, выліваючы ў гнеўных словах сваё нястухаючае абурэньне метлінаўскім „прывітаньнем“ і ня мінаючы тых, хто яго абараняў.

Гэты выпадак—яскравая ілюстрацыя тае зьненавісьці да ісьцінна-расійскай чорнасоценнай ідэолёгіі, з якою А. Бурбісу даводзілася мець справу з часоў свайго сьвядомага жыцьця. Беларусь зьяўлялася месцам, дзе царскае правіцельства гвалтоўна насаджвала праславутыя „тры начала—православие, самодержавие и народность“. Пад лёзунгам за „искони русские земли“ самадзяржаўе нясло на Беларусь бічы і скорпіёны свае гвалтоўнае русыфікацыі. Дратуючы натуральнае разьвіцьцё краіны,

сьціраючы яе сапраўднае імя, скрадаючы яго гісторыю, яно ўсімі радамі травіла вольнае паветра чорнасотніцкай атрутаю. Царква, школа, суды, друк, саюз рускага народу, саюз Міхаіла архангела, брацтвы—вось той складаны апарат русыфікацыі, з якім А. Бурбісу даводзілася мець справу, працуючы на ніве беларускага соцыяльна-нацыянальнага вызваленьня. На яго вачох у 1906 годзе адбываліся пагромныя эксцэсы на вуліцах Вільні, яго самога, як сябра рэдакцыі „Нашае Нівы", бралі на провокацыю малайцы з хэўры Кавалюка і Саланевіча, на ім самім ляжала цяжкая рука „пакарыцеляў краю". Дык ня дзіва, што ўся істота гэтага крышталёвага душою барацьбіта была прасочана пачуцьцём агіды і злосьці на тыя сілы і ўмовы, якія расьцілі падобныя плыні.

Зразумела, што выяўленьне чорнасотніцка-русыфікатарскіх поглядаў у эсэраўска-меншавіцкім выглядзе таксама абурала А. Бурбіса. Ён не хацеў адлічаць эсэраўскае вялікадзяржаўнасьці ад програмы саюзьнікаў у нацыянальным пытаньні і накідаўся на іх з няменшай рашучасьцю. Яго выступленьні на беларускіх сходах у Маскве ў першыя часы рэволюцыі, дзе падавалі свой голас Бывалькевічы і ім падобныя, на Дзяржаўнай Нарадзе, скліканай Керанскім летам 1917 г. ў Маскве, у тагдышнім беларускім друку,—гэтыя яго выступленьні зьяўляюцца прыгаворным вэрдыктам аджываючай чорнасотніцкай вялікадзяржаўнасьці.

Але ўсё гэта прыводзіла к таму, што А. Бурбіс зрэдку захопліваўся агульнасьцю беларускага руху, не зварачваючы ўвагу на яго клясавыя розныя погляды. У сваіх выступленьнях на сэсіях беларускае рады нельга было ўлавіць у яго прамовах клясовага падыходу ў аналізе беларускіх падзей, прыняўшых гэткія шырокія памеры к канцу 1917 г. Калі восеньню гэтага году атрымаўся раскол у Беларускай Соцыялістычнай Грамадзе, падзяліўшы яе на левую і правую часткі, А. Бурбіс з маскоўскаю організацыяй астаўся ў апошняй. Ён упікаў за блёк левае часткі БСГ з інтэрнацыяналістымі на выбарах, пішучы ў Менскую організацыю БСГ: „Прачытаўшы ў № 179 ад 13/Х г. г. „Дело Народа" паведамленьне, што „Цэнтральны Камітэт" БСГ пастанавіў блёкіравацца з „інтэрнацыяналістымі", я ведаю, што Маскоўскі Камітэт і ўся БСГ стаяць зусім на іншым становішчы (поглядзе?) *)".

Наогул, ён лічыў сябе аднаго ахоўнікам чыстасьці традыцый і програмы БСГ, як яе заснавацель і няпрыменны сябар праз увесь час яе жыцьця. Рэзкія ўхіленьні ў бок марксызму і левых лёзунгаў Пецярбурскае, Бабруйскае і Віцебскае організацый БСГ не на жарты расстройвалі А. Бурбіса. У сваіх пісьмах да кіраўнікоў гэтымі організацыямі, ён рабіў упікі, чытаў нотацыі і даваў дырэктывы, як і што вясьці сябе кожнай організацыі, якое трымацца програмы і якую мець тактыку. Асабліва А. Бурбіса абурыла тое, што наперакор жаданьню Маскоўскае організацыі БСГ быў скліканы ў чэрвені месяцы трэці зьезд БСГ не ў Маскве,

*) З лістоў А. Бурбіса ад 15/Х 1917 г.

а ў Пецярбурзе, і што на гэтым зьезьдзе быў абраны цэнтральны камітэт і прынята новая програма БСГ.

У сваім лісьце наконт гэтага, апублікаваным у газэце „Вольная Беларусь“ А. Бурбіс пісаў: „У № 6 ад 7 ліпеня г/г мы прачыталі, што 6 чэрвеня ў Петраградзе скончылася „Ўсерасійская Конфэрэнцыя БСГ“ (лапкі А. Бурбіса).

Маскоўскі камітэт БСГ аб гэтай конфэрэнцыі нічога ня ведае [1]) і ведае толькі, што ў тым часе ў Петраградзе была лятучая „нарада“ (лапкі А. Бурбіса), скліканая Петраградзкай організацыяй тэлеграмамі дзеля абсуджэньня некаторых спраў цяперашняга моманту. Яшчэ больш дзіўным здалося Маскоўскаму Камітэту, што гэта „нарада“ быццам *ухваліла проект програмы БСГ* (курсіў А. Бурбіса), тады як папраўдзі праграма БСГ была апрацавана і прынята II зьездам БСГ у 1906 годзе, бышым у Вільні. Няма ведама, якім чынам „нарада“ магла ўхваліць тое, што па статуту БСГ, апрацаваным яшчэ на I зьезьдзе партыі, належыць толькі да зьездаў (нават не конфэрэнцыі); мы ня кажам ужо аб тым, што ня можа быць мовы аб „проекце програмы“ (лапкі А. Бурбіса) тамака, дзе ёсьць програма.

Вельмі нас зьдзівіла і тое, што, як выглядае з № 6 „Вольнае Беларусі“, быццам на гэтай „нарадзе“ выбраны Цэнтральны Камітэт. Цэнтральны Камітэт можа быць выбраны па статуту БСГ толькі зьездам, а ад II зьезду БСГ зьездаў партыі ня было, і толькі 21-га ліпня назначаны III зьезд у Маскве. Цэнтральны Камітэт быў выбраны на зьезьде БСГ і ад таго часу ён не перавыбіраўся, бо ня было зьезду. У дэталі пастаноў „нарады“ ня ўходзім, хоць і тутака нешта можна было-б сказаць“.

Гэты факт многім акрэсьліў далейшыя адносіны А. Бурбіса да Пецярбурскае і Бабруйскае організацый БСГ. Усё-ж А. Бурбіс не даходзіў да таго, каб гэта здарэньне лічыць тэй ці іншай перашкодаю для пагоджанасьці працы між Маскоўскаю організацыяю БСГ, на чале якое ён стаяў, і іншымі яе організацыямі. Праўда, гэтаму многа перашкаджала бурлівая сучаснасьць. Разьвіцьцё падзей не давала мажлівасьці спыняцца А. Бурбісу на параўнаўча нязначных фактах у жыцьці БСГ, вострасьць якіх вельмі хутка прытуплялася. К восені гэта было адсунута на задні плян.

Прычынаю таму зьяўлялася асабліва значнае здарэньне—гэта організацыя і скліканьне ўсебеларускага конгрэсу.

Думка аб гэтым паўстала ў колах Вялікае Рады, у часы Кастрычнікаўскае рэволюцыі. Яе падхапіў Беларускі вобласны камітэт пры ўсерасійскім зьезьде сялянскіх дэпутатаў. Гэта організацыя, згуртаваная правымі эсэрамі пахаджэньнем з Беларусі, мела заданьнем сабраць у сабе

[1]) Маскоўскай організацыіі БСГ, як і ўсім другім, запрашэньне на конфэрэнцыю было паслана, і А. Бурбіс, як старшыня організацыі, гэта ведаў.

проціўсавецкі кулак пад захаваньнем зусім чужога ім беларускага нацыянальнага пытаньня. Вобласьнікі прапанавалі месца для скліканьня беларускага конгрэсу—Рагачэў, радаўцы—Менск. З-за гэтага падняліся гарачыя спрэчкі, цеганіна. Было ясна відаць, што вобласьнікамі кіруе далёка не непасрэдная зацікаўленасьць у вырашэньні насьпелых пытаньняў у беларускім руху. У дадатак нельга было захаваць у іх чыннасьці і тэй гнілой раскіслай эсэраўшчыны, якая прыкрылася эрзацным вобласьнічаствам. А. Бурбіс асабліва выразна наглядаў гэта ў „новых беларусаў“, ня стрымліваючыся ў саркастычных закідах па іх адрасу. У час конгрэсу і болей усяго ў перадконгрэсныя дні, ён у кожным сваім выступленьні падкрэсьліваў ліцамер‘е вобласьнікаў. Аднак, гэта яго выразная варожасьць да права-эсэраўскай плыні на конгрэсе, якую правадзілі вобласьнікі, ня штырхнула А. Бурбіса прылучыцца да левага крыла конгрэсу. Ён аставаўся ў яго правай частцы на так званым беларускім крыле. І калі конгрэс спаткаўся з фактам яго распушчэньня, А. Бурбіс быў адным з найболей абураных гэтым актам рэволюцыйнае ўлады.

Адбітак конгрэсаўскіх падзей глыбока крануў А. Бурбіса, надоўга захаваўшыся ў яго нутры. Ён быў балюча ўразены гэтым, лічачы акт распушчэньня конгрэсу справаю, якая не адпавядае абвешчаным прынцыпам Савецкае ўлады ў нацыянальным пытаньні. Зразумела, што ў гэтых думках А. Бурбіса пракрадалася выразная плынь агульнанацыянальных пачуцьцяў, якія ў яго часта моцна ціснулі над клясаваю развагаю. Ня будзь-бы прымешаны адзначаныя моманты, бязумоўна А. Бурбіс, папершае, далучыўся-б да левага крыла зьезду, падругое, болей крытычна адносіўся-б да самога факту яго чыннасьці. Між тым, варожая яму і да сьмерці ім нецярпімая правая эсэраўшчына і ў вопратцы вобласьнікаў, і ў выглядзе некаторае часткі незалежнікаў моцна ўплылі на яго і на нейкі час згладзілі ў ім вострасьць і пераважнасьць над усім іншым соцыяльна-клясавых момантаў. За гэтым, мы бачым, што і істэрычная, сантымэнтальна-бескаляровая прамова Вазілы на апошнім пасяджэньні зьезду, і падобнага зьместу выгукі Юр‘евай пры яго распушчэньні палічыліся А. Бурбісам за „прыгожы манэўр“. У далейшым-жа ён спачуваў працы рады зьезду, а калі заснаваўся так званы народны сакратарыят у часе нямецкае окупацыі, вясною 1918 г., А. Бурбіс нават прыняў ад яго ўпоўнаважаньні быць прадстаўніком у Маскве. У моц гэтых абавязкаў яму даводзілася езьдзіць з Масквы ў Менск на даклады, а з Менску ў Кіеў па розных даручэньнях ад „правіцельства“ Беларускае народнае рэспублікі.

Гэта яго чыннасьць якраз супадала з надзвычайна цікавымі здарэньнямі ў справе пастаноўкі і вырашэньня Савецкім правіцельствам нацыянальнага пытаньня.

Цэлы шэраг дэкларацый і пастаноў Савецкага ўраду наконт гэтага адчыняў шырокія пэрспэктывы нацыянальнага будаўніцтва. Ня гледзячы на цяжкасьці ваеннага характару, не зважаючы на труднасьці гаспадар-

скага становішча, адно за другім ажыцьцяўляліся практычныя мерапрыемствы нацыянальнай дзяржаўнасьці. У склад Саўнаркому ўваходзіў народны камісар па справах нацыянальнасьцяй, якому падпарадкаваны быў цэлы камісарыят, меўшы надзвычайна важныя заданьні і мэты. З яго нетраў пазьней крыху радзіўся цэлы рад нацыянальных рэспублік, у ім фармаваўся ўвесь складаны плян фэдэратыўнай дзяржаўнасьці.

Водлуг гэтага і ў самім беларускім нацыянальна-рэволюцыйным руху адбывалася сапраўдная рэволюцыя. Беларускае пытаньне ўпяршню было пастаноўлена на шлях дзяржаўнага афармленьня. Заснаваньне Камісарыяту па беларускіх нацыянальных справах адчыняла новую эру ў гісторыі Беларусі. А. Бурбіс выпускаў з воку ўсю вялікасьць паказаных фактаў і зацягаўся зданнасьцю менскіх падзей, якія што далей, тым болей брудзіліся гразёю буржуазнасьці, авантурнасьці і зьменаю інтарэсам беларускіх працоўных гушчаў. Так званае правіцельства „беларускае народнае рэспублік“ часткаю па добрай волі, а рэшту ў моц непарушнага закону разьвіцьця соцыяльных падзей, кідалася ў абоймы польскага панства і нямецкага юнкерства. Факты зносін з гэтманам, пасылка тэлеграмы Вільгэльму, проціўсавецкая і проціўбальшавіцкая пісаніна ў газэце „Наш шлях“ і іншыя факты выпуклялі гэта як найвідней. А А. Бурбіс як быццам-бы гэтага не заўважаў.

Толькі восень 1918 г., якая прынесла з сабою нямецкую рэволюцыю і Беларускую Незалежную Савецкую Соцыялістычную Рэспубліку з пераважнай колькасьцю беларусаў-комуністых у складзе яе часовага правіцельства, атрэзьвіла яго. А. Бурбіс схамянуўся і прызнаў, што спачуваньне менскай беларускай акцыі было ня чым іншым, як самазатуманеньнем, зьвіхтованасьцю, скуткам уразенага пачуцьця, а ня вынікам здаровых разважаньняў, што дарагая яму справа вызваленьня рабочых і сялян прыгнечаных нацыянальнасьцяй, на якую ён аддаў дваццаць гадоў бескарыснае самаахвярнае працы, можа кардынальна і поўнасьцю вырашыцца выключна пры ўмовах рабоча-сялянскае дыктатуры. Адзін год існаваньня Савецкае ўлады прывёў да факту заснаваньня Беларускае Рэспублікі—якім-жа крокам пойдуць разьвінацца далейшыя падзеі ў гэтым напрамку? Іх размаху не ахапіць думкамі! Хто-ж можа ня схіліцца перад гэтым?

А. Бурбіс быў соцыялістым у поўным значэньні слова, але часова паддаўся фальшывым плыням у ацэнцы гістарычнага моманту. Варта было адбыцца таму ці іншаму штырхачу, каб ён адступіў са збочанае пуціны. Гэтак яно і здарылася. І толькі здарылася, як А. Бурбіс цьвёрда і няўхільна павярнуў у бок Савецкае ўлады і Комуністычнае партыі. Ужо ў 1920 годзе ён працуе ў камісіі т. Мархлеўскага па распрацоўцы пытаньняў Рыскага міру. У гэтым-жа годзе ён назначаецца адным з рэдактараў газэты „Савецкая Беларусь“ у Смаленску. І хоць у Менску ў гэты час, як і пад немцамі, адыгрываецца тая-ж комэдыя „пабудаваньня беларускай незалежнай дзяржаўнасьці“, А. Бурбіс з агідаю аб гэтым га-

варыць ня хоча. Справа Савецкае ўлады—яго справа. Ён шчыра і цалкам захопліваецца ёю і ў ёй аднэй бачыць ажыцьцяўленьне сваіх мэтаў. Праўда, пакуль яшчэ ня зусім гладка так, як-бы на яго погляд павінна было-б быць, вырашаюцца тыя ці іншыя пытаньні, праводзіцца ў жыцьцё тое ці іншае рашэньне, але гэта часовая справа, „маленькія недахопы вялікага мэханізму". З часам выправіцца ўсё, наладзіцца і стане на недасяжную вышыню дасканаласьці. І мінтрэнгі ў складзе беларускага часовага правіцельства, і лёгкія непаразуменьні ў асобных момантах правядзеньня нацыянальнае політыкі, што пакінулі ўнутры мулкія ўспаміны, не выклікаюць у А. Бурбіса хваляваньня, а разважаюцца ім на падставе цьвёрдых асноў савецкае політыкі і пастаноў партыі. Пры гэтым ім строга ўлічаюцца ўсе асабістасьці цяжкіх умоў 1918-1919 г. г. Вайна і окупацыі пакінулі Савецкай уладзе ў спадчыну адны руіны. Вагромністыя заданьні бягучага моманту не даюць вольнае хвіліны ўдзяліць тым пытаньням, для вырашэньня якіх патрэбны ўмовы спакойнага жыцьця і больш-менш працяжны тэрмін часу, належнае ўвагі. Забясьпечанасьць рашучае пастаноўкі іх на павестку дня будаўніцтва Рэспублікі—нямінуча. Гарантыяй таму сама істота Савецкае ўлады... І, разумеючы гэта, А. Бурбіс бярэцца за сталую адпаведную працу па адбудове Савецкае Беларусі. Папершае, яго назначаюць у Наркамзем, пасьля даюць яму пасаду намесьніка Народнага Камісара Замежных Спраў. Гэта праца захапляе А. Бурбіса. У ёй столькі цікавых і захопліваючых момантаў! Гэта-ж на яго ўскладзецца абавязак акрэсьліць становішча Бел. Сав. Соц. Рэспублікі ў вялікай сям'і Савецкіх рэспублік, выпрацаваць статут узаемаадносін і інш. Ці-ж не гістарычныя заданьні? Бязумоўна, А. Бурбіс вельмі добра адзнаваў гэта і водлуг гэтага адзнаньня з усёю сур'ёзнасьцю аддаўся справе па іх выкананьню. Ім адмыслова наладжваецца сама ўстанова камісарыяту замежных спраў, удасканальваецца яе праца, паднімаецца вага і значнасьць гэтае працы. У скутку яе з блізкаю дапамогаю А. Бурбіса выпрацоўваецца дагаворная ўмова між БССР і РСФСР, умова, якую падпісвае ён разам з іншымі прадстаўнікамі Беларускага Савецкага правіцельства.

У гэтым акце быў апогей многагадовых імкненьняў А. Бурбіса бачыць родную працоўную Беларусь вольнаю краінаю, самастойнаю дзяржаваю. Вось чаму пачуцьцё вялікага здавальненьня поўніла нутро гэтага заўзятага ваякі-рэволюцыянэра, барацьбіта-змагальніка, калі ён аглядаў свой шлях, раскінуты ад невялічкай колькасьці энтузіястых беларускіх нацыяналаў-соцыялістых у 1902 г. да дагаворных адносін між брацкіх працоўных рэспублік.

Адначасова з набліжэньнем А. Бурбіса да выпаўненьня ім гэтай гістарычнай місіі, ускладзенай на яго Беларускім Савецкім Правіцельствам, ён нясупынна набліжаўся і да Комуністычнае партыі. Яе сусьветная роля ў справе соцыяльнага і нацыянальнага вызваленьня працаўнікоў, яе ясныя комуністычныя ідэалы і глыбокі пролетарскі інтэрнацыяналізм, яе ленінская загартаванасьць ды рашучасьць заваражылі істоту

А. Бурбіса; ён рашуча накіроўваў у яе рады, урачыста заяўляючы: „я ўжо даўно комуністы, хоць і бяз кніжачкі“. Незадоўга да сьмерці кніжачка была ў яго ў руках.

А. Бурбіс памёр сябрам Комуністычнае партыі Беларусі. Ён меў невялікі стаж, але за ім лічыліся вялікія заслугі і перад партыяй, і перад Савецкаю ўладаю, і перад рабочымі ды сялянамі Савецкае Беларусі. Гэтыя заслугі А. Бурбіса выразна адчуваліся ўсімі, хто быў яго сучасьнікам, хто ведаў яго працу. У адзнаку гэтага многатысячныя грамады менскіх працаўнікоў, чырвонаармейцаў і савецкае грамадзкасьці розных нацый з жалобаю зьявіліся аддаць яму апошняе разьвітаньне... Водгук аб яго сьмерці, перадчаснай, набліжанай самаахвярнаю барацьбою за справу соцыялізму, жалобным тонам разьнёсься па ўсёй Беларусі [1]). Хваля спагады напоўніла сэрцы працоўных, аб вялікім стратку нязвычайнага ваякі-рэволюцыянэра і працаўніка-будаўніка, якім быў А. Бурбіс.

Газэта „Савецкая Беларусь“ [2]), у час яго сьмерці выказваючы думку працоўнай Беларусі, пісала: „Беларусь! Пакрыйся сёньня жалобай і йдзі на сьвежую магілу, у якой без пары зьляглі косьці Твайго вернага—аж да скону, Твайго чыннага, аж да апошніх сіл, сына і змагаьніка за тваё адраджэньне—Алеся Бурбіса. Ідзі на магілу, каб там сказаць апошняе дзякуй і... плакаць. Плакаць над вялікай стратай, плакаць з жалю, што магіла вырывае ад Цябе, Беларусь, найлепшыя сілы, наймацнейшыя апоры...

Усю сваю веру, надзеі і імкненьні ахвяраваў Алесь Бурбіс справе Твайго, Беларусь, вызваленьня. Усе свае сілы аддаў на службу Табе. І верным астаўся Табе аж да скону...

Сьлёзы каханьня, сьлёзы вялікай і вечнай падзякі хай сёньня акропяць магілу Алеся Бурбіса, а з глыбіні сэрцаў нашых хай вырвецца: Вечная памяць Яму!“

А над магілаю А. Бурбіса, аддаючы разьвітаньне нябожчыку ад імя Комуністычнае партыі Беларусі, яе сакратар т. Кнорын сказаў: „Дзевяць месяцаў таму, як мы на гэтым месцы хавалі маладога працаўніка і змаганца за клясавае вызваленьне працоўнага народу—Сьцяпана Булата. Цяпер мы хаваем старога рэволюцыянэра і старога барацьбіта, які пачаў сваю цяжкую рэволюцыйную працу дваццаць гадоў назад. Нам цяжка апускаць у зямлю маладога змаганца, але яшчэ цяжэй расставацца з старым змаганцам, загартаваным ў цяжкай упартай рэволюцыйнай працы на працягу 20-х гадоў. Алесь Бурбіс да астатняга часу хаця і ня быў афіцыяльна ў шэрагах Комуністычнае партыі, але па духу, па істоце сваёй ён быў разам з намі... І да ўваходу ў партыю ён быў самым блізкім нашым прыхільнікам, самым шчырым барацьбітом і працаўніком у справе адбудаваньня свае соцыялістычнае краіны“.

---

[1]) А. Бурбіс памёр ад сухотаў, якія ён набыў у вастрожным жыцьці і ў нялегальнай рэволюцыйнай чыннасьці.

[2]) „Савецкая Беларусь“ № 63 ад 22-IV 1922 г., Менск.

# КНІГАПІС

**Г. Смолянскі. „Мировая эмиграция и иммиграция“** *Выд. Профінтэрну. Масква, 1926 г., стар. 44. Цана 50 кап.*

Ці даўно прайшоў той час, калі лібэральны нямецкі экономісты Вэрнэр Зомбарт, выкладаючы гісторыю экономічнага разьвіцьця Германії ў XIX веку захапляўся тым, што буржуазная Германія здолела к канцу XIX в. пракарміць, адзець і навучыць 30 мільёнаў насяленьня, на якія павялічылася тое насельніцтва, што мелася ў Германії к канцу першай паловы XIX веку. Пераносячы посьпехі германскай буржуазії на ўсю сыстэму капіталізму наогул, ён пісаў, захлёбваючыся ад радасьці: „Капіталізм стварыў нешта цудоўнае: ён здолеў забясьпечыць найлепшым чынам колёсальна павялічаную колькасьць людзей сродкамі харчаваньня; гэта ён вырашыў вельмі ўдала проблему пракорму, выканаўшы гэта лепей, як які-небудзь іншы, што існаваў да яго, гаспадарчы лад. Калі стаць на пункт погляду чыстае колькасьці, то капіталізм акажацца сапраўды асьветлены орэолам славы, з якога вогненны падпіс выдзеліць наступныя словы: „на 30 мільёнаў народу больш“.

Увы, гісторыя пасьпяшылася сьцерці гэты орэол. Капіталізм зайшоў у тупік з „проблемай пракорму“ тых мас насельніцтва, якія ён ахапляе сваёй гаспадарчай сыстэмай, і сучасную буржуазную экономічную навуку турбуе пытаньне лішку людзкога матэрыялу, шукае ратунку ад паўпэрызму і галадоўкі надзвычайна вялікіх мас насельніцтва, уваскрашае старыя тэорыі Мальтуса пад відам нэомальтузіянства, гаворыць аб штучным памяншэньні нараджэньняў, кантролі нараджэньняў, шукае ратунку ад лішку насельніцтва ў Эўропе эміграцыяй. Той частцы гэтай проблемы аб пракорме насяленьня, якая выліваецца у проблему эміграцыі, і прысьвечана брошура тав. Смалянскага, якая выяўляе марныя натугі капіталізму знайсьці ў эміграцыі выхад з гэтага цяжкага становішча.

Брошура разьбіта на чатыры разьдзелы, з якіх першыя два і пачатак трэцяга да канца 14-ай старонкі чытаюцца надзвычайна цяжка, даюць незразумелае, несыстэматычнае награмаджэньне пытаньняў. Гэта вынік таго, што аўтар падыходзіць непасрэдна да проблемы эміграцыі, ня ўвязваючы яе з агульнай проблемай народанасяленьня. Трэба было з самага пачатку ўвязаць проблему эміграцыі з проблемай народанасяленьня ў сувязі з яго адносінамі да разьвіцьця вытворчых сіл. Паколькі гэта ня зроблена, зусім незразумелай застаецца ўвязка эміграцыі з „крызісам эўропэйскага капіталізму“. Застаецца незразумелым сэнс такога зусім правільнага палажэньня, што „ў лічбах эўропэйскай эміграцыі апошніх гадоў выражаны непазбыўны крызіс эўропэйскага імпэрыялізму“. Ня высьнены ўмовы эміграцыі і іміграцыі, розьніца паміж характарам эміграцыі ў краіны індустрыяльныя і аграрныя, і абодва зьявішчы, надзвычайна розныя па свайму характару і тэмпу, зьліваюцца ў адно цэлае; таму што аўтар не высьняе таго, што краіны індустрыяльныя могуць прымаць больш інтэнсыўную іміграцыю, як краіны аграрныя. Зусім незразуме-

лым застаецца, чаму Паўн.-Амэр. Злуч. Штаты зьяўляліся цэнтрам сільнага прыцяжэньня эмігрантаў; зусім незалежна ад жаданьня аўтара чытач павінен, не разумеючы, спытацца, на аснове табліцы, прыведзенай на стар. 5, і вывадаў з гэтай табліцы, чаму імкненьне эміграцыі ў Аргентыну, дзе на адну кв. мілю прыпадае 7 чалавек насельніцтва, было і застаецца меншым, чым у Паўн.-Амэр. Злуч. Штаты, дзе на адну мілю прыпадае 30 чалавек насельніцтва. Адначасна і заблытана гаворыцца аб краінах іміграцыі і эміграцыі. То Эўропа разглядаецца, як цэлае ў стасунку да заакіянскіх краін, як вобласьць іміграцыі, то гаворыцца аб перамяшчэньнях унутры Эўропы, бяз усякага пераходу і сыстэмы, і разуменьні эўропэйскай іміграцыі і эміграцыі робяцца надзвычайна няяснымі.

Іначай стаіць проблема эміграцыі для краін аграрных, для жоўтых і чорных рас, іначай для краін індустрыяльных, і розьніца гэта зусім ня высьвнена. Таксама зусім мала аднаго толькі колькаснага параўнаньня эмігрантаў з розных краін, тут патрэбна параўнаньне і якаснае. Розьніца паміж германскай і італьлянскай эміграцыяй да вайны, у сэнсе якаснага складу эмігрантаў і становішча, якое яны займалі ў месцах іміграцыі, надзвычайна вялікая і становяць сабою зусім розныя два віды эміграцыі. Думка аўтара пераносіцца ад аднаго прадмету да другога, станоўча нічога не высьвяляючы, а вельмі заблытваючы. Гэту частку брошуры, у якой няма прынцыпова няправільных палажэньняў, трэба пераапрацаваць кардынальна і сыстэматызаваць у сэнсе выкладу. Ад гэтага надзвычайна шмат выйграе другая частка, якая чытаецца з захапляючай цікавасьцю і нясумненнай карысьцю. На параўнаўча невялікім ліку старонак даецца багаты сконцэнтраваны матэрыял, які яскрава асьвятляе сучасны стан рабочай эміграцыі (сельска-гаспадарчай эміграцыі аўтар датыкаецца мімаходам). Ярка праходзіць перад чытачом карціна пакут і гора эміграцкіх мас, подла-ганебныя адносіны да рабочых эмігрантаў рабочай арыстократыі, чорна-жоўтых профэсыянальных саюзаў краін іміграцыі. У яркіх і ўдала падабраных цытатах з рэзолюцый I і II Інтэрнацыяналу дадзены адносіны гэтых цэнтраў інтэрнацыянальнага рабочага руху да рабочай эміграцыі. Паказана бязвыходна-залежнае ад капіталістых становішча эмігрантаў - рабочых, у краінах капіталістычнай эксплёатацыі, прыкрываемае жоўтымі профсаюзамі, што падтрымліваюць бяспраўнае становішча гэтых рабочых,—якія абарачаюцца ў парыяў сучасных дэмократычных дзяржаў. Дана карціна ўзаемаадносін паміж краінамі іміграцыі і эміграцыі. Наколькі ў такой брошуры можна было ахапіць гэтае надзвычайна актуальнае і складанае пытаньне, аўтар сваю задачу выпаўніў.

Вельмі добра было-б, калі толькі можна было-б адшукаць і распрацаваць адпаведны матэрыял, зрабіць колькаснае параўнаньне паміж даваеннай фактычнай і пасьляваеннай потэнцыяльнай эміграцыяй, бо пасьляваенная фактычная эміграцыя не дае карціны фактычнага пад'ёму эміграцкай хвалі ў параўнаньні з даваенным часам. Калі першыя 14 старонак будуць пераапрацаваны, то ў другім выданьні брошура дасьць шмат для ўяўленьня сучаснай проблемы эміграцыі.

**І. Герчыкаў.**

**Известия Осетинского Научно-Исследовательского Института Краеведения. Под ред. Б. Алборова, Г. Бекоева, М. Мисикова, Г. Дзагурова и Д. Дзагурова**. *Вып. II, Владикавказ 1926 г. 175×265 мм. 656 ст., 1000 экз. Ц. 3 р. 50 к.*

Гэты другі выпуск прац Асецінскага Навукова-Дасьледчага Інстытуту Краязнаўства, значна багацейшы і большы па разьмерах за першы, сьведчыць, наколькі шырока разгар-

нулася краязнаўчая праца ў Асеціі. Ён складаецца з 6 разьдзелаў: агульнага, прыродазнаўчага, экономічнага, культурна-гістарычнага, хронікі і бібліографіі.

Больш месца займае культурна-гістарычны аддзел. У ім зьмешчана 10 прац. на 258 старонках. Такоев дзеліцца тутака з чытачом успамінамі аб рэволюцыйным руху на Тэрэку. Ванэці грунтоўна разглядае індывідуалізм і колектывізм у радавым быту асяцін. Гадзіев Цомак дае дакладнае дасьледваньне аб Машсураве-Цемірбулаце—першым асяцінскім поэту (1895—1898) і ў другім артыкуле—аб Косьцю Хетагурове—песьняру асяцінскай горскай беднаты. Абаев, таксама ў 2 артыкулах, дае абгляд Алчузіані—грузінскага Гайаваты і чатырох радоў змычных зычных у асяцінскай мове. Урэшце, Кубалов, Бараков і Абаев, кожны ў паасобным артыкуле, разглядаюць пытаньні асяцінскага вершаваньня, а Алборов—вывучэньне і гармонізацыю асяцінскіх народных песень. Такому багатаму навуковаму зьместу можа пазавідаваць любая вышэйшая навуковая інстытуцыя кожнай краіны.

Ня менш каштоўны экономічны аддзел „Известий“. Гісторыя і сучасны стан экономікі (Ркліцкі), безьзямельле і зьнішчэньне яго (Касіев), аб крахмальнай прамысловасьці (Хетагуров), дзігорскі канал і яго значэньне для сельскай гаспадаркі (Сьляпушкін), аб горцах-перасяленцах паўночнай Асеціі (Баев), лясная гаспадарка краіны (Сагутонов)—вось тэмы гэтага разьдзелу. Навукова-грамадзкія сілы Асеціі, відаць, добра зразумелі, што адрадзіць краіну можна толькі на падставе дэталёвага экономічнага і прыродазнаўчага яе вывучэньня.

Прыродазнаўчы аддзел зьмяшчае працы аб высокагорных кліматычных станцыях і мінэральных крыніцах (Гардонов), тубэркулінавых пробах па інгушох і асяцінах (Осіпов), карысных выкапнях паўночнай Асеціі (Бітаров) і грунтох роўнядзявай Асеціі (Сьляпушкін).

Багацей, чым у другіх выданьнях такога роду, прадстаўлены аддзел хронікі, дзе зьмешчаны рэзолюцыі розных зьездаў і нарад, конкурсы, палажэньне аб самім інстытуце і інш.

У аддзеле бібліографіі на 16 старонках зьмешчаны тры рэцэнзіі на першы літаратурны зборнік, граматыку асяцінскай мовы і кніжку аб горцах паўночнага Каўказу.

Бясспрэчна, кожны артыкул гэтых „Известий“ можа зацікаваць насельніка Беларусі як сваёй мэтодолёгічнай распрацоўкай тэмы, так і зьместам, які гаворыць пра зямлю і народ, што паўсталі з-пад уціску былой царскай імпэрыі. Але цікавейшым за ўсё для нас зьяўляецца агульны аддзел, у якім зьмешчаны: „Краеведение и его задачи среди горских народностей Северного Кавказа“ (Дзагуров Г.) і „Краеведение у горских народов“ (Абаев В.), што разглядаюць прынцыповыя пытаньні краязнаўства маладой савецкай краіны. Дзякуючы якраз апошняму, наша краязнаўства можа з пасьпехам карыстацца яе досьледам, тым больш, што, разьвіваючыся зусім незалежна адно ад другога, беларускае і асяцінскае краязнаўства прайшлі прыблізна аднолькавы організацыйны шлях.

Г. А. Дзагуров даводзіць, што краязнаўства яго маладой савецкай краіны павінна быць плянавым, ажыцьцяўляцца шырокімі масамі з марксыцкім падыходам да справы, зьяўляцца зьместам для працы школы і, галоўным чынам, „асновай для выяўленьня і пабудовы нацыянальнай культуры паасобных народаў, якім Кастрычнікавая рэволюцыя дала магчымасьць нацыянальнага разьвіцьця“. Далей Дзагуров, пасылаючыся на Сталіна і інш., даводзіць, што без краязнаўства немагчыма будаўніцтва нацыянальнай культуры, „якая не

адмяняе, а ўзбагачвае агульначалавечую пролетарскую культуру“ (Сталін), так як апошняя „не выключае, а дапушчае (предполагает) і корміць нацыянальную культуру“ (Сталін). Вывады Дзагурова прыблізна ў асноўным супадаюць з тым, што пастанавіў усебеларускі краязнаўчы зьезд для Беларусі. Так пры аднолькавых умовах новага бытаваньня адбываецца больш-менш аднолькавая творчасьць. Вас. Абаев у другім артыкуле спыняецца на трох задачах горскага краязнаўства. Да рэволюцыі горцы былі ў культурнай залежнасьці: не *яны* вывучалі, а *іх* вывучалі. Салдат, купец, вучоны—вось этапы пераможнай навалы культурнай імпэрыялістычнай нацыі ў краіну адсталых і слабых народаў. Абаеў патрабуе, каб горскае краязнаўства стала справаю саміх горцаў. Кругабег навуковавай інтэрвэнцыі адносна горцаў, па думцы Абаева, падыходзіць к концу. „Ня будзе вельмі сьмелым сьцьвярджаць,—кажа ён,—што, калі горскія народы здолеюць об‘ектывіраваць сябе як навуковы матар‘ял, здолеюць утварыць навуку для сябе,—гэта будзе новая эра ня толькі ў іх культурным разьвіцьці, але таксама новая эра ў навуцы каўказазнаўства“. Другім патрабаваньнем Абаева зьяўляецца тое, што краязнаўства павінна быць масавым. Краязнаўства—„гэта жывая, арганічная патрэбнасьць, неаддзялімая ад нацыянальнай сьвядомасьці кожнага горца, якую ён павінен, так кажучы, уссаць з малаком маткі“. Трэцяя ўмова добрай краязнаўчай працы—любоў да справы: „сапраўднае краязнаўства можа вырасьці толькі з сапраўднага краялюбства“ (ст. 19).

Было-б сьмешна даводзіць, наколькі карысна знаёмства з гэтай кнігай як для навуковага працаўніка, так і для нашага краязнаўцы, настаўніка, савецкага працаўніка і інш.

Папера здавальняючая, друк чытэльны, цана (па разьмеру кнігі) нявысокая. **М. К—ч.**

**„Большая Советская Энциклопедия“.** *Под общей редакцией* **Н. И. Бухарина, В. В. Куйбышева, М. Н. Покровского, В. П. Затонского, Н. М. Мещерякова, Л. Н. Крицмана, Г. И. Бройдо, Г. М. Кржижановского, Ю. Ларина, В. П. Милютина, К. Радека, Н. Осинского, Е. А. Преображенского, И. Степанова-Скорцова. О. Ю. Шмидта.** *Главный редактор* **О. Ю. Шмидт. Том пятый. Барыкова-Бессалько. М.** *1927 г., 807 ст.*

Пяты том „Большой Советской Энциклопедии“ выяўляе для нас цікавасьць у тых адносінах, што тутака даецца цэлы шэраг артыкулаў аб Беларусі, якія павінны панесьці веды аб ёй і аб яе сучасным культурным стане ў розныя куткі Савецкага Саюзу. Якія-ж гэта веды?

Шэраг артыкулаў аб Беларусі распачынаецца кароткім географічным нарысам Беларусі ў яё этнографічных межах, напісаным М. Азбукіным. Артыкул дае зусім об‘ектыўныя вывераныя веды з географіі Беларусі. Не пераблытана і літаратура прадмета.

Далей ідзе „Исторический очерк“ Беларусі Ул. Пічэты. Гэты „очерк“ напісаны занадта схэматычна, а ў кожным выпадку рэдакцыя „Большой Советской Энциклопедии“ магла-б адвесьці гісторыі Беларусі больш месца, чымся 2 старонкі тэксту. У артыкуле даюцца такія веды, што „с 14 века в немецких хрониках появляется термин Alba Rosia—Белая Россия“, а „белорусское шляхетское движение, нашедшее свое отражение в литературе“, проста выводзіцца з факту зачыненьня Віленскага унівэрсытэту. У сьпісе літаратуры бачым: „Ігнатоускі, Ч. Кароткі нарыс нацыянальна-культурнаго адраджэньня Беларусі“. Запытаньне: ці няможна было абыйсьціся без памылак?

Об‘ектыўна і жвава напісаны артыкул „Общественно - политическое движение в Б.“ С. Агурскага. Аднак,

не багата ведаў дае кароткая, усяго на 1 старонку, увага Ў. Багуцкага аб Заходняй Беларусі: роля Вільні ў справе беларускага руху на Захадзе зусім не закранута.

Шэраг паасобных артыкулаў высьвятляе пытаньне аб беларускай літаратуры (арт. П. Растаргуева), беларускай музыцы (Вяч. Пасхалава і Ю. Дрэйзіна), беларускай мове (П. Растаргуева) і беларускім мастацтве (М. Шчакаціхіна).

Гэтыя артыкулы могуць выяўляць асаблівую цікавасьць для абрысаваньня сучаснай беларускай культурнай працы. Аднак, на жаль, ня ўсе з іх зьяўляюцца ўдачнымі. За найбольш удачны можна палічыць хіба артыкул М. Шчакаціхіна аб беларускім мастацтве. Найменш-жа ўдачнымі вышлі артыкулы аб беларускай літаратуры і беларускай мове. У артыкуле аб беларускай літаратуры амаль зусім ня высьветлены стан беларускай літаратуры ў працягу XVI сталецьця—„Залатой пары“ беларускай старажытнай культуры. Аўтар нічога не гаворыць аб перакладах Фр. Скарыны і аб працах В. Цяпінскага. Невядомы яму і „Ай-Кітаб“ у беларускай мове, а тым часам мова „Ай-Кітаб“ ёсьць не славянізаванай і не палянізаванай, а народнай беларускай мовай. Моўчкі абыходзіцца і актавая літаратура ў беларускай мове. „Дзеньнік“ Ф. Еўлашэўскага і „Адпісы“ Ф. Кміта, якія толькі і адзначаюцца ў артыкуле, не паказальны. Нездаволеньне застаецца і ад нарысу беларускай літаратуры XIX стал. Відаць, што гэты нарыс напісан па ўжо пастарэлых досьледах Карскага (Беларусы, т. III) і элемэнтарным падручніку гісторыі беларускай літаратуры М. Гарэцкага без непасярэднага знаёмства з сучасным станам беларускай літаратуры. Гэтым, мабыць, тлумачыцца тое, што звалены ў адну груду К. Каставіцкі, А. Лявіцкі, В. Голуб, К. Міцкевіч, Яз. Лёсік, М. Грамыка, Ул. Дубоўка, Ал. Дудар і інш. Як пісьменьніка-гумарыстага, аўтар спэцыяльна адзначае А. Пшчолку. З аб'яднаньняў пісьменьнікаў ён ведае толькі адзінае—„Маладняк“. Аб „Узвышшы“—моўчкі. Зусім не адзначана творчасьць адзінага пакуль што нашага сатырыка—Крапівы, моўчкі таксама—аб прозе М. Зарэцкага, К. Чорнага, Нёманскага, Нікановіча. Наагул, літаратурныя плыні беларускай сучаснасьці пакуль што не дакаціліся да аўтара артыкула, а адсюль асьвятленьне нашай літаратуры вышла куртатае. Небагаты таксама і сьпіс літаратуры прадмета. Аўтарам зусім ня прыняты на ўвагу грунтоўныя журнальныя артыкулы крытычнага зьместу, але затое без патрэбы паказаны ўжо пастарэлыя рэчы з „Курса белоруссоведения“ і зборніка „Зажынкі“, ды „Бюлетэнь 1-га ўсебеларускага зьезду Маладняка“.

Артыкул аб беларускай мове багаты сваёй дыялектолёгічнай часьцю. Адразу відаць, што аўтар—спэцыялісты ў галіне беларускай дыялектолёгіі. Але затое ён слаба орыентуецца ў сучаснай літаратурнай беларускай мове. Гэтым толькі, як здаецца, і можна аб'ясьніць тое, што з граматык беларускай мовы названа толькі граматыка Бр. Тарашкевіча. Аб граматычных працах Яз. Лёсіка—моўчкі. Дапусьцім, што гэтыя працы—прымітыўныя, што яны далёкія ад навукова-мэтодолёгічнай дасканаласьці, але пакуль што ў нашай Беларусі адзіночнымі падручнікамі да літаратурнай беларускай мовы зьяўляюцца „Пачатковая граматыка“, „Правапіс“ і „Сынтакс“ Яз. Лёсіка. Абыйсьці моўчкамі гэтыя працы, тым больш не паказаць іх у сьпісе літаратуры,—невыбачальна для аўтара артыкула. Няпоўныя веды аўтара і з беларускай лексыкі: у сьпісе літаратуры „Беларуска - Маскоўскі слоўнічак“ М. Гарэцкага паказаны у 2-м віленскім выданьні, а „Практычны расійска-беларускі слоўнік“ Байкова—Гарэцкага ў першым вы-

даньні 1924 г., а тымчасам ёсьць пазьнейшыя выданьні. Прагледжваючы сьпіс літаратуры да артыкула „Белорусский язык“, мімаволі задаемся пытаньнем: ці мела права рэдакцыя „Энциклопедии“ ставіць на загалоўнай старонцы пятага тому „1927 год“.

Артыкулы „Белорусская Советская Социалистическая Республика“ М. Пятровіча, М. Шкубера і М. Доўнар-Запольскага, а таксама „Белоруссия“ акад. Е. Карскага—об‘ектыўныя і багатыя з боку свайго зьместу, адпавядаюць сваёй мэце. Аднак, пытаньні, якія закрануты ў гэтых артыкулах, маглі-б даць багатыя тэмы для паасобных артыкулаў. Назаву гэткія тэмы: „Беларускі тэатр“, „Беларускі дзяржаўны унівэрсытэт“, „Беларуская сельскагаспадарчая акадэмія“, „Беларускі фольклёр“.

Агульнае ўражаньне ад тых артыкулаў, якія дадзены аб Беларусі,—тое, што каштоўнасьць выяўляюць сабою артыкулы мясцовых культурных працаўнікоў Беларусі, стала зьвязаных са сваёй краінай.

Рэдакцыю „Большой Советской Энциклопедии“ можна папікнуць за тое, што яна не скарыстала поўнасьцю мясцовых спэцыялістых, беларусаведаў, паасобку,—спэцыялістых з галіны літаратуры і мовы. Падбор супрацоўнікаў пры выданьні пятага тому „Энциклопедии“ для высьвятленьня пытаньняў беларускай культуры можна лічыць зусім выпадковым. Што гэта ненармальная зьява, ясна само сабою.

Ненормальна і тое, што ў складзе рэдактароў „Энциклопедии“ зусім няма спэцыялістых-беларусаведаў. Гэтаю акалічнасьцю, як здаецца, можна растлумачыць вялікую колькасьць памылак у беларускім тэксьце артыкулаў, дакладна—у сьпісе літаратуры: прозьвішчы аўтараў і загалоўкі прац часам пераблытаны. Прыклад з творам Ус. Ігнатоўскага ўжо прыведзены вышэй. Але ў сьпісу літаратуры да артыкула В. Багуцкага бачым: Игнатовский. История Белоруссии в 19 и 20 ст.,—калі-ж і дзе была выдадзена гэта „История“ ў расійскай мове? Далей,—у сьпісе літаратуры да артыкула аб Савецкай Соцыялістычнай Рэспубліцы чытаем: „Игнатович В. и Смолич А., Белоруссия (территория, население и т. д.)“. Мімаволі задаешся пытаньнем: ці можна так бязбожна пераблытваць прозьвішчы нашых аўтараў, нашых палітычных і навуковых дзеячоў. А ясна, што для „Энциклопедии“, як для справачнага выданьня, бездакорная дакладнасьць паказаньняў літаратуры павінна быць conditio, sine qua non... Падобнай нядбаласьці ў далейшым не павінна быць месца...

Дылетанцкі падход і недакладнасьць ведаў аб беларускай культуры, дадзенны ў пятым томе „Большой Советской Энциклопедии“, наводзяць маю думку і на другое пытаньне: ці не насьпеў час падумаць аб выданьні *нашай* спэцыяльнай *беларускай* энцыклёпэдыі, у якой былі-б аб‘яднаны веды з географіі, гісторыі, экономікі і культуры Беларусі? Дзяржаўнае Беларускае Выдавецтва і Інстытут Беларускай Культуры павінны разьвязаць гэтае пытаньне ў чарговым парадку выдавецкай чыннасьці. На мой асабісты погляд, ідэя такога выданьня з тэхнічнага боку зьяўляецца зусім рэальнай.

**М. Байкоў.**

# ХРОНІКА БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

## Сярод пісьменьнікаў і поэтаў

* *Зм. Бядуля* піша вялікае, размерам 4-5 друкаваных аркушаў, апавяданьне пад назвай „Язэп Крушынскі“, у якім апісваецца кулацтва Беларусі. Гэтае апав. будзе друкавацца на старонках часопісі „Полымя“.

Гэты-ж аўтар канчае вялікую аповесьць „Салавей“.

* *А. Александровіч* здаў у дзіцячую камісію Наркамасьветы БССР зборнік вершаў для школьнікаў „Гудкі“. Гэтым-жа аўтарам падрыхтаваны новы зборнік вершаў, які будзе друкаваць Бел. Дзярж. Выд.

* *Язэп Пушча* падрыхтаваў да друку зборнік вершаў пад назвай „Дні вясны“. Зборнік будзе выдаваць Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва.

* *Ул. Жылка* гатуе да друку зборнік сваіх вершаў пад назвай „З палёў Заходняе Беларусі“.

* *Пайлюк Трус* падрыхтоўвае да друку новы зборнік сваёй поэзіі. У зборнік увойдзе шмат яшчэ нідзе ненадрукаваных вершаў.

## Тэатр, мастацтва, музыка

* Ідзе падрыхтоўчая праца па мастацкаму афармленьню новае чарговае пастаноўкі п‘есы М. Грамыкі „Над Нёманам“, у якой адбіваецца малюнак з жыцьця Заходняе Беларусі нядаўных часоў. П‘есу ставіць А. Міровіч, асыстэнтамі якога зьяўляюцца артысты Б. Дольскі і М. Ільлінскі. Мастацкае афармленьне робіць мастак К. Ціханаў.

* Першая беларуская фільма „Лясная быль“ зараз перапрацоўваецца (перамантаж) і будзе дэмонстравацца ў Маскве і інш. гарадох СССР.

* У Віцебску ў канцы лютага м-ца г. г. адбыўся першы (пасьля трохгадовага перапынку) сымфонічны концэрт 2-га Бел. Дзярж. Тэатру пад кіраўніцтвам новага, прыехаўшага з Ленінграду, сталага дырыжора т. Гітгарц.

* Музыка Ільля Фідлон напісаў новы квартэт на беларускія мотывы.

* Наркамасьветы БССР зацьверджан статут вышэйшага мастацкага савету, які будзе кіраваць тэатральнай справай Беларусі. У савет уваходзяць прадстаўнікі Інбелкульту, Т-ва драматургаў і пісьменьнікаў, ЦК ЛКСМБ, саюзу Рабіс, Галоўліту і Белдзяржкіно, таксама т. т. Дыла, Міровіч, Рафальскі.

* Мастацкі савет пры Галоўпалітасьвеце БССР зацьвердзіў кіно-сцэнарыі Бауцянскага „Наша Беларусь“ і Данскога „Масква кабацкая“.

* Нар. Кам. Унутр. Спраў зацьверджан статут усебеларускага аб‘яднаньня мастакоў, маляроў і скульптараў. Аб‘яднаньне ставіць мэтай злучыць мастацкія сілы Беларусі для вядзеньня распрацоўкі пытаньняў беларускага мастацтва, а таксама організацыю выставак, студыі і інш.

* Галоўпалітасьветы БССР абвешчан конкурс на напісаньне п‘ес для пастаноўкі іх Бел. Дзярж. Тэатрамі ў наступным сэзоне. П‘есы павінны (па зьместу) ахапіць пэрыод Кастрычнікавай рэволюцыі.

* Беларускі Мастацкі Тэхнікум у Віцебску прадстаўляе адзіную вучэбную ўстанову Беларусі, дзе распрацоўваюцца практычна і тэорытычна вобразныя мастацтвы разам з керамічным аддзелам. Тэхнікум скла-

даецца з трох аддзелаў: малярства, разьбярства і керамікі.

Аддзел малярства усіх чатырох курсаў за прайшоўшыя паўгодкі выконваў акадэмічную працу па програме разам з дамовымі композыцыямі. Прычым, дужа каштоўныя вынікі атрымаліся ў галіне композыцыі абояў, дываноў і дэкорацый. Зьявілася некалькі нават тэатральных макетаў, зробленых студэнтамі, што паказвае цікавасьць да тэатру; шчырхачом да гэтага бязумоўна было адчыненьне 2-га Беларускага Тэатру.

У сярэдзіне лютага ўпяршыню студэнтамі пад кіраўніцтвам М. А. Керзіна была ў 2-м Беларускім Тэатры пастаўлена дэкорацыя да пастаноўкі „Чорт і баба". Гэта—пэўны крок, які дае сувязь тэхнікуму з тэатрам. Акадэмічная праца аддзелу малярства выяўлялася ў вывучэньні натуры, як рысаваньні, так і пісаньні яе алейнымі фарбамі і акварэляй.

Аддзел разьбярства за першыя паўгодкі зьвярнаў увагу на выкананьне акадэмічнага пляну; так, напр., ляпілі да палавіны голую натуру, портрэты, і ў апошні час—вывучэньне анатоміі чалавека (лепка гіпсу), а таксама над барэльефнымі композыцыямі. У другім паўгодзьдзі вырашана прыступіць да лепкі невялікай жаночай фігуры у беларускай вопратцы для апальваньня ў керамічнай майстэрні.

Аддзелам керамікі зроблены па вучэбнай частцы композыцыі ізразцоў, кафляў і інш. рэчы. Па вытворчасьці—формавалі дэкоратыўныя вазы, попельніцы і інш. Намячаецца пераход ад гліны да майёлікі. Атрымалі з Масквы вагон фаянсавай гліны, якая не баіцца агню, і з якой пачнецца вытворчасьць простага фаянсу і майёлікі. З Нямеччыны выпісаны машыны для вучэбна-паказальных вытворчых мэтаў. Студэнты ў другой палове вучэбнага году прыступяць да працы на крузе.

Наогул можна сказаць, што праца тэхнікуму пашыраецца як у глыбіню, так і шырыню, разумеючы пад гэтым распрацоўку чыста мастацкіх задач і выкарыстаньня апошніх для патрэб грамадзтва. **П. Д.**

### У Бел. Дзярж. Выдавецтве

* У Бел. Дз. Выд. перавыдаецца другім выданьнем зборнік апавяданьняў Зьм. Бядулі „На зачарованых гонях" і друкуецца яго зборнік „Поэмы".

* Знаходзіцца ў друку зборнік вершаў „Плынь" Міхайлы Грамыкі.

* Друкуецца другім выданьнем зборнік апав. „У ціхай вадзе" Тараса Гушчы.

### Рознае

* Беларускі Дзярж. Музэй атрымаў з музэйных фондаў СССР 6 слуцкіх паясоў 18 сталецьця і 30 карцін, паміж якімі ёсьць карціны вядомых мастакоў Рэпіна, Левітана і інш.

* Літаратурная камісія ІБК атрымала вельмі каштоўны матэрыял, які датычыцца біографіі беларускай пісьменьніцы А. Пашкевіч (Цёткі). У матэрыяле знаходзяцца цікавыя даныя аб першых гадох жыцьця Цёткі і аб удзеле пісьменьніцы ў фэміністычным зьезьдзе ў Маскве.

* Да сэсіі ЦВК СССР Бел. Дзяр. Выдавецтвам выдана кніга-альманах „Просторы". У альманаху зьмешчаны на расійскай мове выбраныя творы беларускіх поэтаў і пісьменьнікаў і зьмешчаны портрэты.

* Інбелкульт выдае фольклёрныя матэрыялы М. Гарэцкага—„Песьні Горацкага павету", і А. Шлюбскага—„Народная творчасьць Віцебшчыны".

* Беларускім Дзяржаўным Выдавецтвам заказана вядомаму расійскаму літаратару Л. Клейнборту напісаньне працы на расійскай мове па беларускай літаратуры пад назваю „Очерки белорусской литературы". Кніжка будзе памерам у дваццаць аркушаў. Яна ахопіць сабою пэрыод беларускае літаратуры з 1905 па 1926г. У сваіх дасьледваньнях аўтар дасьць

вычарпаючы матэрыял з пункту гледжаньня соцыяльнага, нацыянальнага і бытавога. Характар дасьледваньня— сьцісла навуковы.

Гэтым-жа аўтарам ужо напісаны нарыс аб беларускай літаратуры, ахопліваючы сабою пэрыод з 1905 па 1914 г. Аўтар галоўным чынам спыніўся на чатырох пісьменьніках— Янку Купале, Цішку Гартным, Якубе Коласе і М. Багдановічу. Нарыс будзе зьмешчаны ў апошнім выпуску цэлага цыклю яго выданьняў „Рабочий класс и культура“. Кніга друкуецца ў выдавецтве ВЦСПС.

* Газэта „Гудок“, орган саюзу чыгуначнікаў, прыступіла да выданьня двухтыднёвай старонкі на беларускай мове пад назваю „На Беларусі“. Першы нумар старонкі вышаў 9 сакавіка, удала скомпанованым. Старонка зьмяшчае ў сабе артыкулы А. Хацкевіча—„Даклад ураду Беларусі на Сэсіі Саюзнага ЦВК“, Н. Алеся „Нацыянальнае пытаньне і беларусізацыя“ і шэраг прывітаньняў: А. Чарвякова, Я. Адамовіча, А. Крыніцкага і інш. Агульную рэдакцыю старонкі вядзе т. У. Дубоўка.

* Белар. Дзяржаўным Выдавецтвам падрыхтоўваецца да друку мастацкі альманах „Кастрычнік“. У склад супрацоўнікаў альманаху запрошана да дваццаці пяці пісьменьнікаў і поэтаў бяз розьніцы напрамкаў. Альманах мае быць памяткаю да дзесяцігодзьдзя Кастрычнікавай рэволюцыі. Ён будзе ілюстраваны портрэтамі аўтараў і групавымі здымкамі з літарацкага жыцьця і друкавацьмецца на дарагой паперы.

На альманах заўчасьне будзе адкрыта падпіска.

* Цішкам Гартным і Янкам Купалам пачата складаньне альманаху пасьлякастрычнікаўскае украінскае літаратуры. Мэтаю альманаху служыць азнаямленьне беларускага чытача з становішчам і дасягненьнямі маладое украінскае літаратуры. Альманах ахопіць сабою да дваццаці украінскіх поэтаў і пісьменьнікаў і будзе аздоблены портрэтамі аўтараў. Выданьне альманаху бярэ на сябе Белдзяржвыдавецтва. Дапамагае складальнікам у іх працы украінскі поэта Грыць Каляда.

* Цішка Гартны рыхтуе да друку зборнік апавяданьняў „Прысады“. Вокладку да зборніку намаляваў вядомы мастак-графік А. Баранскі.

* 19 сакавіка адбыўся ўстаноўчы сход „Беларускага Таварыства культурнае сувязі з за-рубяжом“. Сход абраў управу з адзінаццаці асоб: т. т. Жылуновіча З., Янкі Купалы, Якуба Коласа, М. Чарота, Аршанскага, С. Шамардзіной, А. Цьвікевіча, С. Вольфсона, Славінскага, Казюры і Гэльтмана. Адначасна сход зацьвердзіў прэзыдыум управы ў складзе: т. т. Жылуновіча (старшыня), Аршанскага (намесьнік) і Цьвікевіча (сакратар) і выбраў рэвізыйную камісію ў складзе: т. т. Сосіса, Трамповіча, Некрашэвіча і Барсукова. Сход зацьвердзіў таксама далейшы плян працы таварыства на бліжэйшы час і пастанавіў выдаваць бюлетэнь. У рэдакцыйную камісію абраны прэзыдыум і ў дадатак да яго т. т. С. Вольфсон і Я. Дыла. Бюлетэнь будзе выдавацца на трох мовах: беларускай, расійскай і нямецкай. Да складаньня першага нумару ўжо прыступлена. На сходзе выявілася, што да працы Таварыства наглядаецца вялікая зацікаўленасьць з боку культурных працаўнікоў і організацый. У сябры яго ўжо запісана да сарака чалавек. Выказалі жаданьне стаць сябрамі таварыства наступныя організацыі: Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва, Таварыства Чырвонага Крыжу, Сэкцыя навуковых працаўнікоў, Інбелкульт і І Беларускі Дзяржаўны Тэатр.

* Рэдакцыя нямецкае рабочае газэты «Illustrierte Arbeiter Zeitung» пад кіраўніцтвам Willi Münzenberg зьвярнулася да бэрлінскага корэспондэнта „Савецкая Беларусь“ з просьбаю даць для надрукаваньня ў газэце агляд гаспадарчых і культурных дасягненьняў за 8 гадоў існаваньня

Савецкае Беларусі і да дзесятку фотографій, якія-б ілюстравалі гэтыя дасягненьні. Бел. Дзярж. Выдавецтва патрэбныя матэрыялы накіравала ўжо па адрасу.

* Вышаў з друку першы нумар час. „Узвышша"—орган згуртаваньня беларускіх пісьменьнікаў „Узвышша".

* Таксама вышаў з друку № 2 за бягучы год часопісь „Маладняк".

**У Інстытуце Беларускай Культуры**

* У лютым месяцы г. г. адбыўся 2-гі ўсебеларускі зьезд краязнаўства.

* ІБК атрымаў ад дзяржаўнага кніжнага фонду ў Ленінградзе комплект былога Цэнтр. Статыстычн. Камітэту. Вядуцца перамаўленьні з антыкварыялістым Левіным у Варшаве аб набыцьці для бібліотэкі ІБК бібліографіі рэдкіх польскіх выданьняў.

* Аддзел мовы і літаратуры ІБК прыступае да апрацоўкі гістарычнага слоўніка.

* Тэатральная камісія Інбелкульту апрацавала і падрыхтавала да друку 500 беларускіх сьпеваў і мэлёдый.

* Па Беларусі налічваецца цяпер 240 краязнаўчых організацый з 9.389 членамі; 16 краязнаўчых музэяў з 10.765 экспонатамі.

* Летам г. г. Інбелкульт прыме ўдзел у этнографічных досьледах, якія будзе праводзіць на Беларусі Ленінградзкі Народазнаўчы Музэй. Інбелкульт дапаможа музэю папоўніць старыя колекцыі 1867 г. новымі экспонатамі па ткацтву, ганчарнаму промыслу, сельска-гаспадарчых прыладах і ўбраньню насельніцтва.

* На бліжэйшым пасяджэньні навуковай рады ІБК будзе заслуханы цікавы даклад проф. Ленца аб новай мэтодыцы ў справе вывучэньня ўмоўных рэфлексаў чалавека.

* 16-га лютага адбылося пасяджэньне камісіі па вывучэньню вытворчых сіл БССР, разам з прадстаўнікамі Дзяржпляну, ВСНГ і іншых установаў. На пасяджэньні былі распрацаваны тэзісы дакладаў прадстаўнікоў БССР на надыходзячай усесаюзнай конфэрэнцыі па вывучэньню вытворчых сіл.

* Лік правадзейных сяброў, супрацоўнікаў і карэспондэнтаў Інбелкульту складае 230 чал. Апрача таго, у працах аддзелаў і сэкцый прымаюць удзел да 200 навуковых працаўнікоў ВНУ БССР.

* На апошнім пасяджэньні навуковай рады ІБК канчаткова прыняты выдавецкі плян на 1927 г. Згодна пляну, будуць выданы наступныя кнігі: проф. Растаргуеў—„Северско-белорусские наречия"; Шчакаціхін—„Гісторыя беларускага мастацтва"; Г. Гарэцкі—„Экономічны стан Заходняй Беларусі"; зборнік па моваznaўству, этнографіі і літаратуры; працы акадэмічнай конфэрэнцыі; краёвы слоўнік; фольклёрныя матэрыялы; акадэмічныя выданьні твораў беларускіх пісьменьнікаў; тэрмінолёгічныя матэрыялы; старадаўнія дакуманты,—у першую чаргу акты „Літоўскай Мэтрыкі"; зборнік матэрыялаў аб рэволюцыйным руху на Беларусі; „Падарожнік па Менску" і інш. Усяго будзе надрукавана каля 250 друк. аркушаў.

* Слоўнікавая камісія ІБК атрымала за студзень 26.432 картак-слоў. З месц паступіла 19.316 картак, у тым ліку з Заходняй Беларусі—756. Па 1-га лютага ў камісіі зарэгістравана да 240 тыс. картак-слоў.

* Пры ЦБК утворана падарожніцкая камісія. Яна займаецца распрацоўкай мэтодаў экскурсій па Беларусі, укладаньнем маршрутаў, адшуканьнем і выданьнем адпаведнай літаратуры.

Мяркуецца організаваць 12 экскурсій агульнага характару па Беларусі і шэраг гістарычна-мастацкіх экскурсій па Менску, Слуцку і Магілеву, батанічныя экскурсіі па паўночна-ўсходняй Беларусі.

* ІБК атрымаў ад Галоўнавукі СССР запрашэньне прыняць удзел у працах конфэрэнцыі навуковых спэцыялістых, якая прысьвечана ста-

годзьдзю пачатку раскопак на тэрыторыі даўнейшага Хэрсанэсу.

ІБК мае пасланць на гэту конфэрэнцыю прадстаўніка архэолёгічнай камісіі.

* У Вільні знаходзяцца цікавыя запісы беларускіх сьпеваў і танцаў, занатаваныя 40 год таму назад дасьледчыкам Ельскім, якія да гэтага часу нідзе не друкаваліся. Ёсьць таксама шэраг заметак па гісторыі беларускай музыкі і балету, зробленых у пачатку XIX-га стагодзьдзя ў альбомах прыватных асоб; каля 100 беларускіх сьпеваў выпісаны з польскіх архіваў гісторыкам Зямкевічам, а композытар Казура напісаў у 1911—15 г. „Беларускую сюіту“, сымфонічны твор у 3-х частках (пастаўлены ў Варшаве ў 1917 г.).

Сакратарыят ІБК пастанавіў справу аб організацыі набыцьця ўсіх гэтых твораў даручыць прадстаўніку ІБК у Польшчы т. А. Ульянаву.

**Беларуская культура за рубяжом.**

* У сярэдніх лічбах студзеня 1927 г. беларускай колёніяй у Чэхіі быў уладжан вечар-концэрт, прысьвечаны творчасьці Якуба Коласа. На вечары вядомым чэскім вучоным проф. Д. Няедлым быў прачытан рэфэрат аб творчасьці Якуба Коласа.

* Пасьля некаторага перапынку вышаў першы нумар за студзень 1927 г. прогрэсыўнае часопісі „Покліч“.

* У Амэрыцы пасьля выхаду газэты „Беларуская Трыбуна“ (Чыкаго) пачала выходзіць у г. Нью-Ёрку новая другая часопісь пад назвай „Праўда“. Рэдактарам гэтае часопісі зьяўляецца проф. Тарасевіч.

## ХРОНІКА З УКРАІНСКАГА КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЬЦЯ

* Пісьменьнік Уладз. Ярашэнка пачаў пісаць вялікі сцэнары „Андрюша Юшчынский“, узяўшы тэмай вядомы судовы процэс Бэйліса.

* На ўсеукраінскім зьезьдзе пролетарскіх пісьменьнікаў, які адбыўся 25 студзеня гэтага году ў г. Харкаве, абраны савет саюзу пролетарскіх пісьменьнікаў у складзе: В. Корока, І. Мікітэнкі, П. Усенкі, О. Данчэнкі, В. Юрынца, Ів. Ле, Б. Коваленкі, М. Цярэшчанкі, І. Ткачука, А. Баршта, Б. Гарбатава, І. Краматорскага, Мозалеўскага. Намечана выдаваць 2-х тыднёвую літ. газэту.

* Ў сярэдніх лічбах лютага ў г. Кіеве адбыўся зьезд Першай Украінскай Мастацкай Капэлі Кабзароў.

* Пісьменьнік Алешка В. рыхтуе зборнік сваёй новай поэзіі, прыстасоўваючы да 20-гадовай сваёй літаратурнай дзейнасьці.

* Музычнае т-ва імя Леантовіча мае 17 філій і налічвае па ўсёй Украіне 902 чалав. Пры т-ве маецца 3 оркестры, 4 сымфонічных квартэты і асоцыяцыя сучаснай музыкі. На працягу мінулага году т-ва склала 265 невялікіх і 42 вялікіх нотіазборнікаў.

* Пісьменьнік Шыманскі Ол. піша вялікую аўтобіографічную аповесьць з часоў пятлюраўшчыны пад назвай „Поміж двох берагів“.

* Музычнае т-ва імя Леантовіча ў Кіеве разам з этнографічнаю камісіяй ВУАН прыступіла да організацыі першага ўсеукраінскага этнографічнага концэрту, у якім прымуць удзел усе народныя сьпявакі і музыкі.

* ВУФКУ заканчвае новыя кінокарціны: „Сумка дипкур'ера“ по сцэнарыю Шчаронскага, „Сорочиньский ярмарок“ па сцэн. Гурэвіча і Каплана, „В павутині“ па сцэн. Досьвітнага.

* Украінскай Акадэміяй Навук заснаваны пры катэдры Мастацтва— Украінскі Тэатральны Музэй, які ставіць мэтай адбіваць украінскае тэатральнае мастацтва як мінулае, так і сучаснае.

* Пісьменьніца Чэрднічэнка В. здала ў друк ДВУ вялікі роман, які друкаваўся ў часоп. „Чирвони шлях“ пад назвай „За плугам“.

* Вядзецца падрыхтоўчая праца да 5-гадовага юбілею сялянскіх пісьменьнікаў „Плуг“. К дню юбілею (5 мая 1927 г.) выйдзе юбілейны нумар часопісі „Плужанін“.

* Пры Кіеўскім Мастацкім Інстытуце адчынена мастацкая ўзорная дзіцячая студыя, якая ставіць мэтай ахапіць усе моманты дзіцячай творчасьці.

* З друку выходзіць п'еса „Выбух“ Гжыцкага Ан. Гэты-ж аўтар канчае аповесьць „Муза“, а таксама рыхтуе зборнік дзіцячых апавяданьняў.

* 1 Украінская Дзярж. Капэля Кабзароў (бандурыстых) у апошніх лічбах лютага м-ца 1927 г. наладзіла ў Менску 3 вялікіх концэрты.

*Рэдкацыйная колегія:* **З. Жылуновіч, М. Зарэцкі, Я. Ліманоўскі.**

*Выдавец:* **Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва.**

# ЗЬМЕСТ

Стар.

ЦАНА 1 р. 50 к.



## АДЧЫНЕНА ПАДПІСКА на 1927 г.

на БЕЛАРУСКУЮ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ, ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ

# „ПОЛЫМЯ“

(ШОСТЫ ГОД ВЫДАНЬНЯ)

пад рэдакцыяй: З. Жылуновіча, М. Зарэцкага і Я. Ліманоўскага.

**У ЧАСОПІСІ ПРЫМАЮЦЬ УДЗЕЛ САМЫЯ ВЫДАТНЫЯ БЕЛАРУСКІЯ ЛІТАРАТУРНЫЯ І НАВУКОВЫЯ СІЛЫ**

У НАСТУПНЫМ 1927 ГОДЗЕ Ў СКЛАД СУПРАЦОЎНІКАЎ УВАХОДЗЯЦЬ:

Адамовіч А., Адамовіч Я., Александровіч А., Арэшнікаў П., Байкоў М., Баліцкі А., Барашка І., Білецкі А. проф. (Харкаў), Быв аеўскі Н., Быхоўскі Б., Бядуля З. (Ясакар), Бузук П. проф., Бонч-Асмалоўскі А. (Масква), Барычэўскі Е. проф., Багдановіч А., Васілеўскі Д., Вольны А., Вольфсон С. проф., Гартны Ц. (Жылуновіч З.), Гарэцкі М., Гарабурда К., Гарэцкі Г., Гарбацэвіч В., Грамыка М., Гурло А., Глебка П., Грэдынгер М. проф., Герчыкаў І., Дрэйзін Ю., Дзяржынскі Ў., Дружчыц В., Жарскі П., Жарынаў З. проф., Жылка Ў. (Прага), Журба Я., Замоцін І. проф., Зарэцкі М., Зімёнка А., Ігнатоўскі Ўс. проф., Імшэньнік Ф., Карклін М., Каліноўскі Ў., Кацэнбоген С. проф. (Саратаў), Каган Л., Канаплін Н., Колас Я. (Тарас Гушча), Купала Янка, Кіпель Я., Круталевіч А., Лёсік Яз., Ліманоўскі Я., Маракоў В., Марук Я., Моркаўка А., Мялешка М., Некрашэвіч С., Нёманскі Я., Нікановіч М., Нодэль В. (Ташкент), Окіншэвіч Л. (Кіеў), Падабед Я., Пічэта Ў. проф., Пушча Я., Пятровіч Я., Пятуховіч М. проф., Сэрбэнта В., Сянькевіч А., Трус П., Харэвіч А., Хэрсонскі Х., Хлябцэвіч Я., Хмарка. Цьвікевіч Я., Цьвікевіч Аляксандар, Чарвякоў А., Чарнушэвіч З., Чарот М., Чорны Кузьма, Чарнушэвіч Н., Шатэрнік М., Шыпіла Ів., Шлюбскі А., Шульман М., Шчакаціхін М., Шукевіч-Трацьцякоў Р. і інш.

**ЧАСОПІСЬ „ПОЛЫМЯ“**

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ПАЎТАРА МЕСЯЦЫ (8 КНІЖАК НА ГОД) РАЗЬМЕРАМ КОЖНЫ НУМАР 12 ДРУКАВАНЫХ АРКУШОЎ.

**ГАДАВЫЯ ПАДПІШЧЫКІ НА 1927 г. АТРЫМАЮЦЬ У ДАДАТАК па ДЗЬВЕ КНІЖКІ ТВОРАЎ па ВЫБАРУ з НАСТ. ПІСЬМЕНЬНІКАЎ:**

Янкі Купалы, Якуба Коласа, Цішкі Гартнага, Зьм. Бядулі, Міхася Чарота, М. Зарэцкага, Кузьмы Чорнага, Ул. Дубоўкі, Янкі Нёманскага, Анатолія Вольнага, Максіма Гарэцкага, Крапівы, П. Труса; па выбару адзін з двух портрэтаў у 9-ці фарбах—старшыні ЦВК СССР і БССР т. Чарвякова А. ці старшыні Саўнаркому БССР т. Адамовіча Я.

ПОЎГАДОВЫЯ ПАДПІШЧЫКІ АТРЫМАЮЦЬ У ДАДАТАК АДНУ КНІЖКУ ТВОРАЎ ПА ВЫБАРУ З ПАМЯНЁНЫХ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ

ПРЫ ГАДАВОЙ ПАДПІСЦЫ НА ЧАСОПІСЬ ПАДПІШЧЫКІ ЗРАЗУ АТРЫМОЎВАЮЦЬ ПА АДНЭЙ КНІЖЦЫ РАЗАМ З АТРЫМАНЬНЕМ ПЕРШАГА НУМАРУ „ПОЛЫМЯ“ на 1927 г.

**ПАДПІСНАЯ ЦАНА:**

| | |
|---|---|
| На год | 10 руб. — кап. |
| „ 6 месяцаў | 5 руб. — кап. |
| „ 3 месяцы | 2 руб. 50 кап. |

**АСОБНЫ НУМАР КАШТУЕ 1 руб. 50 кап.**

ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА: у рэдакцыі часоп. „Полымя“ (Менск, Савецкая 63), у цэнтральнай кнігарні Бел. Дзярж. Выдавецтва (Менск, вуг. Ленінскай і Савецкай), ва ўсіх акруговых аддзяленьнях Бел. Дзярж. Выдавецтва, ва ўсіх паштовых аддзяленьнях і ў канторы падпіскі на газэты „Правда“ і „Известия“ (Менск, Савецкая, 61).